М. В. БІРЫЛА

# Беларуская антрапанімія

Уласныя імёны,

імёны-мянушкі,

імёны па бацьку,

прозвішчы




МІНСК 1966

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Работа прысвечана вывучэнню двух асноўных класаў беларускай антрапанімічнай сістэмы — уласных асабовых імён і ўтвораных ад іх прозвішчаў. На вялікім фактычным матэрыяле разглядаюцца поўныя афіцыйныя, поўныя размоўна-бытавыя і памяншальныя эмацыянальнаацэначныя формы мужчынскіх і жаночых імён, імёны-мянушкі, а таксама структура разгорнутых найменняў асоб мужчынскага і жаночага полу ў XV — XVIII стст.

*Рэдактар*
*член-карэспандэнт АН СССР Р. І. Аванесаў*

7-1-1
-65-М

# Уводзіны

Уласныя асабовыя назвы ў лексіцы кожнай мовы займаюць асобнае месца. Яны вылучаюцца і па паходжанню і па функцыях, якія выконваюць.

Імя, імя па бацьку, прозвішча — гэта сталыя спадарожнікі чалавека на працягу ўсяго жыцця. Як вядома, сучасныя імёны, якія ўжываюцца ў Беларусі, Расіі і на Украіне, у пераважнай большасці запазычаны з іншых моў (грэчаскай, лацінскай, старажытнаяўрэйскай, германскіх, скандынаўскіх і інш.), з якіх яны трапілі ў нашу мову праз грэчаскую і царкоўнаславянскую разам з прыняццем хрысціянства. Зразумела, што з цягам часу з'явіліся і новыя імёны, якія прыйшлі з іншых моў у выніку культурных і эканамічна-палітычных сувязей паміж рознымі нацыямі. З названых трох элементаў афіцыйнага поўнага наймення асобы безумоўна найбольш старажытным з'яўляецца імя. Да прыняцця хрысціянства славяне выкарыстоўвалі два тыпы імён, утвораных на базе славянскай лексікі. Першы — складаныя імёны тыпу *Володимер, Всеволод, Ярослав, Станислав.* Другі — імёны, утвораныя семантычным шляхам ад апелятыўнай лексікі, імёны тыпу *Волк, Горностай, Жук* і інш. Традыцыйныя царкоўныя імёны, якія царква разам з распаўсюджваннем хрысціянства ўзмоцнена пашырала сярод усходнеславянскага насельніцтва, не маглі адразу ж выцесніць звычныя славянскія імёны. Таму аж да XVII ст. у помніках пісьменнасці мы побач з хрысціянскімі імёнамі часта знаходзім старыя славянскія імёны. Праўда, у гэты час іх функцыя некалькі змянілася. Уласным асабовым іменем было імя хрысціянскае, а ранейшыя славянскія імёны ўжываліся ў функцыі другога імені — у функцыі імені-мянушкі. Дзякуючы гэтаму

ажыццяўлялася больш поўная ідэнтыфікацыя асобы — імя-мянушка ўказвала на дадатковую прыкмету.

Іншамоўныя па паходжанню ўласныя асабовыя імёны ў канкрэтным моўным асяроддзі перажылі цэлы шэраг фанетычных і фанетыка-марфалагічных змен. У некаторых выпадках гэтыя змены былі настолькі сур'ёзнымі, што імя набывала зусім іншы выгляд.

Другі элемент поўнага афіцыйнага наймення асобы — гэта імя па бацьку. Як сведчаць помнікі XVI—XVII стст., для названага перыяду на тэрыторыі Беларусі імя па бацьку было адным з самых важных сродкаў у поўных найменнях асобы. У якасці другога элемента выкарыстоўваліся таксама прыналежныя прыметнікі на *-ов(-ев)*, *-ин(-ын)* і прыметнікі на *-ский*, аднак усе разам яны ўжываліся радзей, чым формы імені па бацьку на *-ович (-евич)*.

Нарэшце, трэці элемент поўнай назвы — прозвішча. Прозвішчы ў Беларусі ўзніклі ў XVII—XVIII стст. на аснове ўласных імён і імён-мянушак.

Прозвішчы і імёны па бацьку, такім чынам, у адносінах да ўласных асабовых імён з'яўляюцца ўтварэннямі другаснымі, узнікшымі на аснове ўласных асабовых імён ці імён-мянушак. Таму зразумела, што вывучэнне ўласных асабовых імён уяўляе вялікую цікавасць як з пункту погляду высвятлення асаблівасцей утвараючых асноў і асаблівасцей афіксацыі гэтага звяна антрапанімічнай сістэмы, так і з пункту погляду азнаямлення з утваральнай базай, на аснове якой узніклі іншыя элементы антрапанімічнай сістэмы, у прыватнасці імёны па бацьку, прозвішчы, мянушкі і размоўна-бытавыя назвы асобы па імені бацькі (ці дзеда), маткі, мужа, жонкі. Вывучэнне структуры ўласных асабовых імён мае пэўнае значэнне і для навукі аб словаўтварэнні ў шырокім плане.

Беларускія асабовыя назвы да апошняга часу застаюцца адной з найменш даследаваных абласцей лексікі беларускай мовы. А між тым яны з'яўляюцца адной з надзвычай важных крыніц вывучэння лексікі і словаўтварэння беларускай мовы папярэдніх эпох, крыніцай высокай дастаavernasci пры вывучэнні тапанімікі.

Значэнне даследавання ўласных асабовых назваў не абмяжоўваецца чыста лінгвістычнай цікавасцю. Іменна гэта група лексікі найбольш цесна звязана з жыццём і

дзейнасцю чалавека. У ёй адлюстроўваюцца адносіны чалавека да грамадства і прыроднага асяроддзя, разнастайныя бакі яго штодзённага жыцця. Значыць, даследаванне гэтых назваў мае пэўную культурна-гістарычную цікавасць, з'яўляецца адной з крыніц вывучэння этнічнай гісторыі і этнаграфіі народа.

У прапанаванай працы разглядаецца толькі лінгвістычны бок пытання. Аўтар на аснове вялікага фактычнага матэрыялу зрабіў спробу прасачыць гісторыю традыцыйна-царкоўных імён на беларускай глебе — выявіць і паказаць на храналагічна-геаграфічнай канве формы гэтых імён у перыяд XV—XVIII стст., а таксама сучасныя беларускія прозвішчы (далей у працы СБП), утвораныя на іх базе. У працы разглядаецца таксама лексічны склад «дваюрадных братоў» хрысціянскіх імён — імён-мянушак і разгорнутыя мнагаслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу. Структурна-граматычная характарыстыка СБП і лексіка-семантычны аналіз асноў, ад якіх яны ўтвораны, зроблены ў працы «Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў» (Мінск, 1963).

У якасці асноўнага матэрыялу выкарыстаны дадзеныя помнікаў XV—XVIII стст. (падрабязней гл. стар. 6—10) і сучасныя беларускія прозвішчы, сабраныя ў розных раёнах Беларусі ў 1949—1962 гг.

Рамкі даследавання беларускай гістарычнай антрапаніміі ў гэтай працы храналагічна абмежаваны XV — XVIII стст., якія ахопліваюць усе этапы фарміравання беларускай антрапанімічнай сістэмы, пачынаючы ад зараджэння яе на базе антрапанімічнай сістэмы, якая склалася ў працэсе агульнай усходнеславянскай пісьмовай практыкі папярэдняга перыяду, і канчаючы яе адносна спелым станам, калі яна ўжо мела ўсе рысы сучаснай антрапанімічнай сістэмы. Асабліва цікавымі ў сэнсе выяўлення важнейшых асаблівасцей станаўлення яе з'яўляюцца XVI—XVII стст. — перыяд бурнага развіцця юрыдычна-дзелавой пісьменнасці, перыяд шырокага выкарыстання побач з ужо традыцыйнымі формамі пісьмовага наймення асобы новых форм, якія да гэтага ўжываліся толькі ў размоўна-бытавой сферы і былі чыста рэгіянальнымі сродкамі наймення асобы. Сказаным і абумоўлены выбар крыніц для вывучэння антрапаніміі — пераважная колькасць іх належыць да

XVI—XVII стст. Пры выбары помнікаў аўтар меў таксама на ўвазе адносна раўнамернае вывучэнне антрапаніміі на ўсёй тэрыторыі, якая зараз уваходзіць у склад БССР. Таму ў якасці крыніц выкарыстаны гісторыка-юрыдычныя дакументы, што адносяцца да ўсёй тэрыторыі Беларусі. Выкарыстаны наступныя крыніцы:

XV ст. — 86 жалаваных грамат і судовых выракаў, змешчаных у АЛМ І в. 1, якія належаць да розных мясцовасцей Беларусі, у прыватнасці: Ашмянскі п. № 346, Браслаўскі п. № 359, 361, 379, 421, Брэсцкі п. і г. Брэст № 35, 167, 218, 254, 375, Васілішкі № 287, Ваўкавыскі п. № 132, 222, 312, 417, Віцебскі п. і г. Віцебск № 93, 94, 122, 129, 173, 268, 286, Гродзенскі п. і г. Гродна № 7, 220, 224, 316, 426, Заслаўль № 177, Камянецкая воласць № 9, 16, 18, 318, Клецкі п. № 151, Кобрын № 19, 28, 49, Лагойск № 318, Лідскі п. № 34, 106, 354, Магілёўшчына і г. Магілёў № 11, 368, Мінскі п. і г. Мінск № 101, 114, 130, 141, 142, 164, 168, 203, 206, 321, Мсціслаўскі п. № 21, 269, 380, Навагрудскі п. № 29, 58, 108, 136, 160, 284, 360, Пінскі п. № 352, 425, Полацкі п. і г. Полацк № 70, 161, 198, 227, 322, 340, 359, 400, 416, Радунскі п. № 26, 253, 395, 404, Слонімскі п. № 61, 71, 157, 192, 193, Слуцк № 242, 370, 406.

XVI ст.— «Актовая книга Могилевского магистрата за 1577—1578 гг.» ИЮМ XXX стар. 1—164, ИЮМ XXXII стар. 4—288. Усяго 876 дакументаў, напісаных на беларускай мове.

«Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная Пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г.». На польскай мове.

«Попис войска Великого княжества Литовского лета 1567 г.» ЛМ аддз. І, ч. 3, стар. 431—1371. Змешчаны матэрыялы з розных тэрыторый Беларусі, у прыватнасці: Ашмянскі п. стар. 566—593, Браслаўскі п. стар. 634—638, Гродзенскі п. стар. 673—710, Лідскі п. стар. 747—755, Васілішская харугва стар. 772—784, Радунская харугва стар. 784—790, Астрынская харугва стар. 790—794, Навагрудскі п. стар. 809—838, Слонімскі п. стар. 838—852, Ваўкавыскі п. стар. 853—873, Брэсцкі, Камянецкі, Кобрынскі пп. (пры пашпартызацыі фактычнага матэрыялу скарочана Бр. п.) стар. 1181—1203, Пінскі п. стар. 1203—1215, Мінскі п. стар. 1215—1231, Рэчыцкі п. стар. 1231—1234, Мазырскі п. стар. 1235—

1237, а таксама матэрыялы з Віленскага п. стар. 537—566, з Падляшша стар. 873—1181, з Валыні стар. 1237—1256, са Жмудзі стар. 1256—1354.

«Ухвала на великом сойме Виленском 1528 г.» ЛМ аддз. I, ч. 3 стар. 1—232. Ва «Ухвале» змешчаны матэрыялы з розных тэрыторый Беларусі, у прыватнасці: Ашмянскі двор стар. 21—27, Лідскі двор стар. 31—32, Навагрудскі замак стар. 32—37, Радунскія баяры стар. 80—82, Васілішскія баяры стар. 86—87, Астрынскія баяры стар. 87—88, Гродзенскія баяры стар. 90—94, Ваўкавыскія баяры стар. 94—98, Слонімскія баяры стар. 98—99, Камянецкія баяры стар. 99—100, Брэсцкія зямяне стар. 100—101, Пінскія баяры стар. 188—189, Клецкія баяры стар. 189—190, Кобрынскія баяры 191—192, Полацкая зямля стар. 192—196, Віцебская зямля стар. 196—198, Мсціслаўскія баяры стар. 198—200, а таксама матэрыялы з Падляшша стар. 120—182, з Валыні стар. 183—188, са Жмудзі стар. 200—232.

«Акты Минского гродского суда 1582—1590 гг.». АВК XXXVI 492 дакументы на беларускай мове.

З XVI ст. выкарыстана таксама рад дакументаў, змешчаных разам з дакументамі XVII—XVIII стст.:

«Акты, извлеченные из книг Витебского земского суда». ИЮМ I стар. 315—374 8 дакументаў 1593 г., 7 дакументаў 1616—1626 гг. ИЮМ II стар. 221—250 9 дакументаў 1627—1646 гг., ИЮМ XX стар. 347—496 34 дакументы 1592—1593 гг., Дадатак на стар. 497—512 35 дакументаў 1592—1596 гг., ИЮМ XXI стар. 393—468 19 дакументаў 1596—1627 гг., Дадатак на стар. 469—500 розныя матэрыялы XVI—XVIII стст., ИЮМ XXII стар. 211—267 15 дакументаў 1626—1629 гг., ИЮМ XXIII стар. 288—326 10 дакументаў 1630—1634 гг., ИЮМ XXIV стар. 209—255 9 дакументаў 1634—1635 гг. ИЮМ XXV стар. 149—180 9 дакументаў 1637 г., ИЮМ XXVI стар. 97—140 8 дакументаў 1641 г., ИЮМ XXVIII стар. 95—112 8 дакументаў 1645—1650 гг., ИЮМ XXX стар. 3—94 9 дакументаў 1592 г., 28 дакументаў 1601 г. Усяго: з XVI ст. (апошняе дзесяцігоддзе) 51 дакумент, з XVII ст. — (першая палавіна) 103 дакументы. Дакументы напісаны на беларускай мове, але ў т. XXVIII ёсць устаўкі з дакументаў на польскай мове.

«Акты, извлеченные из гродских книг Витебского воеводства». ИЮМ XVIII стар. 165—235 1 дакумент

1596 г., 33 дакументы 1707—1710 гг., ИЮМ XIX стар. 413—496 29 дакументаў 1712 г. Усяго: з XVI ст. 1 дакумент, з XVIII ст. 62 дакументы. Напісаныя ў XVI ст.— на беларускай мове, у XVIII — на польскай мове.

«Акты извлеченные из книг Витебского гродского суда». ИЮМ XX стар. 61—264 1 дакумент 1534 г., 53 дакументы 1712 г., ИЮМ XXI стар. 49—223 81 дакумент 1713 г., ИЮМ XXII стар. 39—207 78 дакументаў 1764 г., ИЮМ XXIII стар. 33—283 83 дакументы 1716 г., ИЮМ XXIV стар. 77—206 29 дакументаў 1717 г., ИЮМ XXV стар. 59—145 22 дакументы 1719 г., ИЮМ XXVI стар. 41—93 22 дакументы 1721 г., ИЮМ XXVII стар. 199—318 10 дакументаў 1721—1722 гг. Усяго: з XVI ст. 1 дакумент, з XVIII ст. 378 дакументаў. Напісаны на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Витебского магистрата». ИЮМ XVIII стар. 293—492 80 дакументаў 1743—1760 гг., ИЮМ XIX стар. 49—334 89 дакументаў 1760—1791 гг. Усяго: з XVIII ст. 169 дакументаў (на польскай мове).

«Акты, извлеченные из книг Кричевской магдебурии». ИЮМ XVII стар. 175—397 83 дакументы 1662—1761 гг., ИЮМ XVIII стар. 145—162 7 дакументаў 1761—1771 гг. Дакументы XVII ст. напісаны на беларускай мове, а XVIII ст. — на польскай, але сустракаюцца і на беларускай мове (гл. дакумент за 1759 г.).

«Акты, извлеченные из книг Могилевского магистрата». ИЮМ VII стар. 273—511 75 дакументаў 1577—1591 гг., ИЮМ VIII стар. 197—530 90 дакументаў 1591—1634 гг., ИЮМ IX стар. 195—546 73 дакументы 1635—1646 гг., ИЮМ X стар. 189—544 92 дакументы 1646—1706 гг., ИЮМ XI стар. 193—536 149 дакументаў 1706—1716 гг., ИЮМ XII стар. 167—530 171 дакумент 1716—1725 гг., ИЮМ XIII стар. 169—530 202 дакументы 1725—1736 гг., ИЮМ XIV стар. 109—528 225 дакументаў 1736—1747 гг., ИЮМ XV стар. 143—528 194 дакументы 1747—1756 гг., ИЮМ XVI стар. 117—510 132 дакументы 1756—1766 гг., ИЮМ XVII стар. 77—172 54 дакументы 1766—1787 гг. Усяго: з XVI ст. (другая палавіна) 75 дакументаў, з XVII ст. 73 дакументы, з XVIII ст. 1284 дакументы. Дакументы XVI ст. напісаны на беларускай мове, XVII ст. — таксама, але паасобныя — на польскай мове ці маюць устаўкі з дакументаў, напісаных на польскай мове. Дакументы XVIII ст. напісаны на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Мстиславского гродского и земского суда». ИЮМ XXIV стар. 405—472 24 дакументы 1663—1664 гг., ИЮМ XXV стар. 307—328 8 дакументаў 1664 г., ИЮМ XXVIII стар. 115—154 19 дакументаў 1666 г. Усяго: з XVII ст. (другая палавіна) 51 дакумент. Большасць дакументаў напісана на беларускай мове, а некаторыя — на польскай ці маюць устаўкі з іншых дакументаў на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Оршанского земского суда». ИЮМ XXIII стар. 440—468 10 дакументаў 1642 г., ИЮМ XXIV стар. 335—402 13 дакументаў 1642—1647 гг., ИЮМ XXV стар. 258—304 10 дакументаў 1649—1654 гг., ИЮМ XXVI стар. 255—398 32 дакументы 1668—1680 гг., ИЮМ XXVIII стар. 157—217 10 дакументаў 1683—1690 гг., Інвентар м. Бобр 1614 г. Усяго: з XVII ст. 75 дакументаў. Большасць дакументаў напісана на беларускай мове, але паасобныя сустракаюцца на польскай мове, а некаторыя маюць устаўкі з дакументаў, напісаных на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Полоцкого земского суда». ИЮМ II стар. 255—376 3 дакументы 1670, 1692, 1731 гг., ИЮМ III стар. 219—444 2 дакументы 1648, 1777 гг., апошні заканчваецца ў ИЮМ IV стар. 293—390, ИЮМ XXII стар. 271—410 30 дакументаў 1599—1716 гг., ИЮМ XXIII стар. 329—436 23 дакументы 1623 г., 1 дакумент 1668 г., ИЮМ XXIV стар. 259—332 30 дакументаў 1668—1669 гг., ИЮМ XXV стар. 183—254 11 дакументаў 1670 г., ИЮМ XXVI стар. 201—251 11 дакументаў 1671 г., ИЮМ XXVII стар. 221—332 36 дакументаў 1668 г. Усяго: з XVI ст. (1599 г.) 3 дакументы, з XVII ст. 141, з XVIII ст. 3 дакументы. Дакументы XVI—XVII стст. напісаны на беларускай мове, але з другой палавіны XVII ст. сустракаюцца і на польскай мове ці з устаўкамі дакументаў на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Полоцкого гродского суда». ИЮМ XXVI стар. 144—198 22 дакументы 1667 г. Напісаны на беларускай мове, але ёсць некалькі дакументаў на польскай мове ці маюць устаўкі з дакументаў на польскай мове.

«Акты, извлеченные из книг Полоцкого магистрата». ИЮМ IV стар. 395—431 3 дакументы 1652 г., ИЮМ V стар. 253—414 18 дакументаў 1652—1676 гг., ИЮМ VI стар. 221—409 23 дакументы 1676—1771 гг.

«Акты, извлеченные из книг Ушачской магдебургии». ИЮМ XXVII стар. 321—436 38 дакументаў 1756—1762 гг. Напісаны на польскай мове.

«Документы, относящиеся к истории Чечерского староства». ИЮМ XXVIII стар. 3—92 Інвентары 1704 і 1726 гг. Напісаны на польскай мове.

«Инвентарь города Уллы и имения Николаева 1764». ИЮМ XXII стар. 413—450.

«Приходо-расходные книги города Могилева». ИЮМ I стар. 1—309 1679—1682 гг., ИЮМ II стар. 1—217 1683—1684 гг., ИЮМ III стар. 1—216 1685 г., ИЮМ IV стар. 5—289 1686 і 1688 гг., ИЮМ V стар. 1—250 1688 г., ИЮМ VI стар. 1—218 1689 г., ИЮМ VII стар. 1—271 1690 і 1691 гг., ИЮМ VIII стар. 3—196 1691 г., ИЮМ IX стар. 3—192 1692 г., ИЮМ X стар. 1—186 1695 г., ИЮМ XI стар. 1—190 1697 г., ИЮМ XII стар. 1—164 1698 г., ИЮМ XIII стар 1—165 1699 г., ИЮМ XIV стар. 1—105 1700 г., ИЮМ XV стар. 1—140 1706 г., ИЮМ XVI стар. 1—113 1709 г., ИЮМ XVII стар. 1—74 1710 г., ИЮМ XVIII стар. 1—142 1710 г., ИЮМ XIX стар. 1—46 1711 г., ИЮМ XX стар. 1—58 1711 г., ИЮМ XXI стар. 1—46 1711 г., ИЮМ XXII стар. 1—35 1711 г., ИЮМ XXIII стар. 2—30 1712 г., ИЮМ XXIV стар. 1—74 1713 г., ИЮМ XXV стар. 1—56 1714 г., ИЮМ XXVI стар. 1—37 1715 г., ИЮМ XXVII стар. 1—65 1716 г. Запісы XVII—XVIII стст. зроблены на беларускай мове, за выключэннем запісаў за 1691 г., частка якіх зроблена на польскай, а частка на беларускай мове, і запісаў за 1706, 1716 гг., зробленых на польскай мове.

«Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей». 39 дакументаў 1511—1598 гг., 125 дакументаў 1600—1697 гг., 6 дакументаў 1700—1748 гг. Два дакументы XVI ст. (№ 31, 32), 37 дакументаў XVII ст. (№ 45, 46, 50, 53, 56, 59, 60, 63, 84, 91, 94, 95, 97, 100, 103, 106, 108, 110, 117, 118, 121, 122, 124, 129, 130, 133, 134, 140, 142, 144, 148, 149—154) і ўсе дакументы XVIII ст. напісаны на польскай мове. Частка дакументаў XVII ст. мае толькі ўстаўкі з іншых дакументаў на польскай мове, а ў некаторых дакументах канца XVII ст. толькі пачатковая формула на беларускай мове, а сам дакумент на польскай.

# Уласныя асабовыя імёны

## Мужчынскія імёны і прозвішчы, утвораныя ад іх

У помніках беларускай пісьменнасці XV—XVIII стст. уласныя асабовыя мужчынскія хрэсныя імёны ўжываюцца ў поўнай і памяншальнай формах. Поўная форма імені мае найтральнае значэнне, служыць толькі сродкам адрознівання адной асобы ад другой, не ўказваючы на адносіны да асобы, якая з'яўляецца носьбітам поўнага імені. Памяншальныя формы імені з'яўляюцца эмацыянальнаацэначнымі: разам з абазначэннем канкрэтнай асобы яны адначасова перадаюць і некаторыя дадатковыя звесткі суб'ектыўнаацэначнага характару, у пэўнай меры адлюстроўваюць становішча званай асобы ў сям'і ці ў грамадстве. У літаратуры шырока распаўсюджан погляд, што ўжыванне поўных і памяншальных форм імені ў дакументах старой пісьменнасці мае пад сабой сацыяльную глебу: поўнымі імёнамі звычайна называюцца прадстаўнікі вышэйшай знаці і наогул прывілеяваных колаў грамадства, а памяншальнымі — прадстаўнікі ніжэйшых пластоў грамадства. Сапраўды такая асаблівасць выкарыстання імён назіраецца: прадстаўнікі кожнай ступенькі лесвіцы сацыяльнай градацыі ў адносінах да ўсіх, хто стаяў ніжэй за іх на гэтай лесвіцы, звычайна ўжывалі памяншальныя формы імён, падкрэсліваючы гэтым сваё больш прывілеяванае становішча ў грамадстве, а некаторы раз і свае паблажліва-апякунскія адносіны. Як правіла, у памяншальнай форме ўжывалі свае імёны тыя, хто ў пісьмовай форме звяртаўся да асобы, што займала больш высокае становішча ў грамадстве. Памяншальнай формай імені называлі сябе і пісцы ў тэксце запісаў, у подпісах. Але адзначанымі ўмовамі не рэгламентуецца выкарыстанне поўных ці памяншальных форм імені абсалютна

ва ўсіх выпадках. Напрыклад, у інвентарах і попісах (вопісах), у якіх запісаны прадстаўнікі розных сацыяльных груп, поўныя і памяншальныя формы ўжываюцца недыферэнцыравана. У такіх выпадках, з аднаго боку, мы бачым, што поўная форма імені ўжываецца і ў адносінах да прадстаўнікоў ніжэйшых колаў грамадства, а з другога боку, што прадстаўнікі адной якой-небудзь сацыяльнай групы называюцца і поўнай і памяншальнай формамі імені. Таму нельга абсалютна катэгарычна сцвярджаць, што ўжыванне поўных і памяншальных форм імені ў помніках дзелавой пісьменнасці XV—XVIII стст. абумоўлена чыста сацыяльнымі прычынамі, служыць сродкам размежавання людзей розных сацыяльных груп, сродкам узвышэння адных і прыніжэння другіх — сродкам сацыяльнай стылістыкі.

Як вядома, у вуснай форме зносін у неафіцыйнай абстаноўцы звычайна выкарыстоўваюцца не афіцыйныя поўныя формы імён, а размоўна-бытавыя, якія найчасцей з'яўляюцца эмацыянальнаацэначнымі, памяншальнымі. З упэўненасцю можна сказаць, што ў XV—XVIII стст. ужыванне афіцыйных поўных форм было яшчэ больш абмежавана, чым зараз, бо само жыццё ў адпаведнасці з агульным узроўнем развіцця эканамічных і грамадска-культурных адносін у той час стварала менш сітуацый, у якіх неабходна было ўжываць афіцыйныя поўныя формы імені. Шырокае выкарыстанне ў вусных зносінах размоўна-бытавых форм не магло не адбіцца і ў пісьме. Акрамя таго, некаторыя суб'ектыўнаацэначныя формы імені ў працэсе працяглага ўжывання ў адносінах да поўных носьбітаў губляюць суб'ектыўнаацэначнае значэнне, становяцца нейтральнымі, набываючы функцыю афіцыйнага поўнага імені, хоць па форме з'яўляюцца памяншальнымі. Самапаніжальныя памяншальныя формы імені аўтараў звароту да больш знатных асоб, а таксама памяншальныя формы імені пісцоў можна лічыць своеасаблівым сродкам ветлівасці: выражэнне ветлівасці ці павагі шляхам ужывання неаднолькавых форм імені адрасата і аўтара, прыкладна такім сродкам, як зараз, скажам, напісанне з вялікай літары займеннікаў, што ўказваюць на адрасата (*Вы, Вас, Вам, з Вамі, Ваш, Вашы* і інш.) і з малой літары займеннікаў, што адносяцца да аўтара (*я, мяне, мне, са мною, мой, мае* і інш.). У абодвух выпадках аўтар на першы

план ставіць асобу адрасата, прыўзнімае яе, а сабе адводзіць больш сціплае месца.

Сярод поўных мужчынскіх імён адрозніваюцца афіцыйна-юрыдычныя і размоўна-бытавыя формы.

Афіцыйна-юрыдычныя формы поўных мужчынскіх імён, якія сустракаюцца ў беларускіх помніках XV—XVIII стст., склаліся ва ўсходнеславянскай пісьменнасці ў працэсе засваення ўсходнеславянскай моўнай інтэрпрэтацыі чужых па паходжанню (грэчаскіх, лацінскіх, старажытнаяўрэйскіх, германскіх, скандынаўскіх) хрэсных імён. Традыцыйна-царкоўныя формы часткі імён па структуры і гукавой камбінаторыцы былі блізкімі для ўсходніх славян, і таму без асаблівых змен уваходзілі ў сферу афіцыйна-юрыдычнага і размоўна-бытавога ўжытку. Традыцыйна-царкоўныя формы іншых імён па структуры ці гукавой камбінаторыцы адрозніваліся і ў працэсе бытавання ў мове ўсходніх славян працярпелі пэўныя змены. У сувязі з гэтым у помніках XV—XVIII стст. афіцыйна-юрыдычныя формы некаторых імён супадаюць з традыцыйна-царкоўнымі формамі, зафіксаванымі ў царкоўных каляндарах, а афіцыйна-юрыдычныя і традыцыйна-царкоўныя формы іншых імён адрозніваюцца.

Многія афіцыйна-юрыдычныя формы поўных мужчынскіх імён у помніках XV—XVIII стст. ужываюцца ў варыянтах, якія, захоўваючы структуру афіцыйна-юрыдычнай формы, адрозніваюцца ад яе і адзін ад другога чыста фанетычна. Фанетычныя адрозненні найчасцей звязаны з дыялектным асяроддзем, у якім бытуе імя. У некаторых выпадках, відаць, мы маем справу толькі з асаблівасцямі перадачы на пісьме іншамоўных слоў, г. зн не фанетычныя, а арфаграфічныя адрозненні. Такім чынам, у помніках XV—XVIII стст. побач з афіцыйна-юрыдычнымі формамі імён сустракаем іх рэгіянальныя і арфаграфічна-канцылярскія варыянты.

Да фанетычных адрозненняў, якія ўтвараюць рэгіянальныя ці арфаграфічна-канцылярскія варыянты поўных форм імені, належаць:

1) ужыванне галоснага [о] адпаведна пачатковаму ненаціскному [а]: *Аввакум, Абакум : Обакум; Аврам, Абрам : Оврам, Обрам; Авдей : Овдей; Аверьян : Оверьян; Агафон : Огапон; Аггей : Огей; Алексей : Олексей; Андрей : Ондрей; Арефа : Орефа; Афанасий : Офанасий;*

2) ужыванне галоснага [о] ці [а] адпаведна пачатко-

ваму ненаціскному [е]: *Евдоким : Овдоким, Авдоким; Евфимий, Ефим, Евхим : Овхим; Евстафий : Остафей, Астафей; Елеазар : Олизар; Елисей : Олисей, Алисей; Емельян : Омельян, Амелян; Ефрем : Охрем, Ахрем;*

3) ужыванне зычных [п], [х] ці спалучэння [хв] адпаведна зычнаму [ф]: *Агафон : Агапон; Ануфрий : Анопрей; Арефа, Орефа : Орехва; Афанасий : Апанасий; Евстафий, Остафей : Остапей; Евфимий, Ефим : Евфим, Авхим; Ефрем : Охрем; Софрон : Сопрон; Стефан : Степан; Тимофей : Тимохвей; Трофим : Трохим, Тропим; Федор : Ходор, Тодор; Филимон : Хилимон; Фома : Хома; Флор : Хрол;*

4) ужыванне зычнага [м] адпаведна зычнаму [н]: *Никита : Микита; Николай : Миколай;*

5) ужыванне зычнага [н] адпаведна зычнаму [м]: *Серафим : Серафин, Сарафин;*

6) адсутнасць пачатковага галоснага: *Агафон, Агапон : Гапон; Ипатий, Ипатей : Патей;*

7) устаўное [в] паміж галоснымі ў сярэдзіне слова: *Леон : Левон; Радион : Радивон;*

8) спрашчэнне груп зычных у пачатку ці ў сярэдзіне слова: *Авксентий : Аксентий, Оксен; Григорий, Григор : Рыгор.*

Асобную групу сярод поўных афіцыйна-традыцыйных форм мужчынскіх імён складаюць лацінізаваныя хрысціянскія імёны каталіцкага насельніцтва Беларусі, імёны, што трапілі ў беларускую мову з польскай: *Августин, Амброжей, Балтазар, Бернард, Бартломей, Балтромей, Базыль, Бенедикт, Валентый, Винценты, Гавел, Габриель, Доминик, Жигимонт, Якуб, Яхим, Ян, Юзеф, Кароль, Криштоф, Ленарт, Лукаш, Малхер, Фабиян, Себастиан, Теодор, Томаш.*

У працэсе бытавання ў народзе частка поўных мужчынскіх імён перажыла больш значныя змены, чым тыя, аб якіх толькі што гаварылася: фанетыка-марфемныя змены, якія выклікалі змяненне структуры імені. Да ліку такіх змен належаць: 1) адпадзенне канцавога склада [ий] ці толькі канцавога [й] у імёнах грэчаскага, лацінскага і старажытнаяўрэйскага паходжання на *-ий: Антоний : Антон, Антони, Артемий : Артем, Афанасий : Афанас, Апанас, Василий : Василь, Евфимий : Евхим, Дионисий : Денис, Евстафий, Остапей : Остаф, Остап, Игнатий : Игнат, Кондратий : Кондрат, Макарий : Ма-*

*кар, Мефодий : Мехвод, Парфений : Парфен, Прокопий : Прокоп, Протасий : Протас, Тарасий : Тарас.* Калі пасля адпадзення канцавога [ий] имя заканчвалася збегам двух зычных, то ў некаторых з такіх імён адбывалася спрашчэнне гэтага збегу, канцавы зычны знікаў: *Авксентий : Оксен, Лаврентий : Лаврен, Лаврин,* а ў іншых імёнах спрашчэнне не адбывалася: *Дмитрий : Дмитр, Климентий : Климент*;

2) адпадзенне канцавога склада [ей] у імёнах на *-ей: Тимофей, Тимохвей : Тимох;*

3) адпадзенне канцавога [й] у імёнах на *-ай: Ермолай : Ермола, Николай, Миколай : Микола;*

4) дабаўленне канцавога [ей] да імён, якія заканчваюцца зычным гукам: *Даниил : Данилей;*

5) дабаўленне канцавога [о] ці [а] да імён, якія заканчваюцца зычным гукам: *Александр : Александро, Антип : Антипа, Гавриил : Гаврило, Габрыяло, Даниил : Данило, Кирилл : Кирило, Марк : Марко, Михаил : Михайло.*

У некаторых імёнах адлюстравана не якая-небудзь адна з разгледжаных вышэй змен, а дзве, тры ці нават чатыры, гэта значыць варыянты некаторых поўных імён адрозніваюцца ад традыцыйна-царкоўнай формы пэўным комплексам фанетычных ці арфаграфічных асаблівасцей: *Аввакум : Обакун, Авксентий : Оксен, Евфимий : Авхим, Евстафий : Остап, Агафон : Гапон, Афанасий : Опанас, Панас, Ефрем : Охрем, Иосиф : Есип, Мефодий : Нефед, Софроний : Сопрон, Супрун.* З гэтай прычыны пры аналізе фактычнага матэрыялу аўтар палічыў мэтазгодным разглядаць усе варыянты поўнай формы імені ў адным месцы, а не групаваць іх па рубрыках, якія б адлюстроўвалі канкрэтную моўную з'яву, што выклікала да жыцця пэўны канкрэтны варыянт. Калі б ісці па гэтым другім шляху, нават адзін варыянт афіцыйна-юрыдычнай формы пры наяўнасці адрозненняў трэба было б разглядаць некалькі разоў, у розных рубрыках. Напрыклад, *Авксентий : Оксен* у рубрыках: аб замене пачатковага [а] на [о], аб спрашчэнні групп зычных — [вкс] у [кс], аб адпадзенні канцавога [ий] і аб спрашчэнні груп зычных, што аказаліся на канцы слова пасля адпадзення канцавога [ий] : [нт] у [н]. Акрамя таго, розныя варыянты адной і той жа афіцыйна-юрыдычнай формы аказаліся б у розных рубрыках і пасля іх трэба было б яшчэ групаваць вакол гэтай формы.

Варыянты поўных форм імён разглядаюцца ў паасобных слоўнікавых артыкулах, загаловачным словам для якіх з'яўляецца традыцыйна-царкоўная форма імені. Калі гэта форма вядома ў аналізуемых помніках, пасля яе ў дужках падаецца лічба, якая характарызуе колькасць выпадкаў яе ўжывання, а далей ілюстрацыйны матэрыял у храналагічнай паслядоўнасці. Пасля падаюцца ўсе зафіксаваныя варыянты, кожны з якіх суправаджаецца ўказаннем на яго прадуктыўнасць і ілюстрацыйным матэрыялам. Частка імён рэканструявана па сучасных беларускіх прозвішчах і не адзначана ў помніках. Загаловачнае слова ў такіх выпадках падаецца ў квадратных дужках.

[ААРОН] СБП: Аро́наў, Арано́віч, Аранке́віч, Аранчу́к, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Аарон: Арон, Аронка, Аранчук.*

АВВАКУМ Зарэгістравана ў XVI ст. 5 разоў у варыянтах *Авакум, Абакум, Обакун, Обакум: Авакум Богданович* 1567. Навагр. п., П. 822; *Абакун Артемович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 212, *Обакун гробовник* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 140, ён жа *Обакум Гробовник* 1578, ИЮМ XXXII 53, *Обакум Ортемович* 1580 м. Маг., ИЮМ VII 322. СБП: Аваку́маў, Аваку́менка, Абаку́маў, Абаку́нчык; ?Баку́н, ?Бо́кун, ?Бакуно́віч, ?Баку́нчык, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў імені *Аввакум: Авакум, Абакум, Абакунчык, ?Бакун, ?Бокун, ?Бакунчык.* Царкоўнаславяская форма *Аввакум* на ўсходнеславянскай глебе перажыла агульны лёс. У выніку спрашчэння групы [вв] узнік варыянт *Авакум,* які ў беларусаў і ўкраінцаў стаў адной з афіцыйных форм (Судн., СВІЛ), а ў рускіх з'яўляецца размоўнай формай пры традыцыйным напісанні *Аввакум.* Агульны для ўсіх усходніх славян і другі варыянт імені, які ўзнік у выніку замены [в] на [б] — *Абакум:* у беларусаў і ўкраінцаў — гэта другая афіцыйная форма, якая бытуе побач з *Авакум* (Судн., СВІЛ), а ў рускіх неаднаразова адзначана ў помніках пісьменнасці (Мірасл., Мілейк., 392). Варыянты з пачатковым [о]—*Обакум, Обакун* з'яўляюцца арфаграфічнымі — узніклі ў выніку перадачы на пісьме пачатковага «а» ў словах іншамоўнага паходжання літарай «о» (гл. стар. 14). Варыянты з канцавым [н]—*Абакун, Обакун* з'яўляюцца вузка рэгіянальнымі, узніклі ў выніку замены [м] на [н] (гл. стар. 14). Адносна рэканструяваных

форм *Бакун, Бокун* прыходзіцца зрабіць агаворку. Гэтыя ў прынцыпе магчымыя ад *Абакун, Обакун* без пачатковага галоснага формы (гл. стар. 14; параўн. таксама укр. *Бакум* у Грынч.) могуць быць адапелятыўнага паходжання. Параўн. *бакун* руск. 'просты рускі папушны табак' (Даль), укр. 'моцны курыльны табак, просты табак' (Грынч.). Н. М. Тупікаў у сваім слоўніку прыводзіць у якасці першага кампанента двухслоўных найменняў ці ў аднаслоўных найменнях формы *Бакун, Бакунец, Бакуня.* Уключэнне іх у слоўнік сведчыць, што Тупікаў лічыў іх імёнамі-мянушкамі апелятыўнага паходжання, а не формамі імені *Аввакум.*

АВГУСТИН Імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой, польск. *Augustyn.* У палякаў вядома з XVI ст., ужывалася рэдка (Быстр. Кн., 125). Зарэгістравана ў XVI ст. — пераважна ў заходняй частцы Беларусі—10 разоў у варыянтах *Августын, Авкгуштын:* у Попісе 1567 г. *Авкгуштын Богданович* Мін. п., 1224, *Авкгуштын Кучукович* Вас. хар., 780, *Авкгуштын Павлович* Ваўк. п., 870, *Авкгуштын Станиславович Козевич* Ашм. п., 590, *Авкгуштын Томкович* Лід. п., 748. Ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. больш як 100 разоў тыя ж варыянты сустракаюцца на Падляшшы, у Літве і Жмудзі. СБП: Аўгусцінóвіч, Аўгусты́нчык, Аўгýсць, Аўгýль, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Августин: Аўгусцін, Аўгустынчык, Аўгусць, Аўгуль.* Гэта значыць у Беларусі бытавалі варыянты «падляшскай разнавіднасці» імені *Августин* з зычным [ш] адпаведна [с] — *Августын, Авкгуштын,* адзначаныя ў помніках, і варыянты ўсходнеславянскія з зычным [с] у аснове — *Августин, Августын,* якія ў помніках не адзначаны, а рэканструяваны па СБП. Сучасная беларуская афіцыйная форма *Аўгустын* (Судн.), размоўныя формы *Аўгуста, Аўгуня, Аўгуся, Аўгута, Агуста, Агусцік.*

АВДИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 10 разоў у розных частках Беларусі ў варыянтах *Авдей, Овдей: Авдей Якимович* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 403, *Авдей Пастух* 1683 Маг., ИЮМ II 6, *Овдей Ивашкович* 1567 Гр. п., П. 707, *Овдей Трухонович* 1567 Брасл. п., П. 638, *Овдей Наковалник* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 103, *Овдей Тихонович* 1605 Маг., ИЮМ VIII 273, *Овдей Язный* 1623 Маг., ИЮМ VIII 396. СБП: Аўдзéй, Аўдзéеў, Аўдзіéвіч, Аўдзéенка, Аўдзéня, Аўдзéйчык, Аўдзяйчýк,

па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Авдий: Аўдзей, Аўдзейчык, Аўдзяйчук.* На ўсходнеславянскай глебе ўзнікла форма на [-ей] — *Авдей,* якая стала афіцыйнай у рускіх (СВІЛ), беларусаў — у фанетычным варыянце *Аўдзей* (Судн.) і ўкраінцаў — у фанетычным варыянце *Овдій* (СВІЛ). Адзначаны ў беларускіх помніках варыянт з пачатковым [о]—*Овдей,* вядомы і ў рускіх помніках (Мірасл.), з'яўляецца арфаграфічным варыянтам (гл. стар. 14), а ва ўкраінскай мове, відаць, меў пад сабой яшчэ фанетычныя прычыны.

АВЕРКИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 6 разоў у варыянтах *Аверко, Оверко, Оверке, Оверян: Аверко Процкович* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 216, *от сотника Аверка Олейника* 1697 Маг., ИЮМ XI 15; *Оверко Черенович* 1567 Слон. п., П. 843; *Оверке Михнович* 1528 б. Гр., У. 91; *Оверян Гаврилович Кохан* 1567 Гр. п., П. 693. СБП: Авяркóў, Авéркін, Авéрчанка, Авяр'я́наў, Авер, Авéрын, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Аверкий: Аверка, Авяр'ян, Авер;* магчыма, таксама сюды належаць і СБП Вéркін, Вяркóвіч, Вяркéеў, Вяркóўскі, па якіх можна рэканструяваць 2 формы: *Верка, Вяркей,* хоць яны маглі ўзнікнуць і з *Верк* (гл. стар. 43). Варыянты *Аверко, Оверко* з'явіліся як вынік замены царкоўнаславянскай формы на [-ий] усходнеславянскай формай на [-о], якая стала размоўнай формай у беларусаў, украінцаў (СВІЛ) і, відаць, у рускіх. Існавала і другая ўсходнеславянская форма імені — форма на [-ей]: *Аверкей, Оверкей,* параўн. у рускіх помніках *Оверкей* (Мілейк., 392), варыянтам якой, відаць, з'яўляецца імя *Оверке,* адзначанае ў беларускіх помніках. Ва ўкраінскай мове гэта форма стала афіцыйнай у фанетычным варыянце *Оверкій, Аверкій* (СВІЛ). У рускай і беларускай мовах у якасці афіцыйнай ужываецца царкоўнаславянская форма *Аверкий* (СВІЛ), *Аверкій* (Судн.). Пачатковае [о] ў варыянтах *Оверко, Оверке, Оверян* — арфаграфічная асаблівасць (гл. стар. 14), хоць у окаючых дыялектах яно магло ўзнікнуць фанетычна. Форма *Оверян,* відаць, з'явілася пад уплывам імён на [-ан] тыпу лац. *Валериан, Дометиан, Лукиан,* грэч. *Дамиан, Евтихиан, Митрофан, Севастиан, Стефан, Феофан,* ст.-яўр. *Саламан,* перс. *Азадан,* груз. *Дементиан, Таричан,* якіх у алфавітным спісе святых, што ўпамінаюцца ў месяцаслове праваслаўнага царкоўнага календара, прыведзена 56, а

прычынай для такога ўплыву было тое, што ўсходнеславянская форма *Аверко (Оверко)*, відаць, успрымалася як размоўная суб'ектыўна-ацэначная форма на [-ко], ад якой «рэканструявалася» поўная форма на [-ан].

АВКСЕНТИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 8 разоў пераважна ва ўсходняй частцы Беларусі ў варыянтах *Оксентей, Аксён, Оксен: Оксентей Терешкович* 1615 Маг., ИЮМ VIII 330; *Аксён Федкович* 1647 Маг., ИЮМ X 234, *Аксён Шыпин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 90, *Аксён Бардаков* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 55; *Оксен Хацутич* 1567 Гр. п., П. 691, *Оксен Хилимонович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 210, *Оксен Аверкович* 1596 Маг., ИЮМ VIII 229. СБП: Аксёнаў, Аксянéвіч, Аксянóвіч, Аксінóвіч, Аксёненка, Аксянёнак, Аксенціюк, Аксéнчык, Аксёнчык, Аксю́та, Аксю́таў, Аксючэ́нка, Аксю́чыц, Аксянчу́к, Аксянцю́к, Аксéнь, Аксéль, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Авксентий: Аксён, Аксенціюк, Аксенчык, Аксёнчык, Аксюта, Аксюк, Аксянчук, Аксянцюк, Аксень, Аксель.* Замена царкоўнаславянскай формы на [-ий] усходнеславянскай формай суправаджалася ў многіх выпадках фанетычным спрашчэннем групы зычных [вкс] у пачатку слова ў групу [кс], а ў окаючых дыялектах заменай пачаткоўвага [а] на [о]. Як і для многіх іншых імён, узніклі дзве ўсходнеславянскія формы. Форма на [-ей]—*Оксентей* вядома ва ўсіх усходніх славян — у беларусаў і рускіх у помніках (Мілейк., 392), а ва ўкраінцаў у якасці афіцыйнай формы ў фанетычных варыянтах *Авксентій, Овксентій* (СВІЛ). Другая форма ўзнікла ў выніку адпадзення [-ий], прычым у адных выпадках адбылося спрашчэнне канцавой групы зычных [нт], адкуль *Аксен, Аксён, Оксен,* руск. *Оксен* (Мілейк., 392), украінскае *Овксен, Оксен* (СВІЛ, Грынч.), а ў другіх выпадках канцавая група [нт] захоўваецца, параўн. рэканструяваную па СБП форму *Аксянцюк* з *Аксент-юк,* укр. размоўнае *Аксант* (Грынч.), два варыянты афіцыйнай формы *Овксент, Оксент* (СВІЛ), размоўнае *Аксант* (Грынч.).

АВРААМ, АВРААМИЙ, АВРАМИЙ правасл., АБРАМ, АБРАГАМ каталіцк., польск. *Abram, Abraham.* У Польшчы сустракалася паўсямесна з XIV ст., але ў XVI ст. ужо лічылася іменем яўрэйскім і ў XVII ст. не ўжывалася зусім (Быстр. Кн., 95—96). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 28 разоў у варыянтах *Аврам* (16),

*Абрам* (12). *Аврам: Аврам а Федец Колениковичи* 1528 б. Гр., У. 91; у Попісе 1567 г. *Аврам Андреевич Беликович* Навагр. п., 816, *Аврам Букраба* б. Бр., 1190, *Аврам Курадовский* Пін. п., 1206, *Аврам Левкович* Слон. п., 845, *Аврам Пажковский* Мін. п., 1231; *Аврам Васильевич Пигор* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 237, *ковалю Авраму* 1695 Маг., ИЮМ X 80, *Аврама Канёва* 1746 Маг., ИЮМ XXX 286. *Абрам:* ва Ухвале 1528 г. *Абрам Ивашкович* б. Ваўк., 96, *Абрам Мартинович* Лід. дв., 32, *Абрам Микутевич* Ашм. дв., 26; У Пісцовай кнізе Пін. і Кл. 1552 г. *Абрам Иванович* з. Пін., 24, *Абрам Юдитович* св. Кл., 395; у Попісе 1567 г. *Абрам Мелешко* Слон. п., 851, *Абрам Тарасович* Мін. п., 1224; *Абрам Крыштонёвик* 1746 с. Віц. в., ИЮМ XIX 170, *Абрам Вадзяник* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 433. Ва Ухвале і Попісе *Абрам* адзначана на Падляшшы і ў Літве (45), *Обрам* — у Літве (1), *Ябрам* — на Падляшшы (3). СБП: Аўра́маў, Аўра́менка, Аўра́мцаў, Аўра́мчык, Абра́маў, Абрамо́віч, Абра́менка, Абраме́ня, Абра́мцаў, Абра́мчанка, Абра́мчык, Абраму́к, Абрамчу́к, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Авраам: Аўрам, Аўрамец, Аўрамчык, Абрам, Абрамец, Абрамка, Абрамчык, Абрамук, Абрамчук.* Суіснаванне побач з *Аврам* варыянта з зычным [б] *Абрам* вядома не толькі ў беларусаў, але і ў рускіх (СВІЛ, Мілейк., 392) і ва ўкраінцаў (СВІЛ). Трэба думаць, што ў Беларусі і на Украіне гэты другі варыянт атрымаў значнае пашырэнне не без уплыву польскай мовы. Але, відаць, асабліва для Расіі, нельга адмаўляць і самастойнага ўзнікнення яго ў працэсе асваення традыцыйна-царкоўнай формы, гэтак, як з'явіліся варыянты *Аввакум* — *Абакум.* Руск. *Аврам, Абрам,* устар. *Аврамий* (СВІЛ), укр. *Аврам, Оврам, Абрам* (СВІЛ).

[АГАПИЙ] СБП: Ага́паў, Гапе́еў, Гапіе́віч, Гапе́енка, Гапіе́нка, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Агапий: Агап, Гапей.* Форма на [-ей]—*Агапей* усходнеславянскі варыянт традыцыйна-царкоўнай формы на [-ий]. Акрамя Беларусі, яна адзначана ў Расіі — *Агафей* (Мілейк., 390) і на Украіне ў фанетычным варыянце *Агапій* (СВІЛ). Ва ўсходняй частцы Беларусі з'явіўся варыянт формы *Агапей* без пачатковага [а] — *Гапей,* які там набыў правы афіцыйнай формы. Параўн., напрык-

лад, Міхаіл Гапеевіч Булахаў — беларускі лінгвіст (паходзіць з Магілёўшчыны). Рэканструяваная па СБП форма *Агап* з'яўляецца другой усходнеславянскай формай, якая ўзнікла ў выніку адпадзення [-ий] (гл. стар. 14—15). Вядома яна і ў рускай мове (СВІЛ).

АГАФОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 28 разоў у варыянтах *Агапон* (10), *Огапон* (2), *Гапон* (16). *Агапон: Агапон Бутович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 169, *Агапон Микитинич* 1610 Маг., ИЮМ VIII 300, *Агапон Иванович Смык* 1689 Маг., ИЮМ VI 35, *Агапона Бизя* 1739 Маг., ИЮМ XIV 189. *Огапон: Огапона Есковича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 102, *Огапона Хаевича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 252. *Гапон* — пераважна ва ўсходняй частцы Беларусі: *Гапон Носович* 1528 Навагр. з-к, У. 37, *Гапон Денисович* 1567 Навагр. п., П. 827, *Гапон Хролович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 123, *Гапон Гридкович* 1594 Маг., ИЮМ VIII 225, *Гапон Аристович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Гапон Федорович Тулея Данец* 1630 Маг., ИЮМ VIII 432, ён жа *Агапона Донца* там жа 434, *Гапон Бизевич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 240, *Гапон Галапуз* 1776 Маг., ИЮМ XVII 164. СБП: Агафо́наў, Агафо́ненка, Гапо́н, Гапо́наў, Гапано́віч, Гапо́ненка, Гапанёнак, Гапо́нчык, Гапо́нік, Гапо́нька, Гапаню́к, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Агафон : Агафон, Гапон, Гапончык, Гапонік, Гапонька, Гапанюк*. Такім чынам, у Беларусі па помніках зафіксавана форма *Агапон, Огапон* з заменай [ф] на [п], а па СБП рэканструявана форма *Агафон*. Ад першай у выніку адпадзення пачатковага [а] ўзнік новы варыянт—*Гапон*, які, па сведчанню помнікаў, ужываўся шырэй, чым варыянт з пачатковым галосным. Аб гэтым жа гаворыць і лік прозвішчаў, утвораных ад аднаго і другога. Руск. *Агафон* (СВІЛ), укр. *Агафон, Агапон* — афіцыйныя формы, *Гапон* — размоўн. (СВІЛ).

АГГЕЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 4 разы ў варыянтах *Агей, Огей: Агею Кравцу* 1684 Маг., ИЮМ II 116, *Агей Папович* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 59; *Огей Милодович* 1567 Навагр. п., П. 832, *Огею Пшенку* 1690 Маг., ИЮМ VII 36. СБП: Аге́й, Аге́еў, Агіе́віч, Аге́енка, Аге́йка, Аге́йчык, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Аггей: Агей, Агейка, Агейчык*. Імя *Аггей* захавала сваю форму ва ўсіх усходнеславянскіх мовах, але фанемная структура яго ў кожнай з моў перажыла пэўныя

змены: бел. *Агей, Огей,* руск. *Аггей* (СВІЛ), *Агей* (Мілейк., 390), укр. *Огей, Огій, Егей, Егея, Овгей, Івгей, Йовгей* (СВІЛ, Грынч.).

АДАМ Імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой. У Польшчы ўжываецца з XIV ст., папулярнае аж да апошняга часу (Быстр. Кн., 97 — 98). Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 20 разоў у форме *Адам* (з іх у XVIII ст. толькі 1 раз): *Адам Бейнарович* 1528 Навагр. з-к, У. 35, у Попісе 1567 г. *Адам Войно* Бр. п., 1198, *Адам Зъкгличовский* Навагр. п., 833, *Адам Кгинбут* Вас. хар., 783, *Адам Матеевич Ясколд* Ваўк. п., 873, *Адам Миколаевич Ейсимонт* Гр. п., 690, *Адам Матеевич* Рад. хар., 787, *Адам Олшевский* Ашм. п., 586, *Адам Руцкий* Мін. п., 1223, *Адам Цыбелевич* Астр. хар., 792; *Адамом Мархачом* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 401, *Адама Лопаты* 1714 Віц., ИЮМ XXII 176. Ва Ухвале 1528 і Попісе 1567 г. *Адам* адзначана на Падляшшы каля 120 разоў, у Літве і Жмудзі — каля 90 разоў. СБП: Ада́маў, Адамо́віч, Ада́міч, Адамёнак, Адаме́ц, Адамцэ́віч, Адамке́віч, Ада́мчык, Адаме́йка, Ада́мушка, Адамчу́к, Ада́сь, Ада́ська, Адашэ́нка, Ада́шкін, Адашке́віч, Ада́шчык, Адашчу́к, Адаміцкі, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Адам: Адам, Адамец, Адамка, Адамчык, Адамейка, Адамушка, Адамчук, Адась, Адаська, ?Адах* ці *Адаш, Адашка, Адашчык, Адашчук.* Руск. *Адам* (СВІЛ), укр. *Адам, Одам, Ядам,* памяншальнае *Адась* (СВІЛ, Грынч.).

[АЗА] СБП: Азе́віч, Азано́віч, Азо́нчык, Азо́енка, Азо́лін, Азёма, Азёмша, Азу́ка, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Аза: Аза, Азон, Азончык, Азой, Азоля, Азёма, Азёмша, Азука.* З упэўненасцю можна гаварыць, аднак, толькі аб рэканструкцыі *Аза,* усе астатнія формы патрабуюць далейшага вывучэння і, відавочна, некаторыя атрымаюць больш дакладнае тлумачэнне.

АЗАРИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 9 разоў у Магілёве і Аршанскім павеце ў варыянтах *Азар, Озар: Азаром* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 164, *Азаром Товкачом* 1630 Арш. п., ИЮМ VIII 43, *Азар Говорушка* 1645 Арш. п., ИЮМ XXIII 450, *Азару Ключнику* 1681 Маг., ИЮМ I 130; *Озар Семенович* 1588 Маг., ИЮМ VII 417. СБП: Аза́раў, Азаро́віч, Азарэ́віч, Аза́ранка, Аза́ранкаў, Азарэ́нка, Азаро́нак, Аза́рка, Азарке́віч, Аза́рчанка, па

якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Азария: Азар, Азарка.* Форма без канцавога [-ия]—*Азар, Озар* усходнеславянскі варыянт традыцыйна-царкоўнай формы (гл. стар. 14—15). Руск. афіцыйная форма *Азария* (СВІЛ), укр. афіцыйная форма *Азарій* (СВІЛ).

АКИЛА Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 9 разоў (пераважна ў Магілёве) у варыянтах *Акула* (4), *Окула* (5): *Акулою Кошкиничом* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 22, *Акула Авсеев Медвед* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Акула Жук* 1722 Маг., ИЮМ XII 373, *Акула Арцемович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 297; *Окула Богданович* 1528 б. Ваўк., У. 96, *Окула Василевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 231, *Окула Козорезов* 1584 Маг., ИЮМ VII 347, *Окула* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 175. СБП: Аку́ла, Аку́лаў, Аку́ліч, Акуло́віч, Акуле́віч, Аку́ленка, Аку́лінка, Акулёнак, Аку́лка, Аку́лік, Акулі́нскі, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Акила: Акула, Акулка, Акулік.* Форма з [у] адпаведна [и]—*Окул* адзначана і ў помніках рускай мовы (Мірасл., 392).

АЛЕКСАНДР Імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой. Польскае *Aleksander* вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 105—107). Зарэгістравана ў XVI—XVIII ст. 28 разоў у варыянтах *Александр* (8), *Олександр* (1), *Александро* (15), *Олександро* (3), *Александер* (1). *А л е к с а н д р:* ва Ухвале 1528 г. *Александр Жданович* б. Астр., 88, *Александр Менькович* Навагр. з-к, 34, *Александр Совичович* б. Вас., 87; у Попісе 1567 г. *Александр Синяк* Ашм. п., 581, *Александр Янович* Гр. п., 675; *Александром Шпаковичем* 1652 Пол., ИЮМ V 293, *Александр Бонич* 1664 Віц., ИЮМ XXI 319, *Александра Халеевича* 1691 Маг., ИЮМ VIII 12, *Александр Горонин* 1746 Маг., ИЮМ XXX 287. Ва Ухвале і Попісе *Александр* адзначана ў Літве і Жмудзі 18 разоў, а на Падляшшы — 3 разы. *А л е к с а н д р о:* ва Ухвале 1528 г. *Александро Андрушкович* б. Астр., 88, *Александро Венцкович* б. Ваўк., 97, *Александро Синякович* Ашм. дв., 22; у Попісе 1567 г. *Александро Вагановский* Ваўк. п., 459, *Александро Войтехович* Ашм. п., 580, *Александро Гридич* Навагр. п., 818, *Александро Жинев* Ваўк. п., 870, *Александро Кучук* Бр. п., 1190, *Александро Сидорович Бокей* Астр. хар., 791. *А л е к с а н д е р: Александер Григоревич Воронец* 1663 дв. Мсцісл. п., ИЮМ XXIV 440. Ва Ухвале і Попісе *Александро* адзначана ў Літве і Жмудзі 16 разоў; *Александер* — на

Падляшшы 9, у Літве і Жмудзі — 3. Памяншальныя формы: *Олехно* (21), *Алес* (1), *Олех* (1), *Санюк* (1). *Олехно:* ва Ухвале 1528 г. *Олехно Андреевич* Ашм. дв., 25, *Олехно Гойко* з. Бр., 101, *Олехно Жабка Островский* Навагр. з-к, 34, *Олехно Гущина* Пол. з-ля, 194, *Олехно Дашкович* б. Ваўк., 95, *Олехно Ивашкович* б. Астр., 88, *Олехно Коршун* Віц. з-ля, 197, *Олехно Радивонович* б. Кл., 190. Ва Ухвале і Попісе *Олехно* адзначана ў Літве 21 раз, на Валыні — 8, на Падляшшы — 2, *Алехно* — у Жмудзі 1 раз. *Алес: Алес Радзевич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 285. *Олех: Олех Ширейкович* 1528 б. Гр., У. 93, а на Падляшшы ва Ухвале і Попісе — 3 разы. *Санюк: Санюком а Минюком Кошелевичами* 1582 Мін п., АВК XXXVI 343. СБП: Аляксáндраў, Александрóвіч, Аляксáнкін, Алéсь, Алéсіч, Алéсенка, Алéсік, Алéська, Алясю́к, Аляхнó, Аляхнóвіч, Алікéвіч, Алькóвіч, Лесь, Лéсін, Лéсік, Лéська, Лясьќо, Лясю́к, Сáнаў, Сáнін, Санéц, Санцэ́віч, Сáнька, Санькó, Санкóвіч, Санкéвіч, Санікéвіч, Саню́к, Санюкóвіч, Санчу́к, Саню́та, Сашанóк, Сашкó, Сáшчанка, Сáшанькін, па якіх можна рэканструяваць 26 форм імені *Александр: Аляксандр, Аляксанка, Алесь, Алесік, Алеська, Алясюк, Аляхно, Алік, Алько, Лесь, Лесік, Леська, Лясько, Лясюк, Сан, Санец, Санька, Санько, Санко, Санік, Санюк, Санчук, Санюта, Саша, Сашко, Сашанька.* Такім чынам, у Беларусі адзначана дзве формы поўнага імені, адна з якіх супадае з традыцыйна-царкоўнай формай *Александр,* а другая ўзнікла ў сувязі з неабходнасцю пазбегнуць збегу зычных [ндр] у канцы слова — *Александро.* Гэтыя формы, як сведчаць матэрыялы Ухвалы і Попісу, былі вядучымі ў Літве і Жмудзі, у той час як на Падляшшы пераважна ўжывалася польская форма імені *Александер.* Руск. *Александр,* а ў помніках — яшчэ *Олександр* (СВІЛ, Мірасл.), укр. *Олександр, Олександро, Лександра, Лександро, Олександер, Ксандер, Санько* (СВІЛ, Грынч.).

АЛЕКСЕЙ Імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой, польск. *Aleksy.* У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 107—109). Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 89 разоў у варыянтах *Алексей* (36), *Олексей* (16), *Олексий* (1), *Алекса* (2), *Олекса* (4), *Алекшей* (8), *Алекший* (1), *Олекший* (3), *Алекши* (7), *Олекши* (9), *Алекша* (1), *Олекша* (1). *Алексей:* ва Ухвале 1528 г. *Алексей* Раг. слуга путны, 191, *Алексей Залетелый* б.

Слон., 98, *Алексей Зонкевич* Навагр. з-к, 32, *Алексей Смольнянин* б. Пін., 189; у Попісе 1567 г. *Алексей Андреевич* Навагр. п., 835, *Алексей Гриневич* Ашм. п., 590, *Алексей Понюкович* Гр. п., 681; *Алексей Шавров* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Алгксеем Сцебутом* 1676 Пол., ИЮМ V 354, *Алексей Трушков* 1684 Маг., ИЮМ II 83, *Алексей Судзёнок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189, *Алексей Махаёнок* 1751 Віц., ИЮМ XVIII 398, *Алексей Кандрыка* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187, *Алексей Пакуса* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 433, *Алексей Машко* 1771 Пол., ИЮМ VI 382. *О л е к с е й: Олексей Зенкович* Пол. з-ля, 193, *Олексей Иванович* б.Ваўк., 96, *Олексей Острейкович* б. Мсцісл. п., 199, *Олексей Мурашкинич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 226, *Олексей Ходневич* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 370, *Олексей Цыплин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 84. Ва Ухвале і Попісе *Алексей* адзначана ў Літве і Жмудзі 8 разоў, *Олексей* — у Літве і на Падляшшы — 4, *Олексий* — у Літве 1. *А л е к с а: Алекса Белянка* 1643 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 360, *Алекса Савчинок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190. *О л е к с а: Олекса Романович* 1567 Брасл. п., П. 638, 3 разы на Падляшшы. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі зарэгістраваны і іншыя формы (не адзначаныя ў Беларусі): *А л е к ш е й* — у Жмудзі 8 разоў, *Алекший, Олекший* — на Падляшшы 4, *Алекши* — на Падляшшы 6 і ў Літве 1 раз, *Олекшы* — на Падляшшы 8 разоў, у Літве 1, *Алекша* — у Літве 1 раз. Памяншальныя формы: *Олеша* (1), *Олешко* (3), *Алехно* (1), *Олехно* (52) параўн. *Александр. О л е ш а: Олеша Протопинич* 1528 б. Мсцісл., У. 198, *О л е ш к о: Олешко* з Воци 1528 Навагр. з-к, У. 36, *Олешко Гордеевич* 1528 б. Гр., У. 93, *Олешко Манюкевич* 1567 Навагр. п., П. 818. СБП: Аляксе́еў, Алексяе́віч, Алексіе́віч, Аляксе́енка, Алексяёнак, Аляксе́йчык, Алексяю́к, Але́кса, Алёкса, Але́ксін, Але́ксіч, Аляксю́к, Алексюто́віч, Алёхаў, Алёхін, Алёхна, Аляхно́, Аляхно́віч, Алёшын, Аліша́віч, Але́шчанка, Алёшчанка, Лёша, па якіх можна рэканструяваць 14 форм імені *Алексей: Аляксей, Аляксейчык, Алексяюк, Алекса, Алёкса, Аляксюк, Аляксюта, Алёха, Алёхна, Аляхно, Алёша, Алёшка, Алешка, Лёша.* Царкоўнаславянская форма *Алексий* на ўсходнеславянскай глебе пераўтварылася ў форму на [-ей] — *Алексей,* або ў форму на [-а] — *Алекса.* У Літве і Жмудзі, як сведчыць матэрыял, звычайна ўжываліся ўсходне-

славянскія формы, у якіх некаторы раз у выніку мазурэння замест [с] вымаўляецца [ш] — *Алексей, Олексей, Алекшей,* а на Падляшшы — польскія формы *Алекшы, Олекшы.* У помніках рускай пісьменнасці адзначана *Алексей, Олексей* (Мірасл., Мілейк., 390, 392), сучасная афіцыйная форма *Алексей* і радзей *Алексий* (СВІЛ), укр. афіцыйная форма *Олексій,* размоўн. *Олекса, Олексійко, Олешко* (СВІЛ, Грынч.).

[АЛИМ] СБП: Алімаў.

[АЛИПИЙ] СБП: Аліпаў, па якім можна рэканструяваць форму *Аліп.*

АЛФИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 2 разы ў варыянтах *Авпей, Овпей: Авпей Жданович Лопатич* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 41, ён жа *Овпей Жданович Лопатенич* там жа 52. Названыя формы на ўсходнеславянскай глебе атрымалі канцавое [-ей] замест [-ий], характэрнага для царкоўнаславянскай формы, і разам з тым перажылі шэраг фанетычных змен: [л] царкоўнаславянскай формы змянілася ў [в], а [ф]—у [п]. Руск. *Алфей, Алфий* (СВІЛ), укр. *Алфей, Алфій* (СВІЛ).

АМВРОСИЙ правасл., АМБРОЖЕЙ каталіцк., польск. *Ambroży.* У Польшчы сустракаецца з XVI ст. (Быстр. Кн., 111—112). Зарэгістравана ў XVI ст. 18 разоў у варыянтах *Амброжей* (15), *Амброжий* (3). *А м б р о ж е й:* у Попісе 1567 г. *Амброжей Войткович* Ашм. п., 593, *Амброжей Кореевич* Ваўк. п., 858 *Амброжей Миколаевич Ейсимонтович* Гр. п., 694, *Амброжей Юхнович Сурымонтович* Мін. п., 1217; на Падляшшы — 10, у Літве і Жмудзі — 60. *А м б р о ж и й:* у Попісе 1567 г. *Амброжий Ализарович* Слон. п., 845, *Амброжий Мартинович* Ашм. п., 592, *Амброжия Немчиновича* Ваўк. п., 857; на Падляшшы — 2. Ва Ухвале і Попісе яшчэ адзначаны: *Амброжи* на Падляшшы — 3, *Амброс* у Жмудзі — 16, у Літве — 7, *Амрос* (1), *Ямброжей* (1) — у Літве. СБП: Амбражэ́й, Амбражэ́віч, Амбружэ́віч, Амбражэ́йчык, Амбражу́к, Абражэ́й, Абражэ́еў, Абражэ́віч, Амбро́саў, Амбрусе́віч, Абра́сімаў, Аблажэ́й, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Амвросий: Амбражэй, Амбражэйчык, Амброж(ы), Амбражук, Абражэй, Абраж(ы), Аброж(ы), Амброс, Абрасім.* Заканамернай усходнеславянскай формай, відаць, трэба лічыць *Амбросей, Омбросей* — форму на [-ей] з заменай [в] на [б], як і ў выпадках *Аввакум : Абакум, Аврам : Абрам.* Але та-

кая форма ў абследаваных помніках не засведчана. Адсутнічае яна і ў наяўных у аўтара матэрыялах і працах па рускай і ўкраінскай антрапаніміі. Зарэгістравана, аднак, другая магчымая для імён на [-ий] усходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Амброс, Омброс.* Праўда, па помніках вырысоўваецца парадаксальны малюнак: формы *Амброс, Омброс* адзначаны толькі за межамі Беларусі — у Жмудзі і Літве, а на тэрыторыі Беларусі — гібрыдная форма *Амброжей,* якая шырока прадстаўлена таксама ў Літве, Жмудзі і на Падляшшы. Гэта форма спалучае ў сабе польскую форму *Амброж(и)* і ўсходнеславянскае [-ей]. Блізкая да яе і форма *Амброжий.* Рэканструкцыя імён па СБП пацвярджае шырокае бытаванне ў Беларусі формы *Амбражэй* і разам з тым сведчыць, што ўжывалася і форма *Амброс,* хоць у помніках апошняя не сустракаецца. Нязвыклая для беларускай мовы група зычных [мвр] часцей за ўсё выступае ў выглядзе групы [мбр], але ў некаторых формах яна яшчэ траціць [м] і набывае выгляд [бр]— *Абражэй, Аброж(ы)* ці [бл] — *Аблажэй.* Звяртае на сябе ўвагу рэканструяваная форма *Абрасім,* якая адзначана і ў помніках рускай мовы,—*Обросим* (Мілейк.). Відаць, з'явілася яна па ўзору імён, што заканчваюцца на [-им], тыпу грэч. *Анфим, Герасим, Евдоким, Иероним, Никодим, Онисим, Трофим,* лац. *Максим, Харисим,* перс. *Акепсим, Вадим,* ст.-яўр *Иоахим, Серафим,* якіх у алфавітным спіску святых, што ўпамінаюцца ў месяцаслове праваслаўнага царкоўнага календара, налічваецца каля 20. Прычынай утварэння гэтай формы, магчыма, паслужыла ўяўная непаўнацэннасць формы *Абрас, Аброс,* якая ўспрымалася як усечаная форма, скажам, такога тыпу, як *Онис(им), Герас(им)* і інш. Ва ўкраінскай мове вядомы формы *Амрос, Амрось, Омрос, Омрось* (Грынч.), *Амвросій, Амбросій, Амбрось* (СВІЛ).

АМОС Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 2 разы: *Амос Волк* 1567 Мін. п., П. 1219, *Амос Жук* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 429. СБП: Амóс, Амóсаў, Амóсенка, Амасёнак, па якіх можна рэканструяваць імя *Амос.*

АНАНИЯ Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 10 разоў пераважна ва ўсходняй частцы Беларусі ў варыянтах *Анания* (2), *Онания* (3), *Анання* (2), *Ананя* (1), *Анан* (1), *Анань* (1): *Анания Ивашень* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV, 374, *Анания Чирок* 1704, Чач. ст., ИЮМ XXVIII 20; *Онания Родионович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 91; *Анан-*

*ню Малачевича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 187, *Анання Слепнёв* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 86; *Ананя Семенович* 1583 Маг., ИЮМ VII 340; *Анани Матвеевич* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 169; *Анан Ракович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 173; *Анань Дзеляков* 1670 Віц. п., ИЮМ XXI 182. Памяншальная форма: *О н о ш к о* (1): *Оношко Андреевич* 1528 б. Ваўк. п., У. 97. СБП: Ана́ньеў, Ананéвіч, Ана́ніч, Ана́ненка, Ана́нька, Ана́нчанка, Ананчу́к, Ана́шка, Анашкéвіч, Анóшка, Анóшчанка, Анёха, Анюшкéвіч, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Анания: Ананий, Анан(ь), Ананька, Ананчук, Анашка, Аношка, Анёха, Анюшка.* У помніках беларускай пісьменнасці адлюстравана і сама царкоўнаславянская форма на [-ия]—*Анания, Онания* і яе варыянты, што ўзніклі фанетычным шляхам: *Анання* з гіпатэтычнай формы *Ананья,* якая вядома ў помніках рускай мовы — *Онанья* (Мілейк.), у выніку падаўжэння зычнага [н], а *Ананя* — пасля сцяжэння [нн], хоць магчыма і іншым шляхам: *Анания — Анан — Анан-я.* Па СБП рэканструявана форма *Ананій,* якая, відаць, успрымалася як царкоўнаславянская форма на [-ий], а таму яна падзяліла лёс гэтых форм, што на ўсходнеславянскай глебе замянілі [-ий] на [-ей] ці страцілі [-ий] зусім. У такім разе можна дапусціць існаванне формы *Ананей,* якая ў помніках рускай мовы і зафіксавана—*Онаней* (Мілейк., 392), а зафіксаваныя ў беларускіх помніках формы *Анан, Анань* трэба лічыць усходнеславянскім варыянтам поўнай формы імені, а не памяншальнай формай, утворанай шляхам усячэння асновы. У рускай мове, акрамя названых форм, —*Ананий, Анания* (СВІЛ), ва ўкраінскай мове — *Ананій, Анань* (СВІЛ), *Анан, Ананечко, Ананцьо, Ананьо* (Грынч.).

[АНАСТАСИЙ] СБП: *Анасéнка, Анóсік, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Анастасий*: *Анос, Аносік.*

АНДРЕЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 339 разоў у варыянтах *Андрей* (330), *Ондрей* (8), *Андрея* (1). *А н д р е й*: ва Ухвале 1528 г. *Андрей Иванович* б. Кл., 190, *Андрей Каспарович* Ашм. дв., 25, *Андрей Лавринович* Лід. дв., 31, *Андрей Микулич* Навагр. з-к, 33, *Андрей Перфуревич* б. Вас., 87, у Попісе 1567 г. *Андрей Бутримович* Навагр. п., 832, *Андрей Войтехович Суглоба* Ашм. п., 577, *Андрей Глебович Дежа* Вас. хар., 775, *Андрей Да-*

*нилович* Гр. п., 702, *Андрей Зубцович* Слон. п., 841, *Андрей Кмита* Пін. п., 1211, *Андрей Конище* Мін. п., 1222, *Андрей Семенович Кобыз* Ваўк. п., 865, *Андрей Сушкевич* Бр. п., 1196, *Андрей Федяевич* Рэч. п., 1234; *Андрея Лошука* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 321, *Андрей Овсяник Кмита* 1593 Віц., ИЮМ I 336, *Андрей Шека* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Андрей Пивоворонок* 1642 Пол. в., ИЮМ XXII 316, *Андрей Дзенисов Тык* 1646 Арш. п., ИЮМ XXIV 372, *Андрей Арцем* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 81, *Андрей Козлович* 1652 Пол., ИЮМ V 253, *Андрей Буката* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188, *Андрей Глухой* 1730 с. Пол., ИЮМ II 329, *Андрей Котленок* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 432, *Андрей Калуга* 1772 Віц., ИЮМ XIX 211. Ва Ухвале і Попісе *Андрей* адзначана на Падляшшы 420 разоў, а ў Літве і Жмудзі —380. *Ондрей: Ондрей Матфеевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 201, *Ондрей Веков* 1630 Віц., ИЮМ II 232. *Андрея: Андрея Петрашевич* 1528 б. Слон., У. 98. Памяншальныя формы: *Андрейко* (5), *Андрушко* (1), *Андраш* (1), *Андрус, Андрюс* (5), *Андрос* (4), *Анрос* (1). *Андрейко:* у Попісе 1567 г. *Андрейко Всячинович* Гр. п., 680, *Андрейка Станиславовича* Слон. п., 849; у Літве —3. *Андрушко: Андрушко Матеевич* 1528 б. Ваўк., У. 97; ва Ухвале і Попісе ў Літве —16, на Падляшшы —1. *Андрус, Андрюс: Андрюс Нестерович* 1580 Маг., ИЮМ VII 322; ва Ухвале і Попісе ў Літве —4. *Андрос: Андрос Авхимович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 212, *Андроса Сопроновича* там жа, 66, *Анрос: Анроса Гринцовича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 187. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе адзначаны і іншыя формы: *Андрух, Андрис* на Падляшшы, *Андрош, Андруш, Андрим* у Літве, *Андруліс* у Жмудзі. СБП: Андрэ́еў, Андрэ́енка, Андрэ́йкаў, Андрэ́йчык, Андрэ́йчыкаў, Андрэ́йцаў, Андрые́віч, Андрые́нка, Андраю́к, Андрыю́к, Андрыя́ш, Андрыя́шка, Андрыя́нец, Андру́к, Андру́с, Андрузя́к, Андрухо́віч, Андру́ш, Андру́шын, Андрушэ́віч, Андрушэ́нка, Андрушке́віч, Андру́шчанка, Андрэйкаве́ц, Андрые́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і варыянтаў форм імені *Андрей*: *Андрэй, Андрэйка, Андрэйчык, Андрэц, Андраюк, Андрыюк, Андрыяшка, Андрыянец, Андрук, Андрус, Андрусяк, Андруха, Андруш, Андруша, Андрушка.* Поўная форма імені ва ўсходніх славян захавалася ў традыцыйна-царкоўнай форме. Ва ўкраінскай мове адзначаны фор-

мы: *Андрій, Андрійко, Андрієчко, Андрієць, Андрійцьо, Андріаш, Андрунь, Андрось, Андрусь, Андрусик, Андрусенько, Андрух, Андрушко, Ондрій, Ондрієць, Ондрійко, Ондрусь, Яндрій, Яндрух* (Грынч.).

[АНДРОНИК] СБП: Андрóн, Андрóнаў, Андрóнчык, Андранюк, Андранóвіч, Андрóсаў, Андрóсенка, Андрóсік, Андрасюк, Андрашчýк, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Андроник: Андрон, Андрончык, Андранюк, Андрол, Андрос, Андросік, Андрасюк, Андрашчук.* У абследаваных актах імя не выяўлена. Рэканструкцыя па СБП сведчыць, што ў Беларусі ў якасці поўнага імені ўжывалася форма *Андрон,* а не *Андронік,* якая, магчыма, успрымалася як памяншальна-ласкальная. Укр. *Андроник, Андрон* (СВІЛ).

АНТИОХ Зарэгістравана ў 1528 г. 2 разы ў варыянтах *Анцушка, Анцута: Анцушка Долманович* б. Пін., У. 189, *Анцута Гарабурда* 1567 Гр. п., П. 698. СБП: Анціхóвіч, Анціхéвіч, Анцýк, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Антиох: Анціх, Анцух.* Поўная форма імені ў абследаваных помніках не адзначана. Рэканструяваная па СБП форма *Анціх,* відаць, узнікла ў выніку спрашчэння нехарактэрнага для беларускай мовы спалучэння галосных [іо]. Руск. *Антиох,* укр. *Антіох* (СВІЛ).

АНТИПА Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 7 разоў у варыянтах *Антипа* (6), *Онтипа* (1): *Антипа Сенютович* 1567 Гр. п., П. 681, *Антипа Якимович* там жа, 687, *Антипа Хилкович* 1588 Маг., ИЮМ VII 444, *Антипы Дубаря* 1679 Маг., ИЮМ I 15, *Антипы Коня* 1683 Маг., ИЮМ II 10, *Онтипа Холкович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320. СБП: Анцíпаў, Анціпін, Анціпóвіч, Анціпенка, Анцíпкін, Анцы́паў, Анцыпóвіч, Анцыпóн, Анцýта, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Антипа: Анціп, Анціпа, Анціпка, Анцып, Анцыпон, Анцута.* Матэрыял помнікаў сведчыць, што ў XVI ст. была жывой форма *Антипа.* Сучасн. бел. *Анціп,* руск., укр. *Антип* (СВІЛ).

АНТОНИЙ правасл., АНТОНИ каталіцк., польск. *Antoni.* У Польшчы вядома з XVI ст., вельмі папулярнае. Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 54 разы ў варыянтах *Антоней* (4), *Антон* (49), *Онтон* (1). *А н т о н е й: Антоней Сасин* 1567 Бр. п., П. 1184, *Антоней Сухожебрский* 1567 Ашм. п., П. 592. *А н т о н: Антон Мишкевич* 1528 б. Гр., У. 93, у Попісе 1567 г. *Антон Радивонович Сачкович* Пін.

п., 1215, *Антон Стецкевич* Навагр. п., 828, *Антон Якубович* Ашм. п., 591; *Антона Сиволапа* 1679 Маг., ИЮМ I 16, *Антона Андреевича Шабуни* 1689 Маг., ИЮМ VI 16, *Антон Первы* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Антон Сухар* 1764 Віц., ИЮМ XIX 186. Ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. *Антон* адзначана на Падляшшы 4 разы, у Літве і Жмудзі — 8. *Онтон: Онтон Озарович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 241. У Попісе 1567 г. яшчэ адзначаны *Антоний* (5), *Антони* (2) на Падляшшы. Памяншальная форма *Онтошко* (1): *Онтошко Петрович* 1609 Маг., ИЮМ VIII 286. СБП: Анто́наў, Антано́віч, Антане́віч, Антане́нка, Анто́ненка, Антане́ня, Анто́нік, Анто́нчык, Анто́нцаў, Антаню́к, Антуне́віч, Анто́сенка, Антуськоў, Анто́шын, Анто́шка, Анто́шкін, Анташке́віч, Анту́х, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Антоний: Антон, Антонік, Антончык, Антонец, Антанюк, Антось, Антусёк, Антоша, Антошка, Антух.* У Беларусі бытавалі дзве ўсходнеславянскія формы — *Антоней* і *Антон* (*Онтон*). Першая ўжывалася значна радзей. Гэтыя ж формы функцыяніравалі ў Літве, Жмудзі і на Падляшшы. На Падляшшы ўжываліся таксама царкоўнаславянская форма *Антоний* і польская *Антони* (Antoni). Руск. *Антон, Антоний* (СВІЛ), укр. *Антон, Антін, Антоній* (СВІЛ); *Антін, Антінко, Антось, Антосько, Антох, Антошко* (Грынч.).

АНФИМ: *Онихим Пашутич Сезеневича* 1567 Гр. п., П. 696. На Падляшшы: *Анхим Сакович* 1528, У. 167.

[АПОЛЛОН] СБП: Палане́віч, Палане́йчык, Паланцэ́віч, Палане́цкі, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Аполлон: Палон, Паланейчык, Паланец.* Варыянт *Палон* узнік фанетычным шляхам: у выніку адпадзення ненаціскнога пачатковага галоснага, як і ў многіх іншых імёнах. Руск., укр. *Аполлон, Аполлоний* (СВІЛ).

АРЕФА Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 9 разоў (пераважна ў Магілёве) у варыянтах *Арефа* (6), *Орефа* (2), *Орехва* (1): *Арефа Зеновеевич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 134, *Арефу Протковича* там жа, 220, *Арефа Процкович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Арефа Безушко* 1623 Маг., ИЮМ VIII 396, *Орефа Огапонович Волк* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 117, *Орефы Яковлевича* 1624 Маг., ИЮМ VIII 398; *Орехва Констентинович* 1567 Гр. п., П. 680. СБП: Арэ́фін. Руск. *Арефа, Арефий* (СВІЛ), укр. *Арефа, Орефа, Арефій, Орефій* (СВІЛ), *Арехвій*

(Грынч.). Украінская форма на [-ій], відаць, узнікла пад уплывам шматлікіх форм на [-ій], што ўтварыліся на базе царкоўнаславянскіх імён на [-ий].

[АРСЕНИЙ] СБП: Арсéнчык. Відаць, як і для іншых царкоўнаславянскіх імён на [-ий], існавалі два ўсходнеславянскія варыянты — *Арсеней* і *Арсен,* ад кожнага з якіх магла ўтварыцца памяншальная форма, што пазней стала ўжывацца ў функцыі прозвішча. Сучасн. бел. *Арсеній, Арсен* (Судн.), руск. *Арсений* (СВІЛ), укр. *Арсен, Арсеній* (СВІЛ).

АРТЕМА, АРТЕМИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 51 раз у варыянтах *Артем* (44), *Ортем* (5), *Артим* (1), *Артемей* (1). *Артем: Артем Лукошка* 1528 Пол. з-ля, У. 195, *Артем Толстейкович* 1528 б. Мсцісл., У. 199, *Артем Гримашкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 211, *Арцём Коновалёнок* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 166, *Арцем Литвин* там жа, 162, *Артем Грыдкович* 1623 Пол., ИЮМ XXIII 423, *Арцем Шаповал* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 84, *Артем Балаш Клеткин* 1683 Маг., ИЮМ II 7, *Артем Азарович* 1691 Маг., ИЮМ VIII 160, *Арцем Азрилёнок* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 35, *Арцем Яковенко* там жа, 56, *Арцем Бядыш* 1746 Маг., ИЮМ XXX 194, *Арцем Клиндух* там жа, 179, *Арцем Залески* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 157, *Арцём Симончик* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78. *Ортем: Ортем Тегелин* 1528 б. Мсцісл., У. 198, *Ортем Игнатович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXX 128, *Ортем Федюнич* 1630 б. Віц., ИЮМ II 232. *Артим: Артима Карповича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 14. *Артемей: Артемей Мелешко* 1567 Слон. п., П. 840. СБП: Арцём'еў, Арцём, Арцёмаў, Арцёменка, Арцéменка, Арцямéня, Арцімóвіч, Арцімéня, Арцімянé, Арцямýк, Арцімýк, Арцямю́к, Арцю́х, Арцюхóў, Арцю́хін, Арцюхóвіч, Арцюхéвіч, Арцюшэ́нка, Арцюшэ́ня, Арцю́шка, Арцюшкéвіч, Артухéвіч, Арціхóўскі, Арцішэ́ўскі, Арцюхóўскі, Арцюшэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імён *Артема, Артемий: Арцёмій, Арцём, Арцім, Арцямук, Арцімук, Арцямюк, Арцюх, Арцюшка, Артух, Арціх.* Як сведчыць матэрыял, звычайна ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ей] — *Артем (Ортем),* другая ўсходнеславянская форма — на [-ей] была рэдкай. Руск. *Артемий, Артём* (СВІЛ), укр. *Артем, Артемій* (СВІЛ), *Артем, Артюх* (Грынч.).

АРХИПП Зарэгістравана ў XVII—XVIII стст. 2 ра-

зы: *Архип Булаев* 1684 Маг., ИЮМ II 189, *Архип Мятла* 1746 Маг., ИЮМ XXX 305. СБП: Архіпаў, Архіпенка, Архіпец, Архіпцаў, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Архипп*: *Архіп, Архіпец.* Руск. *Архип* (СВІЛ), укр. *Архип* (СВІЛ), *Архип, Архипко* (Грынч.).

АФАНАСИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 77 разоў у варыянтах *Афанасий* (1), *Офанасей* (2), *Афанас* (9),*Офанас* (8), *Апанас* (26), *Опанас* (25), *Панас* (6). *Афанасий: Афанасий Булай* 1746 Маг., ИЮМ XXX 189. *Офанасей: Офанасей Тризна* 1567 Ваўк. п., П. 853. *Афанас: Афанас* 1528 Навагр. з-к, У. 37, *Афанас Дрозд* 1629 Маг., ИЮМ VIII 423, *Афанаса Шумейки* 1681 Маг., ИЮМ I 124, *Афанаса Оноски* 1691 Маг., ИЮМ VIII 136, *Афанаса Луцкевича* 1746 Маг., ИЮМ XXX 229, *Афанаса Мурашки* там жа, 241. *Офанас: Офанас Фурсович* 1528 б. Пін., У. 188, *Офанас Манчак* 1582 Мінск, АВК XXXVI 124, *Офанас Горлышко* 1596 Маг., ИЮМ VIII 231, *Офанас Иванович* 1619 Маг., ИЮМ VIII 348. *Апанас: Апанас Минютич* 1528 б. Гр., У. 92, *Апанас Нестерович* там жа, 93, *Апанас Мутыкольский* 1528 б. Кам., У. 99, *Апанас Таруля* 1623 с. Пол. в., ИЮМ XXIII 423, *Апанас Красич* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 450, *Апанас Яковлин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 90, *Апанас Ковдырев* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Апанас Штанинчинок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190, *Апанас Лешков* 1722 Маг., ИЮМ XII 367, *Апанас Шабалтай* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 56, *Апанас Бутай* 1746 Маг., ИЮМ XXX 187, *Апанас Чычык* там жа, 295, *Апанас Шалютранёнок* 1769 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 11. *Опанас: Опанас Мартинович* 1567 Ваўк. п., П. 871, *Опанаса Матфеевича* 1567 Навагр. п., П. 837, *Опанас Иванович Кулак* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 189, *Опанас Пивовар* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 450. *Панас: Панас Онисимович* 1528 б. Ваўк., У. 95, *Панас Андрухович* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 34. СБП: Афана́ссеў, Афана́сенка, Афанасёнак, Афана́сік, Апанасе́віч, Апана́сік, Апанаске́віч, Апана́счык, Апанасю́к, Пана́с, Панасе́віч, Панасэ́віч, Пана́сенка, Пана́сік, Панаськóў, Пана́шчык, Панасю́к, па якіх можна рэканструяваць 11 форм і варыянтаў форм імені *Афанасий: Афанасій, Афанас, Афанасік, Апанас, Апанасік, Апанасчык, Апанасюк, Панас, Панасік, Панасчык, Панасюк.* Вядучай формай была ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий], якая выступала ў фанетычных варыянтах, што адрозніва-

лісся, з аднаго боку, пачатковым галосным ([а] : [о]), а з другога — характарам зычнага на месцы [ф] ([ф] : [п]). Больш актуальным было адрозненне па другой прыкмеце. Варыянт з зычным [п] — *Апанас (Опанас)* быў вядучым, адзначаны ён у розных раёнах Беларусі. На аснове яго ўзнік новы варыянт без пачатковага галоснага — *Панас*. Другая ўсходнеславянская форма — форма на [-ей] была малаўжывальнай. Зрэдку, відаць, толькі ў пісьмовай практыцы, ужывалася царкоўнаславянская форма на [-ий]. Руск. *Афанасий* (СВІЛ), *Афонасей, Офонасей* (Мілейк., 390, 392), укр. *Панас, Опанас, Афанасій, Атанасій, Танасій, Атанас, Танась* (СВІЛ), *Ахтанасій, Опанас, Охтанас, Панас, Панасик, Панаско, Танас* (Грынч.).

[АФОНИЙ] СБП: Афóнін, Афанéвіч, Афóненка, Афóнькін, Аханькóў, Апанóвіч, Апанéль, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Афоний: Афоня, Афонька, Ахaнько, Апон, Апанель*. Поўнай сярод рэканструяваных форм хутчэй за ўсё трэба лічыць форму *Апон*, якая з'яўляецца фанетычным варыянтам адной з двух магчымых усходнеславянскіх форм, а іменна формы без канцавога [-ий] — *Афон*. Руск. *Афон, Афоний* (СВІЛ), укр. *Афон, Афоній* (СВІЛ).

БАЛТАЗАР Імя каталіцкага календара, польск. *Baltazar*. У Польшчы папулярнае з XVI ст. (Быстр. Кн., 126). Зарэгістравана ў XVI ст. 4 разы ў варыянтах *Балцар* (3), *Балцер* (1): *Балцар Андреевич Лопот* 1567 Мін. п., П. 1215, *Балцар Валицкий* 1567 Ваўк. п., П. 867, *Балцар Козицкий* 1567 Лід. п., П. 754; у Літве — 3 у Попісе 1567 г.; *Балцера Хрищоновича* 1567 Слон. п., П. 842. Ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. на Падляшшы адзначаны: *Балтозар* (14), *Балтазер* (8), *Балтазал* (1), *Бартазар* (1), *Балтызер* (2). СБП: Баль, Бальцэ́віч, Балцэ́віч, Балькó, Балю́к, Бальчэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Балтазар: Баль, Балец, Балько, Балюк.*

БЕРНАРД Імя каталіцкага календара, польск. *Bernard*. Зарэгістравана ў XVI ст. 19 разоў у форме *Бернат: Бернат Богданович* 1528 б. Рад., У. 81, *Бернат Ганусович* 1528 б. Ваўк., У. 95, *Бернат Ромашкевич* 1567 Ашм. п., П. 576. Ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. *Бернат* адзначана на Падляшшы 32 разы, у Літве і Жмудзі—8; *Бернать* на Падляшшы — 3 разы. СБП: Бéрнад, Бéрнат, Бернатóвіч, Барнáцкі, Бярнáцкі, па якіх можна рэканструяваць 3 варыянты імені *Бернард; Бернад, Бернат, Барнат.*

БОГДАН Старажытнае славянскае імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой, а таму шырока распаўсюджанае ў XVI—XVII стст., калі іншыя старажытныя славянскія імёны ў Беларусі ўжываліся ўжо адносна рэдка. У палякаў вядома з 1136 г. (Таш., 65). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 176 разоў: ва Ухвале 1528 г. *Богдан Астапович* б. Слон., 98, *Богдан Барсобич* б. Кобр., 192, *Богдан Белиницкий* Віц. з-ля, 197, *Богдан Васюкович* Навагр. з-к, 37, *Богдан Вислоухович* б. Ваўк., 95, *Богдан Гринкевич* Ашм. дв., 22, *Богдан Долманович* б. Пін., 189, *Богдан Занькович* Бр., 100, *Богдан Зуб* б. Кам., 99, *Богдан Иванович Зеновъевича Карсак* Пол. з-ля, 193, *Богдан Коровинич* б. Мсцісл., 199, *Богдан Корсакович* б. Мсцісл., 198; у Попісе 1567 г. *Богдан Лавринович* Вас. хар., 782, *Богдан Миколаевич Кот* Слон. п., 849, *Богдан Сеньковurич* Навагр. п., 822; *Богдан Боровик* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 263, *Богдан Клушыча* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 197, *Богдана Ребровича* 1636 Маг., ИЮМ IX 275, *Богдан Сидков* 1593 Віц., ИЮМ I 336, *Богдан Жырны* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 78, *Богдан Шипило* 1623 дв. Пол. в., ИЮМ XXIII 408, *Богдан Бероска* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375, *Богдан Пад* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 85. Ва Ухвале і Попісе на Падляшшы адзначана 20 разоў, у Літве —80, у Жмудзі —6. Памяншальная форма *Богданко: Богданко а Марцин Шпилько* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 167. *Богданец* — у Літве ў Попісе 1567 г. СБП; Багда́н, Бо́гдан, Багда́наў, Багдано́віч, Багдане́ц, Багданке́віч, Багданчу́к, Багда́нчык, Багда́чыц, Багда́шаў, Багда́шыч, Багда́шыц, Ба́гдзя, Багдзе́віч, Багдзе́й, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў імені *Богдан: Багдан, Богдан, Багданец, Багданок, Багданчук, Багданчык, Багдак, Багдаш, Багдзя, Багдзей.* Руск. *Богдан* (СВІЛ), укр. *Богдан* (СВІЛ), *Богданець, Богданко* (Грынч.).

БОРИС Імя ўзнікла як памяншальная форма старажытнага славянскага імені *Борислав* (Сабалеўскі, Жывая Старына 1893, 4, 445). Гэта імя звязваюць таксама з іменем старажытнага балгарскага правадыра *Бориса,* якое выводзяць з мангольскага *bogori* 'маленькі' (Фасмер, 1, 194). *Борислав* і *Борис* у палякаў вядома з XII ст. (Таш., 67). Імя прынята праваслаўнай царквой, таму не падзяліла лёс іншых старажытных славянскіх імён, дажыло да нашага часу. *Борис* зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 49 разоў: ва Ухвале 1528 г. *Борис Иванович*

Пол. з-ля, 195, *Борис а Иван Плихтичи* б. Гр., 92, *Борис Поддвинский* Віц. з-ля, 197; у Попісе 1567 г. *Борис Сова* Ваўк. п., 865, *Борис Яхнович* Вас. хар., 774; *Борис Игнатович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 269, *Борис Ковшевник* 1580 Маг., ИЮМ VII 322, *Борис Дементеевич* 1593 Маг., ИЮМ I 331, *Борыс Килбасёнок* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Бориса Римаря* 1691 Маг., ИЮМ VIII 18, *Борис Тупица* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Борыс Карпёнок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 62, *Борис Икач* 1764 Ула, ИЮМ XXII 424. Ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы і ў Літве па 3 разы. Памяншальная форма *Борисец* (1): *Борисца Солодовниковича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 189. СБП: Бары́с, Бары́саў, Барысе́віч, Барысэ́віч, Барысе́нка, Барысёнак, Бары́сік, Бары́скін, Барысе́йка, Барысю́к, Барысаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Борис: Барыс, Барысік, Барысейка, Барысюк.*

[ВАВИЛА] СБП: Baві́лаў, Baву́ла, Baву́ткін, ?Baво́йша, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Вавила: Вавіла, Вавула, Вавува, Вавутка, ?Вавойша.* Руск. *Вавила* (СВІЛ), *Ваула* (Мілейк., 393), укр. *Вавило, Вавил,* размоўн. *Авило* (СВІЛ).

ВАЛЕНТИН правасл., ВАЛЕНТЫ каталіцк., польск. *Walenty.* У палякаў часта сустракаецца з XVI ст., але ў XIX ст. лічыцца сялянскім, у горадзе рэдкае (Быстр. Кн., 343). Зарэгістравана ў XVI ст. 31 раз у варыянтах *Валентын* (14), *Валентый* (13), *Валентей* (2), *Валянт* (1), *Валентон* (1). *Валентын:* у Попісе 1567 г. *Валентын Матеевич* Рад. хар., 786, *Валентын Якубович* Ваўк. п., 867, *Валентына Воеводцкого* Навагр. п., 830; ва Ухвале і Попісе ў Літве адзначана 34 разы, у Жмудзі — 32 і на Падляшшы —5. *Валентый:* ва Ухвале 1567 г. *Валентый Григорович* Рад. хар., 787, *Валентый Дыбовский* Арш. п., 1234, *Валентый Чарковский* Навагр. п., 818, *Валентый Якубович* Ваўк. п., 857; на Падляшшы — 26, у Літве — 6. *Валентей: Валентей Якубович Станкевича* 1567 Ваўк. п., П. 857. *Валя́нт: Валянт Черникович* 1528 Ашм. дв., У. 27. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі яшчэ адзначана: *Валентин* (2), *Волентын* (1), *Валент* (3)—у Літве, *Валенты* (88), *Валянты* (23), *Валянтый* (10), *Валентон* (1) — на Падляшшы. Памяншальная форма *Валюта: Валюта Богданович* 1567 Слон. п., П. 852. Ва Ухвале і Попісе адзначана яшчэ: *Валіс* (2), *Валюля* (1) у Літве,

*Валюліс* у Літве —3, у Жмудзі —1, *Валютыс* у Жмудзі. СБП: Валянцінаў.

[ВАРЛААМ] СБП: Варла́маў, па якім можна рэканструяваць афіцыйную беларускую форму імені *Варлам*. Руск. афіцыйная форма *Варлаам* (СВІЛ), размоўн. *Варлам* (Мілейк.), укр. афіцыйная форма *Варлам*, размоўн. *Орлам* (СВІЛ).

[ВАРНАВА] СБП: Вара́ва, Вара́він, Вара́ўка, Варне́ль, Варнэ́ль, Варно́, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Варнава: Варава, Варайка, Варнель, Варнэль, Варно*. Руск. і ўкр. *Варнава* (СВІЛ), укр. *Варава* (Грынч.).

ВАРФОЛОМЕЙ правасл., БАРТЛОМЕЙ каталіцк., польск. *Bartłomiej*. У палякаў папулярнае з XIV ст., але ўжо ў наступныя стагоддзі ўжываецца абмежавана — у ніжэйшых і сярэдніх колах грамадства (Быстр. Кн., 129—131). Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 52 разы ў варыянтах *Вархлом* (3), *Балтромей, Болтромей* (47), *Бутрим* (2). *В а р х л о м*—толькі ў Магілёве: *Вархлом Гарбач, Вархлом Качура* 1746 Маг., ИЮМ XXX 216. *Б а л т р о м е й, Б о л т р о м е й*: ва Ухвале 1528 г. *Балтромей Запасник* б. Рад., 81, *Балтромей Пацович* б. Астр., 88, *Балтромей Юркгелевич* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Болтромей Лаврынович* Лід. п., 751, *Болтромей Гриневич* Ашм. п., 593, *Болтромей Жаденович* Гр. п., 696, *Болтромей Матеевич* Слон. п., 848, *Болтромей Михайлович Вислоух* Ваўк. п., 859, *Балтромей Петрович* Ашм. п., 586; ва Ухвале і Попісе ў Літве адзначана 190 разоў, у Жмудзі —86, на Падляшшы —6. *Б у т р и м, Б у т р ы м*: ва Ухвале 1528 г. *Бутрим Довнарович* б. Гр., 91, *Бутрим Микулич* Навагр. з-к, 35; ва Ухвале ў Літве адзначана 3 разы. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана *Бартломей* 3 разы на Падляшшы, *Балтромеюс* —2 разы ў Жмудзі. Памяншальныя формы: *Бортко* (3), *Бартош* (15), *Бертош* (2), *Балтромеец* (1), *Болтрок* (2). *Б о р т к о*: ва Ухвале 1528 г. *Бортко Ганусович* Ашм. дв., 24, *Бортко Ивашкович* Лід. дв., 32; ва Ухвале і Попісе адзначана 31 раз у Літве. *Б а р т о ш*: ва Ухвале 1528 г. *Бартош Богданович* б. Ваўк., 97, *Бартош Злюбин Пасынок* Пол. з-ля, 196, *Бартош Просвилович* б. Слон., 98, у Попісе 1567 г. *Бартош Будкевич* Мін. п., 1224, *Бартош Григорьевич* Ашм. п., 578, *Бартош Каменицкий* б. Кам., 1200, *Бартош Станиславович* Гр. п., 703, *Бартош Тур* Бр. п., 446; *Бартош Станиславович* 1582 Мін.

п., АВК XXXVI 150; ва Ухвале і Попісе *Бартош* адзначана на Падляшшы 243 разы, у Літве —27. *Бертош*: ва Ухвале 1528 г. *Бертош Войткович* Пол. з-ля, 194, *Бертош Янович* б. Рад., 81, у Літве —7 разоў. *Балтромеец*: *Балтромейца Гоголя* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 202. *Болтрок*: *Балтрока Маланчыча* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 306, *Болтроком Недельчичом* там жа, 167. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі яшчэ адзначана: *Балтруш* (2), *Барткус* (1), *Бартошус* (1) у Жмудзі, *Бартошко* (1), *Бар* (1) на Падляшшы. СБП: Варфаламе́еў, Балтраме́й, Балтрамяю́к, Балтру́к, Балтруко́віч, Балтруке́віч, Балтрушэ́віч, Балтру́шка, Баўтрушо́ў, Баўтру́шка, Баўтру́шкін, Баўтрамо́віч, Бо́ўтрык, Бутры́м, Бутрымо́віч, Бутраме́нка, Бутраме́еў, Бату́ра, Бату́раў, Бату́рын, Батурэ́віч, Батуро́нак, Бату́рка, Бату́рчык, Бату́рык, Барталё́віч, Бартасе́віч, Ба́рташ, Барто́ш, Барташэ́віч, Барта́шык, Барто́шык, Барташу́к, Ба́ртуш, Барто́віч, Бартко́, Барткё́віч, Бе́рташ, Барташэ́ўскі, Батуры́цкі, па якіх можна рэканструяваць 27 форм и варыянтаў форм імені *Варфоломей*: *Варфаламей, Балтрамей, Балтрамяюк, Балтрук, Балтруш(а), Балтрушка, Баўтруш, Баўтрушка, Баўтрым, Боўтрык, Бутрым, Бутрамей, Батура, Батурка, Батурчык, Батурык, Барталь, Бартас, Барташ, Бартош, Барташык, Бартошык, Барташук, Бартуш, Барт, Бартко, Берташ*. Як сведчыць матэрыял помнікаў і матэрыял, здабыты шляхам рэканструкцыі імён па сучасных прозвішчах, існавалі 2 усходнеславянскія формы імені *Варфоломей* — *Варфаламей* і *Вархлом*, але, відаць, абедзве былі малаўжывальнымі. Адна з іх — форма *Варфаламей* — адрозніваецца ад царкоўнаславянскай толькі фанетычна, а другая — *Вархлом* узнікла ў выніку адпадзення канцавога [-ей]. Страта [-ей], відавочна, адбылася пад уплывам імён, царкоўнаславянская форма якіх заканчвалася на [-ий], а ўсходнеславянская — на [-ей]. Другой усходнеславянскай формай такіх імён была форма без [-ей]. *Варфаламей*, такім чынам, успрымалася як форма таго ж рада, што і формы на [-ей] з царкоўнаславянскай формы на [-ий], а таму і для гэтага імені ўзнікла другая форма — без канцавога [-ей]. Гэта форма перажыла рад фанетычных змен: [ф] змянілася ў [х], знік ненаціскны галосны перад [л]. На аснове польскай формы імені *Bartłomiej* на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Жмудзі ў выніку перастаноўкі зычных [л] і [р] узнікла імя *Балтрамей*, а па СБП рэканструява-

ны яшчэ адзін варыянт — *Бутрамей,* утварэнне якога звязана з фанетычнымі зменамі: зычны [л] пасля галоснага перад зычным мог змяніцца ў [в] ці [ў] (параўн. рэканструяваныя формы *Байтруш, Байтрушка, Байтрым, Бойтрык) Балтрамей > Байтрамей,* а галосны [а] паміж губных мог лабіялізавацца, адкуль *Бойтрамей, Буўтрамей* і, нарэшце, *Бутрамей.* Ненаціскны галосны пасля [р] у некаторых гаворках, відаць, вымаўляўся як [и], г. зн. адпаведна толькі што разгледжаным варыянтам *Балтрамей, Бутрамей* існавалі рэгіянальныя варыянты *Балтримей, Бутримей.* Іменна з такіх варыянтаў можна растлумачыць формы без канцавога [-ей]: рэканструяваную па СБП форму *Байтрым* і зафіксаваную ў помніках форму *Бутрим.* Бел. афіцыйная форма *Варфаламей* (Судн.), руск. *Варфоломей* (СВІЛ), укр. *Варфоломій, Бартоломій* (СВІЛ).

ВАСИЛИЙ правасл., БАЗЫЛЬ каталіцк., польск. *Bazyli.* У Польшчы ўжываецца рэдка (Быстр. Кн., 131). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 163 разы ў варыянтах *Василий* (13), *Василей* (88), *Василь* (58), *Васили* (2), *Базыли* (1), *Базыль* (1). *Василий: Василий Илинич Мацкович* 1593 Віц., ИЮМ I 331, *Василий Остапович* 1652 Пол., ИЮМ V 287, *Василий Плескачевский* 1684 Пол., ИЮМ VI 314, *Василий Маковец* 1691 Маг., ИЮМ VIII 15, *Василий Чада* 1746 Маг., ИЮМ XIV 462, *Василий Далидович* 1758 Маг., ИЮМ XVI 224. *Василей:* ва Ухвале 1528 г. *Василей Борздобогатович* Навагр. з-к, 34, *Василей Воловницкий* б. Мсцісл., 198, *Василей Губар* б. Кам., 99, *Василей Кишка* Віц. з-ля, 198, *Василей Селявич* Пол. з-ля, 193, *Василей Похабович* б. Кл., 190; у Попісе 1567 г. *Василей Волошанин* Астр. хар., 790, *Василей Горяин* Ваўк. п., 869, *Василей Енич* Навагр. п., 827, *Василей Корейвич* Слон. п., 843, *Василей Федорович Федюшко* Пін. п., 1203, *Василей Федорович Мамчич* Ашм. п., 588, *Василей Бахмач* 1578 м. Шкл., ИЮМ XXXII 70, *Василей Немира* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 105, *Василей Ходосович Масло* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 243, *Василей Сымонович Велижанин* 1593 Віц., ИЮМ I 315, *Василей Обух* 1595 шл. Віц. в., ИЮМ XX 433, *Василей Озарович* 1600 Маг., ИЮМ VIII 264, *Василей Стефанович Кривонос* 1613 дв. Мсцісл., ИЮМ XXIV 419. Ва Ухвале і Попісе *Василей* адзначана на Валыні 29 разоў, у Літве —13, у Жмудзі—1. *Василь:* ва Ухвале 1528 г. *Василь Волкович* Навагр. з-к, 33, *Ва-*

*силь, Олтух Есковичи* баяры Ваўк., 97, *Василь, Радивон Сачковци* б. Пін., 189, *Василь Сухинич* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Василь Гаврилович* Ваўк. п., 871, *Василя Вороновича* Астр. хар., 791; *Василь Попенко* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 4, *Василь Ланькович* 1582 Барысаўшчына, АВК XXXVI 186, *Василя Хмару* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 390, *Василь Якимович* 1634 с. Пол. в., ИЮМ XXII 304, *Василя Сидоровича Гука* 1679 Маг., ИЮМ I 21, *Василь Решетников* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190, *Василь Семенёнок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 68, *Василь Скачко* 1746 Маг., ИЮМ XXX 239, *Василь Марунка* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 430. Ва Ухвале і Попісе адзначана на Валыні і на Падляшшы па 2 разы, у Жмудзі —3. *Васили: Васили Сапоцка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 214, *Васили Шапка Хотальский* 1641 Віц., ИЮМ XXI 299. *Базыли: Базыли Тимофеевич Казаревич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 160. *Базыль: Базыль Крывороты* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 36. Памяншальныя формы: *Васко* (135), *Васько* (26), *Васюк* (3). *Васко, Васько:* ва Ухвале 1528 г. *Васко а Роман Ванковичи* б. Кобр., 192, *Васко Булгакович* б. Пін., 188, *Васко Бусакович* б. Кл., 190, *Васко Завистович* Навагр. з-к, 36, *Васко Лытчыч* б. Ваўк., 97, *Васко Коссчич* б. Гр., 91, *Васко Никонович* б. Астр., 88, *Васко Черкас* Пол. з-ля, 194; у Попісе 1567 г. *Васка Аврамовича* Мін. п., 1227, *Васко Богданович Черневский* б. Бр., 1197, *Васька Гавриловича* Пін. п., 1215, *Васко Демидович* Гр. п., 685, *Васько Дмитрович* Брасл. п., 636, *Васко Кривопишич* Навагр. п., 822, *з Васком Губком* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 199, *Васко Радкович* 1593 Маг., ИЮМ VIII 209, *Васка Стригулин* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 206, *Васка Лаговка* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Васько Буры* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Васько Веселкин* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Васько Марцинёнок* 1726 Чач ст., ИЮМ XXVIII 38, *Васька Короткий* 1730 с. Пол., ИЮМ II 347, *Васка Азарович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 305. Ва Ухвале і Попісе *Васко, Васько* адзначана на Валыні 13 разоў, у Літве —12, на Падляшшы —4. *Васюк:* ва Ухвале 1528 г. *Васюк* б. Гр., 94, *Васюк Олехнович* б. Слон., 99, *Якуба Тоболу з сыном Васюком* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 351. СБП: Васíльеў, Васíлеў, Васілèвіч, Васілéнка, Васілянкóў, Васілёнак, Васілёк, Васількóў, Васíльчанка, Васілéц, Васільцóў, Васíльчык, Васільчýк, Васілюк, Вáсін, Васéвіч, Васянкóў, Васéк, Васёка, Васéкін,

Васе́ха, Васёха, Васько́, Васько́ў, Ва́ськін, Васько́віч, Ваське́віч, Васю́к, Васюко́ў, Васюке́віч, Васючэ́нка, Васю́та, Васю́ціч, Васю́шка, Ба́зылеў, Базылёў, Базыле́віч, Базыле́нка, Базы́лік, Базы́льчык, Базыльчу́к, Базылю́к, Васіле́віцкі, Васіле́ўскі, Васько́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 22 формы і варыянты форм імені *Василий: Васілій, Васіль, Васілёк, Васілька, Васілец, Васільчык, Васільчук, Васілюк, Вася, Васек, Васёка, Васеха, Васёха, Васько, Васюк, Васюта, Васюшка, Базыль, Базылік, Базыльчык, Базыльчук, Базылюк*. На тэрыторыі Беларусі бытавалі 5 поўных форм імені *Василий:* царкоўнаславянская — *Василий,* 2 усходнеславянскія формы — з канцавым [-ей] — *Василей* і без канцавога [-ей] — *Василь,* польская форма *Базыли* і ад яе па ўзору ўсходнеславянскай формы без [-ей] узнікла форма *Базыль*. Найбольш пашыранай была форма *Василь*. Усходнеславянскія формы зафіксаваны і на тэрыторыі Літвы, Жмудзі і Падляшша, адзначаны яны і ў рускіх помніках (Мілейк., 393). Бел. афіцыйная форма *Васілій, Васіль* (Судн.), руск. *Василий,* укр. *Василь* (СВІЛ), *Василь, Василечко, Василько, Васильок, Васильчик, Вась, Васько, Васко, Васьо, Васюк, Васюта, Базилий, Базилько, Базько* (Грынч.).

[ВАХТИСИЙ] СБП: Вах, Вахо́віч, Вахо́нін, Ваху́ль, Вахню́к, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Вахтисий: Вах, Вахоня, Вахуль, Вахнюк.*

ВЕНЕДИКТ правасл., БЕНЕДИКТ каталіцк., польск. *Benedykt*. У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 132—133). Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 9 разоў у варыянтах *Венедыкт* (2), *Бенедикт* (1), *Бенедыкт* (3), *Бенадыкт* (1). *В е н е д ы к т: Венедыкт Церешонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 54. *Б е н е д и к т: Бенедикт Фурсович* 1528 б. Пін., У. 188; у Попісе 1 раз у Літве і 1 раз у Жмудзі. *Б е н е д ы к т: Бенедыкт Гринкевич Мартинович* 1567 Ашм. п., П. 567; у Попісе на Падляшшы — 5 разоў, у Літве і Жмудзі — 3. *Б е н а д ы к т:* у Попісе 1567 г. *Бенадыкт Амброжеевич* Гр. п., 684, *Бенадыкт Богданович* Рэч. п., 1232; у Попісе ў Літве і Жмудзі па 2 разы. У Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Бенедыктас* (1) у Жмудзі, *Бенедыкты* (4) на Падляшшы. Памяншальныя формы: *Бенко, Бенько* (4), *Беняш* (3): *Бенько Киневич* 1528 Лід. дв., У. 32, *Бенько Янович* 1567 Рад. хар., П. 788, *Бенка Тимофеевич* 1609 Маг., ИЮМ VIII 283, *Б е н я ш:* у Попісе 1567 г. *Беняш Волович* дзяр-

жаўца Валож., 487, *Беняш Ворошилович* Бр. п., 1198, *Беняшом Ждановичом* 1582 Ашм., Слон., АВК XXXVI 324; ва Ухвале адзначана ў Літве 3 разы. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе: *Бенюс* (1) у Літве, *Бенк* (1), *Бенекты* (1) на Падляшшы, *Беник* (2) у Жмудзі. СБП: Венедзіктаў, Венедзіктóвіч, Бенедзіктóвіч, Бенедычýк, Бéнда, Бэ́нда, Бíндзя, Бéндзеў, Бяндáла, ? Бяндáлаў, Беніцэ́віч, Бяндзёлік, Бéнька, Бянькó, Бянькóў, Бéнеш, Бéняш, Бянáсік, ? Бéнза, Банады́сеў, Банадысёў, Банады́сенка, Банд, Бáндзік, Бáндзікаў, Бáндык, Банды́ка, ? Бандзю́к, Бáндзюш, Бань, Банькó, Банéль, Банькóўскі, Бянéцкі, Бéнскі, Банéцкі, Банькóўскі, па якіх можна рэканструяваць 24 формы і варыянты форм імені *Венедикт: Венедзікт, Бенедзікт, Бенедычук, Бенда, Бэнда, Бэндзя, ? Бяндала, Бенец, Бяндзелік, Бенька, Бянько, Бенеш, Бянасік, ? Бенза, Банадысь, Банд, Бандзік, Бандык, Бандыка, Бандзюк, Бандзюш, Бань, Банько, Банель.* Усходнеславянская форма *Венедыкт* была малаўжывальнай. Нячаста ўжываліся і варыянты польскай формы, якія адзін ад другога адрозніваюцца чыста фанетычна: характарам галоснага гука ў першым складзе перад націскам — [е]— *Бенедикт, Бенедыкт, Бенедык* ці [а] — *Бенадыкт, Бенадык;* цвёрдасцю ці мяккасцю [д] — *Бенедыкт, Бенадыкт, Бенедык, Бенадык* ці *Бенедикт* і, нарэшце, рэалізацыяй групы [кт] у канцы імені — з захаваннем [кт] — *Бенедикт, Бенедыкт, Бенадыкт* ці са спрашчэннем групы, з гукам [к] у канцы імені — *Бенедык, Бенадык.* Мяркуючы па СБП, існавалі варыянты, якія адрозніваліся характарам ненаціскнога галоснага ў першым складзе імені — з галосным [е] — *Бенедзікт* ці з галосным [а] — *Банадысь.* Руск. *Венедикт, Бенедикт,* (СВІЛ), укр. *Венедикт, Бенедикт,* размоўн. *Бенедьо* (СВІЛ), *Венедихт, Венедик, Вендик, Велендик, Бенедь* (Грынч.).

ВЕНЦЕСЛАВ Старажытнае славянскае імя. Старажытнае польск. *Więcesław, Więsław,* у Польшчы часта ўжываецца ў чэшскай форме *Wacław* (Быстр. Кн., 341) вядома з XII ст. (Таш., 102). Зарэгістравана ў XVI ст. (толькі ва Ухвале і Попісе) 15 разоў у варыянтах *Венслав* (4), *Венцлав* (11). *В е н с л а в*—толькі ў Гродзенскім павеце: *Венслав Торкач Ейсимонт* 1567 Гр. п., П. 695, на Падляшшы 21 раз, у Літве — 3, у Жмудзі — 2. *В е н ц л а в:* ва Ухвале 1528 г. *Венцлай Доброгостович* б. Слон., 98, *Венцлав Пацевич* б. Рад., 81, *Венцлав Петрашевич* Лід.

дв., 32, у Попісе 1567 г. *Венцлав Мартинович* Лід. п., 751, *Венцлав Шимкович Кевлич* Ашм. п., 568; ва Ухвале і Попісе на Падляшшы — 10 разоў, у Літве — 37, у Жмудзі — 17. За межамі Беларусі адзначана: *Ванслав* (1), *Венцлав* (1), *Веслав* (1), *Вацлав* (2) на Падляшшы, *Ватслав* (1) у Літве. Памяншальныя формы: *Венцко* (5), *Веньцко* (2). *Венцко:* ва Ухвале 1528 г. *Венцко Ейсимонтович* б. Гр., 91, *Венцко Сирутевич* б. Вас., 86, *Венцко Якубович* б. Ваўк., 97; у Літве і Жмудзі адзначана 22 разы. *Веньцко: Веньцко Ганусович* 1528 б. Ваўк., У. 95. За межамі Беларусі: *Вец* (1), *Вецко* (1), *Вацусь* (1) у Літве, *Венцкус* (1) у Жмудзі ў Попісе 1567 г. СБП: Вацла́ў, Ваცу́ра, Вацку́ль, якія прадстаўляюць сабою 3 формы імені *Вацлав.* У Беларусі, як сведчаць помнікі, ужываліся 2 варыянты імені *Венцеслав: Венслав, Венцлав.* Мяркуючы па СБП, ужывалася і форма *Вацлав.*

ВЕРК Зарэгістравана 1 раз у варыянце *Веркей: Веркей Гурчонок* 1769 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 10. СБП: Ве́ркін, Вярко́віч, Вярке́еў, Вярко́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Верк: Верка, Вяркей,* што могуць паходзіць і ад *Аверкий* (гл. стар. 18). Зафіксаванае ў помніках *Веркей* і рэканструяванае *Вяркей* маглі ўзнікнуць або з імені *Верк,* якое пад уплывам шматлікіх імён на [-ей] набыло канцавое [-ей], або з імені *Аверкий,* якое страціла пачатковае ненаціскное [а] і набыло ўсходнеславянскую форму, змяніўшы канцавое [-ий] на [-ей]. Другая рэканструяваная форма — *Верка* таксама можа быць дваякага паходжання: ад імені *Верк* і ад імені *Аверкий* без пачатковага [а] і канцавога [-ий] з далучэннем і ў адным і ў другім выпадку галоснага [а], каб пазбегнуць збегу зычных [рк] у канцы слова.

[ВИКЕНТИЙ] СБП: Віке́нцьеў, Вінцуке́віч, Вінькéвіч, Вінчо́нак, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Викентий: Віке́нцій, Вінцу́к, Віньќо, Вінко́.*

ВИКТОР Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 3 разы ў варыянтах *Виктор* (2), *Вихтор* (1): *Виктор Одинцевич* 1567 Слон. п., П. 841; *Вихтор Афанасович* 1685 Маг., ИЮМ III 171. СБП: Віктараў, Віктаро́віч, Вікто́рчык, Віцянко́ў, Віцько́, Віцю́к, Віцюго́ў, па якіх можна рэканструяваць 6 форм імені *Виктор: Віктар, Вікторчык, Віця, Віцько, Віцюк, Віцюг.* Руск. *Виктор* (СВІЛ), укр. *Віктор* (СВІЛ), *Виктір, Викторко, Витя, Витька, Витько, Вихтарь, Вихтір, Вихторь* (Грынч.).

ВИКТОРИН (1): *Викторин Цвиклинский* 1567 Навагр. п., П. 819.

[ВИЛ] СБП: Вілóвіч, Віль, Вілéвіч, Вількóў, Вількóвіч, Віліткéвіч, Вілíм, Вількóта, Вілю́га, Вілю́ха, Вількіцкі, Вількóўскі, Вільчы́нскі, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Вил: Віл, Віль, Вілько, Вілітка, Вілім, Вількота, Вілюга, Вілюха.* Магчыма, што некаторыя прозвішчы, збліжаныя з іменем *Вил,* іншага паходжання: *Вількоў, Вількові́ч, Вількота, Вількіцкі, Вількоўскі, Вільчынскі* маглі ўзнікнуць з польск. *Wilk* 'воўк'.

ВИТ правасл. і каталіцк., польск. *Wit.* Зарэгістравана ў XVI ст. 4 разы: ва Ухвале 1528 г. *Вит Масевич* б. Ваўк., 97, *Вит Нацкович* б. Рад., 81, *Вит Пацевич* там жа, 82; ва Ухвале і Попісе на Падляшшы — 7 разоў. Памяншальныя формы: *Вітко* (2), *Віташ* (1). *Витко: Витко Судевич* 1528 б. Рад., У. 82, *Витко Итчич* 1567 Астр. хар., П. 794; ва Ухвале і Попісе ў Літве 2 разы. *Виташ: Матей а Виташ, а Сенько* 1528 б. Гр., У. 91. Ва Ухвале адзначана *Віткус* (1) у Літве. СБП: Вíтка, Віткó, Вíткін, Вітóлік, ?Вітóшкін, ?Віташкéвіч, Віткóўскі, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Вит: Вітка, Вітко, Вітолік, ?Вітошка.*

ВЛАДИМИР Старажытнае славянскае імя. Старажытная ўсходнеславянская форма *Володиме(и)р,* балг. *Владимир,* чэшск. *Vladimír,* польск. *Włodzimierz.* Няпоўнагалосная паўднёваславянская форма *Владимир* пранікла ў рускую мову ў сувязі з другім паўднёваславянскім уплывам, сустракаецца ў помніках рускай пісьменнасці ў XV ст., пашыраецца ў рускай мове з XVI ст. (В. Ю. Франчук. До історії імені *Володимир* «Теріторіальні діалекти і власні назви» Київ, 1965). У поўнай форме не адзначана. Памяншальная форма *Володко* (2): *Володко Наркович* 1528 б. Ваўк., У. 96; ва Ухвале і Попісе на Падляшшы — 2 разы, у Літве — 9, у Жмудзі — 2. У Попісе: *Володько* (3), *Влодек* (1) на Падляшшы. СБП: Валадзіміраў, Валадкóвіч, Валадкéвіч, Валóдчанка, Валóдзька, Валадзькó, Валóцька, Валóдзькін, Валóдзін, ?Валадóсь, Лáдзік, ?Ладзя́та, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Владимир: Уладзімір* (*Владзімір*), *Володка* ці *Валадко, Валодзька, Валадзько, Валодзя, ?Валадось, ?Ладзята.* Руск. *Владимир* (СВІЛ), укр. *Володимир* (СВІЛ), *Владимирь, Влади-*

*марь, Владьо, Володик, Володичок, Володимирко, Володко, Володька, Володько, Володя, Володарь, Ладим, Ладимарь, Ладимир, Ладько* (Грынч.).

[ВЛАДИСЛАВ] СБП: Влады́сенка, Влады́сік, Ула́дзіс, Ла́дзіс, Ла́дзісаў, Ла́дзесаў, Уладзісла́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Владислав: Владыс, Владысік, Уладзіс, Ладзіс, Ладзес.*

ВЛАСИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 17 разоў, пераважна на тэрыторыі ўсходняй часткі Беларусі ў варыянтах *Влас* (5), *Улас* (11), *Авлас* (1): *Влас Лукинич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 151, *Влас Дрошков* 1593 Віц., ИЮМ I 336, *Влас Цирюта* 1746 Маг., ИЮМ XXX 236; *Улас Богданович..*, противко *Власу...* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 109, ён жа *Влас Богданович* там жа, 110, *Улас Богданович Золотар* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Улас Дорошкович* 1593 Віц., ИЮМ I 327, *Улас Зубчонок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375, *Улас Редзька* 1746 Маг., ИЮМ XXX 192; *Авласа Ивановича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI, *Авлас Фаскович* 1629 Маг., ИЮМ VIII 426. СБП: Вла́саў, Власе́нка, Вла́сік, Власю́к, Ула́с, Ула́саў, Уласе́віч, Уласе́нка, Уласянко́ў, Ула́сік, Ула́счык, ? Уласе́нь, Аўла́с, Аўла́саў, Аўласе́віч, Аўла́сенка, Аўласёнак, Аўла́ска, Аўласю́к, Уласаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Власий: Влас, Власік, Власюк, Улас, Уласік, Уласчык, ? Уласень, Аўлас, Аўласка, Аўласюк.* Такім чынам, у Беларусі бытавала тры варыянты ўсходнеславянскай формы без канцавога [-ий] — *Влас, Улас, Авлас.* Руск. *Влас, Власий* (СВІЛ), укр. *Влас, Улас, Власій* (СВІЛ).

ВОЙТЕХ Старажытнае славянскае імя, польск. *Wojciech,* у палякаў з XII ст. (Таш., 105), заўсёды папулярнае (Быстр. Кн., 356—357). Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 85 разоў у форме *Войтех:* ва Ухвале 1528 г. *Войтех Андрейкович* б. Ваўк., 94, *Войтех Докурнович* Ашм. дв., 23, *Войтех Подейкович* б. Вас., 86, *Войтех Янович* б. Гр., 91; у Попісе 1567 г. *Войтех Богушевич* Вас. хар., 778, *Войтех Кондратович* Ашм. п., 583, *Войтех Каспорович Будко* Мін. п., 1218, *Войтех Маскевич* Ваўк. п., 872, *Войтех Стасевич* Слон. п., 850, *Войтех Ширма* Пін. п., 1205; *Войтеха Мотка* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 306, *Войтех Горевы* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 26, *Войтеха Лапу* 1624 Маг., ИЮМ VIII 398, *Войцех Коротки* 1646 с. Арш. п., ИЮМ

XXIV 368, *Войцех Софронович* 1676 Пол., ИЮМ V 349. Ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы —368 разоў, у Літве —155, у Жмудзі —78. Памяншальная форма *Войтко* (5): ва Ухвале 1528 г. *Войтко Войкинович* Лід. п., 32, *Войтко Дашкевич* б. Вас., 86, *Войтко Полкговичч* б. Слон., 99, *Войтко Рымтовтович* б. Рад., 82; *Войтко Гришкович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320; ва Ухвале і Попісе зарэгістравана *Войтко* на Падляшшы 50 разоў, у Літве — 47, *Войтешко* у Літве —1, на Падляшшы —1, *Войтек* (1), *Войташ* (1) на Падляшшы, *Войтиш* (1), *Войткус* (1) у Літве. СБП: Вайцяхо́віч, Вайцэхо́віч, Вайцяшо́нак, Вайце́шык, Вайце́шчык, ?Во́йтаў, ?Вайто́віч, ?Вайце́нка, Во́йтка, Вайтко́, Вайтке́віч, Во́йцік, Ву́йцік, Вайтусе́віч, Вайцю́к, Вайцю́ль, Вайцюле́віч, Во́йтуль, Вайцюшо́нак, ?Вайтку́н, ?Вайтане́ц, ?Вайтаве́ц, ?Вайтэ́цкі, Вайцяхо́ўскі, Вацыхо́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і варыянтаў форм імені *Войтех: Войцех, Вайцешык, Вайцешчык, ?Войт, Войтка, Вайтко, Войцік, Вуйцік, Вайтук, Вайцюк, Вайцюль, Войтуль, Вайцюх, ?Вайткун, ?Вайтан.*

ВУКОЛ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 8 разоў у варыянтах *Вукол* (1), *Укол* (5), *Вакула* (2): *Вукола Ивановича* 1653 Маг., ИЮМ X 254; *Укола Игнатовича Пушкаровича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 207, *Укола Веселку* 1723 Маг., ИЮМ XII 413, *Укол Подлобка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 247; *Вокула Малкович* 1528 Віц. з-ля, У. 198. СБП:Ваку́ла, Ваку́ліч, Ваку́льчык, Вакулю́к, ?Ваку́шка, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Вукол: Вакула, Вакульчык, Вакулюк, ?Вакушка.* Руск. *Вукол* (СВІЛ), укр. *Вакула* (СВІЛ), *Вакулик* (Грынч.).

ГАВЕЛ каталіцк., польск. *Gawel.* У Польшчы вядома з XIV ст., у апошні час не ўжываецца (Быстр. Кн., 188). Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Кгавел: Кгавел Суткевич* 1567 Ваўк. п., П. 868, у Попісе на Падляшшы —5. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе адзначана: *Гавел* — на Падляшшы 3 разы, *Кгайвил* (1), *Кгаил* (3), *Кгоиль* (2) — у Літве.

ГАВРИИЛ правасл., ГАБРИЕЛЬ каталіцк., польск. *Gabriel.* У Польшчы вядома з XIV ст., ужывалася ў сярэднія вякі, але рэдка (Быстр. Кн., 186—187). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 87 разоў у варыянтах *Гавриил* (1), *Гаврило* (64), *Гавруло* (1), *Гаврело* (6), *Габриял* (2), *Кгабриель* (2), *Кабриел* (1), *Кгабриал, Кгабрыял* (9), *Кгобрияло* (1). *Г а в р и и л: Гавриила Локачевского*

2 разы ў варыянтах *Евстрат, Алистрат: Евстрат Пронкевич* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 66; *Алистрата Кожемяка* 1679 Маг., ИЮМ I 16. СБП: Яўстра́т, Яўстра́таў, Яўстра́ценка, Яўстра́ценкаў, Яўстра́тчык, Лістра́таў, Лістра́ценка, Еўстрато́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Евстратий: Яўстрат, Яўстратчык, Лістрат.* У Беларусі ў помніках адзначана ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Евстрат,* а таксама форма *Алистрат,* якая ўтварылася ў выніку шэрагу фанетычных змен: пачатковае [е] замянілася на [о], а пасля ў акаючых гаворках [о] змянілася ў [а], зычны [в] змяніўся ў [л], для ўстаранення групы [лстр] пасля [л] з'явіўся ўстаўны гук [и]. Па СБП рэканструяваны варыянт разгледжанай формы без пачатковага галоснага *Лістрат.* Руск. *Евстрат, Евстратий* (СВІЛ), *Острат* (Мілейк., 392), укр. *Евстрат* (СВІЛ), *Ївстрат, Їстрат* (Грынч.).

ЕВТИХИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 9 разоў у варыянтах *Евтихий* (1), *Евтух* (2), *Овтух* (2), *Автух* (1), *Олтух* (2), *Алтух* (1). *Евтихий: Евтихия Хромца* 1685 Маг., ИЮМ III 10. *Евтух: Евтух Лукъянович* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 65, *Евтух Ивашков* там жа, 52. *Овтух: Овтух Иванович* 1610 Маг., ИЮМ VIII 310, *Овтух Онисимович* 1654 Маг., ИЮМ X 273. *Автух: Автух Хмарин* 1689 Маг., ИЮМ VI 171. *Олтух: Олтух* 1528 Ваўк. п., У. 97. *Алтух:? Алтух (Aulthuch) Олексич* 1552 Кл. з-к, ПкнПКл. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Автушка* (8), *Овтушко* (4), *Олтушко* (4). *Автушка: Автушка Овсюковича, Овтушко Авсюкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 169, *Автушка Лелина* 1683 Маг., ИЮМ II 66, *Автушка Хмара* 1689 Маг., ИЮМ VI 171, *Автушка Девулина* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Автушка Волчкова* 1691 Маг., ИЮМ VIII 17, *Автушка Гладыш* 1746 Маг., ИЮМ XXX 302. *Овтушко: Овтушко Василевич Скокович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 106, *у Овтушка Скокова* 1578 Маг., ИЮМ VII 310, *Овтушко Овсеевич* 1578 Маг., ИЮМ VII 310, *Овтушко Овсеевич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 95, *Овтушко Устинович Шыронос* 1635 Маг., ИЮМ IX 217. *Олтушко: Олтушка Ивановича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 241, *Олтушко Сидорович* 1578 там жа, 84. Ва Ухвале адзначана *Алтушко* (1) у Літве. СБП: Аўту́х, Аўту́хаў, Аўтухо́віч, Аўтушэ́нка, Аўту́шка, Аўтушко́ў, Аўту́шкін, ?Аўтка, Алтухо́ў, Е́ўтух, Яўту́х, Еўтухо́ў, Еўтухо́віч, Еўтушэ́нка, Еўцíхе́еў, Еўціхе́віч, Яўцю́х, Яў-

цюшка, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Евтихий: Аўтух, Аўтушка, ?Аутка, Алтух, Еўтух,Яўтух, Еўціхей, Еўціх, Яўцюх, Яўцюшка.* На тэрыторыі Беларусі адзначана ў помніках і рэканструявана па СБП 8 поўных форм і варыянтаў форм імені *Евтихий:* царкоўнаславянская форма *Евтихий,* усходнеславянская форма з канцавым [-ей] — *Еўціхей,* усходнеславянская форма без канцавога [-ий]—*Еўціх*, а таксама варыянты гэтай формы з канцавым [-ух] — *Евтух, Яўцюх, Овтух* (з заменай пачатковага [е] на [о]), *Автух* (з заменай пачатковага [о] ў выніку акання на [а]), *Олтух* (з заменай пачатковага [е] на [о], а [в] — на [л]), *Алтух.* Руск. *Евтихий*, размоўн. *Евтих* (СВІЛ), укр. *Евтихій*, размоўн. *Евтух, Явтух* (СВІЛ), *Явтух, Явтих, Йовтух, Йовтушок* (Грынч.).

ЕВТРОПИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 3 разы ў Магілёве ў варыянтах *Антроп, Онтроп: Антроп Никонович* 1605 Маг., ИЮМ VIII 273, ён жа *Онтроп Оникеевич* там жа, 274, *Онтропа Гапоновича* 1577 с. Маг., ИЮМ XXXII 171. Такім чынам, у Беларусі адзначана ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий], у якой адбылася замена пачатковага [е] на [о],—*Онтроп* і варыянт гэтай формы *Антроп.* Незразумелая замена [в] на [н]. Руск. *Евтропий* (СВІЛ), укр. *Евтропій* (СВІЛ).

ЕВФИМИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 35 разоў у варыянтах *Евхим* (14), *Овхим* (2), *Авхим* (17), *Авфим* (1), *Ольхим* (1). *Е в х и м: Евхим Кондратович* 1567 Слон. п., П. 848, *Евхима Илича Вощанки* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 190, *Евхима Брегинца* 1684 Маг., ИЮМ II 75, *Евхим Климёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 15, *Евхим Адзинчонок* 1726 там жа, 70. *О в х и м: Овхим Пашкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 226. *А в х и м: Авхим Алексеевич Молчан* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 12, *Авхим Миткович* 1593 Маг., ИЮМ VIII 203, *Авхима Автуховича Лаптева* 1689 Маг., ИЮМ VI 12, *Авхим Кадук* 1746 Маг., ИЮМ XXX 295. *А в ф и м: Авфима Булая* 1681 Маг., ИЮМ I 124, ён жа *Авхим Булаев* 1684, ИЮМ II 189. *О л ь х и м : Ольхим Зенюкович* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 392. Эмацыянальнаацэначныя формы *Юшко* (7), *Юхно* (32): ва Ухвале 1528 г. *Юшко Андреевич* б. Ваўк., 97, *Юшко Янович* б. Рад., 81; у Попісе 1567 г. *слугу Юшка* Мін. п., 1223, *Юшка Судевича* Слон. п., 849, ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 30 разоў, на Падляшшы — 1; *Юхно Величкович* 1528 б. Слон., У. 98, *Юхно Войтехович*

1567 Пін. п., П. 1210. СБП: Яфімаў, Ефімо́віч, Ефіме́нка, Яфіменка, Ефіме́ц, Яфімцаў, Яфімік, Яфімчанка, Яфімчык, Яфімчыкаў, Яхімаў, Яхімо́віч, Яхімчык, Яўхімаў, Яўхімо́віч, Яўхімчык, Яўху́та, Аўхімо́віч, Аўхіме́нка, Альхімо́віч, Альхіме́нка, Альхімёнак, Юхіму́к, ?Юха́, ?Юхо́, Юхо́віч, Юха́наў, Юхно́, Юхне́віч, Юхно́віч, Ю́хнік, Юша, Ю́шка, Юшко́, Юшке́віч, Ю́шчанка, Юшчу́к, Юхнаве́ц, Юшкаве́ц, Юхне́ўскі, Юхно́ўскі, Юшко́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 22 формы і варыянты форм імені *Евфимий: Яфім, Ефімец, Яфімік, Яфімка, Яфімчык, Яхім, Яхімчык, Яўхім, Яўхімчык, Яўхута, Аўхім, Альхім, Юхімук, ?Юха, ?Юхо, Юхан, Юхно, Юхнік, Юша, Юшка, Юшко, Юшчук.* На тэрыторыі Беларусі, як паказваюць матэрыялы помнікаў пісьменнасці, бытавала 5 варыянтаў усходнеславянскай формы без канцавога [-ий]: *Евхим* з заменай [ф] зычным [х], *Овхим* з заменай пачатковага [е] галосным [о], а зычнага [ф] гукам [х], *Авхим* з заменай пачатковага ненаціскнога [о] (гл. аб папярэдняй форме) галосным [а], *Авфим* з заменай пачатковага [е] на [о], а пасля ў выніку акання — на [а], *Ольхим* з заменай пачатковага [е] на [о], губнога зычнага [в] на [л'], а [ф] на [х]. Яшчэ адзін варыянт рэканструяваны па СБП — *Яхім*, які ўзнік у выніку замены [ф] на [х] і спрашчэння групы зычных [вх] ці [вф]. Руск. *Ефим, Евфимий* (СВІЛ), *Ефимей, Евфимей, Олфим* (Мілейк., 390, 392), укр. *Юхим, Ефим,* размоўн. *Евтим* (СВІЛ), *Йовхим, Йовхимко, Юхим, Юхимей, Юхимко, Ювхим* (Грынч.).

ЕЛЕАЗАР Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 8 разоў у варыянтах *Елиозар* (1), *Олизар* (6), *Озар* (1). *Е л и о з а р: Елиозар Романович* 1605 свяшч. у Маг., ИЮМ VIII 273. *О л и з а р: Олизар* 1528 б. Пін., У. 188, *Олизар Семёнович* 1552 Пін. кн-ва, ПкнПКл. 105, *Олизар Уласович* 1567 Пін. п., П. 1215. СБП: Алізаро́віч, Алізарэ́віч, Ліза́р'еў, Аза́раў, Азаро́віч, Азарэ́віч, Аза́ранка, Азарэ́нка, Азаро́нак, Аза́рка, Азарке́віч, Аза́рчанка, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Елеазар: Алізар, Елізарый* (ці *Елізарэй*), *Азар, Азарка.* У Беларусі ўжывалася некалькі варыянтаў поўнай формы імені: *Елиозар* з заменай ненаціскных галосных [еа] галоснымі [ио], *Олизар* з заменай пачатковага [е] на [о] і спрашчэннем групы [ио], што з'явілася на месцы групы [еа]. Па СБП рэканструявана форма *Елізарый,* якая ўзнікла пад уплывам форм на (-ий) іншых імён. Поўнай трэба лічыць і форму *Азар.* Яна, ві-

даць, узнікла ў выніку шэрагу фанетычных змен, а не шляхам сінкопы — усячэння сярэдняй часткі асновы: *Елеазар>Елизар, Олизар>Ользар* і як вынік спрашчэння групы [льз] — *Озар*. Руск. *Елеазар* (СВІЛ), *Елеазарей, Елизарей* (Мілейк., 390), укр. *Елеазар* (СВІЛ).

ЕЛЕВФЕРИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 7 разоў у варыянтах *Олифер, Олихвер, Алихвер, Лыхвер: Олифер Кислович* 1528 б. Кобр., У. 192, *Олифер Орефич* 1528 Пол. з-ля, У. 196, *Олифер Федцевич* 1567 Ваўк. п., П. 866, *Олифера Василевича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 191, *Олихвера Девенка* 1582 Ашм. п., АВК XXXVI 351, *Алихвер Кирцечонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 70, *Лыхвер Луканов* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 24. СБП: Альфе́р, Альфёраў, Альфяро́віч, Альфяро́нак, Альпяро́віч, Аўфе́р, Аліфе́р, Аліфяро́віч, Аліфярэ́нка, Алі́ферка, Алі́хвер, Аліферав́ец, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Елевферий: Альфер, Алфер, Альпер, Аўфер, Аліфер, Аліферка, Аліхвер*. Усе формы — і зафіксаваныя ў помніках і рэканструяваныя па СБП—узніклі ў выніку фанетычнага асваення ўсходнеславянскага варыянта (без канцавога [-ий]) традыцыйна-царкоўнай формы імені *Елевферий*. Агульным для ўсіх форм з'яўляецца замена пачатковага [е] галосным [о] ці [а]. Ні ў адной форме не захавалася група зычных [вф], якая рэалізуецца ў зычным [ф] ці [п] або ў спалучэнні [хв], што ў беларускіх гаворках выступаюць на месцы [ф] у словах іншамоўнага паходжання — *Аліфер, Альфер, Алфер, Аўфер, Альпер, Аліхвер, Лыхвер*. Агульным ва ўсіх формах з'яўляецца рэдукцыя ненаціскнога [е], якое ў адных формах выступае ў гуку [и], а ў другіх знікае зусім: *Аліфер, Аліхвер, Аліхвер* ці *Альфер, Альпер, Алфер, Аўфер*. У адной з форм знік пачатковы ненаціскны галосны — *Лыхвер*. Падобныя змены перажыло імя *Елевферий* і ў рускай мове, у якой па помніках адзначаны формы *Олфер, Олферей* (Мілейк., 392) і ва ўкраінскай мове, дзе ўжываюцца формы *Олихвер, Оліхвер, Олохвир, Олохвір* (Грынч.).

ЕЛИСЕЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 11 разоў у варыянтах *Олисей* (4), *Алисей* (6), *Ольсей* (1). *Олисей: Олисею Семеновичу* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 240, *Олисей Михайлович* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 198, *Олисея Пожарыского* там жа, 151; ва Ухвале на Падляшшы адзначана адзін раз. *Алисей: Алисей Сушкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 12, *Алисей Гришкович* 1580 Маг.,

ИЮМ VII 323, *Алисей Гудко* 1746 Маг., ИЮМ XXX 262, *Алисей Хвескович* 1758 Маг., ИЮМ XVI 254. *Ольсей: Ольсей Хведзькович* 1552 Пін. кн-ва, ПкнПКл. 105. Эмацыянальнаацэначная форма *Олиско* (1): *Олиско Михнович* 1567 Мін. п., П. 1224. СБП: Алісіёвіч, Алісéенка, Алісéвіч, Альсéвіч, Алісéйчык, Алíсімчык, Елісéеў, Елісéенка, Елісéвіч, Лісéйчыкаў, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Елисей: Алісей, Аліс, Алісейчык, Алісімчык, Елісей, Еліс, Лісейчык.* Па сведчанню помнікаў і СБП, у Беларусі ўжываліся 4 варыянты поўнай формы з канцавым [-ей]: рэканструяваная форма *Елісей* і адзначаныя ў помніках варыянты яе — *Олисей, Алисей* з заменай пачатковага [е] на [о], а пасля ў выніку акання і на [а], *Ольсей* з рэдукцыяй ненаціскнога галоснага [и]. Ужываліся таксама, як паказваюць СБП, 2 варыянты формы без канцавога [-ей]—*Еліс, Аліс.* Руск. *Елисей* (СВІЛ), укр. *Елисей,* размоўн. *Ялисей* (СВІЛ), *Олисей* (Грынч.).

ЕМЕЛЬЯН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 35 разоў у варыянтах *Омельян* (7), *Омелян* (16), *Амелян* (9), *Амеллян* (1), *Меллян* (2). *Омельян:* у Попісе 1567 г. *Омельян Кондратович Богатовича* Пін. п., 1207, *Омельян Панцович* Слон. п., 849, *Омельян Сидорович* Гр. п., 685. *Омелян: Омелян Кохонович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Сергей, Омелян Мишевичи* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 402, *слугу Омеляна Ивановича* 1567 Навагр. п., П. 827, *Омелян Ланкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 208, *Омелян Стрепихинич* 1578 там жа, 57, *Омелян Смола* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 92, *Омелян Наковална* 1590 Маг., ИЮМ VII 482, *Омелян Друцки* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 158, *Омеляна Шындеря* 1679 Маг., ИЮМ I 9, *Омелян Зыба* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 450, *Омэлян Тымошонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 38. *Амелян: Амеляна Сакулинича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 13, *Амелян Козанович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 167, *Амелян Клёц* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42, *Амелян Шелюта* там жа, 36, *Амелян Щупак* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 437, *Амелян Микоша* 1764 Ула, ИЮМ XXII 422. *Амеллян: Амеллян Кажамяка* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 160. *Меллян: Меллян Кеша* 1746 Маг., ИЮМ XXX 188, *Меллян Пекельны* там жа, 311. Эмацыянальнаацэначная форма *Омелко* (1): *Омелко Васкович* 1567 Пін. п., П. 1209. СБП: Емяльян, Емяльянаў, Емяльяненка, Емяльянчык, Амелья-

нбвіч, Амлья́ненка, Амлья́нчык, Амлья́нцаў, Амля́нец, Амельяню́к, Амлькóў, Аме́лькін, Амлькóвіч, Аме́льчанка, Амльчóнак, Амлю́к, Амльчу́к, Амлю́сік, Амлю́шка, Амля́шка, Амля́шчык, Мілья́нка, Мільянчу́к, Мілінчу́к, Ме́лех, Ме́ліхаў, Мелехаве́ц, Мялья́нец, Мельянцóў, Мельянкóў, Мельянчу́к, Ме́лька, Ме́льчанка, Мелянке́віч, Ме́леш, Меляшэ́віч, Мелюшке́віч, Мельячэ́нка, Мяле́шка, Міле́шка, Меляшкóў, Меляшке́віч, Мілішке́віч, Мяле́шчанка, Меляшчэ́ння, Мяле́шчык, Яме́леў, Яме́лін, па якіх можна рэканструяваць 29 форм і варыянтаў форм імені *Емельян: Емяльян, Емяльянчык, Амяльян, Амяльянчык, Амяльянец, Амялянец, Амельянюк, Амелька, Амялюк, Амяльчук, Амялюсік, Амялюшка, Амяляшка, Амяляшчык, Мільянка, Мільянчук, Мілінчук, Мелех, Мельянец, Мельянок, Мельянчук, Мелька, Мялянка, Мелеш, Мялюшка, Мяльяк, Мялешка, Мялешчык, Ямеля.* У якасці поўнай формы ўжываліся варыянты *Емельян, Омельян, Омелян, Амелян, Амеллян, Меллян.* Руск. *Емельян* (СВІЛ), *Омельян* (Мілейк., 392), укр. *Омелян,* размоўн. *Омелько* (СВІЛ), *Омеллян, Омелян, Омелько, Омелечко* (Грынч.).

ЕНОХ каталіцк., польск. *Enoch.* У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 169). Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 2 разы: *Енох Матеевич Кавечинский* 1590 з. Мін. п., АВК XXXVI 364, *Енох Букар* 1645 с. Арш., ИЮМ XXIII 449. Эмацыянальнаацэначная форма *Енько* (1): *Енько Жданович* 1597 Маг., ИЮМ VIII 236. Руск., укр. *Енох* (СВІЛ).

ЕПИМАХ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 2 разы ў варыянтах *Епимах, Опимах: Епимах Львович Буховецки* 1578 дв. Маг., ИЮМ XXXII 34; *Опимах* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 173. СБП: Апімáх, Махнó, Махнóвіч, Машкó, Машкóвіч, Машке́віч, Мáшчыц, Мáшчанка, Машчанкóў, Машчу́к, Мáшчык, Машке́й, Машу́к, Машу́тка, Машкóўскі, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Епимах: Апімах, Махно, Машко, Машчык, Машчук, Машкей, Машук, Машутка.* У Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы — *Епимах* і *Опимах.* Руск. *Епимах* (СВІЛ), укр. *Епімах* (СВІЛ).

[ЕПИФАНИЙ] СБП: Е́піхаў, Епі́шка, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Епифаний: Епіх, Епішка.* Руск. *Епифаний* (СВІЛ), *Епифан* (Мілейк., 290), укр. *Епифан* (СВІЛ).

[ЕРАСТ] СБП: Ерáстаў, па якім можна рэканструя-

ваць імя *Ераст*. Руск. *Эраст* (СВІЛ), укр. *Ераст* (СВІЛ).

ЕРМОЛАЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 43 разы ў варыянтах *Ермолай* (2), *Ермола, Ярмола* (40), *Ермол* (1). *Ермолай: Ермолай Шелюта* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 36. *Ермола, Ярмола: Ермола Огурчинович* 1528 б. Ваўк., У. 96, *Ермола Иванович* 1567 Слон. п., П. 850, *Ермола Стародубец* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 253, *Ярмола Миколаевич* 1578 Маг., ИЮМ VII 288, *Ермола Алексеевич* 1588 Маг., ИЮМ VII 450, *Ермоле Давидовичу Тюрутине* 1636 Маг., ИЮМ IX 277, *Ярмолы Шевчыка* 1679 Маг., ИЮМ I 8, *Ермола Курылёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 16, *Ярмола Лепля* 1710 Маг., ИЮМ XI 293. *Ермол: Ермол Беляй* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42. Эмацыянальнаацэначная форма *Ермак* (2): *Ермак Миколаевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 222, *Ермак Гридкович* 1578 там жа, 14. СБП: Ермала́еў, Ермала́йчык, Ярмо́ла, Ермало́віч, Ярмо́ліч, Ярмо́ленка, Ермале́нка, Ермалёнак, Ярмо́лік, Ярмо́льчык, Ермасёнак, Ермалю́к, Ермалю́гін, Ярмо́ш, Я́рмаш, Ермашэ́віч, Ярмо́шка, Ермашу́к, Ярма́к, Ермако́ў, Ермако́віч, Ермачэ́нка, Ермачо́нак, Ермачо́к, Ермачко́ў, Ермако́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 14 форм і варыянтаў форм імені *Ермолай: Ермалай, Ермалайчык, Ярмола, Ярмолік, Ярмольчык, Ермась, Ермалюк, Ермалюга, Ярмаш, Ярмош, Ярмошка, Ермашук, Ярмак, Ермачок.* На тэрыторыі Беларусі адзначаны 3 поўныя формы — *Ермолай, Ермола, Ермол.* Руск. *Ермолай, Ермак* (СВІЛ), *Ермола* (Мілейк., 390), укр. *Ермолай,* размоўн. *Ярмолай, Ермак* (СВІЛ).

ЕФРЕМ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 20 разоў у варыянтах *Охрем* (9), *Ахрем* (7), *Охромей* (3), *Охрим* (1). *Охрем: Охрем Сенькович* 1528 б. Астр., У. 88, *Охрем Мойсеевич* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 390, *Охрем Глебович* 1567 Гр. п., П. 702, *Охрема Василевича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 206, *Охрем Федорович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 162, *Охрем Грибун* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375. *Ахрем: Ахрем Васкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 212, *Ахрем Кононович* там жа, 49, *Ахрем Сомович* 1676 Пол., ИЮМ V 349, *Ахрем Речыцки* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 20, *Ахрем Шунко* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Ахрем Качерга* 1746 Маг., ИЮМ XXX 314. *Охромей: Охромей Бобрович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 64. *Охрим: Охрим Сидецкий* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 8. Формы імені *Ефрем* на Падляшшы і ў Літве не адзначаны. СБП: *Ах-*

рэ́м, Ахрамо́віч, Ахрэ́менка, Ахрамцо́ў, Ахрэ́мкін, Ахрэ́мчык, Ахраме́йка, Ахраму́к, Ахрамчу́к, Акрэ́м, Яфрэ́маў, Яфрэ́менка, Яфрэ́мчык, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Ефрем: Ахрэм, Ахрамец, Ахрэмка, Ахрэмчык, Ахрамейка, Ахрамук, Ахрамчук, ?Акрэм, Яфрэм, Яфрэмчык.* Па сведчанню помнікаў і СБП, на тэрыторыі Беларусі ўжываліся 4 формы і варыянты імені *Ефрем: Охрем* з заменай [ф] на [х] і пачатковага [е] на [о], якое ў варыянце *Ахрэм* у выніку акання змянялася ў [а], *Ахрим* з заменай [е] на [и] ў закрытым націскным складзе (параўн. дыялектнае *хліб* 'хлеб', *піч* 'печ' і інш.). Пад уплывам форм на [-ей] іншых імён з'явілася форма *Охромей.* Руск. *Ефрем* (СВІЛ), укр. *Охрім, Ефрем* (СВІЛ), *Охрім, Охрімець, Охрімко, Яхрем, Яхрентий, Хрім* (Грынч.).

ЗАХАРИЯ правасл., ЗАХАРЫЯШ каталіцк., польск. *Zachariasz.* У Польшчы адзначана з XIV ст., але пазней паступова выходзіць з ужывання (Быстр. Кн., 357). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 12 разоў у варыянтах *Захария* (2), *Захарья, Захаръя* (5), *Захарий* (2), *Захарей* (1), *Захарыяш* (2). *З а х а р и я: Захария Храмчонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 59. *З а х а р ь я, З а х а р ъ я: Захарья Чернышевич* 1567 Слон. п., П. 849, *Захаръя Ширкевич* 1567 Маз. п., П. 1235, *Захаръя Янкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 37, *Захаръя Прудник* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 451. *З а х а р и й: Захария Гарбуза* 1683 Пол., ИЮМ VI 274. *З а х а р е й: Захарей Уласович* 1630 Віц. в., ИЮМ II 229. *З а х а р ы я ш: Захарыяш Степанович Ленько* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 174, *Захариаш Ващанка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 251; на Падляшшы — 25. Эмацыянальнаацэначная форма *Захарко* (1): *Захарка Доволевича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 49. СБП: Заха́раў, Заха́рын, Захарэ́віч, Заха́рыч, Захарэ́нка, Заха́ранка, Заха́р'еў, Заха́рка, Захарчэ́нка, Захарчэ́ня, Заха́рык, Захарэ́ц, Захарчу́к, ?Захаро́шка, па якіх можна рэканструяваць 7 форм імені *Захария: Захар, Захарый, Захарка, Захарык, Захарэц, Захарчук, Захарошка.* На тэрыторыі Беларусі ў помніках сустракаем некалькі поўных форм імені *Захария.* Перш за ўсё царкоўнаславянскую форму *Захария* і два варыянты яе, звязаныя з рознымі спосабамі ўстаранення неўласцівага беларускай мове спалучэння галосных [ия], *Захаръя* — у выніку скарачэння, а потым знікнення галоснага [и], *Захарий* — у выніку знікнення

другога галоснага гука названага спалучэння — гука [а]. Апошні варыянт з'явіўся вынікам фанетычных змен, але значную ролю пры гэтым адыграў уплыў форм іншых імён на [-ий]. Аднак новаўтварэнне *Захарий* па канцавым [-ий] стала падобным да царкоўнаславянскіх форм на [-ий], якія ва ўсходнеславянскіх мовах набывалі канцавое [-ей]. Таму ўзнікла форма *Захарей.* Ад царкоўнаславянскіх форм на [-ий] на ўсходнеславянскай глебе ўзнікала і другая форма — без канцавога [-ий]. Форма *Захарий* і ў гэтым сэнсе падзяліла лёс традыцыйна-царкоўных форм на [-ий] — па СБП рэканструявана форма без канцавога [-ий] — *Захар.* У XVI—XVIII стст. ужывальнай, па сведчанню помнікаў, у Беларусі была польская форма *Захарыяш.* Руск. *Захарий, Захар, Захария* (СВІЛ), *Захаръя, Захар* (Мілейк., 393), укр. *Захар, Захарій,* размоўн. *Захарко* (СВІЛ).

[ЗЕНОН] СБП: Зе́наў, Зяно́ў, Зяно́віч, Зяне́віч, Зе́нкін, Зянке́віч, Зе́нчанка, Зе́нька, Зянько́, Зянько́ў, Зянько́віч, Зянькéвіч, Зе́нькавіч, Зяно́ўка, Зенуко́ў, Зяню́к, За́наў, Занко́віч, Занке́віч, За́нька, Занько́, Зенькаве́ц, Зане́ўскі, Зано́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 11 форм і варыянтаў форм імені *Зенон: Зен, Зенка, Зенька, Зянько, Зяноўка, Зянук, Зянюк, Зан, Занко, Занька, Занько.*

[ЗИНА] СБП: Зі́нін, Зіне́віч, Зіно́віч, Зінке́віч, Зінко́віч, Зі́нчанка, Зінчо́нак, Зінько́, Зінько́ў, Зінькéвіч, Зіню́к, Зінако́ў, Зінкаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Зина: Зіна, Зінко, Зінько, Зінюк, Зінак.* Але ўсе прыведзеныя прозвішчы і рэканструяваныя па іх формы і варыянты маглі ўзнікнуць і на базе імён *Зиновий, Зинон.*

[ЗИНОВИЙ] СБП: Зіно́ўеў, Зінаве́нка, Зіно́венка, Зінаве́еў, па якіх можна рэканструяваць 3 варыянты форм імені *Зиновий: Зіновій, Зіноў, Зінавей,* а таксама 5 форм і варыянтаў ад усечанай асновы (гл. *Зина*). Мяркуючы па СБП, у Беларусі ўжываліся 3 поўныя формы: царкоўнаславянская на [-ий] — *Зіновій,* усходнеславянская на [-ей]—*Зіновей* і ўсходнеславянская без канцавога [-ий] — *Зіноў.* Руск. *Зиновий* (СВІЛ), укр. *Зінон* (СВІЛ), *Зінько, Зінь, Зінець* (Грынч.).

ЗИНОН гл. ЗИНА Руск. *Зинон* (СВІЛ), укр. *Зінон* (СВІЛ).

ЗОСИМА Зарэгістравана 1 раз у варыянце *Зосим: Зосим Андросов* 1769 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 8. СБП: Засім,

Засімовіч, Засімук, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Зосима: Засім, Засімук.* Руск. *Зосима* (СВІЛ), укр. *Зосим* (СВІЛ).

[ЗОТИК] СБП: Зоцікаў, Зотаў, Ізотаў, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Зотик: Зоцік, Зот, Ізот.* Усе яны з'яўляюцца поўнымі формамі: форма *Зоцік* адпавядае царкоўнаславянскай форме, форма *Зот,* відаць, рэканструявана як поўная па форме *Зотик,* якая ўспрымалася як памяншальная з суфіксам *-ик.* Руск., укр. *Зотик, Зот* (СВІЛ).

ЗЫГМУНТ каталіцк., польск. *Zygmunt.* У Польшчы з XIV ст. (Быстр. Кн., 362—363). Зарэгістравана 3 разы ў варыянце *Жикгимонт: Жыкгимонт Андреевич* 1528 Ашм. дв., У. 23, *Жикгимонт Петрович* 1567 Лід. п., П. 748, *Жикгимонт Валентинович* 1567 Ашм. п., П. 580; ва Ухвале і Попісе *Жикгимонт* на Падляшшы і ў Літве адзначана 31 раз, *Жигимонт* на Падляшшы і ў Літве—9 разоў, *Жигмонт* (5), *Жигмунт* (4), *Жикгмонт* (4) — на Падляшшы. СБП: Зыгмантовіч. Імя выкарыстоўвалася ў каталіцкім асяроддзі Беларусі ў варыянтах *Зыгмант* (рэканструявана па СБП), *Жикгимонт.* Руск., укр. *Зигмунд* (СВІЛ).

ИАКОВ правасл., ЯКУБ каталіцк., польск. *Jakób.* У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 212—213). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 202 разы ў варыянтах *Яков* (61), *Якуб* (141). *Я к о в*: ва Ухвале 1528 г. *Яков Михайлович* б. Мсцісл., 199, *Яков Мишкович* б. Ваўк., 96, *Яков а Сенько Протасовичи* б. Пін., 189, *Яков Радогощанин* Навагр. з-к, 35; *Яков Гричина* 1567 Бр. п., П. 1189, *Яков Гридкович Потребенок* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 282, *на Якове Черевковичу* 1578 там жа, 186, *Якова Слепца* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 332, *Яков Девятый* 1593 Віц., ИЮМ I 337, *Яков Таратута* 1597 Маг., ИЮМ VIII 234, *Яков Новак* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 449, *Яков Жолдаков* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 85, *Яков Романовский* 1684 Пол., ИЮМ VI 314, *Якова Микитинича Лобяка* 1689 Маг., ИЮМ VI 13, *Яков Цищонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 37, *Яков Ковшевник* 1746 Маг., ИЮМ XXX 195, *Яков Агей* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78. *Я к у б*: ва Ухвале 1528 г. *Якуб* б. Вас., 86, *Якуб Бомблич* б. Астр., 88, *Якуб Ивашкович* б. Ваўк., 96, *Якуб Корович* Ашм. дв., 25, *Якуб Мартинович* б. Слон., 98, *Якуб Миколаевич* б. Рад., 81, *Якуб Сущевич* Навагр. з-к, 36, *Якуб Юрьевич* Лід. дв., 32; у Попісе 1567 г. *Якуб Абрамович* Бр. п., 1191, *Якуб Венцкович*

*Подберезкий* Ваўк. п., 856—857, *Якуб Войтехович* Рэч. п., 1232, *Якуб Вяжевич* Мін. п., 1221, *Якуб Лазарович* Лід. п., 752, *Якуб Матеевич Сипович* Брасл. п., 636, *Якуб Михайлович* Навагр. п., 829, *Якуб Станкевич* Слон. п., 841, *Якуб Шимакович* Гр. п., 684, *Якуб Яцына* Ашм. п., 576; *Якуб Захаринич* 1577 Маг., ИЮМ XXX 150, *Якуб Миколаевич Хибац* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 138, *Якуба Семашка* 1590 там жа, 383, *Якуб Дщанин* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 165, *Якуб Кукса* 1642 с. Пол. в., ИЮМ XXII 316, *Якуб Шыраёнак* 1646 б. Арш. п., ИЮМ XXIV 373, *коновалу Якубу* 1690 Маг., ИЮМ VII 58, *Якуб Бус* 1708 Віц., ИЮМ XXII 56, *Якуб Зелененак* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 36, *Якуб Казанович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 193, *Якуб Смык* 1753 Віц., ИЮМ XVIII 413, *Якуб Римар* 1764 Ула, ИЮМ XXII 424, *Якуба Дубатовку* 1768 Маг., ИЮМ XVII 115, *Якуб Бубешка* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 336. Ва Ухвале і Попісе *Якуб* адзначана на Падляшшы 495 разоў, у Літве і Жмудзі — 280. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Якша* (1), *Якуш* (2), *Якубец* (2): *Якша мает ставити конь* 1528 Навагр. з-к, У. 34; *у Якуша Аполки* 1692 Маг., ИЮМ X 455, *Якуш Недасека* 1746 Маг., ИЮМ XXX 315; *Якубца Якубовича* 1582 Мін. п.,АВК XXXVI 140, *Якубца Шимелевича* 1590 там жа, 376. СБП: Я́каўлеў, Яко́він, Якаўле́віч, Якаве́нка, Якаве́ц, Я́каўчыц, Яко́ўчанка, Я́каўчык, Якаўлю́к, Якаву́к, Яку́нін, Якуно́віч, Яко́н, Яку́сік, Яку́та, Якуто́віч, Якуцёнак, Якуцэ́ня, Я́куць, Яку́цік, Я́куш, Я́кушаў, Яку́шын, Якушэ́віч, Якушэ́нка, Якушо́нак, Яку́шкін, Якушчо́нак, Яку́шык, Якшо́нак, Я́шын, Яшко́, Яшко́ў, Я́шкін, Я́шчанка, Яшчэ́ня, Яшчу́к, Яшку́ль, Яшча́к, Яку́баў, Якубо́віч, Якубе́нка, Якубёнак, Якубе́ня, Якубе́ц, Якубцэ́віч, Яку́бік, Яку́бчык, Якубу́к, Якубе́ль, Якабчу́к, Яшкаўцо́ў, Якаві́цкі, Якубо́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 28 форм і варыянтаў форм імені *Иаков: Якаў, Якавец, Якаўка, Якоўчык, Якаўлюк, Якавук, Якун, Якон, Якусік, Якута, Якуць, Якуцік, Якуш, Якушка, Якушык, Якша, Яша, Яшко, Яшчук, Яшкуль, Яшчак, Якуб, Якубец, Якубік, Якубчык, Якубук, Якубель, Якабчук.* Імя было надзвычай папулярным. Ужывалася часцей у форме *Якуб,* якая пашырылася, відаць, пад уплывам польскай формы *Jакóв*, а таксама ў форме *Яков.* Ад усечанай асновы маглі ўтварыцца формы і пры дапамозе суфікса *-ц* ці пры дапамозе суфікса *-ц* у спалучэнні з іншымі суфіксамі. Такія

формы супадаюць з формамі польскага імені *Яцек* (гл. стар. 172). Руск. *Яков, Якуб*, устар. *Иаков* (СВІЛ), укр. *Якiв, Я́куб*, размоўн. *Яку́б* (СВІЛ), *Якiв, Яковець, Якiвко, Яковко, Якусь, Ясько, Яцько, Яць, Яцина* (Грынч.).

ИГНАТИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 58 разоў у форме *Игнат*: ва Ухвале 1528 г. *Игнат Кузминич* б. Астр., 88, *Игнат Кузмич* б. Ваўк., 96, *Игнат Коморавич* б. Пін., 189, *Игнат Минютич* б. Гр., 92; у Попісе 1567 г. *Игнат Костюкович* Гр. п., 684, *Игнат Мелехович* Слон. п., 852; *Игнат Иванович Глазкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 52, *Игнат Сафонович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 171, *Игнат Самуйлинич* 1615 Маг., ИЮМ VIII 330, *Игнат Пивоваронок* 1645 Арш. п., ИЮМ XXIII 450, *Игнат Логов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 86, *Игнат Рыбак* 1684 Маг., ИЮМ II 82, *Игнат Федоров* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 21, *Игнат Скоряга* 1730 с. Пол., ИЮМ II 346, *Игнат Шумейка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 267, *Игната Бота* 1755 Маг., ИЮМ XV 502, *Игнат Чепелин* 1717 Віц. в., ИЮМ XXIV 190, *Игнат Цянюга* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 428. СБП: Іга́цьеў, Ігна́таў, Ігнато́віч, Ігнаце́нка, Ігнаце́ня, Ігна́цік, Ігнацю́к, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Игнатий*: *Ігнацій, Ігнат, Ігнацік, Ігнацюк*. Па сведчанню помнікаў беларускай пісьменнасці і СБП, на тэрыторыі Беларусі ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Игнат*. Руск. *Игнатий, Игнат* (СВІЛ), *Игнатей* (Мілейк, 391), укр. *Ігнат, Гнат, Ігнатій* (СВІЛ), *Ігнат, Ігнатко, Ігнашко, Ігнась, Гнат, Гнатко, Гнаточко, Гнатусь, Гнашечко* (Грынч.).

[ИГОРЬ] СБП: І́гараў.

ИЕРЕМИЙ, ИЕРЕМИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 13 разоў у варыянтах *Еремей* (2), *Еромей* (3), *Веремей* (1), *Ерома* (1), *Ерема* (1), *Ярома* (3), *Яром* (1), *Еремияш* (1). *Еремей*: *Еремей Коршун* 1528 Пол. з-ля, У. 196. *Еромей*: *Еромей Матеевич* 1567 Навагр. п., П. 824. *Веремей*: *Веремей Сыткевич* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 284, *Веремея Столяра 1692* Маг., ИЮМ IX 139. *Ерома, Ерема*: *Ерома Сопронович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 15, *Ерома Игнатович* 1597 Маг., ИЮМ VIII 236, *Ерему Глебку* 1685 Маг., ИЮМ III 87. *Ярома*: *Ярома Карпович* 1567 Гр. п., П. 702, *Ярома Дземехов* 1623 с. Віц., ИЮМ XXI 78, *Ярома Васкович* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 36. *Еремияш*: *Еремияш Станиславович Свирщ*

1594 дв. Віц. в., ИЮМ XX 405. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Ерко* (3), *Ярош* (1), якія магчымы і ад *Иероним, Иерофей: Ерко Клишин* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 15, *Ерка Алексеявича* там жа, 24, *Ерко Опанасович* 1596 Маг., ИЮМ VIII 228, *Ярош Игнатович,* ён жа *Ерома Игнатович* 1597 Маг., ИЮМ VIII 236, 237. СБП: Ерамéеў, Ерамéйчык, Яро́ма, Яро́міч, Яро́менка, Ермянко́ў, Яро́мік, Ярэ́міч, Ярэ́мчык, Верамéй, Верамéеў, Верамяéвіч, Вераміéвіч, Верамéенка, Верамéйчык, Верамяю́к, Верам'ёў, Верамчу́к, Ярма́к, Ермако́ў, Ермако́віч, Ермачэ́нка, Ермачо́нак, Ермачо́к, Ермачко́ў, Верамéцкі, Ермако́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 12 форм і варыянтаў форм імён *Иеремий, Иеремия: Ерамей, Ерамейчык, Ярома, Яромік, Ярэма, Ярэмчык, Верамей, Верамейчык, Верамяюк, Верамчук, Ярмак, Ермачок.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся 3 варыянты ўсходнеславянскай формы на [-ей]—*Еремей, Еромей, Веремей,* 3 варыянты ўсходнеславянскай формы з канцавым [-а]: *Ерома, Ерема, Ярома,* форма без канцавога [-ий] — *Яром,* а таксама форма на [-ияш], якая ўзнікла пад уплывам польскіх форм на [-ияш]. Руск. *Еремей, Еремия,* устарэлае *Иеремия* (СВІЛ), укр. *Ярема, Веремій, Еремія,* устарэлае *Іеремія* (СВІЛ), *Ярема, Яремко, Яремочка* (Грынч.).

ИЕРОНИМ правасл., ГЕРОНИМ каталіцк., польск. *Hieronim.* Зарэгістравана ў XVI ст. 11 разоў у варыянтах *Ероним* (2), *Яроним* (8), *Героним* (1). *Е р о н и м:* у Попісе 1567 г. *Ероним Петрович* Лід. п., 758, *Ероним Пукшта* Ваўк. п., 856; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 9 разоў, на Падляшшы — 2. *Я р о н и м:* у Попісе 1567 г. *Яроним Маковецкий* Навагр. п., 812, *Яроним Петрович* Лід. п., 762, ва Ухвале і Попісе на Падляшшы — 64, у Літве і Жмудзі — 5. *Г е р о н и м: Героним Волович* 1590 Мсцісл., АВК XXXVI 372. Эмацыянальнаацэначная форма: *Ерко* (3)—гл. *Иеремий.* СБП: Еранкéвіч, якое дазваляе рэканструяваць адну з форм імені *Иероним — Еранок.* У Беларусі ўжываліся форма *Ероним* і польская форма *Героним.* Руск. *Иероним* (СВІЛ), укр. *Ієронім* (СВІЛ), *Геронiй* (Грынч.).

ИЕРОФЕЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 7 разоў у варыянтах *Ерофей* (1), *Орофей* (3), *Арофей* (2), *Ерох* (1). *Е р о ф е й: Иван а Ерофей Вабищевичи* 1528 б. Пін., У. 189. *О р о ф е й: Орофей Мишкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 170, *Орофеем Середою* 1691 Маг., ИЮМ VIII 135,

ён жа *Ерофей Середа* там жа, 136. *А р о ф е й: Арафей Зарский* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Арофей Фоскова* 1691 Маг., ИЮМ VIII 17. *Е р о х: Ерох Пронкевич* 1726 Чач. ст.. ИЮМ XXVIII 66. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Ерко* (3) — гл. *Иеремий, Ерош* (3), якая магчыма і ад *Иеремия, Ярош* (8). *Е р о ш: Ерош* 1528 Навагр. з-к, У. 34, *Ерошу Пашковскому* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 250, *Ерош Курилович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320. *Я р о ш: Ярош Довидович Залепуга* 1593 з. Віц. в., ИЮМ I 332, *Ярош Евланович* 1597 Маг., ИЮМ VIII 251. СБП: Ерафе́еў, Ерафе́енка, Е́рах, Е́рахаў, Ерахо́віч, Яро́х, Яро́ха, Яро́хін, Е́раш, Я́раш, Яро́ш, Ерашо́ў, Я́рашаў, Ерашэ́віч, Ерашэ́нка, Ярашэ́нка, Ерашо́нак, Ерашэ́ня, Ярашэ́ня, Я́ро́шык, Ерашу́к, Я́рась, Яро́сь, Я́рац, Яро́ц, Ярэ́ц, Ярэ́й, Я́рыш, Яру́к, Яру́лін, Яру́та, Яру́ціч, Яро́та, Яру́шчанка, Рафе́енка, Ерашо́ўкін, Ерахаве́ц, Ерашы́нскі, Е́рашэўскі, Яро́цкі, па якіх можна рэканструяваць 22 формы і варыянты форм імені *Иерофей: Ерафей, Ерах, Ярох, Яроха, Ераш, Яраш, Ярош, Ярошык, Ерашук, Ярась, Ярось, Ярац, Яроц, Ярэц, Ярэй, Ярыш, Ярук, Яруля, Ярута, Ярота, Ярушка, Рафей.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, у Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнай формы з канцавым [-ей], якія ад царкоўнаславянскай формы адрозніваюцца толькі фанетычна. У выніку спрашчэння пачатковага спалучэння галосных [ие] ўзнік варыянт *Ерофей,* а пачатковае [е], як вядома, у імёнах магло змяніцца ў [о], адкуль — *Орофей* і ўжо ў выніку акання *Арофей.* Сустракалася, праўда, рэдка, і форма без канцавога [-ей], у якой зычны [ф] рэалізуецца ў гуку [х] — *Ерох, Ерах,* а таксама форма з канцавым [-а] — *Яроха.* Руск. *Ерофей,* устар. *Иерофей* (СВІЛ), укр. *Ерофій, Ерофей,* размоўн. *Ярош* (СВІЛ), *Еротей, Ероха* (Грынч.).

ИЛИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 60 разоў у варыянтах *Илья* (20), *Илля, Иля* (33), *Ильяш* (5), *Иляш* (1), *Гелияш* (1). *И л ь я:* ва Ухвале 1528 г. *Илья Клишкович* б. Мсцісл., 199, *Илья Паньтусович* Навагр. з-к, 37, *Илья Черенович* б. Слон., 99; *Илья Юражич* 1567 Ашм. п., 569, *Илью Хомича Свечку* 1593 Віц., ИЮМ I 322, *Илью Блонского* 1677 Пол., ИЮМ VI 251, *Илья Сапоговски* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 39. *И л л я, И л я: Иля Грышкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 110, *Илля Дойлид* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 161, *Илля Ивахин* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 78, *Илля Домановский* 1635 с. Віц. в., ИЮМ XXIV

221, *Илля Аксенович* 1647 Маг., ИЮМ X 234, *Илли Мякиша* 1690 Маг., ИЮМ VII 18, *Илля Бака* 1746 Маг., ИЮМ XXX 247, *Илля Латушка* там жа, 273, *Илля Низюха* 1771 Віц., ИЮМ XIX 204. *Ильяш: Ильяш Миколаевич* 1528 б. Гр., У. 91, *Ильяш* 1567 б. Кобр., П. 1198, *Ильяш Василевич Жабка* 1567 Навагр. п., П. 830. *Иляш: Иляша Федоровича* канец XVI ст. Мін. п., АВК XXXVI 422. *Гелияш: Гелияш Смоевич* 1634 дв. Віц. в., ИЮМ XXXIV 212. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана *Илия* (1) у Літве, *Гелиаш* (1), *Олияш* (7) — на Падляшшы. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Илько* (1), *Илюшка* (1), *Ильяшец* (1): *Илько Грицевич* 1528 б. Ваўк., У. 97; *Илюшки Тюхти* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 166; *О паробка своего Ильесца.., того Ильещца* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 147. Ва Ухвале і Попісе яшчэ адзначана *Илко* (2) на Падляшшы. СБП: Ільі́н, Ільі́ніч, Ільі́ч, Ільічо́ў, Лье́нка, Ільянко́ў, Лье́ня, Іліні́ч, Ілле́йка, Ільі́нчык, Лькéвіч, Ільюко́ў, Ільюке́віч, Ільючо́нак, Ілю́к, Ілюке́віч, Лью́хін, Лью́цік, Лью́шкін, Лью́шчанка, Лью́шын, Ільюшо́нак, Лья́ш, Ільяшэ́віч, Ільіне́ц, Ільне́ц, Ільі́нскі, Ільяні́цкі, па якіх можна рэканструяваць 12 форм і варыянтаў форм імені *Илия: Ілья, Іля, Іллейка, Ільінчык, Ілько, Ільюк, Ілюк, Ільюха, Ільюта, Ільюшка, Ільюша, Ільяш.* У Беларусі ўжывалася некалькі варыянтаў поўнага імені *Илия: Илья, Илля, Иля* і ўзнікшыя пад уплывам польскіх форм на [-ащ] *Ильяш, Иляш, Гелияш.* Руск. *Илья,* устар. *Илия* (СВІЛ), укр. *Ілля,* размоўн. *Ілько* (СВІЛ), *Илля, Илюсь, Илаш, Илашко, Илько* (Грынч.).

ИЛЛАРИОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. толькі ў эмацыянальнаацэначнай форме *Ларка, Ларко* 23 разы ў Магілёве: *Ларко Федорович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 123, *Ларка Хоминич* там жа, 119, *Ларко Васкович* 1617 Маг., ИЮМ VIII 346, *Ларка Чорнов* 1637 Маг., ИЮМ IX 286, *Ларко Оникшинич* там жа, 302, *Ларко Семенович Кадушкин* 1647 Маг., ИЮМ X 204, *Ларка Нижника* 1679 Маг., ИЮМ I 65, *Ларку Круку* 1685 Маг., ИЮМ III 160, *Ларко Зезюлин* 1691 Маг., ИЮМ VIII 175, *Ларка Сулима* 1698 Маг., ИЮМ XII 8, *Ларка Вислагуз* 1746 Маг., ИЮМ XXX 313, *Ларки Кадука* там жа, 286, *Ларка Шилин* 1758 Маг., ИЮМ XVI 251. СБП: Іларыёнаў, Ларыёнаў, Варыво́нчык, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты імені *Илларион: Іларыён, Ларыён, Варывончык. Іларыён, Ларыён* ужываліся ў якасці поўнай формы.

Руск. *Илларион* (СВІЛ), укр. *Іларіон, Ларіон,* (СВІЛ), *Ларивін, Ларивон, Ларійон, Ларько, Варивон* (Грынч.).

ИОАКИМ правасл., ИОАХИМ каталіцк., польск. *Ioachim.* У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 219—220). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 39 разоў у варыянтах *Иоаким* (1), *Яким* (32), *Еким* (1), *Аким* (1), *Ехим* (1), *Яхим* (3). *И о а к и м: Иоаким Шершень* 1730 с. Пол., ИЮМ II 336. *Я к и м: Яким Тригубович* 1528. Пол. з-ля, У. 195, *Яким Березецки* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 23, *Якиму Трухоновичу Лепесе* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 13, *Яким Пастух* 1588 Маг., ИЮМ VII 444, *Яким Дзенисович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 166, *Яким Чапец* 1684 Маг., ИЮМ II 82, *Яким Чхан* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 43, *Яким Цицка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 248, *Яким Кузменок* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 156, *Яким Бедрицкий* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421. *Е к и м: Еким Топорович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 59. *А к и м: Аким Сергеев* 1691 Маг., ИЮМ VIII 160, ён жа *Яким Сергеев* там жа, 161. *Е х и м: Ехима Макаровича* 1620 Маг., ИЮМ VIII 365. *Я х и м: Яхим Березич* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 38, *Яхим Миколаевич Будко* 1582 з. Мін. п., АВК XXXVI 167; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 7 разоў. СБП: Акі́маў, Які́маў, Якімо́віч, Якіме́нка, Якімёнак, Якіме́ц, Які́мка, Які́мушка, Які́мчык, Якіму́к, Якімчу́к, Яхі́маў, Яхімо́віч, Яхі́мчык, Якімаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў імені *Иоахим: Акім, Якім, Якімец, Якімка, Якімушка, Якімчык, Якімук, Якімчук, Яхім, Яхімчык.* Апошнія дзве формы і ўтвораныя ад іх прозвішчы магчымы і ад *Евфимий* (гл. стар. 69—70). Па сведчанню помнікаў, у Беларусі ўжываліся 3 поўныя формы імені: царкоўнаславянская *Иоахим;* 3 варыянты, што ўзніклі на ўсходнеславянскай глебе з царкоўнаславянскай формы ў выніку фанетычнага асваення яе — *Яким, Еким, Аким,* 2 варыянты, якія ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення польскай формы *Joachim — Яхим, Ехим.* Руск., укр.*Аким* (СВІЛ).

ИОАНН правасл., ЯН каталіцк., польск. *Jan.* У Польшчы з XIV ст. самае папулярнае імя (Быстр. Кн., 213—215). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 1100 разоў у варыянтах *Иван* (696), Ян (404). *И в а н:* ва Ухвале 1528 г. *Иван Белцович* б. Кобр., 191, *Иван Берестенин* б. Мсцісл., 199, *Иван Бернищов* Пол. з-ля, 195, *Иван Богушевич* з. Бр., 101, *Иван Бонин* Навагр. з-к, 35, *Иван а Ерофей Вабищевичи* б. Пін., 189, *Иван Болотович* Пол.

з-ля, 195, *Иван а Павел Вешняки* б. Гр., 90, *Иван Волокит* б. Кл., 190, *Иван Воробъев* б. Ваўк., 94, *Иван Глебович* Ашм. дв., 25, *Иван Головач* б. Кам., 99, *Иван Ескович* б. Слон., 99, *Иван Жаляй* Віц. з-ля, 197, *Иван Кудра* б. Вас., 87, *Иван Мазолов* б. Раг., 191; у Попісе 1567 г. *Иван Андреевич Яцынича* Слон. п., 844, *Иван Бобр* Ваўк. п., 862, *Иван Ванкевич* Навагр. п., 815, *Иван Дашкович Гладкий* Пін. п., 1206, *Иван Калеников*ич Гр. п., 707, *Иван Костюшкевич* Маз. п., 1236, *Иван Микулич* Ашм. п., 589, *Иван Михнович* Вас. хар., 774; *Иван Юрчик* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 62, *Иван Санкович* там жа, 157, *Иван Калуга* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 185, *Иван Рыбак* там жа, 392, *Ивана Шульжыча* там жа, 224, *Иван Корнилович Дрондя* 1593 Віц., ИЮМ I 324, *Иван Процкович Куль* 1600 Маг., ИЮМ VIII 265, *Иван Козека* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 166, *Иван Величко* там жа, 169, *Иван Кунцов* 1630 б. Віц., ИЮМ II 232, *Ивана Коновала* 1633 Маг., ИЮМ VIII 442, *Иван Кот* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 368, *Иван Тишкович* 1652 Пол., ИЮМ IV 400, *Иван Алексеевич Поклад* 1664 дв. Мсцісл., ИЮМ XXIV 458, *Иван Храпун* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 89, *Иван Ботвинка* 1676 Пол., ИЮМ V 349, *Иван Чепеля* 1683 Маг., ИЮМ II 7, *Ивана Бизя* 1692 Маг., ИЮМ IX 61, ён жа *Яна Бизя* там жа, 4, *Иван Дзегцяр* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 19, *Иван Коротки* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Иван Макаронок* 1726 там жа, 42, *Иван Агапонович* 1730 с. Пол., ИЮМ II 349, *Иван Мошнар Рунец* там жа, 346, *Иван Аверка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 282, *Иван Пацерка* там жа, 272, *Иван Асядач* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 160, *Иван Близняк* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 435. Ва Ухвале і Попісе *Иван* адзначана ў Літве і Жмудзі 44 разы, на Падляшшы — 37. *Ян:* ва Ухвале 1528 г. *Ян Андреевич* Ашм. дв., 25, *Ян Андрейкович* б. Ваўк., 95, *Ян Белик* б. Слон., 98, *Ян Бернатович* б. Гр., 94, *Ян Богданович* б. Астр., 88, *Ян Будевич* б. Рад., 82, *Ян Вислоух* б. Кобр., 192, *Ян Гайко* з. Бр., 101, *Ян Губа* б. Вас., 86, *Ян Глебович Корсак* Пол. з-ля, 193, *Ян Иевлевич* б. Мсцісл., 198, *Ян Левонович* Навагр. з-к, 37, *Ян Наглый* Лід. дв., 32; у Попісе 1567 г. *Ян Войтешкевич* Ваўк. п., 857, *Ян Мицкович* Лід. п., 748, *Ян Путятич* Навагр. п., 831; *Ян Воропай* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 180, *Ян Волынец* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 231, *Яна Предуту*

там жа, 223, *Ян* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 173, *Ян Лодята* 1623 дв. Пол. в., ИЮМ XXIII 333, *Ян Кулага* 1630 Арш. п., ИЮМ VIII 432, *Ян Агапонович* 1652 Пол., ИЮМ V 253, *Ян Гуля* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 20, *Ян Мойсеёнок* 1726 там жа, 38, *Яну Красновскому* 1695 Маг., ИЮМ X 31, *Ян Цалабанович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 238, *Яну Ивановичу Шевни* 1643 Маг., ИЮМ IX 449, *Ян Галовень* 1764 Віц., ИЮМ XIX 148. Ва Ухвале і Попісе *Ян* адзначана на Падляшшы 1295 разоў, у Літве — 533, у Жмудзі — 354, на Валыні — 7. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Иванко* (8), *Иванок* (1), *Иванец* (3), *Иваш* (1), *Ивашко* (51), *Ивахно* (2), *Янко* (16), *Янук* (7), *Януш* (3), *Янушко* (2), *Янцук* (1), *Янелис* (1), *Янель* (1), *Янута* (1), *Януть* (1), *Яска* (1). *Иванко:* у Попісе 1567 г. *Иванко Гриневич Гущич* Гр. п., 679, *Иванко Лукашов зять* Рэч. п., 1232, *Иванко Некрашевич* Слон. п., 845, *Иванка Оношкевича* Бр. п., 1194; на Падляшшы — 1. *Иванок: Иванок Пилневич* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 347. *Иванец: Иванец Мордасович* 1528 б. Гр., У. 93, *Иванца Бородича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI; ва Ухвале на Падляшшы — 1. *Иваш: Иваш Уколов* 1528 б. Гр., У. 90. *Ивашко:* ва Ухвале 1528 г. *Ивашко* б. Астр., 88, *Ивашко Васкевич* б. Кам., 99, *Ивашко Вонибутович* Навагр. з-к, 33, *Ивашко Глагол* Мін. дв., 29, *Ивашко Кислович* б. Кобр., 192, *Ивашко Кошчича* б. Гр., 90, *Ивашко Олексеевич* Віц. з-ля, 198, *Ивашко Пузо* б. Астр., 88, *Ивашко Радкевич* б. Рад., 81, *Ивашко Рожкович* б. Мсцісл., 198; у Попісе 1567 г. *Ивашко Антушевич* Гр. п., 687, *Ивашко Макарович* Слон. п., 842, *Ивашко Федкович* Гр. п., 684; *Ивашко Бураков* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 261, *Ивашка Агапонович* 1578 там жа, 4, *Ивашко Сопронов* там жа, 154, *Ивашка Василевича Чычыка* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 258, *Ивашка Рохмановича, Ивашка Якубовича* там жа, 189, *Ивашко Зубов* 1630 Віц., ИЮМ II 232. Ва Ухвале і Попісе *Ивашко* адзначана ў Літве 5 разоў, на Падляшшы — 1. *Ивахно:* ва Ухвале 1528 г. *Ивахно Голенищевич* б. Кобр., 191, *Ивахно Стародубцевич* б. Гр., 91. *Янко, Янка:* ва Ухвале 1528 г. *Янко Бутримович* б. Астр., 88, *Янко Куцевич* б. Слон., 99, *Янко Пашкович* б. Ваўк., 96, *Янко Степанович* б. Гр., 93, *Янко Ревятич, Янко Дмитрович* б. Астр., 88, *Янко Якубович* б. Вас., 95, *Янко Пытовский* б. Бр., 101, *Янко Улаз*

б. Вас., 87; у Попісе 1567 г. *Янка Комаровича* Ашм. п., 567, *Янко Миклашевич* Гр. п., 682, *Янко Михнович Шолома* Пін. п., 1212, *Янка Мортузича* Навагр. п., 817; *Янко Козлов* 1758 Маг., ИЮМ XVI 257; ва Ухвале і Попісе ў Літве — 17, у Жмудзі — 15, на Падляшшы — 5; *Я н у к: Янука Безручкевича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 140, *Янук Бейнарович* там жа, *Янук Бервич* 1590 там жа, 392, *Янук Апаник Иверникович* 1591 Узда, там жа, 400. *Я н ц у к: Янцук садовник* 1528 б. Рад., У. 81. *Я н у ш:* ва Ухвале 1528 г. *Януш Быковский* б. Гр., 90, *Януш Скирвинович* Бр., 101, *Януш Матюкович* б. Пін., 188; *Януш Черенович* 1567 Слон. п., П. 852; ва Ухвале і Попісе ў Жмудзі 14 разоў, у Літве — 22, на Падляшшы —12, на Валыні —5. *Я н у ш к о: Янушко Волчкович* 1528 б. Ваўк., У. 95; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 31 раз, у Жмудзі — 11. *Я н е л и с: Янелис* 1528 б. Рад., У. 81; у Літве і Жмудзі — 2 разы. *Я н е л ь: Янель Наркович* 1528 б. Рад., У. 82; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Жмудзі і Літве 12 разоў. *Я н у т а: Янута* 1528 б. Гр., У. 93. *Я н у т ь: Янутя Бранчича* 1567 Гр. п., П. 682. *Я н ч у р(а): Янчуру Петровича* 1567 Ашм. п., П. 579. *Я с к а: Яска Ковалик* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 159. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе адзначана *Янек* (1) на Падляшшы, *Янас* (1), *Янкус* (1), *Яник* (1), *Янос* (5), *Янушис* (1) у Жмудзі, *Янис* (1), *Янок* (1), *Янчик* (1) у Літве, *Янус* у Жмудзі —4 разы, у Літве —2, на Падляшшы —1. СБП: Іванóў, Іванóвіч, Іванéнка, Іванéнкаў, Івáнка, Іванкóў, Івáнкін, Івáнчанка, Івáнчанкаў, Іванéц, Іванцóў, Іванцэ́віч, Івáнчык, Івáнчыкаў, Іванéйчык, Іванéка, Івáнушкін, Іванькó, Іванькóў, Іванюта, Іванюценка, Іванюшын, Іванюшанка, Іванюшка, Іванюк, Іванчýк, Івáннікаў, Івáх, Івáхаў, Івахнéнка, Івáш, Івáшын, Івашэ́віч, Івáшка, Івашкóў, Івáшкін, Івашкéвіч, Івáшчанка, Івашэ́нь, Івашнéнка, Вáнін, Ванóвіч, Ванкóвіч, Ванкéвіч, Ванькó, Ванькóвіч, Ванькéвіч, Ванцóвіч, Вáньшын, Ванюк, Ванчукóвіч, Вашкéвіч, Вáшчанка, Вашкéль, Вашкýн, Вашчýк, Вашчукéвіч, Янóвіч, Янéнка, Янкóў, Я́нчын, Я́нкавіч, Янкéвіч, Янкóвіч, Я́нчанка, Янчýк, Янукóвіч, Янукéвіч, Янучóк, Янýль, Янулéвіч, Я́нусаў, Януцёнак, Я́нуш, Янушэ́віч, Янушóнак, Янýшка, Янушкó, Янушкéвіч, Янцóў, Янцэ́віч, Я́нчык, Я́начкін, Янюк, Янéль, Янкýн, Я́сеў, Ясéвіч, Ясéнка, Ясянкóў,

Яско́, Яске́віч, Яськó, Яське́віч, Ясю́к, Ясюке́віч, Ясючэ́ня, Ясю́ль, Ясюле́віч, Ванкаве́ц, Іваніцкі, Івано́ўскі, Ванцо́ўскі, Яне́цкі, Янко́ўскі, Яно̀ўскі, Янушэ́ўскі, Янчэ́ўскі, Я́ніс, Янко́йць, Янкела́йдзь, Янч, Янча́саў, Ясюка́йць, па якіх можна рэканструяваць 51 форму і варыянт форм імені *Иоанн: Іван, Іванка, Іванец, Іванчык, Іванейчык, Іванека, Іванушка, Іванько, Іванюта, Іванюша, Іванюшка, Іванюк, Іванчук, Іванік, Івах, Іваш, Івашка, Івашэнь, Ваня, Ванко, Ванько, Ванец, Ваньша, Ванюк, Ванчук, Вашко, Вашкель, ?Вашкун, Вашук, Ян, Янко, Янчук, Янук, Янучок, Януль, Янус, Янута, Януш, Янушка, Янушко, Янец, Янчык, Яначка, Янюк, Янель, ?Янкун, Ясь, Яско, Ясько, Ясюк, Ясюль.* У Беларусі ўжываліся дзве поўныя формы — усходнеславянская *Иван* і польская *Ян.* Абедзве формы шырокаўжывальныя. Руск. *Иван,* устар. *Иоанн* (СВІЛ), укр. *Іван* (СВІЛ), *Іван, Йован, Іваненько, Іванець, Іваник, Іванко, Іванонько, Іваночко, Іваночок, Іванцьо, Іванчик, Іванько, Іваньо, Івась, Івасенько, Івасик, Івасьо, Івашко, Івашечко, Івахно, Іванина, Ванічко, Вань, Ванько, Ваньо, Ванюсьо, Ванюшко* (Грынч.).

ИОАННИКИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 19 разоў у варыянтах *Аникей* (4), *Оникей* (14), *Онико* (1). *Аникей: Аникей Денисович Кузнецович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 169, *Аникея Козлинника* 1679 Маг., ИЮМ I 9, *Аникей Гапонёнок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 79, *Аникей Шодзик* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 431. *Оникей: Оникей Левкович* 1567 Навагр. п., П. 810, *Оникей Мордасович* 1567 Гр. п., П. 678, *Оникей Карпович Ширко* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 254, *Оникей Сасинович* 1609 Маг., ИЮМ VIII 291, *Оникей Кроха* 1623 Маг., там жа, 396. *Онико: Онико Матфеев* 1593 Віц., ИЮМ I 336. СБП: Анікéй, Анікéеў, Анікéйчык, Анíкі, Анíкаў, Анíкін, Анікéвіч, Анікóвіч, Анікіéвіч, Анічэ́нка, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Иоанникий: Анікей, Анікейчык, Анікі, Аніка.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся, па сведчанню помнікаў і СБП, 3 поўныя формы імені *Иоанникий:* усходнеславянская форма на [-ей] у двух варыянтах — *Оникей, Аникей,* усходнеславянская форма з канцавым [о] — рэканструяваная *Аніка,* з помнікаў *Онико* і рэканструяваная форма з канцавым [-и] — *Анікі.* Усе названыя формы перажылі спрашчэнне групы галосных [иоа], якою пачыналася цар-

коўнаславянская форма. Руск. *Аникей, Аникий,* устар. *Иоанникий* (СВІЛ), укр. *Онúкій, Анúкій,* устар. *Йоанúкій* (СВІЛ).

ИОВ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 11 разоў у варыянтах *Иов* (1), *Иев* (10): *Иов Дегтяревич* 1697 Маг., ИЮМ XI 41; *Иев Анцухевич* 1567 Навагр. п., П. 834, *Иев Рак* Ваўк. п., П. 858, *Иев Захаринич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 58, *на имя Иева* 1664 Маг., ИЮМ X 291. СБП: Іёвенка, Іўкó, Іўкóў, Íўкін, Íўчын, Іўкòвіч, Íўчанка, Íўчык, Íўлёў, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Иов: Іёў, Іўко, Іўчык, Івель.* Ужываліся 2 варыянты поўнай формы: *Иов, Иев.* Руск. *Иов* (СВІЛ), укр. *Іов, Йов* (СВІЛ), *Ива* (Грынч.).

[ИОНА] СБП: Іóнін, Іóнінка, па якіх можна рэканструяваць імя *Іона.* Руск. *Иона* (СВІЛ), укр. *Іона, Йона* (СВІЛ), *Йон* (Грынч.).

ИОСИФ правасл., ЮЗЕФ каталіцк., польск. *Józef.* У Польшчы вядома з XVI ст., а ў XVIII ст. было самым папулярным (Быстр. Кн., 221—223). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 67 разоў у варыянтах *Иосиф* (1), *Осип* (21), *Асип* (24), *Есиф* (3), *Есип* (6), *Езоф* (5), *Езуп* (1), *Юзеф* (1), *Юзоф* (5). *И о с и ф: Иосифа Кунцевича* 1620 уніяцкі архіепіскап Пол. і Віц., ИЮМ XXII 284. *О с и п: Осипа Ивановича Заморы* 1541 Маг., ИЮМ IX 416, *Осип Павлович Цадылка* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 134, *Осип Якимович Корабельник* 1593 Віц., ИЮМ I 324, *Осипа Лопатинича* 1593 Маг., ИЮМ VIII 213, *Осип Шинкаронок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375, *Осипа Дробного* 1684 Маг., ИЮМ II 73, *Осип Лытка* 1716 Віц., ИЮМ XXIII 114, *Осип Гаврылов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 70. *А с и п* — толькі ў Магілёве: *Асип Яковлевич* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Асипа Дробного* 1679 Маг., ИЮМ I 8, *от Асипа Андреевича Трубы* 1691 Маг., ИЮМ VIII 63, *Асип Верея* 1746 Маг., ИЮМ XXX 306, *Асип Зубер* там жа, 320, *Асип Скринник* там жа, 262. *Е с и ф: Есиф Прокопович* 1567 Навагр. п., П. 812, *Есиф Матвеевич Скроба* 1626 Віц., ИЮМ XXI 456. *Е с и п: Есип Куземович* 1528 б. Гр., У. 91, *Есип Грышкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII, 215 *Есипа Никипоровича Гончара* 1593 Віц., *ИЮМ I 329, Есип Уласёнок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 373, *Есип Цюнин* 1670 Віц., в., ИЮМ XXI 81, *Есип Ермолицки* 1726 Чач ст., ИЮМ XXVIII 79. *Е з о ф:* у Попісе 1567 г. *Езоф Лавринович*

Ашм. п., 568, *Езоф Маркевич Добор* Брасл. п., 636, *Езоф Миклашевич* Лід. п., 755, *Езоф Толочко* Гр. п., 701; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 74 разы, у Літве — 3. *Е з у п: Езупа Шимковича* 1567 Рад. хар., П. 786. *Ю з е ф: Юзеф Львович Корсак* 1602 Мсцісл., ИЮМ XXII 278; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 7 разоў, у Літве і Жмудзі — 4. *Ю з о ф:* у Попісе 1567 г. *Юзоф Керстанович* Навагр. п., 818, *Юзоф Мартинович Вяжевич* Вас. хар., 779, *Юзоф Михнюкович* Мін. п., 1227, *Юзофа Тарновского* Ваўк. п., 855; ва Ухвале і Попісе адзначана *Юзоф* на Падляшшы 45 разоў, у Літве і Жмудзі — 10, а за межамі Беларусі яшчэ — *Езов* (2), *Юзоп* (1) — на Падляшшы, *Езуф* (4), *Езухв* (3), *Язуф* (1) — у Літве. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Еско* (24), *Есько* (1), *Есюк* (1). *Е с к о:* ва Ухвале 1528 г. *Еско Воронцевич* б. Мсцісл., 198, *Еско Дробышевич* б. Гр., 92, *Еско Михалкович* б. Ваўк., 97, *Еско Нещыйка* Лід. дв., 31, *Еско Полович* Пол. з-ля, 195, *Еско Свадбич* б. Кобр., 192; у Попісе 1567 г. *Еско Бокей* Навагр. п., 812, *Еско Ворошилович* Гр. п., 696, *Еско Игнатович* Навагр. п., 825, *Еско Олехнович* б. Бр., 1186; *Еско Прозорович* 1577 Маг., ИЮМ VII 273, *Еско Ероминич Хоминича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 82, *Еско Семенович Ботвинин* там жа, 204, *Еско Шарухин* там жа, 37, *Еска Олейника* там жа, 283; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 2 разы, у Літве — 1. *Е с ь к о: Е с ь к а Юревича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 330. *Е с ю к: Есюк* 1528 Навагр. з-к, У. 37. СБП: Осіпаў, Во́сіпаў, Асіпо́віч, Асіпе́нка, Асіпёнак, Асі́пік, Асіпко̀ў, Асі́пчык, О́сіпчык, Асіпу́к, Асіпю́к, Асіпчу́к, Есіпо́віч, Есіпёнак, Ю́зік, Юзянчу́к, Язэ́паў, Язэ́пенка, Язэ́пчык, па якіх можна рэканструяваць 17 форм і варыянтаў форм імені *Иосиф: Осіп, Восіп, Асіпік, Асіпок, Асіпчык, Осіпчык, Асіпук, Асіпюк, Асіпчук, Есіп, Есіпчык, Юзаф, Юзя, Юзік, Юзянчук, Язэп, Язэпчык.* Па дадзеных помнікаў пісьменнасці і СБП, на тэрыторыі Беларусі ўжываліся царкоўнаславянская форма *Иосиф* і 5 варыянтаў поўнай формы, што ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення яе ва ўсходнеславянскіх мовах: *Осип* — у выніку спрашчэння пачатковай групы [ио] і замены [ф] на [п], *Восип* — з прыстаўным [в] перад націскным [о], *Асип* — з пераносам акцэнта на другі склад і заменай ненаціскнога [о] на [а]; *Есиф, Есип* стаяць некалькі ў баку — галосны [е] на месцы пачатко-

вага [о], відаць, у іх з'явіўся пад уплывам варыянтаў польскай формы *Józef* з пачатковым [е] — *Езоф, Езуф, Езухв,* шырока прадстаўленых на Падляшшы і ў Літве. Такі ўплыў з'яўляецца верагодным, бо некаторыя з гэтых імён — *Езоф, Езуп* — сустракаліся і ў Беларусі. Ужываліся на тэрыторыі Беларусі і яшчэ 2 варыянты польскай формы — *Юзеф, Юзоф.* Руск. *Иосиф, Осип* (СВІЛ), укр. *Йосип, Осип, Иосиф* (СВІЛ), *Йосип, Йосько, Йося, Осип, Осипко, Есип, Есько* (Грынч.).

ИПАТИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 7 разоў у форме *Патей: Патей Тишкович* 1528 з. Бр., У. 101, *Патея Сенькевича* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 360, *Патей Никонович* 1664 Маг., ИЮМ X 296, *Пацей Баранчык* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 31, *Пацей Маслонка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 189. СБП: Іпа́таў, Іпато́віч, Паце́еў, Пацѐенка, Паце́йка, Пацяйчу́к, Пац, Паце́віч, Пацэ́віч, Паца́й, Пацайко́віч, Паце́нка, Пацу́к, Пацуке́віч, Пацучэ́нка, Пацэ́й, Пацэ́йка, Пацые́нка, Пацыёнак, Пацые́нак, Пацяю́к, ?Пацуля́н, Пацы́ла, Пацы́на, Пацы́нка, Пацю́шын, Пацю́тка, Пацо́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 18 форм і варыянтаў форм імені *Ипатий: Іпат, Пацей, Пацейка, Пацяйчук, Пац, Пацка, Пацай, Пацайка, Пацук, Пацэй, Пацэйка, Пацян, Пацулян, Пацыла, Пацына, Пацынка, Пацюшка, Пацютка.* У Беларусі, па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, ужываліся дзве ўсходнеславянскія формы: форма на [-ей] у варыянтах *Пацей, Пацэй* і форма без канцавога [-ий] — *Іпат.* Руск. *Ипатий* (СВІЛ), укр. *Іпатій, Іпат* (СВІЛ).

ИСААКИЙ, ИСАКИЙ, ИСААК Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 18 разоў у варыянтах *Исакей* (1), *Исак* (16), *Изак* (1). *Исакей: Исакей Пантусович* 1567 Навагр. п., П. 819. *Исак: Исак Меденик* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 82, *Исак Грышкович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 172, *Исак Швань* 1623 Маг., ИЮМ VIII 396, *Исак Сверщ* 1635 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 221, *Исак Дзешкович* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 23, *Исак Мелюза* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190, *Исак Савёнок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 36, *Исак Творог* 1730 с. Пол., ИЮМ II 346. *Изак: Изак Маласкевич* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 391. СБП: Ісако́ў, Іса́каў, Іса́чанка, Ісачэ́нка, Ісачко́ў, Ісачкін, Ісако́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Исаакий: Ісак, Ісачок.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся дзве ўсходнеславян-

скія формы: форма на [-ей] — *Исакей* і форма без канцавога [-ий] — *Исак*, у якіх адбылося спрашчэнне групы галосных [аа]. Форма *Изак*, відаць, арфаграфічны варыянт — перадача польскай графікай імені *Исак*. Руск. *Исак, Исаак, Исаакий* (СВІЛ), укр. *Ісак*, размоўн. *Сакій* (СВІЛ).

ИСАИЯ правасл., ИЗАЯШ каталіцк., польск. *Izajasz* у Польшчы з XVI ст., вельмі рэдкае (Быстр. Кн., 209). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 12 разоў у варыянтах *Исай* (9), *Изаяш* (1), *Езайяш* (1), *Заяш* (1). *Исай*: *Исай Жукович* 1567 Навагр. п., П. 820, *Исай Отрошкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 143, *Исая Ивановича* 1610 Маг., ИЮМ VIII 300, *Исай* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Исай Ахремович* 1647 Маг., ИЮМ X 204, *Исай Черный* 1684 Маг., ИЮМ II 183, *Исай Ярыга* 1746 Маг., ИЮМ XXX 203, *Исай Цэд* там жа, 245. *Изаяш*: *Изаяш Овхимович* 1636 Маг., ИЮМ IX 235. *Езайяш*: *Езайяша Есьмана* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 206. *Заяш*: *Заяш Янович Кутевича* 1567 Ашм. п., П. 567. СБП: Иса́й, Іса́еў, Іса́енка, Ісаёнак, Іса́еня, Іса́йкін, Ісайчу́к, Сай, Са́евіч, Са́йка, Сайко́, Сайко́віч, Сайке́віч, Са́йчык, Аса́евіч, Сайко̀ўскі, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Исаия*: *Ісай, Ісайка, Ісайчук, Сай, Сайка, Сайко, Сайчык, Асай*. У Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнай формы імені, якія ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення царкоўнаславянскай формы *Исаия*. Для іх характэрна спрашчэнне канцавой групы галосных [аия], у выніку чаго яны сталі заканчвацца на [-ай]—*Исай*, рэканструяваныя па СБП *Асай, Сай*. Вядомы таксама 3 варыянты польскай формы *Izajasz* — *Изаяш, Езаяш, Заяш*. Руск. *Исай, Исаия* (СВІЛ), укр. *Ісай* (СВІЛ).

ИСИДОР Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 49 разоў у форме *Сидор*: ва Ухвале 1528 г. *Сидор Борисович* б. Кл., 190, *Сидор а Иван Горбачевичи* б. Пін., 189, *Сидор Левкович* б. Астр., 88, *Сидор Парфенович* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Сидор Абрамцович Сезеневич* Гр. п., 696, *Сидор Богданович Нелоевецкий* Бр. п., 1183, *Сидор Воробевич* Ваўк. п., 870, *Сидор Климович* Слон. п., 843; *Сидор Ермолинич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 147, *Сидор Клишкович Тюхтя* там жа, 122, *Сидор Мамонович Замшеник* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Сидора Пузана* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 310, *Сидор Шабанёнок* 1614 Арш. п.,

ИЮМ XXVIII 175, *Сидора Кожемяки* 1685 Маг., ИЮМ III 11, *Сидор Луговски* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 79, *Сидор Алистратов* 1746 Маг., ИЮМ XXX 307, *Сидор Красик* 1771 Віц., ИЮМ XIX 203. Ва Ухвале і Попісе адзначана *Сидор* на Падляшшы 2 разы. СБП: Сідар, Сідараў, Сідо́рын, Сідаро́віч, Сідарэ́віч, Сідарэ́нка, Сідарэ́нкаў, Сідарэ́ня, Сідаро́к, Сідо́рка, Сідо́рчанка, Сідарцо́ў, Сідо́рчык, Сідо́рык, Сідару́к, Сідарчу́к, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Исидор: Сідар, Сідарок, Сідорка, Сідарэц, Сідорчык, Сідорык, Сідарук, Сідарчук.* У Беларусі ўжывалася ў якасці поўнай формы *Сидор.* Руск. *Сидор, Исидор* (СВІЛ), укр. *Сидір* (СВІЛ), *Сидорко* (Грынч.).

ИСМАИЛ Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Змайла: Змайла Зеньковича* 1582 з. Мін. п., АВК XXXVI 112.

ИУДА Зарэгістравана ў XVII ст. 1 раз у форме *Юда: Юда Якубович* 1634 Віц., ИЮМ II 237. СБП: Юдо́, Юд, Ю́даў, Ю́дзін, Юдзе́нка, Юдзяно́к, Юдзянко́ў, Юда́наў, Юда́сін, Юда́ш, Юда́шкін, Ю́дзік, Ю́дчыц, Ю́дчанка, Юдзі́цкі, Юды́цкі, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Иуда: Юдо, Юд, Юдзянок, Юдан, Юдас(ь), Юдаш, Юдашка, Юдзік, Юдко.* Руск. *Иуда* (СВІЛ), укр. *Іуда, Юда* (СВІЛ).

ИУСТИН правасл., ЮСТЫН каталіцк., польск. *Justyn.* У Польшчы вядома з XVII ст., папулярнае (Быстр. Кн., 226). Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 5 разоў у форме *Устин:* у Попісе 1567 г. *Устин Василевич* Слон. п., 842, *Устин Олешкович* Навагр. п., 825, *Устин Санкевич* Мін. п., 1220; *Устин Апонасович* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 182, *Усцин Крывцов* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 170. Эмацыянальнаацэначная форма *Юско* (2): у Попісе 1567 г. *Юско Миколаевич* Ваўк. п., 861, *Юско Михайлович* там жа, 860; адзначана таксама ў Попісе на Падляшшы і ў Віленскім павеце. СБП: Усці́н, Усці́наў, Усціно́віч, Усціне́нка, Усця́н, Усцяно́к, Усцімо́віч, Усціме́нка, Усцімчу́к, Юсціно́віч, Юсько́, ?Ю́саў, Юскаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Иустин: Усцін, Усцян, Усцянок, Усцім, Усцімчук, Юсцін, Юсько, Юс.* У Беларусі ўжывалася поўная форма без пачатковага [и]—*Устин* і яе варыянт, рэканструяваны па СБП з заменай [н] на [м] — *Усцім,*

рэканструяваная форма *Усцян,* якая з'явілася, відаць, па ўзору іншых імён на [-ан], і польская форма *(Юсцін)*. Руск. *Устин,* устар. *Иустин* (СВІЛ), укр. *Устин, Устим, Юстин* (СВІЛ).

КАЗИМЕР Старажытнае славянскае імя, прынятае каталіцкай царквой. Польск. *Kazimierz* вядома з XVI ст., папулярнае ў XVI—XVII стст. (Быстр. Кн., 233—235), старажытнае польск. *Kazimir* вядома з XI ст. (Таш., 77). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 9 разоў у варыянтах *Казимер* (8), *Казимир (1). Казимер:* от *Казимера Пивовара Купецкого дому* 1698 Маг., ИЮМ XII 8, *Казимер Грыневски* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 38, *Казимер Цесла* 1746 Маг., ИЮМ XXX 313, *Казимер Котолович* 1753 Віц., ИЮМ XVIII 413; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 7 разоў, у Жмудзі—4; *Казимир: Казимир Друговић* 1684 Пол., ИЮМ VI 309; у Попісе адзначана на Падляшшы 3 разы. СБП: Казімерчык, Казімір, Казіміраў, Казіміровіч, Казімірэнка, Казімірчык, Казімірскі, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Казимер: Казімерчык, Казімір, Казімірчык.* У якасці поўнай формы ў Беларусі бытавалі *Казимер, Казимир,* якія вядомы на тэрыторыі Беларусі і зараз, — *Казімер, Казімір.*

КАЛИСТ Зарэгістравана ў XVIII ст. 1 раз: *Калист Клевчонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 69.

КАЛЛИНИК Зарэгістравана ў XVI ст. 7 разоў у варыянтах *Калиник* (4), *Каленик* (3). *Калиник:* у ПкнПКл. 1552 г. *Калиник Зданович* м. Пін., 38, *Калиник Колоскович* м. Пін., 17, *Калиник Мисевич* м. Пин., 19. *Каленик:* у Попісе 1567 г. (толькі на Гродзеншчыне) *Каленик Давыдович* Гр. п., 701, *Каленик Сиркгутевич* Гр. п., 691, *Каленик Яцукович* Гр. п., 691. СБП: Калінік, Калліннікаў, Калінічэнка, Каліна, Калінін, Каліновіч, Калінёнак, Калінка, Калінкоў, Калінкін, Калінчанка, Калінец, Калінейка, Каліншын, Каліноўскі, Калінскі, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Каллиник: Калінік, Каліннік, Каліна, Калінка, Калінец, Калінейка, Каліншa.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці, у Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы — *Калиник, Каленик,* па СБП рэканструяваны яшчэ адзін варыянт — *Каліннік.* У якасці поўнай формы, відаць, ужывалася і рэканструяваная форма *Каліна,* якая магла ўзнікнуць з прычыны таго, што форма

*Калиник* успрымалася як памяншальная з суфіксам [-ик]. Руск. *Каллиник* (СВІЛ), *Калина* (Мілейк., 391), укр. *Каленик* (СВІЛ).

[КАЛЛИСТ] СБП: Каліст.

КАЛЛИСТРАТ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 3 разы ў форме *Калистрат: Калистрату Шимковичу* 1567 Лід. п., П. 750, *Калистрат Багрей* 1746 Маг., ИЮМ XXX 317. СБП: Калістра́таў. Руск. *Каллистрат* (СВІЛ), *Калистрат* (Мілейк., 391), укр. *Калістрат* (СВІЛ), *Калистрат, Канистрат* (Грынч.).

[КАПИТОН] СБП: Капіто́наў.

КАРОЛЬ каталіцк., польск. *Karol*. У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 231). Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 3 разы: *Король Иванович Лях* 1630 б. Віц. в., ИЮМ II 229, *Кароль Цыганко* 1758 Маг., ИЮМ XVI 219, *Кораль Андреевич* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 393. СБП: Ка́рлаў, Карлю́к, Каро́ль, Каралёў, Карале́віч, Каро́ліч, Каралёнка, Каралёнак, Карале́ня, Каралёк, Каралько́ў, Каро́лік, Каро́лька, Каро́льчык, Карале́ц, Каралю́к, Каральчу́к, Каралі́нскі, Карло́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Кароль: Кароль, Каралёк, Каролік, Каролька, Карольчык, Каралец, Каралюк, Каральчук, Карл, Карлюк.* У Беларусі, па сведчанню помнікаў пісьменнасці, ужываліся 2 варыянты поўнага імені: *Кароль, Карл.* Руск. *Карл* (СВІЛ), укр. *Карл* (СВІЛ).

КАРП Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 30 разоў у варыянтах *Карп* (25), *Карпь* (2), *Карпо* (3). *К а р п: Карп Малеевич* 1528 б. Гр., У. 94, у Попісе 1567 г. *Карп Дошич Иляшевич* Гр. п., 702, *Карп Окулич* Слон. п., 843; *Карп Романович* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 248, *Карп Бачкаронок* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 171, *Карпа Давидкова* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Карп Хлус* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 19, *Карп Воронёнок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189, *Карп Животкевич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 160. *К а р п ь: Карпь Есинович* 1528 б. Гр., У. 91. *К а р п о: Карпа Озарович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 213, *Карпо Хоцкович* 1605 Маг., ИЮМ VIII 273, *Карпа Бондар* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421, *Карпа Прыгун* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 435. Эмацыянальнаацэначная форма *Карпуша* (1): *Карпуша Иванович* 1596 Маг., ИЮМ VIII 229. СБП: Карп, Ка́рпаў, Карпо́віч, Карпіе́віч, Карпе́нка, Карпянко́ў, Карпёнак, Карпіе́ня, Карпянёнак, Карпіне́-

віч, Карпе́й, Карпе́йка, Карпе́ка, Карпе́чанка, Карпе́чкін, Карпе́за, Карпі́за, Карпы́за, Карпашэ́віч, Ка́рпеш, Ка́рпік, Карпіло́віч, Карпо́ль, Ка́рпуць, Карпушо́ў, Карпу́шка, Карпу́нін, Карпуне́нка, Карпу́хін, Карпу́к, Карпучо́нак, Карпучо́к, Карпу́чык, Карпю́к, Карпі́нчык, Карпаве́ц, Карпо́ўскі, Карпі́цкі, па якіх можна рэканструяваць 24 формы і варыянты форм імені *Карп: Карп, Карпень, Карпей, Карпейка, Карпека, Карпечка, Карпеза, Карпіза, Карпыза, Карпаш, Карпеш, Карпік, Карпіла, Карполь, Карпуць, Карпуш, Карпушка, Карпуня, Карпуха, Карпук, Карпучок, Карпучык, Карпюк, Карпінчык.* Руск. *Карп* (СВІЛ, Мілейк., 391), укр. *Карпо* (СВІЛ), *Карпо, Карпик, Карпонько, Карпусь* (Грынч.).

КАСПЕР каталіцк., польск. *Kasper*. У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 232). Зарэгістравана ў XVI ст. 34 разы ў варыянтах *Каспер (3), Каспар, Каспор* (31). *К а с п е р:* ва Ухвале 1528 г. *Каспер Мизкович* б. Рад., 81, *Каспер Станиславович* Ашм. дв., 24; *Каспера Матеевича* 1567 Навагр. п., П. 831; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 31 раз. *К а с п а р, К а с п о р:* ва Ухвале 1528 г. *Каспар* б. Вас., 86, *Каспар Буткевич* Ашм. дв., 22, *Каспар Довкгирдович* Лід. дв., 31, *Каспар Кузмич* б. Ваўк., 97; у Попісе 1567 г. *Каспор Баль* Ваўк. п., 863, *Каспор Бокгушевский* Ашм. п., 579, *Каспор Кирсновский* Навагр. п., 831, *Каспор Мартинович* Слон. п., 845, *Каспор Нелюбович* Астр. хар., 793, *Каспор Чехович* Гр. п., 675, *Каспор Янович Корейвич* Мін. п., 1223; *Каспор Стаскович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 167; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 20 разоў, у Літве—44, у Жмудзі — 33. СБП: Ка́спер, Каспяро́віч, Каспіро́віч, Каспяру́к, Каспярчу́к, Каспаро́віч, Ка́шпар, Ка́шпараў, Кашпе́рка, Ка́шпур, Каспе́рскі, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Каспер: Каспер, Каспярук, Каспярчук, Каспар, Кашпар, Кашперка, Кашпур.* На тэрыторыі Беларусі вядомы былі, як сведчаць помнікі пісьменнасці і СБП, 4 варыянты поўнай формы, якія ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення польскай формы *Kasper* у беларускай мове: *Каспер, Каспор, Кашпар, Кашпур.*

КАССИАН Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў варыянтах *Касьян, Касян: Касьян Яцкевич* 1567 Пін. п., П. 1210; *сына Касяна* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 81. СБП: Касья́н, Касья́наў, Касья́ненка, Касья́нчык, Касьяню́к, Кас'-

я́н, Кас'я́нік, Касяно́к, Касянко́ў, Касянчу́к, Касько́, Каськовіч, Каське́віч, Каско́, Каске́віч, Каскаве́цкі, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Кассиан: Касьян, Касьянчык, Касьянюк, Кас'ян, Кас'янік, Касянок, Касянчук, Касько, Каско*. У Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы *Касьян, Кас'ян*, якія з'явіліся ў выніку спрашчэння групы зычных [сс] у [с] і групы галосных [иа] ў [йа]. Руск. *Касьян, Кассиан* (СВІЛ), укр. *Касян* (СВІЛ).

КИПРИАН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 22 разы ў варыянтах *Куприян* (6), *Купрей* (16). *Куприян: Куприян Андреевич* 1567 Слон. п., П. 845, *Куприян Василевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 212, *Куприян Цурилов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 86. *Купрей: Купреем Ивановичом* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 99, *Купрей Жданович* 1580 Маг., ИЮМ VII 322, *Купрей Оникиевич* 1612 Маг., ИЮМ VIII 320, *Купрей Шарабанёнок* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 175, *Купрей Кириков* 1683 Маг., ИЮМ II. 5, *Купрей Крейдзик* 1749 Маг., ИЮМ XXX 273, *Купрей Дземянчук* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 157, *Купрей Мовчанёнок* 1769 Чач., ИЮМ XXVII 10, *Купрей Лашута* 1764 Ула, ИЮМ XXII 423. *Купра: Купра Миткович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 159, *Купра Занкович*, ён жа *Куприан Занкович* там жа, 44, 45. Эмацыянальнаацэначная форма *Купраш:* у Попісе 1567 г. *Купраш Констентинович* Гр. п., 705, *Купраш Сидорович* Гр. п., 680. СБП: Купры́ян, Куприя́наў, Купрыяно́віч, Купрыя́нец, Купрыя́нчык, Купрыяню́к, Купры́н, Купрэ́віч, Ку́прык, Купрэ́й, Купрэ́еў, Купрые́нка, Купрэ́йчык, Купрацэ́віч, Ку́прусь, Купру́шын, Купры́шчанка, Купрэ́шчанка, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Киприан: Купрыян, Купрыянец, Купрыянчык, Купрыянюк, Купра, Купрык, Купрэй, Купрэйчык, Купрэц, Купрусь, Купруша, Купрышка, Купрэшка*. Ва ўсходнеславянскіх мовах адпаведна галоснаму [и] царкоўнаславянскай формы з'явіўся гук [у]. У Беларусі ў помніках адзначана поўная форма *Куприян*, у якой спалучэнне галосных [ия] адпавядае спалучэнню [иа] царкоўнаславянскай формы. Ненаціскны галосны [и] ў спалучэнні [ия] мог вымаўляцца як [е], у выніку чаго мог узнікнуць варыянт *Купреян*, праўда, ні ў помніках, ні ў СБП ён не адлюстраваны. З яго па аналогіі з формай на [-ей] іншых імён лёгка магла ўзнікнуць форма *Купрей*, якая, відаць, прыраўноўвалася да іншых

усходнеславянскіх форм на [-ей], што адпавядалі царкоўнаславянскім формам на [-ий]. На ўсходнеславянскай глебе такія імёны мелі яшчэ адну форму — без канцавога [-ий]. Відаць, рэканструяваная па СБП форма *Купра* і з'яўляецца такой другой формай (параўнай да *Купрей*), толькі набыла канцавы галосны, каб устараніць групу зычных у канцы слова. Руск. *Куприян, Киприан* (СВІЛ), укр. *Купріян,* размоўн. *Купер'ян, Купрій* (СВІЛ, Грынч.).

КИР Зарэгістравана ў XVII — XVIII стст. 14 разоў у форме *Кирей* ва ўсходняй частцы Беларусі: *Кирей Маслохин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 87, *Кирей Лысёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 19, *Кирей Баран* 1726 там жа, 42, *Кирей Бондарь* 1746 Маг., ИЮМ XXX 307, *Кирей Кравец* 1769 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 8. СБП: Кірэ́й, Кірэ́еў, Кірэ́енка, Кірае́нка, Кірые́нка, Кіраёнак, Кірэ́йкаў, Кірэ́йчанка, Кірэ́йчык, Кірэ́йшын, Кіркó, Кірке́віч, Кі́рчанка, Кірчу́к, Кіркіле́віч, Кі́рша, Кі́ршчык, Кіршчэ́ня, Кірычу́к, Кір'е́нь, Кір'е́нка, Кір'я́наў, Кір'янкóў, Кірэ́чка, Кі́рык, Кі́рыкаў, Кірыкóвіч, Кірычэ́нка, Кірычóнак, Кірычóк, Кіркóўскі, Кіршэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 18 форм і варыянтаў форм імені *Кир: Кірэй, Кірэйка, Кірэйчык, Кірэйша, Кірко, Кірчук, Кіркіла, Кірша, Кіршчык, Кіршко, Кір'ень, Кір'ен, Кір'ян, Кір'янок, Кірэчка, Кірык, Кірычок, Кірычук.* Поўная форма *Кирей,* адзначаная ў Беларусі ў помніках і ў СБП, узнікла пад уплывам усходнеславянскай формы на [-ей] іншых імён, што ўзыходзяць да царкоўнаславянскай формы на [-ий]. Руск., укр. *Кир* (СВІЛ).

КИРИК Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз: *Кирик Андреевич* 1528 б. Кл., У. 190. СБП: Кі́рык, Кі́рыкаў, Кірыкóвіч, Кірычэ́нка, Кірычóнак, Кірычóк, Кірычу́к, па якіх можна рэканструяваць імя *Кірык.* Руск., укр. *Кирик* (СВІЛ).

КИРИЛЛ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 23 разы ў варыянтах *Кирило* (2), *Курило, Курила* (20), *Курело* (1). *К и р и л о:* у Попісе 1567 г. *Кирило Белькевич* Бр. п., 1186, *Кирило Кгобячич* Гр. п., 696. *К у р и л о, К у р и л а: Курила Ермолович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 39, *Курила Харкович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Курило* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 176, *на Курылу Миколаевича* 1620 Маг., ИЮМ VIII 361, *Курило Жолцило* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Курыла Кудас* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 24, *Курило Кислёнок* 1717 с. Віц., ИЮМ

XXIV 191, *Курило Провада* 1730 с. Пол. в., ИЮМ II 342, *Курила Прудник* 1746 Маг., ИЮМ XXX 191, *Курыло Касяньчык* 1764 Ула, ИЮМ XXII 424. *Курело: Курело Зелич (Kurełо)* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 30. Эмацыянальнаацэначная форма *Курилец* (1): *Курилца Зеньцовича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 266. СБП: Кіры́лаў, Кірыло́віч, Кіры́ліч, Кірыле́нка, Кірылёнак, Кіры́лка, Кіры́льчык, Кіры́лушкін, Кірылю́к, Кіру́хін, Кіру́шын, Кірышке́віч, Кіры́шчанка, Куры́ла, Куры́лаў, Курыло́віч, Курыле́нка, Курылёнак, Куры́лкін, Куры́льчык, Курылю́к, Курыло́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 12 форм імені *Кирилл: Кірыл(а), Кірылка, Кірыльчык, Кірылушка, Кірылюк, Кіруха, Кіруша, Кірышка, Курыла, Курылка, Курыльчык, Курылюк.* У Беларусі выкарыстоўваліся 3 поўныя формы: *Кирил, Кирило, Курило.* Канцавы зычны з'явіўся па той жа прычыне, што і ў імёнах тыпу *Гавриил* (гл. стар. 48),— каб ліквідаваць закрыты склад у канцы слова. Руск. *Кирилл,* размоўн. *Кирила* (СВІЛ), *Кирило* (Мілейк., 391), укр. *Кирило* (СВІЛ), *Курило, Кирилец, Кирилко, Кирко* (Грынч.).

КИРИОН Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Куриан: Куриан Занкович* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 398. СБП: Кірыно́віч, па якім можна рэканструяваць адну з форм імені *Кирион — Кірын.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, у Беларусі ўжываліся поўныя формы *Куриан, Кірын.* Першая, як і ў імёнах *Купрыян, Курыла,* мае галосны [у] адпаведна [и] царкоўнаславянскай формы, а другая з'явілася ў выніку спрашчэння групы галосных [ио]. Руск. *Кирин* (СВІЛ), укр. *Кірін* (СВІЛ).

КЛИМЕНТ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 14 разоў у формах *Климент* (2), *Клим* (12). *Климент: Климент Холмовский* 1567 Бр. п., П. 1193. *Клим:* ва Ухвале 1528 г. *Клим Лисович* б. Ваўк., 97, *Клим Ловейкович* Пол. з-ля, 193, *Клим Пацевич* б. Рад., 81; *Клим Гаврилович* 1567 Бр. п., П. 1202, *Клим Данилевич* 1609 Маг., ИЮМ VIII 286, *Клим Хромы* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 58; ва Ухвале і Попісе адзначана *Клим* на Падляшшы 2 разы, у Літве — 2; за межамі Беларусі сустракаюцца *Климонт* (13), *Климон* (1), *Климунт* (3), *Климас* (2) на Падляшшы. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Климко* (3), *Клиш* (4), *Клишко* (13), *Климаш* (1), *Климята* (3). *Климко:* у Попісе 1567 г. *Климко Федкевич* Навагр. п., 821, *Климко Холмовский* Бр. п.,

1187; ва Ухвале адзначана на Падляшшы 4 разы. *Клиш: Клиш Гриневич* 1552 Пін. п., ПкнПКл. 164, *Клиш Комелкович* там жа, 24, *Клиш Островицкий* там жа, 21, *Клиш Стрелчич* там жа, 29. *Клишко: Клишко Степанович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 173, *Клишко Федорович Выголка* 1578 там жа, 14, *за Клишка Ивановича* 1579 Маг., ИЮМ VII 317, *Клишко Авусович* 1580 Маг., ИЮМ VII 323, *Клишко Степанович Тюхта* там жа, 320, *Клишко Якимович* 1606 Маг., ИЮМ VIII 274, *Клишка Верчунова* 1679 Маг., ИЮМ I 8, *Клишка Мотяки* 1688 Маг., ИЮМ V 112, *Клишка Бураков* 1691 Маг., ИЮМ VIII 162, *Клишки Мамяки* 1692 Маг., ИЮМ IX 14. *Климаш: Климаш Былчич* 1567 Гр. п., П. 701. *Климята: у него сын один — на име Климята* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 355, *Климята Опанасович Юрьевич* там жа, 235, *Клемята Федорович* 1730 с. Пол., ИЮМ II 349. СБП: Клімянто́віч, Клімянцёнак, Кліманто́віч, Клімяно́к, Клімянко́ў, Клімянюк, Клім, Клі́маў, Клімо́віч, Кліме́нка, Клімёнак, Кліме́ня, Клі́маш, Клімашэ́віч, Клімашо́нак, Кліме́ц, Клі́мушка, Клі́мчык, Клімя́та, Клімя́ціч, Клі́мза, Клі́мка, Клімко́, Клімко́ў, Клі́мкін, Клімко́віч, Клімчэ́ня, Клімчу́к, Клімаве́ц, Кліма́нскі, па якіх можна рэканструяваць 14 форм і варыянтаў форм імені *Климент: Клімент, Клімант, Клімянок, Клімянюк, Клім, Клімаш, Клімец, Клімушка, Клімчык, Клімята, Клімза, Клімка, Клімко, Клімчук.* У Беларусі ўжывалася поўная форма *Климент* і яе варыянт *Клімант* — з акцэнтам на першым складзе і з галосным [а] на месцы ненаціскнога [е]. Відаць, у якасці поўнай формы выкарыстоўвалася і форма *Клим.* Руск. *Климентий, Климент, Клим* (СВІЛ), *Клемантей* (Мілейк., 347), укр. *Климентий, Климент, Клим* (СВІЛ), *Клим, Климухно, Климцьо, Климко, Клиша* (Грынч.).

КОНДРАТ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 43 разы ў варыянтах *Кондрат* (41), *Кондратий* (2). *Кондрат:* ва Ухвале 1528 г. *Кондрат Проневич* б. Гр., 94, *Кондрат Тарасович* б. Ваўк., 97; у Попісе 1567 г. *Кондрат Волошинович* Ваўк. п., 857, *Кондрат Горасимович Болгак* Мін. п., 1228; *Кондрат Хинкович* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 7, *Кондрат Оладзя* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Кондрата Гарасимовича Булгака* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 144, *Кондрат Савинич Пастух* 1647 Маг., ИЮМ X 209, *Кондрат Заборца* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 88, *Кондрата Суркина* 1679 Маг., ИЮМ XIV 34, *Кондрат*

*Баран* 1684 Маг., ИЮМ II 82, *Кондрат Павлович* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 17, *Кондрат Карпов* 1726 там жа, 50, *Кандрат Солодки* 1746 Маг., ИЮМ XXX 210, *Кондрат Дземан Шук* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 156; у Попісе адзначана на Падляшшы 2 разы. *Кондратий: Кондратия Сехна Кузевку* 1743 Маг., ИЮМ XIV 380, *Кондратия Шункевича* 1683 Маг., ИЮМ II 12. Эмацыянальнаацэначная форма *Кондраш* (1): *Кондраша Окулича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 161. СБП: Кандра́т, Ко́ндрат, Кандра́таў, Кандрато́віч, Кандраце́нка, Кандрацёнак, Кандраце́ня, Кандра́цьеў, Кандра́тчык, Кандрацю́к, Кандрашо́ў, Кандрашэ́віч, Кандрашо́нак, Кандрашу́к, Ка́ндрусь, Кандрусе́віч, Кандру́сік, Кандрасю́к, Кандрухо́віч, Ко́ндрык, Ко́ндрыкаў, па якіх можна рэканструяваць 12 форм і варыянтаў форм імені *Кондрат: Кандрат, Ко́ндрат, Кандрацій, Кандратчык, Кандрацюк, Кандраш, Кандрашук, Кондрусь, Кандрусік, Кандрасюк, Кандруха, Кондрык.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, у Беларусі ўжываліся поўныя формы *Кондрат, Кондратий.* Другая ўзнікла пад уплывам царкоўнаславянскіх форм на [-ий]. Руск. *Кондратий, Кондрат* (СВІЛ), укр. *Кіндрат* (СВІЛ), *Кіндрат, Кіндратко* (Грынч.).

КОНОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 10 разоў: *Конон Мартинович Морозович* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 170, *Конон Грудина* 1592 Маг., ИЮМ VIII 199, *Конон Полуевич* 1609 там жа, 286. *Конон Кохановић* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 161, *Конон Крейдзик* 1739 Маг., ИЮМ XIV 249. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Коник* (1), *Конаш* (5), *Конюта* (3). *Коник: Коник Шубник* 1746 Маг., ИЮМ XXX 203. *Конаш: Конаш Пашкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 54, *Конаша Микитича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 134, *Коноша Цадилку* там жа, 185, *Ивана Коноша* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 343, *Конаш Пашкович* 1594 Маг., ИЮМ VIII 224. *Конюта: двор Конюты Дешковича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 106, *за Конютою Мартиновским Морозовичом* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 115 (параўн. *Конон Мартинович Морозович* 1577 там жа, 170), *Конюты, корчмита* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 107. СБП: Ко́нан, Ко́нанаў, Канано́віч, Канане́нка, Канане́ц, Канано́к, Кананю́к, Канану́чанка, Кананчу́к, Ко́нюшка, Ко́нах, Кана́х, Ко́нахаў, Ко́наш, Канашэ́віч, Канашо́нак, Кано́йка, Кано́нак, Кано́нік, Кано́нчык, Канахо́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 14 форм і варыянтаў форм імені *Конон:*

*Конан, Кананец, Кананок, Кананюк, Канаnук, Кананчук, Канюшка, Канонак, Канонік, Канончык, Конах, Канах, Конаш, Канойка.* Руск. *Конон* (СВІЛ), *Конан* (Мілейк., 391), укр. *Конон,* размоўн. *Конаш* (СВІЛ), *Конін* (Грынч.).

КОНСТАНТИН правасл., КОНСТАНТЫ, КОНСТАНТЫН каталіцк., польск. *Konstanty, Konstantyn.* У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 240). Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 3 разы ў варыянтах *Константин* (1), *Костентин* (2): *Константин Марач* 1771 Віц., ИЮМ XIX 204; *Костентин Федорович* 1567 Ашм. п., П. 582; ва Ухвале і Попісе *Констентин* адзначана на Валыні і ў Літве па 2 разы, на Падляшшы — 1; *Константы* (3), *Константый* (1) на Падляшшы. Эмацыянальна-ацэначныя формы: *Костюшко* (8), *Костюк* (7), *Костя* (15), *Коста* (1). *К о с т ю ш к о:* ва Ухвале 1528 г. *Костюшко* б. Вас., 87, *Костюшко Митрофанович* Мін. дв., 29, *Костюшко Федорович* б. Кам., 100; у Попісе 1567 г. *Костюшко Олехнович* Бр. п., 1191, *брата их Костюшка Михайловича* Мін. п., 1230. *К о с т ю к: Костюк* 1528 Навагр. з-к, У. 37, у Попісе 1567 г. *Костюк Михович* Слон. п., 850, *Костюк Федькович* Гр. п., 680, *братанича Костюка* Пін. п., 1208; *Костюк Кошутевич* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 225, *Костюк Льнорез* 1730 с. Пол. в., ИЮМ II 343, *Касцюк Шабунин* 1746 Маг., ИЮМ XXX 290; у Попісе на Падляшшы — 1 раз. *К о с т я:* ва Ухвале 1528 г. *Костя Борисович* б. Кл., 190, *Костя Мозалевич* там жа, 190, *Костя Косов* Віц. з-ля, 197, *Костя Мачохи* Мін. дв., 29; *Костя Яцкович* 1577 Маг., ИЮМ XXX 96, *Костя Соленик* 1584 Маг., ИЮМ VIII 359, *Костя Федорович* 1596 Маг., ИЮМ VIII 227, *Косця Осипович* 1609 Маг., ИЮМ VIII 286, *Косця Дахнович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 304. *К о с т а: Коста Лбучанин* 1528 Навагр. з-к, У. 35. СБП: Канстанцінаў, Канстанцінóвіч, Канстантынóвіч, Kастанчýк, Касткó, Кастачýк, Кастыка, Кастынюк, Кóсцін, Кóсцінаў, Касцéвіч, Касцéніч, Касцéнка, Кастэнка, Касцянкóў, Кóсцік, Кóсцікаў, Касцюк, Касцюкóў, Касцюкóвіч, Касцюкéвіч, Касцючэнка, Касцючык, Касцюшка, Касцялéй, Касцян, Касцянаў, Касцянéвіч, Касцянка, Кастэцкі, Касцéцкі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і вырыянтаў форм імені *Константин: Канстанцін, Канстантын, Кастанчук, Кастко, Касmачук, Кастыка, Кастынюк, Косця, Косцік, Касцюк, Касцючык, Касцюшка, Касцялей, Касцян, Касцянка.* У Беларусі, па

сведчанню помнікаў, у якасці поўнай ужывалася форма *Константин* і яе варыянт *Ко(н)стентин,* а таксама рэканструяваны па СБП варыянт *Канстантын*. Руск. *Константин* (СВІЛ), *Костянтин, Костантин* (Мілейк., 391), укр. *Костянтин, Кость* (СВІЛ), *Костянтин, Кость, Костик, Костюк* (Грынч.).

КОРНИЛИЙ праваcл., КОРНЕЛЬ, КОРНЕЛИ, КОРНЕЛИУШ каталіцк., польск. *Kornel, Korneli, Korneliusz.* У Польшчы рэдкае, сустракаецца ў XIX ст. (Быстр. Кн., 241). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 23 разы ў варыянтах *Корней* (15), *Корнило* (7), *Корнили* (1). *К о р н е й: Корней Зенкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 245, *Корнея Липника* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 153, *Корнея* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 163, *Корнея Михнинича* 1691 Маг., ИЮМ VIII 18, *Корней Пирожник* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 70, *Карней Арцюхович* 1749 Маг., ИЮМ XXX 258, *Корней Шкодзик* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 437. *К о р н и л о: Корнило Иванович Вколович* 1567 Навагр. п., П. 816, *Корнило Мокрецкович* 1567 Гр. п., П. 693, *Корнило Опимахович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 160, *Корнило Чепляк* 1643 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 361, *Карнило Баран* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188. *К о р н и л и: Корнили Арцюх* 1776 Маг., ИЮМ XVII 164. СБП: Карнілаў, Карнілóвіч, Карнялю́к, Карнéй, Карніéвіч, Карнéенка, Карніéнка, Карнéйчык, Карнéвіч, Карнашóў, Карнеявéц, Карніéўскі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм імені *Корнилий: Карніла, Карнялюк, Карней, Карнейчык, ?Карно, Карнаш.* Форма *Карнило* ўзнікла як усходнеславянская поўная форма без канцавога [-ий], у якой для ўстаранення канцавога закрытага склада з'явіўся канцавы галосны [а] ці [о], а форма *Корней*—ад усечанай асновы пры дапамозе характэрнага для ўсходнеславянскіх моў канцавога [-ей]. Пазней *Корнило* і *Корней* сталі самастойнымі імёнамі (СВІЛ). Руск. *Корней, Корнил, Корнилий* (СВІЛ), *Корнила* (Мілейк., 391), укр. *Корній, Корнило, Корнилій* (СВІЛ), *Корнійко, Корніець, Корнусь* (Грынч.).

КОСМА Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 85 разоў у варыянтах *Козма* (4), *Кузьма* (11), *Кузма* (70). *К о з м а: Козмы Шележка* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Козма Злоб* 1746 Маг., ИЮМ XXX 295, *Козма Корза* там жа, 290. *К у з ь м а: Кузьма Лазарович* 1528 б. Кобр., У. 192, *Кузьма Литвинов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 71, *Кузь-*

*ма Ладник* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421. *К у з м а:* ва Ухвале 1528 г. *Кузма Ленькович* б. Слон., 99, *Кузма Любоченин* Навагр. з-к, 35, *Кузма Микитинич Смолненин* Пол. з-ля, 194; у Попісе 1567 г. *Кузма Андреевич* Бр. п., 1194, *Кузму Данилевича* Гр. п., 705, *Кузма Зеленко* Пін. п., 1212, *Кузма Сенькевич* Ашм. п., 568, *Кузма Ходычич* Маз. п., 1235, *Кузму Чижевича* Навагр. п., 824; *Кузма Авусович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 51, *Кузма Яковлевич Козарез* там жа, 201, *Кузма Соколов* 1593 Віц., ИЮМ I 336, *Кузма Скопа* 1595 Сенна, ИЮМ XX 446, *Кузма Кудлай* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 174, *Кузма Жук* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Кузмы Волка* 1636 Маг., ИЮМ IX 277, *Кузма Пыркун* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375, *Кузма Ярмохин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 88, *Кузме Круку* 1688 Маг., ИЮМ V 59, *Кузма Малюжин* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Кузма Драгунёнок* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 32, *Кузма Грябенчик* 1746 Маг., ИЮМ XXX 222, *Кузма Рык* 1758 Маг., ИЮМ XVI 221, *Кузма Голова* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 160. Эмацыянальна-ацэначная форма *Кузюта* (1): *Кузюта Панцович* 1567 Слон п., П. 849. СБП: Кузьма́, Кузьмі́н, Кузьмі́ч, Кузьмічо́ў, Кузьмічо́нак, Кузьме́нка, Кузьме́нкаў, Кузьмяно́к, Кузьмянко́ў, Кузьмянцо́ў, Кузьме́нь, Ку́зьмік, Кузьму́к, Кузьмю́к, Кузе́мчык, Кузе́мчыкаў, Ку́зя, Ку́зеў, Ку́зін, Ку́зіч, Кузю́к, Кузюко́віч, Кузю́ра, Кузю́ркін, Кузу́ра, Кузю́та, Кузько́, Ку́зькін, Кузе́й, Кузьмі́ніцкі, Кузьмі́нскі, Кузьмі́цкі, па якіх можна рэканструяваць 16 форм імені *Косма: Кузьма, Кузьмянок, Кузьмянец, Кузьмень, Кузьмік, Кузьмук, Кузьмюк, Куземчык, Кузя, Кузюк, Кузюра, Кузюрка, Кузура, Кузюта, Кузько, Кузей.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнага імені: *Козма, Кузма, Кузьма.* Руск. *Кузьма,* устар. *Косма* (СВІЛ), укр. *Кузьма* (СВІЛ), *Кузьма, Куземка, Куземочка, Кузьмечко, Кузьмичок, Кузь, Кузько, Кузьмина* (Грынч.).

[КРИСКЕНТ] СБП: Крыске́віч, Кры́ська, Крысько́, ?Крыса́наў, Крыскаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Крискент: Крыско, Крыська, Крысько, ?Крысан.* Руск. *Крискент* (СВІЛ), укр. *Крискент* (СВІЛ).

КРИШТОФ каталіцк., польск. *Krzysztof.* У Польшчы папулярнае з XVI ст., а ў XIX ст. ужо рэдкае (Быстр. Кн., 244—245). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 25 ра-

зоў у варыянтах *Криштоф* (23), *Криштоп* (2). *Криштоф:* ва Ухвале 1528 г. *Криштоф* б. Кобр., 191, *Криштоф Якубович* Ашм. дв., 23; у Попісе 1567 г. *Криштоф* б. Бр., 1196, *Криштоф Богданович Чеховича* Ашм. п., 575, *Криштоф Булатов* Мін. п., 1216, *Криштоф Венславович* Ваўк. п., 857, *Криштоф Венцлавович* Ашм. п., 580, *Криштоф Мартинович Ширма* Пін. п., 1212, *Криштоф Менчинский* Навагр. п., 837, *Криштоф Мневский* Мін. п., 1221, *Криштоф Суткевич* Гр. п., 709; *Криштоф Русенец* 1594 возны Віц., ИЮМ XX 428, *Криштоф Матвеевич* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 162; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 54 разы, у Літве і Жмудзі — 33. *Криштоп: Крыштоп* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 160. У Попісе адзначана *Кгриштоф* (1) на Падляшшы. СБП: Крыштафо́віч, Крышто́фік, Крышто́п, Крышто́паў, Крыштапо́віч, Крышто́пенка, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Криштоф: Крыштоф, Крыштофік, Крыштоп.* Параўн. *Христофор* (стар. 171).

[КРОНИД] СБП: Крон, Кро́нда.

[КУКША] СБП: Кукшы́наў, па якой можна рэканструяваць імя *Кукша.*

ЛАВР Зарэгістравана ў XVI ст. 5 разоў у форме *Лавор: Лавора медейника* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 236, *Лавор Семенович Кислый* 1588 Маг., ИЮМ VII 389, *Лавор Ковеза* 1592 Маг., ИЮМ VIII 201. Эмацыянальнаацэначныя формы *Лаврушко* (1), *Лаврыш* (1): у Попісе 1567 г. *Лаврушко Гришкович Антушевич* Гр. п., 700, *Лаврыш Куцович* Гр. п., 688. СБП: Лаўро́ў, Лаўро́віч, Лаўрые́ня, Лаўру́к, Лаўруко́віч, Лаўрусе́нка, Лаўру́сік, Лаўрушко́ў, Лаўру́шкін, Лаўру́шчык, Ла́ўрык, Лаўрашу́к, Лаўрысю́к, Лаво́р, Лаво́ранка, Лаво́рчык, Ваўру́к, Ваўру́х, Ваўрышу́к, Лаўрэ́цкі, па якіх можна рэканструяваць 14 форм і варыянтаў форм імені *Лавр: Лаўр, Лаўрук, Лаўрусь, Лаўрусік, Лаўрушка, Лаўрушчык, Лаўрык, Лаўрашук, Лаўрысюк, Лавор, Лаворчык, Ваўрук, Ваўрух, Ваўрышук.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы: рэканструяваны па СБП — *Лаўр* і адзначаны ў помніках — *Лавор.* У апошнім для ўстаранення групы зычных у канцы слова паміж [в] і [ф] з'явіўся ўстаўны галосны. На ўсходнеславянскай глебе вядомы і другі спосаб устаранення групы зычных у канцы слова — ператварэнне канцавога закрытага склада ў адкрыты шляхам далучэння галоснага

гука. Таму магчыма форма *Лавро,* якая вядома̀ ва ўкраінскай мове. Руск. *Лавр* (СВІЛ), укр. *Лавр, Лавро* (СВІЛ).

ЛАВРЕНТИЙ правасл., ВАВРИНЕЦ каталіцк., польск. *Wawrzyniec.* У Польшчы вядома з XIVст., ужывалася часта (Быстр. Кн., 346—347). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 71 раз у варыянтах *Лаврентий* (1), *Лаврен* (5), *Лаврин* (64), *Ваврын* (1). *Лаврентий: Лаврентием Журавским* 1684 шл. Пол., ИЮМ VI 315. *Лаврен: Лаврена Матфеевича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 285, *Лаврен* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42, *Лаврен Корак* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 326. *Лаврин:* ва Ухвале 1528 г. *Лаврин* Гр. п., 92, *Лаврин Войткович* Лід. дв., 31, *Лаврин Корказович* б. Рад., 82, *Лаврин Кукелевич* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Лаврин Бартошевич* Слон. п., 842, *Лаврин Богданович* Брасл. п., 637, *Лаврын Богдановичь Романовича* Навагр. п., 822, *Лаврин Богданович Толочко* Гр. п., 695, *Лаврин Babakунский* Ашм. п., 569, *Лаврин Жуковский* Ваўк. п., 857, *Лаврина Кунцовича* Навагр. п., 820, *Лаврина* Бр. п., 1182; *Лаврин Василевиц* 1597 Маг., ИЮМ VIII 234, *Лаврын Сцепанович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 170, *Лаврын Фарынник* 1629 Маг.,ИЮМ VIII 423, *Лаврин Трусенок* 1623 с. Пол. п., ИЮМ XXIII 423, *Лаврина Минчука* 1685 Маг., ИЮМ II 12, *Лаврин Русанович* 1749 Маг., ИЮМ XXX 305; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 197 разоў, на Падляшшы — 18. *Ваврын: Ваврын Янович* 1567 Рад. хар., П. 789. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Лавринец* (39), *Вавринец* (146) — на Падляшшы. СБП: Лаўрэ̀нцеў, Лаўрэ̀нцік, Лаўранцю̀к, Лаўрэ̀наў, Лаўрано̀віч, Лаўранко̀ў, Лаўранчу̀к, Лаўрыно̀ў, Лаўрыно̀віч, Лаўрынёнак, Лаўрыню̀к, Ваўрыно̀віч, Ваўрыню̀к, па якіх можна рэканструяваць 11 форм і варыянтаў імені *Лаврентий: Лаўрэнцій, Лаўрэнцік, Лаўранцюк, Лаўрэн, Лаўранок, Лаўранчук, Лаўрын, Лаўрынюк, Ваўрын, Ваўрынюк, Ваўранюк.* У Беларусі, па сведчанню помнікаў і СБП, ужываліся 4 поўныя формы: царкоўнаславянская з канцавым [-ий] — *Лаврентий,* усходнеславянская без канцавога [-ий] — *Лаврен,* у якой спрасцілася канцавая група зычных, і дзве «гібрыдныя» формы — *Лаврин, Ваврин,* якія ўзніклі ў выніку ўзаемадзеяння ўсходнеславянскай і польскай форм. Форма *Лаврин* мае прыкмету ўсходнеславянскіх форм — пачат-

ковае [л], але заканчваецца на [-ин], як і форма *Ваврин,* утвораная ад польскай *Wawrzyniec* (яна магла ўспрымацца як памяншальная форма, а таму форму *Ваврин* магла набыць у выніку ўяўнай рэканструкцыі поўнай формы). У паўднёва-заходняй частцы Беларусі форма *Лаврин* магла ўзнікнуць і фанетычна на аснове ўсходнеславянскай формы *Лаврен* — як вынік змянення [е] ў [и] ў закрытым націскным складзе (параўн. дыялектн. *піч* '*печ*'). Але ў такім разе ва ўскосных склонах, у якіх галосны, што нас цікавіць, знаходзіцца ў адкрытым складзе, павінен вымаўляцца гук [е] (параўн. дыялектн. *на печы* пры *піч*). Аднак матэрыял сведчыць, што і ва ўскосных склонах вымаўляецца [и] — *Лаврина, Лаврину.* Таму застаецца прыняць тлумачэнне, што форма *Лаврин* узнікла ў выніку ўзаемадзеяння ўсходнеславянскай формы *Лаврен* і польскай *Wawrzyniec.* Такое ўзаемадзеянне аблягчалася артыкуляцыйна-акустычнай блізкасцю гукаў [л], [в], іх здольнасцю «ўзаемазамяшчэння». Можна думаць, што ў Беларусі польская форма *Wawrzyniec,* носьбітам якой было каталіцкае насельніцтва, у выніку штодзённага сутыкнення з усходнеславянскай формай *Лаврен* і памяншальнай *Лавринец* набыла выгляд *Лавринец,* а пасля, пазбаўляючыся ад уяўнай памяншальнай формы, страціла [-ец] — набыла форму *Лаврин.* Што іменна такім шляхам узнікла форма *Лаврин,* а не ў выніку замены [-ен] на [-ин] ва ўсходнеславянскай форме *Лаврен* пад уплывам *Wawrzyniec,* сведчыць факт шырокага ўжывання формы *Лаврин* у Літве і Жмудзі (197) і на Падляшшы (18), дзе пераважна пражывала насельніцтва каталіцкага веравызнання, а таму, безумоўна, бытавала польская форма імені *Wawrzyniec,* а не ўсходнеславянская. Руск. *Лаврентий* (СВІЛ), укр. *Лаврентій, Лаврін* (СВІЛ), *Лаврін, Лаврінко, Лавро, Лаврик, Лавричок, Вавро, Ваврик, Ваврикок, Равро, Раврик* (Грынч.).

ЛАЗАРЬ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 21 раз: *Лазар Мачалович* 1528 б. Кобр., У. 192, у Попісе 1567 г. *Лазар Вабищевич* Пін. п., 1209, *Лазар Кривопишич* Наваг. п., 822; *Лазарь Хурсович* 1577 Маг., ИЮМ XXX 19, *Лазар Хромой* 1634 Маг., ИЮМ II 85, *Лазар Ларкович* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 16, *Лазарь Лабанович* 1730 с. Пол., ИЮМ II 342, *Лазар Шкут* 1746 Маг., ИЮМ XXX 314. СБП: Ла́зар, Ла́зараў, Лазарэ́віч, Лазарэ́нка, Ла-

зaро́нак, Ла́зарчык, Лазарко́ў, Лазару́к, Лазарчу́к, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Лазарь: Лазар, Лазарчык, Лазарка, Лазарук, Лазарчук.* Руск. *Лазарь* (СВІЛ), *Лазорь* (Мілейк., 391), укр. *Лазар* (СВІЛ), *Лазарь, Лазорь, Лазур(ь)* (Грынч.).

ЛЕВ Зарэгістравана ў XVI ст. 8 разоў: *Лев Котович* 1528 Навагр. з-к, У. 34; у Попісе 1567 г. *Лев Василевич Затепяка* Бр. п., 1190, *Лев Скипоров* Навагр. п., 836, *Лев Яцынич* Слон. п., 844. Эмацыянальнаацэначная форма *Левко* (6): ва Ухвале 1528 г. *Левко Кислович* б. Кобр., 192, *Левко Пищикович* б. Кл., 190, *Левко Щечич* Навагр. з-к, 34; *Левко Миткевич* 1567 Бр. п., П. 1188. Форма *Левко* магчыма і ад *Леонт, Леон* (гл. стар. 108). СБП: Льво́ў, Львянко́ў, Ляўко́, Ляўко́ў, Лёўкін, Ле́ўкін, Ляўко́віч, Ляўке́віч, Ле́ўчанка, Ле́ўчынка, Ляўчо́нак, Леўчано́к, Ляўчэ́ня, Ле́ўчык, Ляўчу́к, Леўкаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Лев: Леў, Ляўко, Лёўка, Леўчанок, Леўчык, Ляўчук.* Руск. *Лев,* размоўн. *Лёв* (СВІЛ), укр. *Лев,* размоўн. *Левко* (СВІЛ), *Левочко, Левусь* (Грынч.).

ЛЕОНАРД каталіцк., польск. *Leonard.* У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 250—251). Зарэгістравана ў XVI ст. (толькі ва Ухвале і Попісе) 17 разоў у варыянтах *Ленарт* (15), *Ленарть* (2). *Л е н а р т:* ва Ухвале 1528 г. *Ленарт Гринькович* Ашм. дв., 23, *Ленарт Пацевич* б. Рад., 81, *Ленарт Семенович* б. Астр., 88; у Попісе 1567 г. *Ленарт Александрович Можейкович* Ашм. п., 577, *Ленарт Климович* Рад. хар., 789, *Ленарт Мартинович* Ваўк. п., 864, *Ленарт Юхнович* Пін. п., 1211, *Ленарт Янович* Навагр. п., 820; на Падляшшы адзначана 120 разоў, у Літве і Жмудзі — 32. *Л е н а р т ь: Ленарть Богданович Кузмич* 1567 Вас. хар., П. 781. У Попісе адзначана *Ленарть* (4) на Падляшшы. СБП: Леана́рд, Ленарто́віч, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Леонард: Леанард, Ленарт.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнай формы: польская форма *Леанард,* рэканструяваная па СБП, яе варыянт, адзначаны ў помніках і ў СБП, *Ленарт,* у якім адбылося спрашчэнне групы галосных [ео] і аглушэнне канцавога звонкага зычнага [д], і адзначаны ў помніках варыянт *Ленар,* які ўзнік у выніку спрашчэння канцавой групы зычных [рд] ці (пасля аглушэння) [рт]. Руск. *Леонард* (СВІЛ), укр. *Леонард* (СВІЛ).

ЛЕОНИД Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз: *Ленид Ходашкович* 1528 Пол. з-ля, У. 195. СБП: Лянéвіч, Лéнька, Лянькó, Лянькóў, Лянкéвіч, Лéнец, Лянцэ́віч, ?Лянéеў, Ленкавéц, Лянéўскі, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Леонид: Лёня, Ленька, Лянько, Ленец, ?Ляней.* Руск. *Леонид* (СВІЛ), укр. *Леонід* (СВІЛ).

ЛЕОНТ правасл., ЛЕОН каталіцк., польск *Leon.* Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 64 разы ў варыянтах *Леон* (18), *Левон* (46). *Леон: Леон Крупеник* 1683 Маг., ИЮМ II 6, *Леон Дзешкович* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 75, ён жа *Лявон Дзешкович* 1704, там жа, 23, *Леон Васкович* 1593 Віц., ИЮМ I 324, *Леона Васильевича Мядельца* 1676 Пол., ИЮМ V 349, *Леон Слижык* 1746 Маг., ИЮМ XXX 304, ён жа *Лявон Слижык* там жа, 317, *Леон Зубёнок* 1764 Віц. в., ИЮМ XIX 170, *Леон Дубко* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421. *Левон:* ва Ухвале 1528 г. *Левон Сачкович* Навагр. з-к, 34, *Левон Телетинич* Пол. з-ля, 196; у Попісе 1567 г. *Левон Гущич* Гр. п., 699, *Левон Скуратович* Навагр. п., 822; *Левон Иванович Бахмат* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 189, *Левон Крышыч Лаботович* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 153, *Левон Волзин* 1593 Віц., ИЮМ I 324, *Левон Лойко* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Левон Ескович* 1652 Пол., ИЮМ V 286, *Левон Огрисков* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 85, *Левон Злоба* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 38, *Левон Копец* 1746 Маг., ИЮМ XXX 296, *Левон Чабан* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 154. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Левко* (1), *Левошко* (1), *Левонец* (1). *Левко: Левко Семенович Бралинич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 56, ён жа *Левона Семеновича Бралинича* 1577 там жа, 248. *Левошко: Левошко Данилевич* 1577 там жа, 259. *Левонец: Левонца Соковича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 322. СБП: Лявóн, Лявóнаў, Леванóвіч, Леванéнка, Лявóненка, Леванёнак, Леванéня, Леванкéвіч, Лявóнік, Лявóнчык, Лявóнчыкаў, Лявóшка, Левашкéвіч, Леванцóў, Лявóнцаў, Леванюк, Леванчýк, Ляóнаў, Леанóвіч, Леанéнка, Ляóненка, Леанёнак, Леанéня, Леанкóў, Ляóнчанка, Ляóнчык, Леанéц, Леанюк, Леанчýк, Леанавéц, Леванóўскі, Левантóўскі, па якіх можна рэканструяваць 16 форм ці варыянтаў форм імені *Леонт: Лявон, Лявонка* ці *Леванок, Лявонік, Лявончык, Лявошка, Лявонец, Леванюк, Леванчук, Ляон, Ляонік* ці *Леанок, Ляончык, Леанец,*

*Леанюк, Леанчук.* Царкоўнаславянская форма *Леонт* на ўсходнеславянскай глебе ў выніку спрашчэння канцавой групы зычных [нт] супала з польскай формай *Leon.* У Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы *Леон, Левон,* апошні з устаўным [в] перад націскным галосным [о]. Усе разгледжаныя формы і варыянты форм магчымы і ад *Леонтий.* Руск., укр. *Леон* (СВІЛ).

ЛЕОНТИЙ Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Левонтий: Левонтий Иванович Ванкевич* 1552 з. Навагр., ПкнПКл. 542. СБП: Ляóнцьсў. Як і ад іншых царкоўнаславянскіх імён на [-ий], ва ўсходнеславянскіх мовах ад імені *Леонтий* маглі ўзнікнуць дзве формы: адна без канцавога [-ий], якая супала з іменем *Леонт* (гл. стар. 108) і пасля спрашчэння канцавой групы зычных набыла выгляд *Леон* ці з устаўным [в] перад націскным [о]—*Левон.* Другая ўсходнеславянская форма — з канцавым [-ей] у Беларусі не адзначана. Руск. *Леонтий* (СВІЛ), *Леонтей, Левонтей* (Мілейк., 391), укр. *Леонтій,* размоўн. *Левко* (СВІЛ), *Левон, Левко, Левочко, Левусь* (Грынч.).

[ЛИН] СБП: Лінóў, Лінаў, Лінін, Лінéвіч, Лініч, Лінкін, Лінкéвіч, Лінкýн, Ліннік, Лінóўскі, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Лин: Лін, Лінок, Лінкун, Ліннік.* Руск., укр. *Лин* (СВІЛ).

[ЛИСИМАХ] СБП: Лісімéнка, па якім можна рэканструяваць імя *Лісім* — адну з форм імені *Лисимах.* Руск., укр. *Лисимах* (СВІЛ).

ЛОНГИН Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 11 разоў у варыянтах *Лонгин* (1), *Логвин* (10): *Лонгин Кудзинов* 1772 Віц., ИЮМ XIX 210; *Логвин Семенов* 1567 Навагр. п., П. 826, *Логвин Семенович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 279, *Логвин Халутин* 1578 Сл., там жа 8, *Логвина Онашковича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 224, *Логвин* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Логвин Юрина* 1772 Віц., ИЮМ XIX 216. СБП: Лóгвін, Лóгвінаў, Лóгін, Лóгінаў, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Лонгин: Логвін, Логін.* На тэрыторыі Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнай формы: зарэгістраваны ў помніках варыянт *Лонгин,* рэканструяваны па СБП — *Логін,* які ўзнік у выніку спрашчэння групы зычных [нг], і вядомы ў помніках і СБП варыянт *Логвин,* у якім [в], відаць, устаўны. Руск. *Лонгин, Логгин* (СВІЛ), *Логин* (Мілейк., 391), укр., *Логвин* (СВІЛ, Грынч.).

[ЛОТ] СБП: Лóтка, Лóткін, Лóташ, Лóтыш, па якіх

можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Лот: Лотка, Лоташ, Лотыш.* Руск., укр. *Лот* (СВІЛ).

ЛУКА правасл., ЛУКАШ каталіцк., польск. *Łukasz.* У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 257—258). Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 76 разоў у варыянтах *Лука* (15), *Лукаш* (61). *Лука: Лука Быковский* 1528 б. Гр., У. 90, *Лука Гаврилович* 1567 Слон. п., П. 850, *Лука Ланкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 37, *Лука Павлович Овечкин* 1594 Маг., ИЮМ VIII 224, *Луки Каспера Главбича* 1652 Пол., ИЮМ V 314, *Лука Демидов,* ён жа *Лукаш Демидов* 1691 Маг., ИЮМ VIII 168, *Лука Полуда* 1684 Маг., ИЮМ II 196, ён жа *Лукаш Полуда* там жа, 193. *Лукаш:* ва Ухвале 1528 г. *Лукаш Григоръевич* Ашм. дв., 22, *Лукаш Гринькович* б. Гр., 90, *Лукаш Еселевич* б. Рад., 81, *Лукаш Петрович* 1528 б. Ваўк., 97, *Лукаш Козлековицкий* б. Пін., 189, *Лукаш Наркович* б. Вас., 87, *Лукаш Огелович* б. Астр., 88; у Попісе 1567 г. *Лукаш Адамович* Ваўк. п., 867, *Лукаш Андреевич Нелеп* Мін. п., 1228, *Лукаш Карпович* б. Бр., 1187, *Лукаша Мацковича* Ашм. п., 581, *Лукаш Петрович* Навагр. п., 826, *Лукаш Сенкович* Слон. п., 851, *Лукаша Дрождчи* б. Кобр., 1203; *Лукаш Кузминич Моревич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 215, *Лукаш Одоманский* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 282, *Лукаша Станиславовича1599* там жа, 421, *Лукаша Мамонича* 1591 Маг., ИЮМ VIII 197, *Лукаш Яйцов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 82, *Лукаш Рыбец* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42, *Лукаш Икач* 1764 Ула, ИЮМ XXII 424, *Лукаш Шыкиня* 1772 Віц., ИЮМ XIX 218; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 62 разы, у Літве і Жмудзі — 100. *Лукаш* магчыма і ад *Лукиан* (гл. ніжэй). СБП: Луќа, Лукін, Лукіч, Луќанін, Лукано́віч, Луќаш, Лукашо́ў, Луќашын, Лукашэ́віч, Лукашэ́нка, Лукашо́нак, Лукашэ́ня, Луќашка, Луќашык, Лукашу́к, Луку́ша, Луку́шка, Луко́шка, Лу́кша, Лу́кашанец, Луќанскі, Лукіцкі, Луко́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 10 форм імені *Лука: Лука, Луканя, Лукаш, Лукашка, Лукашык, Лукашук, Лукуша, Лукушка, Лукошка, Лукша.* У Беларусі ўжываліся 2 поўныя формы: царкоўнаславянская *Лука* і польская *Лукаш.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці, часцей ужывалася другая. Руск. *Лука* (СВІЛ), укр. *Лука,* размоўн. *Лукаш* (СВІЛ), *Лука, Лукань, Лукач, Лукаш* (Грынч.).

ЛУКИАН Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 38 ра-

зоў у варыянтах *Лукъян* (37), *Лукаш* (1). *Лукъян:* ва Ухвале 1528 г. *Лукъян Гридкевич* Пол. з-ля, 195, *Лукъян Гущин* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Лукъян Еремеевич* Слон. п., 848, *Лукъян Тимошевич* Навагр. п., 823; *Лукъян Трухонович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 271, *Лукъян Дойлид* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 392, *Лукъян Яковлевич Копач* 1595 Віц., ИЮМ XX 457, *Лукъян Шпак* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 160, *Лукъян Мошна* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 372, *Лукъян Лущ* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Лукъян Бык* 1746 Маг., ИЮМ XXX 276, *Лукъяна Ножевника* 1758 Маг., ИЮМ XVI 219, *Лукъян Василёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 11, *Лукъян Мисько* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 338. *Лукаш: Лукаша Триснича* 1609 Маг., ИЮМ VIII 280, ён жа *Лукъян Трисninич* там жа. СБП: Лук'я́наў, Лук'яно́віч, Лук'я́ненка, Лук'янёнак, Лук'я́нец, Лук'я́нцаў, Лук'я́нчык, Лук'яню́к, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Лукиан: Лук'ян, Лук'янец, Лук'янчык, Лук'янюк.* У Беларусі ўжывалася поўная форма *Лукъян,* якая перажыла спрашчэнне групы галосных [иа], уласцівай царкоўнаславянскай форме. Руск. *Лукъян* (СВІЛ), *Лукан, Лукиан, Лутьян* (Мілейк., 391), укр. *Лук'ян* (СВІЛ), *Лукіян* (Грынч.).

[ЛЮДВИК] польск. *Ludwik.* СБП: Лю́двікаў. Цікава адзначыць, што ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. імя *Людвік* не адзначана і на Падляшшы, у Літве і Жмудзі.

МАКАРИЙ Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 21 раз у форме *Макар:* у Попісе 1567 г. *Макар Горкачовнч* Гр. п., 691, *Макар Забейдич Микитич* Ваўк. п., 869, *Макар Павлович* Навагр. п., 826; *Макар Окулинич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 159, *Макара Шпиля* 1681 Маг., ИЮМ I 126, *Макар Мяркушко* 1746 Маг., ИЮМ XXX 203, *Макар Малюшка* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78. СБП: Мака́р, Мака́раў, Макарэ́віч, Макаро́віч, Мака́ранка, Макарэ́нка, Макаро́нак, Макарэ́ня, Мака́рчанка, Мака́рчынка, Мака́рчык, Мака́рцаў, Макару́к, Макарчу́к, Макарэ́йка, Мака́рскі, па якіх можна рэканструяваць 7 форм імені *Макарий: Макар, Макарка, Макарчык, Макарэц, Макарук, Макарчук, Макарэйка.* На тэрыторыі Беларусі ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Макар.* Руск. *Макар, Макарий* (СВІЛ), укр. *Макар* (СВІЛ), *Макарь, Макаречко, Макарчик* (Грынч.).

МАКСИМ Зарэгістравана ў XVI — XVIII ст. 69 ра-

зоў: *Максим а Иван Романовичи* 1528 Віц. з-ля, У. 198, у Попісе 1567 г. *Максим Гришкович* Ваўк. п., 866, *Максим Зеневич* Гр. п., 683, *Максим Онопреевич* Слон. п., 850; *Максим Безручкович* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 20, *Максим Мордвинович* там жа, 24, *Максим Нефедови*· 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 119, *Максим Кислый* 1588 Маг., ИЮМ VII 376, *Максим Олексин* 1593 Віц., ИЮМ I 336, *Максим Бадак* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Максим Свинкин* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 78, *Максима Стрелника* 1638 Маг., ИЮМ IX 335, *Максим Яшник* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375, *Максима Козловича* 1676 Пол., ИЮМ VI 221, *Максима Нижника* 1691 Маг., ИЮМ VIII 17, *Максим Иваснёнок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Максим Шары 1726* Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Максим Бодята* 1730 с. Пол., ИЮМ II 327, *Максим Довгуля* 1750 Маг., ИЮМ XXVII 297. СБП: Максíмаў, Максімóвіч, Максімéнка, Максімéня, Максíмкін, Максíмчык, Максімýк, Максімчýк, Максýеў, Максýль, Максімаўцóў, па якіх можна рэканструяваць 7 форм імені *Максим: Максім, Максімка, Максімчык, Максімук, Максімчук, Максуй, Максуль.* Руск. *Максим* (СВІЛ), *Максем* (Мілейк., 391), укр. *Максим* (СВІЛ), *Максим, Максимець, Максимко* (Грынч.).

МАЛАХИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 7 разоў у варыянтах *Малахия* (1), *Малах* (3), *Малофей* (2), *Малахияш* (1): *от пана Малахия Андреевича Казкевича* 1691, ИЮМ VIII 10, ён жа *Малахияш Андреевич Гуторович Казкевич* 1706 Маг., ИЮМ XI 203; *Малах Носович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Малах Иванович* 1635 Маг., ИЮМ IX 195, *Малах Архипович* 1749 Маг., ИЮМ XXX 294; *Малофея Кононовича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 197. СБП: Малáх, Малáхаў, Мóлахаў, Малахóвіч, Малáш, Мылáш, Мóлаш, Малашэ́віч, Малáшанка, Малашэ́нка, Малашóнак, Малашóнкаў, Малáшка, Малашкéвіч, Малáшчанка, Малашчóнак, Малашýк, Малахóўскі, Малашчыцкі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Малахия: Малах, Малаш, Мылаш, Молаш, Малашка, Малашук.* У Беларусі ўжываліся 4 поўныя формы. Адна з іх — царкоўнаславянская форма *Малахия.* Дзве наступныя прайшлі складаны шлях. На ўсходнеславянскай глебе царкоўнаславянская форма ў выніку спрашчэння канцавой групы галосных [ия] і не без уплыву царкоўнаславянскіх форм іншых імён на

[-ий], відаць, набыла форму *Малахий.* Апошняя не зафіксавана ў Беларусі. Відавочна, яна была прыраўнавана да іншых царкоўнаславянскіх імён на [-ий] і гэтак, як ад апошніх, ад яе ўзніклі дзве ўсходнеславянскія формы, адзначаныя ў беларускіх помніках, з канцавым [-ей] пры замене [х] на [ф]—*Малафей* і без канцавога [-ий]—*Малах.* Чацвёртая форма, якая ўжывалася ў Беларусі, гэта — польская *Малахіяш.* Руск. *Малахия* (СВІЛ), укр. *Малахія* (СВІЛ), *Малахвій* (Грынч.).

МАМАНТ Зарэгістравана ў XVI ст. 3 разы ў варыянтах *Мамонт* (1), *Мамон* (2): *Мамонт Трухонович Залевский* 1552 м. Кл., ПкнПКл. 391; *Мамон Федкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 188, *Мамона Кудиновича* там жа, 150. Гэта значыць у Беларусі ўжываліся 2 варыянты поўнай формы *Мамонт, Мамон.* Руск., укр. *Мамант* (СВІЛ). У Б. Д. Грынчанкі адсутнічае.

МАНУИЛ Зарэгістравана ў XVII ст. 1 раз у форме *Мануйла: Мануйлы Василевича Подошовки* 1684 Маг., ИЮМ II 73. СБП: Мануілаў, Манýйлаў, Манулéвіч, Манýлік, Манýйка, Манýх, Манýхін, Манцэ́віч, Мáнчанка, Манькó, Манькóў, Манчáк, Мáнчык, Манчукéвіч, Манькóўскі, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Мануил: Мануіл, Мануйла, Монуль, Манулік, Мануйка, Манух, Мануха, Манец, Манко, Манько, Манчак, Манчык, Манчук.* У Беларусі ўжываліся 2 поўныя формы: царкоўнаславянская *Мануіл,* рэканструяваная па СБП, і ўсходнеславянская *Мануйла,* адзначаная ў помніках і СБП, якая ўзнікла ў выніку спрашчэння групы галосных [уи] і ліквідацыі канцавога закрытага склада шляхам далучэння галоснага гука (параўн. *Гавриил).* Руск. *Мануил* (СВІЛ), *Мануйла* (Мілейк, 391), укр. *Мануіл,* размоўн. *Мануйло* (СВІЛ), *Мануйло, Манойло, Манько* (Грынч.).

[МАР] СБП: Марýк, Марукóвіч, Маруцéнка, Марýтка, Марýцька, Марýцік, Марэ́енка, Марэ́йка, Марэ́ська, Марэ́шаў, Марэ́цкі, па якіх можна рэканструяваць 9 форм імені *Мар: Марук, Марута, Марутка, Маруцька, Маруцік, Марэй, Марэйка, Марэська, Марэш.* Усе прыведзеныя рэканструяваныя формы імені магчымы таксама ад усечанай асновы імён *Марин* (гл. ніжэй), *Марон* (гл. стар. 114). Руск., укр. *Мар* (СВІЛ).

[МАРИН] СБП: Марынó, Мары́нін, Марынéвіч, Марыніч, Марыня́к, па якіх можна рэканструяваць 2 формы

імені *Марин: Марыно, Марыняк.* Прыведзеныя прозвішчы і рэканструяваныя па іх формы імені маглі ўзнікнуць і на базе жаночага імені *Марына.* Ад усечанай асновы імені (*Мар-ин*) магчымы такія ж формы, як і ад імені *Мар* (гл. вышэй). Руск., укр. *Марин* (СВІЛ).

МАРК правасл., МАРЕК каталіцк., польск. *Marek.* У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 266—267). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 37 разоў ў варыянтах *Марк* (2), *Марка, Марко* (34), *Маркей* (1). *М а р к: Марк Иванович Сыса* 1683 Пол., ИЮМ VI 275. *М а р к а, М а р к о:* ва Ухвале 1528 г. *Марко Гринькович* б. Гр., 90, *Марко Смолнянин* Віц. з-ля, 197; у Попісе 1567 г. *Марко Бакушевич Полховский* Пін. п., 1213, *Марко Глебович* Гр. п., 702, *Марко Яцкович* Слон. п., 842, *Марко Головня* Наваrp. п., 810; *Марко Пошин* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 171, *Марко Козлович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 164, *Марка Курылёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 16, *Марко Шпачонок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188, *Марко Хлус* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Марка Миколаевич Скоробогаты* 1725 Маг., ИЮМ XIII 171, *Марка Павлович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 216, *Марко Малькович* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 154. *М а р к е й: от Маркея а Сасина Яковлевичов Олейников* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 113. Ва Ухвале і Попісе адзначана *Марко* (23) у Літве і Жмудзі, *Марек* (48) на Падляшшы, *Марок* (1), *Маркус* (2) у Жмудзі. СБП: Маркó, Мáркаў, Мáркін, Маркéвіч, Маркóвіч, Мáрчанка, Мáрчанкаў, Мáрчык, Мархýн, Маркýш, Маркушóнак, Мáркус, Маркусéнка, Маркавéц, Маркаўцóў, Маркóўскі, Маркушэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў імені *Марк: Марко, Марк, Марчык, Маркун, Маркуш, Маркус.* У Беларусі ўжываліся 3 поўныя формы: традыцыйна-царкоўная *Марк,* усходнеславянская з канцавым галосным для ўстаранення канцавога закрытага склада, утворанага групай зычных [рк], у двух варыянтах *Марко, Марка,* а таксама ўсходнеславянская форма з канцавым [-ей] — *Маркей,* якая ўзнікла пад уплывам усходнеславянскіх форм на [-ей] тых імён, што ўтварыліся з царкоўнаславянскай формы на [-ий]. Руск. *Марк* (СВІЛ), укр. *Марко* (СВІЛ), *Марко, Марочко* (Грынч.).

[МАРКЕЛЛ] СБП: Маркéлаў. Руск. *Маркéлл* (СВІЛ), укр. *Маркéл, Маркéло* (СВІЛ).

МАРКИАН Зарэгістравана ў XVII ст. 1 раз: *Маркиан Хромичонок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375. Руск. *Маркиан* (СВІЛ), укр. *Маркіян* (СВІЛ, Грынч.).

[МАРОН] СБП: Маро́нка. Ад усечанай асновы (*Марон*) магчымы тыя ж формы, што і ад імені *Мар* (гл. стар. 113).

МАРТИН Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 234 разы ў варыянтах *Мартин* (233), *Марцын* (1). *Мартин:* ва Ухвале 1528 г. *Мартин Андрушкович* б. Слон., 98, *Мартин Барсобич* б. Кам., 99, *Мартин Вислоухович* б. Ваўк., 95, *Мартин Запасник* б. Рад., 81, *Мартин Заранко* з. Бр., 101, *Мартин Крупник* дв. Лід., 31, *Мартин Межевич* Віц. з-ля, 197, *Мартин Столбунович* дв. Мін., 30, *Мартин Ширмич* б. Пін., 188; у Попісе 1567 г. *Мартин Андреевич Шкодич* Ваўк. п., 867, *Мартин Бабинский* Мін. п., 1224, *Мартин Иванович Безусый* Слон. п., 841, *Мартин Неслуховский* Навагр. п., 817, *Мартин Палецкий* Маз. п., 1235, *Мартин Стравински* Арш. п., 1234; *Мартин Андреевич Трепало* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 203, *Мартина Скибу* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 301, *Мартин Шляхта* 1590 там жа, 392, *Мартин Данилевич Курч* 1595 дв. Віц. в., ИЮМ XX 435, *Марцин Шевелёнок* 1614 Арш. п., ИЮМ XXIV 368, *от Мартина Вертибеса* 1683 Маг., ИЮМ II 6, *Марцин Мамчик* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188, *Марцин Хлусов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 68, *Марцин Мацвеевич Мацейка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 205, *Марцин Михновец* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 158, *Марцин Багрец* 1764 с. Ульск. м., ИЮМ XXII 435; ва Ухвале і Попісе адзначана па Падляшшы 355 разоў, у Літве і Жмудзі — 330. *Марцын: Марцын Злоба* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 38. Эмацыянальнаацэначныя формы *Мартинец* (1), *Мартюк* (1): *Мартинца Чучурка* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 198; *Мартюк Лукашевич* 1590 там жа, 392. СБП: Марты́наў, Мартыно́віч, Мартыне́нка, Мартыне́ц, Мартынке́віч, Марты́нчык, Мартыню́к, Мартынчу́к, Марты́сь, Мартысе́віч, Мартысю́к, Мартышэ́віч, Мартышэ́нка, Мартышо́к, Марціно́віч, Марціне́нка, Марцінёнак, Марцінко́ў, Марцінке́віч, Марці́нчык, Марці́шка, Марці́шчанка, Марцішо́к, Марцу́к, Марцу́ль, Марцу́та, Марцючэ́нка, Марцынке́віч, Мартулёў, Мартушко́ў, Мартыно́ўскі, Марціно́ўскі, Марцішэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 22 формы і варыянты форм імені *Мартин: Мартын, Мартынец, Мартынок, Мартынчык, Мартынюк, Мартынчук, Мартысь, Мартысюк, Мартыш, Мартышок, Марцін, Марцінок, Марцінчык, Марцішка, Марцішок, Марцук, Марцюк, Марцуль,Марцута, Марцынок, Мартуль, Мартушок.*

На тэрыторыі Беларусі ўжывалася поўная форма *Мартин* і два варыянты яе—*Марцин, Марцын,* якія, відаць, і былі ў той час жывымі. Руск. *Мартын* (СВІЛ), укр. *Мартин* (СВІЛ), *Мартин, Мартинец* (Грынч.).

МАРТИНИАН Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Мартимъян: Мартимъян Филипович* 1577 архідзіякан Маг., ИЮМ XXXII 244.

МАТЕУШ каталіцк., польск. *Mateusz.* Я. Быстронь адзначае, што ў Польшчы імя вядома з часоў прыняцця хрысціянства. У практыцы яно не заўсёды адрознівалася ад імені *Maciej* (Быстр. Кн., 271). У XVI ст. адзначана некалькі форм і варыянтаў форм, якія можна суаднесці з іменем *Матеуш: Матыясь, Матыас, Матьяс, Матъяс, Матыс, Матысь, Матус, Матуш.* Умоўна да імені *Матеуш* можна аднесці і рэканструяваныя па СБП формы і варыянты форм: *Мацiяс, Мацяс, Мацяска, Мацяш, Матысь, Матысiк, Матус, Матушка.* Усе яны магчымы і ад імені *Матфей.*

МАТФЕЙ правасл., МАЦЕЙ каталіцк., польск. *Maciej.* У Польшчы вядома з XIII ст. (Быстр. Кн., 258—259). Зарэгістравана ў XVI — XVIII стст. 301 раз у варыянтах *Матфей* (30), *Матвей, Мацвей* (49), *Матей, Мацей* (164), *Матхвей* (1), *Матыяс* (2), *Матыас* (2), *Матьяс, Матъяс* (3), *Матыс* (41), *Матысь* (4) *Матус* (3), *Матуш* (2). *Матфей:* ва Ухвале 1528 г. *Матфей Золотков* Пол. з-ля, 195, *Матфей Колбаса* Навагр. з-к, 34, *Матьфей Ордынец* б. Ваўк., 94; у Попісе 1567 г. *Матфея Васильевича* Гр. п., 704, *Матфей Гриневич* Слон. п., 843, *Матфей Иванович Протасовича* Навагр. п., 836, *Матфей Кмитич Олешкович* Ашм. п., 581, *Матфей Степанович* Пін. п., 1213, *Матфей Шаула* Мін. п., 1221; *Матфея Кучкуна* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 184, *у Матфея Деруги* 1609 Маг., ИЮМ VIII 283, *Матфей Скорень* 1623 Пол. в., ИЮМ XXIII 400, *Матфею Шкловцу* 1688 Маг., ИЮМ V 52; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 2 разы, на Падляшшы — 1. *Матвей, Мацвей: Мацвей Цибуля* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 170, *Матвея Гаврыловича Ремеза* 1620 Маг., ИЮМ VIII 361, *Мацвей Бибин* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Матвей Анискевич* 1652 Пол., ИЮМ V 260, *Матвей Иванович Рында* 1692 Маг.. ИЮМ X 452, *Мацвей Несцеронок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 38, *Мацвей Шавчонок* там жа, 74, *Мацвей Кобец* 1746 Маг., ИЮМ XXX 244, ён жа *Мацей Кобец* там жа, 251, *Матвея*

*Тесли* 1679 Маг., ИЮМ I 5, *Мацвей Рабацяга* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 429. *Матей, Мацей:* ва Ухвале 1528 г. *Матей Абрамович* б. Вас., 87, *Матей Андрушкевич* б. Рад., 82, *Матей Вирлович* Навагр. п., 34, *Матей Моркутович* б. Гр., 90, *Матей Станькович* б. Ваўк., 96, *Матей Янович* Віц. з-ля, 197; у Попісе 1567 г. *Матей Богданович* Гр. п., 697, *Матей Жукович* Слон. п., 848, *Матей Матиасович Янович* Навагр. п., 835, *Матей Микшевич* Ашм. п., 586, *Матей Корчевский* Ваўк. п., 867, *Матей Сипович* Брасл. п., 634, *Матей Шимкович Довгилевич* Астр. хар., 793; *Матея Жилвика* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 168, *Матея Шпака* там жа, 304, *Мацей Недбальски* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 160, *Мацей Курбацки* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 39, *Мацей Солодовник* 1746 Маг., ИЮМ XXX 272; ва Ухвале і Попісе — на Падляшшы 644 разы, у Літве і Жмудзі—420. *Матеуш: Матеуш Варакса* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187. *Матхвей: Матхвей Яцкевич* 1567 Пін. п., П. 1211. *Матыяс: Матыяс Матфеевич* 1528 з. Бр., У. 101, *Матыяс Зенькевич* 1567 Пін. п., П. 1207. *Матыас: Матыас Хрщонович* 1528 Ашм. дв., У. 23, у Літве — 3. *Матьяс, Матъяс: Матъяс Зенькович* 1528 б. Пін., У. 188, *Матъяс Черневич* 1528 Ашм. дв., У. 27, *Матьяс Михнович Колб* 1567 Пін. п., П. 1208; на Валыні — 2, у Літве — 1. *Матыс:* у Попісе 1567 г. *Матыс Василевич* Гр. п., 676, *Матыс Жидович* Ашм. п., 591, *Матыс Малишевский* Бр. п., 1186, *Матыс Хотылевский* Слон. п., 844, *Матыс Щастнович Богуматчич* Вас. хар., 781, *Матыс Янович* Пін. п., 1209, *Матыса Степановича* Мін. п., 1221; на Падляшшы адзначана 137 разоў, у Літве і Жмудзі — 39. *Матысь:* у Попісе 1567 г. *Матысь Косовский* Лід. п., 750, *Матысь Лапа* Мін. п., 1225; на Падляшшы — 15, у Жмудзі — 2. *Матус:* у Попісе 1567 г. *Матус Забела* Навагр. п., 819, *Матус Котович* Слон. п., 845; на Падляшшы адзначана 7 разоў, у Літве і Жмудзі—2. *Матуш: Матуш Янович Нарбут* 1567 Ашм. п., П. 582; на Падляшшы адзначана 7 разоў, у Літве—4. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Мац* (1), *Мацко* (19), *Матюша* (14), *Матюш* (1), *Матеец* (1), *Матюк* (1), *Матыш* (1). *Мац: Мац а Мордвин, а Мартин* 1528 г. б. Пін., У. 189; ва Ухвале і Попісе ў Літве і Жмудзі адзначана 14 разоў. *Мацко:* ва Ухвале 1528 г. *Мацко Волчкевич* Навагр. з-к, 36, *Мацко Гриневич* б. Ваўк., 96, *пан Мацко Заранкович* з. Бр., 101, *Мацко Кореевич* б. Слон., 99,

*Мацко Наркович* Ашм. дв., 23, *Мацко Панцевич* б. Гр., 93, *Мацко Сенниский* Мін. дв., 29, *Мацко Смилькин* б. Рад., 82; *Мацко Токаровский* 1567 Бр. п., П. 1184, *Мацко Голутвин* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 23, *Мацку Микитиничу* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 45, *Мацко Крыштофович* 1597 Маг., ИЮМ VIII 240; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 41 раз, на Падляшшы — 6, на Валыні — 3. *М а т ю ш а: Матюша Белкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 195, *Матюша Соленик* 1588 Маг., ИЮМ VII 417, *Матюши Богдановича* 1635 Маг., ИЮМ VIII 522. *М а т ю ш: Матюша Стрельца* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 189. М а т е е ц: *Матейца Волчка* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 207. *М а т ю к: Матюк Трухонович* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 391. *М а т ы ш* (1): *Матыш Шимкович Щерба* 1567 Ашм. п., П. 569. За межамі Беларусі адзначана: *Матко, Матько* (3), *Матыско* (1), *Матых* (1) на Падляшшы, *Матусь* (1) *Матюля* (1) у Літве. СБП: Матвéеў, Матвéенка, Матвеяня́, Матвéйчык, Матвяю́к, Матвяйчу́к, Мацвéеў, Мацвяйчу́к, Мацвéйчык, Мацiéвiч, Мацéйка, Мацéйкiн, Мацяйкóвiч, Мацéша, Мацéшык, Мацяю́к, Мац, Мацэ́нка, Мацкó, Мацкéвiч, Мацькó, Мацькунóў, Мацкéль, Мацкéла, Мацу́к, Мацукóў, Мацукéвiч, Мацюкóў, Мацу́ль, Мацулéвiч, Мацю́лька, Мацу́р, Мацу́раў, Мацэ́ль, Мацэ́ша, Мацю́нiн, Мáцюш, Мацю́ша, Мáцюшаў, Мацю́шын, Мацюшэ́нка, Мацюшóнак, Мацю́х, Мацюхóў, Мацю́хiн, Маця́нiн, Маця́нка, Матóх, Матóха, Матóш, Матóшка, Матóвiч, Матóлька, Мáтуць, Мату́х, Мату́ка, Мату́чык, Мату́ль, Матулéвiч, Матулькóў, Матвéенцаў, Мацiéўскi, Мацкóўскi, Мацюшэ́ўскi, Матукóўскi, Мацыéўскi, па якіх можна рэканструяваць 31 форму і варыянт форм імені *Матфей: Матвей, Матвейчык, Матвяюк, Матвяйчук, Мацвей, Мацвяйчук, Мацвейчык, Мацей, Мацейка, Мацеша, Мацешык, Мацяюк, Мац, Мацко, Мацько, Мацькун, Мацкель, Мацкела, Мацук, Мацюк, Мацуль, Мацюлька, Мацур, Мацэль, Мацэша, Мацюня, Мацюш, Мацюша, Мацюх, Мацяня, Мацянка* і 12 форм і варыянтаў форм, што маглі ўтварыцца і ад імені *Матфей* і ад імені *Матеуш: Матох, Матоха, Матош, Матошка, Мат, Матолька, Матуць, Матук, Матука, Матучык, Матуль, Матулёк.* Па сведчанню помнікаў і СБП, у Беларусі ўжывалася поўная традыцыйна-царкоўная форма *Матфей* і яе варыянты, якія ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення яе ўсходнеславянскімі мовамі: *Матхвей, Матвей, Мацвей, Мацей.*

МЕЛЕТИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 4 разы ў варыянтах *Мелентий* (2), *Мелентей* (2): *Мелентий Маркевич Бурмель* 1746 Маг., ИЮМ XIV 465; *Мелентей Фастович* 1567 Брасл. п., П. 636. Гэта значыць у Беларусі ўжываліся царкоўнаславянская форма з канцавым [-ий] і ўсходнеславянская з канцавым [-ей]. Руск. *Мелетий* (СВІЛ), *Мелентей* (Мілейк., 391), укр. *Мелетій* (СВІЛ, Грынч.).

МЕЛЬХИОР каталіцк., польск. *Melchior*. У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 273—174). Зарэгістравана ў XVI ст. 7 разоў у форме *Малхер*: у Попісе 1567 г. *Малхер Андреевич Менкевич* Навагр. п., 834, *Малхер Безсекерский* Гр. п., 692, *Малхер Юндил* Слон. п., 494, *пан Малхер Жикгимонтович Сновский* Навагр. п., 463; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 10 разоў, у Літве і Жмудзі — 11.

МЕРКУРИЙ Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз: *Меркурий* 1552 мельнік у Пін. кн-ве, ПкнПКл. 176. СБП: Мяркýр'еў, Мéрхуль, Мяркýлаў, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Меркурий: Мяркурый, Меркуль, Мяркул*. У Беларусі ўжываліся 2 поўныя формы: царкоўнаславянская з канцавым [-ий] — *Меркурий* і ўсходнеславянская без канцавога [-ий] у варыянтах *Мяркул, Меркуль* з заменай канцавога [р] на [л] ці [л']. Руск. *Меркурий* (СВІЛ), укр. *Меркурій* (СВІЛ).

МЕФОДИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 7 разоў пераважна ў Магілёве ў варыянтах *Мефед* (1), *Мехвед, Михвед* (3), *Нефед* (3): *Мефеда Ступакова* 1680 Маг., ИЮМ I 89; *Мехвед Юрович* 1567 Гр. п., П. 699, *Мехвед Чуда* 1746 Маг., ИЮМ XXX 252, *Мехвед Косця* там жа 248; *Нефеда Дронича* 1597 Маг., ИЮМ VIII 254, *от Нефеда Карчуна* 1688 Маг., ИЮМ V 120. Эмацыянальнаацэначная форма *Мефедко* (1): *Мефедко Кузмич* 1528 б. Ваўк., У. 97. СБП: Міхéд, Міхéдзенка, Міхадзёнак, Міхадзю́к, Мяхéда, Мяхéдзька, Мяхéдзькін, Няфёд, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Мефодий: Міхед, Міхадзюк, Мяхеда, Мяхедзька, Няфёд*. У Беларусі, па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, ужываліся 5 варыянтаў усходнеславянскай формы без канцавога [-ий], якія з'яўляюцца вынікам фанетычнага асваення імені *Мефодий: Мефед, Мехвед, Михвед, Міхед, Нефед*. Па СБП рэканструявана поўная форма на [-а] — *Мяхеда*. Агульнай для ўсіх іх асабліва-

сцю з'яўляецца замена галоснага [о] царкоўнаславянскай формы галосным [е] са змякчэннем папярэдняга зычнага. У некаторых варыянтах [ф] змяніўся ў [хв] ці [х], а ненаціскны галосны [е] — у [и]. У апошнім варыянце на месцы пачатковага [м] з'явіўся [н]. Руск. *Мефодий* (СВІЛ), укр. *Мефодій, Методій* (СВІЛ), *Методій, Мехед, Мехедко, Мехтод, Махтод, Нахтод, Нехтод* (Грынч.).

[МИЛИЙ] СБП: Міла́н, Мілано́віч, Міло́ш, Мілашэ́віч, Міле́віч, Міле́йка, Міле́хін, Мілёшкін, Мілько́, Мільке́віч, Мі́льчанка, Мілю́к, Мі́люць, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Милий: Мілан, Мілош, Міль, Мілейка, Мілеха, Мілешка, Мілько, Мілюк, Мілюць*. На тэрыторыі Беларусі, як можна меркаваць па СБП, ужывалася поўная ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий]—*Міль*. Руск. *Милий* (СВІЛ), укр. *Милій* (СВІЛ).

МИНА Зарэгістравана ў XVII—XVIII стст. 5 разоў у Магілёве і Аршанскім павеце: *Мина* 1614 Арш. п., ИЮМ I 9, *Мина Лавуцин* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 74, *Мина Гадыш* 1746 Маг., ИЮМ XXX 318. Эмацыянальнаацэначная форма *Минюк* (1): *Санюком а Минюком Кошелевичами* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 343. СБП: Мі́на, Мі́наў, Мі́нін, Міне́віч, Міне́нка, Мінякоў, Мінко́, Мінко́ў, Мі́нкаў, Мі́нкін, Мінко́віч, Мінке́віч, Мі́нчанка, Мі́нчанак, Мінчэ́нка, Мінчэ́ня, Мінчу́к, Мінчуко́ў, Мінько́, Мінько́ў, Мінюк, Мінюко́віч, Міна́еў, Мінако́ў, Міна́хін, Міне́ц, Мінаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Мина: Міна, Мінко, Мінчук, Мінько, Мінюк, Мінай, Мінак, Мінах*[*а*], *Мінец*. Руск., укр. *Мина* (СВІЛ).

МИРОН Зарэгістравана ў XVII—XVIII стст. 13 разоў ва ўсходняй частцы Беларусі: *Мирона* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 161, *Мирон Ходосович* 1645 Маг., ИЮМ IX 523, *Мирон Иванович Лосин* 1684 Маг., ИЮМ II 80, *Мирон Лазаронок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 60, *Мирон Вярябей* 1746 Маг., ИЮМ XXX 316, *Мирон Ушол* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 437. Эмацыянальнаацэначная форма *Мирук* (1): *Мирук Бычкевич* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 389, хоць магчыма і ад *Мирослав*. СБП: Міро́н, Міро́наў, Мірано́віч, Міро́ненка, Міранко́ў, Міранцо́ў, Міро́нчык, Міро́нчыкаў, Міраню́к, Міранчу́к, Міро́ш, Мі́раш, Міро́шкін, Мі́ркін, Міро́дзеў, Міру́к, Мірушко́віч, Міру́тка, Мі́руць, Мірэ́йка, Мірэ́йчык, Мірашнічэ́нка, Мірано́ўскі, Мірко́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 16 форм і ва-

рыянтаў форм імені *Мирон: Мірон, Міронка, Міранец, Міроначык, Міранюк, Міранчук, Мірош, Міраш, Мірошка, Мірко, Мірода, Мірук, Мірутка, Міруць, Мірэйка, Мірэйчык.* Руск., укр. *Мирон* (СВІЛ), укр. *Мирін, Мирон, Миронко, Миросик, Мирось* (Грынч.).

[МИТРОФАН] СБП: Мітрахо́віч, па якой можна рэканструяваць імя *Мітроха* — адну з форм імені *Митрофан.* Руск., укр. *Митрофан* (СВІЛ), укр. *Митропан, Митропанец* (Грынч.).

МИХАИЛ правасл., МИХАЛ каталіцк., польск. *Michał.* У Польшчы вядома з XIV ст., ужывалася часта (Быстр. Кн., 274—275). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 138 разоў у варыянтах *Михаил* (12), *Михайло, Михайла* (92), *Михало* (1), *Михал* (32), *Міхаль* (1). *Михаил: Михаил Вайселевич* 1552 Лях. п., ПкнПКл. 569, *Михаил Дучич* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 28, *Михаила Русака* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 319, *Михаила Ахремовича Сомовича* 1682 Пол., ИЮМ VI 265, у пана *Казкевича Михаила* 1690 Маг., ИЮМ VII 89. *Михайло, Михайла:* у Попісе 1528 г. *Михайло Гридич Логвиновича* б. Кл., 190, *Михайло Курганович* Навагр. з-к, 33, *Михайло Курейшов* Віц. з-ля, 196, *Михайло Макарович* б. Гр., 90, *Михайло Микулич* б. Мсціск., 198, *Михайло Стрыж* Пол. з-ля, 193; у Попісе 1567 г. *Михайло Богданович Стоидерево* Слон. п., 849, *Михайло Борздобогатый* Навагр. п., 813, *Михайло Хилимонович* Ваўк. п., 858, *Михайло Заранко Горбовский* Бр. п., 1194, *Михайло Зверынич* Мін. п., 1217, *Михайло Иванович Друцкевич* Гр., п., 676, *Михайло Нагишко* Брасл. п., 635; у ПкнПКл. 1552 г. *Михайло Левонович* Пін. кн., 39, *Михайло Моклок* з. Пін., 57; *Михайлом Бурым* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 69, *Михайла Ескович* 1592 Маг., ИЮМ VIII 198, *Михайло Федорович* 1619 Маг., ИЮМ VIII 348, *Михайло Горбун* 1626 Віц., ИЮМ XXI 281, *Михайло Окрыдович* 1664 Маг., ИЮМ X 296, *Михайла Товкач* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Михайлу Петуха* 1691 Маг., ИЮМ VIII 146. *Михало: Михало Иванович* 1552 св. Пін., ПкнПКл. 33; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 56 разоў, на Падляшшы —4. *Михал:* у Попісе 1567 г. *Михал Болтромеевич* Лід. п., 748, *Михал Лозовицкий* Бр. п., 1197, *Михал Стаховский* Ашм. п., 576, *Михал Фронцкевич* Навагр. п., 832, *Михал Шиманович Янович* Гр. п., 707; *Михал Грегоревич* 1552 з. Навагр., ПкнПКл. 538, *Михал Местьцо* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 8, ён жа

*Михаилу Местьцу* там жа, *Михал Носевич* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 164, *Михал Ходоронок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 449, *Михал Серяк* 1684 Маг., ИЮМ II 188, *Михал Андреевич* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 19, *Михал Карпека* 1726 там жа, 47, ён жа *Михалко Карпека* там жа, 44, *Михал Петрище* 1730 с. Пол., ИЮМ II 335, *Михал Князь* 1746 Маг., ИЮМ XXX 303, *Михал Перепечко* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 217 разоў, у Літве і Жмудзі—59. *Михаль: Михаля Обрезка* 1679 Маг., ИЮМ I 16. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Михалка, Михалко* (30), *Мишко* (20), *Миско* (8), *Михно* (33), *Мишура* (1), *Мись* (10), *Мисько* (4), *Мисюли* (1). *Михалка, Михалко:* ва Ухвале 1528 г. *Михалко Ромейкович* Навагр. з-к, 36, *Михалко Савсевкович* Пол. з-ля, 196; у Попісе 1567 г. *Михалко Артемович* Брасл. п., 636, *Михалко Трохимович* Ашм. п., 568, *на имя Михалка Яновича* Лід. п., 753, *сына Михалка* Бр. п., 1190, *слугу Михалка* Гр. п., 680; *Михалко Панкратович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 58, *Михалко Чорный* 1590 Маг., ИЮМ VII 482, *Михалку Уласовича* 1621 Маг., ИЮМ VIII 371, *Михалко Стиблинич* 1632 Маг., ИЮМ VIII 437, *Михалко Якимович* 1730 с. Пол. в., ИЮМ II 324, *Михалка Булка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 319. *Мишко:* ва Ухвале 1528 г. *Мишко Артюхович* б. Слон., 98, *Мишко Дошкович* б. Астр., 88, *Мишко Капустин* Пол. з-ля, 95, *Мишко Кнюкович* Навагр. з-к, 37, *Мишко Пажковский* Мін. дв., 30, *Мишко Сенькович* б. Гр., 93, *Мишко Якубович* Ашм. дв., 25; *Мишко Васкович Горечко* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 123, *Мишка Микипорович* там жа, 3; ва Ухвале і Попісе на Падляшшы — 1 раз, у Літве — 3. *Миско:* ва Ухвале 1528 г. *Миско Стирпекович* б. Гр., 91; у Попісе 1567 г. *Миско Гущич* Гр. п., 693, *Миско Богатыревич* Гр. п., 709, *Миско Стасевич Волкович* Лід. п., 793; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 11 разоў, у Літве—1. *Михно:* ва Ухвале 1528 г. *Михно Барсобич* б. Кобр., 192, *Михно Букрябич* з. Бр., 101, *Михно Григоръевич* б. Гр., 90, *Михно Гринькевич* Навагр. з-к, 35, *Михно Кголимонтович* б. Кам., 99, *Михно Левонович* Пол. з-ля, 194, *Михно Мацкович* б. Слон., 98, *Михно Нацевич* Ашм. дв., 26, *Михно Некрашевич* б. Пін., 188, *Михно Яцевич* б. Ваўк., 96; у Попісе 1567 г. *Михно Григоръевич* Навагр. п., 836, *Михно Карпович* Бр. п., 1196, *Михно Левонович* Гр. п., 705, *Михно Павлович* Пін. п.,

1208, *Михно Рак* Ваўк. п., 857, *Михно Суморок* Ашм. п., 579, *Михно Ходорович* Слон. п., 839; у ПкнПКл. 1552 *Михно Алтухович* м. Пін., 19, *Михно Аростович* там жа, 287, *Михно Новошиц* там жа, 7, *Михно Некрашевич* з. Пін., 379, *Михно Юхнович* м. Кл., 476; *Михно Дашкович* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 225, *Михно Крыка* 1730 с. Пол. в., ИЮМ II 346; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 25 разоў, на Падляшшы —4, на Валыні —5; *М и ш у р а: Мишура, Купрей, Кирик* 1697 Маг., ИЮМ XI 16. *М и с ь:* ва Ухвале 1528 г. *Мись* б. Вас., 87, *Мись Войткович* Лід. дв., 31; у Попісе 1567 г. *Мись Лавринович* Рад. хар., 789, *Мись Мефедович Кулик* Гр. п., 685, *Мись Щепанович* Брасл. п., 636; *Мись Давидович* 1552 м. Пін., ПкнПКл.; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 39 разоў, на Падляшшы — 5. *М и с ь к о:* у Попісе 1567 г. *на имя Миська* Гр. п., 707, *Мисько Пецелевич* Слон. п., 848, *Мисько Янович* Ашм. п., 577; у Літве — 3. *М и с ю л и: Мисюли Станевич* 1567 Гр. п., П. 697. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе адзначана: *Миша* (1) на Валыні, *Мис* (5), *Мисюс* (4), *Мисюл* (1), *Мисюль* (1) у Літве і Жмудзі, *Михай* (1) на Падляшшы. СБП: Міха́йлаў, Міха́йленка, Міха́йлік, Міха́ль, Міхалёў, Міхале́віч, Міхале́нка, Міхалёнак, Міхале́ня, Міха́лка, Міхалко́віч, Міхалке́віч, Міхалчу́к, Міхалько́ў, Міхалько́віч, Міхальке́віч, Міха́льчанка, Міхальчэ́ня, Міхальчу́к, Міха́лік, Міхальцо́ў, Міхальцэ́віч, Міхалю́к, Міхалю́та, Міхасёў, Міхасе́віч, Міхасе́нка, Міхасёнак, Міхасько́ў, Міхе́ль, Міхлюко́ў, Міхно́, Міхно́ў, Міхно́віч, Міхне́віч, Міхнёнак, Міхню́к, Міх, Міхо́віч, Міху́та, Мішко́, Мі́шкін, Мішко́віч, Мішке́віч, Мі́шчанка, Мішчу́к,Міша́ка, Мі́шкінь, Мішкуро́ў, Мішкуце́нка, Мішкуцёнак, Мі́шын, Мішо́та, Мішу́к, Мішу́р, Мішу́ра, Мішуро́ў, Мішу́та, Мішчу́рыкаў, Місе́йка, Місько́, Міско́, Міске́віч, Місю́к, Місюке́віч, Місючэ́нка, Місю́ль, Місю́ля, Місю́ра, Місю́рка, Місю́цік, Місцю́к, Місцюке́віч, Місу́н, Місу́на, Місуно́ў, Місура́гін, Місю́гін, Місарэ́віч, Міха́йлавер, Міхнаве́ц, Мішкаве́ц, Місаве́ц, Міхайло́ўскі, Міхале́ўскі, Міхало́ўскі, Міхо́нскі, Мішу́льскі, па якіх можна рэканструяваць 47 форм і варыянтаў форм імені *Михаил: Міхайла, Міхайлік, Міхаль, Міхалка, Міхалчук, Міхалёк, Міхальчук, Міхалік, Міхалец, Міхалюк, Міхалюта, Міхась, Міхасёк, Міхель, Міхлюк, Міхно, Міхнюк, Міх, Міхута, Мішко, Мішчук, Мішака, Мішкінь, Мішкур, Мішкута, Міша, Мішота, Мішук, Мішур, Мішура, Мішута, Мішчурык, Мі-*

*сейка, Місько, Міско, Місюк, Місюль, Місюля, Місюра, Місюрка, Місюцік, Місцюк, Місун, Місуна, Місурага, Місюга, Місар.* У Беларусі ўжываліся 3 поўныя формы: традыцыйна-царкоўная *Михаил,* усходнеславянская з канцавым галосным [о] ці [а] *Михайло, Михайла* (параўн. *Гавриил)* і польская *Михал, Михаль.* Руск. *Михаил* (СВІЛ), *Михайло, Михайла* (Мілейк., 391), укр. *Михайло* (СВІЛ), *Михайло, Михайлик, Михайличок, Михайлонько, Михайлунько, Михай, Михав, Михалко, Михаль, Михальо, Михальок, Михань, Михась, Михасько, Михасьо, Михлик, Мись, Мисько, Місько* (Грынч.).

МИХЕЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 6 разоў ва ўсходняй частцы Беларусі: *Михей Селютин* 1691 Маг., ИЮМ VIII 165, *Михей Шылёнок* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 32, *Михей Авчынник* 1746 Маг., ИЮМ XXX 294. СБП: Міхе́й, Міхе́еў, Міхіе́віч, Міхе́іч, Міхе́енка, Міхе́йкаў, Міхе́йчанка, Міхе́йчынка, Міхе́йчык, Міхе́йчыкаў, ?Міхінке́віч, Міхе́йшын, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Михей: Міхей, Міхейка, Міхейчык, Міхінок, Міхейша.* Руск., укр. *Михей* (СВІЛ).

МОИСЕЙ правасл., МОЙЖЕШ каталіцк., польск. *Mojżesz.* Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 38 разоў у варыянтах *Моисей* (5), *Мойсей* (26), *Мосей* (7). *М о и с е й: Моисей Драбович* 1552 с. Пін., ПкнПКл. 18, *Моисей Карпечин* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Моисей Шило* 1730 с. Пол., ИЮМ II 342. *М о й с е й: Мойсей Иванович* 1567 Слон. п., П. 850, *Мойсей Иванович Рыло* 1567 Вас. хар., П. 773, *Мойсей Костинич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 231, *Мойсей Крачко* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 171, *Мойсей Макарёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 17, *Мойсей Уласов* 1726 там жа, 72, *Майсей Жерабец* 1746 Маг., ИЮМ XXX 174. *М о с е й: Масей Карпушкин* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 82, *Масей Гончар Бороздич* 1764 Ула, ИЮМ XXII 423, *Масей Политыка* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 331. За межамі Беларусі ва Ухвале і Попісе адзначана *Мойсий* (1), *Мойжеш* (6), *Мойжес* (7), *Мойзеш* (1) на Падляшшы. СБП: Маісе́еў, Маісе́енка, Майсе́еў, Майсяе́віч, Майсе́енка, Майся́ня, Майсе́йчык, Майсе́йшын, Майсяю́к, Майсію́к, Ма́йса, Майсіно́віч, Майсе́ня, Майса́к, Майсю́к, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Моисей: Маісей, Маісейка, Майсей, Майсейчык, Майсейша, Майсяюк, Майса, Майсак, Майсюк, Майсіюк.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, на тэрыторыі

Беларусі ўжываліся традыцыйна-царкоўная форма *Моисей* і ўсходнеславянская форма ў варыянтах *Мойсей, Мосей,* якія ўзніклі ў выніку фанетычнага асваення традыцыйна-царкоўнай формы — спрашчэння групы галосных [ои]. Імя *Майсей* было шырока вядома ва ўсходняй частцы Беларусі аж да першых дзесяцігоддзяў XX ст. Зараз не ўжываецца. Руск. *Моисей* (СВІЛ), *Мосей* (Мілейк., 391), укр. *Мойсей, Мусій* (СВІЛ), *Мойсей, Мосій, Мосійко, Мусій, Мусієць, Мусійко* (Грынч.).

МОКИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 9 разоў у форме *Мокей: Мокей Волчкович* 1528 Навагр. з-к, У. 36, *Мокей Мякиш* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 170, *Мокея Жуковича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 188, *Макей Шавченя* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 369, *Макея Сахна* 1712 с. Віц. в., ИЮМ XX 179, *Макей Утроба* 1746 Маг., ИЮМ XXX 288. СБП: Маке́й, Маке́еў, Маке́енка, Маке́йчык, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Мокий: Макей, Макейчык.* У Беларусі ўжывалася поўная ўсходнеславянская форма з канцавым [-ей] — *Мокей.* Руск. *Мокий* (СВІЛ), *Мокей* (Мілейк., 391), укр. *Мокій* (СВІЛ), *Мокрій* (Грынч.).

[НАЗАРИЙ] СБП: Наза́раў, Назаро́віч, Назарэ́віч, Наза́ранка, Назарэ́нка, Наза́рка, Наза́рчык, Назару́к, Назарчу́к, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Назар, Назарий: Назар, Назарка, Назарчык, Назарук, Назарчук.* У якасці поўнага імені ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Назар.* Руск. *Назар, Назарий* (СВІЛ), укр. *Назар* (СВІЛ), *Назар, Назарь, Назарець, Назарько* (Грынч.).

НАУМ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 10 разоў: у Попісе 1567 г. *Наум Голенищевич* Бр. п., 1185, *Наум Юръевич* Гр. п., 699; *Наум Тимофеевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 43, *Наум Радкович* 1610 Маг., ИЮМ VIII 347, *Наума* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 163, *Наум Самуленок* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 450. СБП: Наву́маў, Навумо́віч, Наву́менка, Наву́мчык, Навуму́к, Нау́маў, Наумо́віч, Нау́менка, Наумёнак, Нау́мкін, Нау́мчык, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Наум: Навум, Навумчык, Навумук, Наум, Наумка, Наумчык.* На тэрыторыі Беларусі ўжывалася традыцыйна-царкоўная форма *Наум* і яе варыянт з устаўным [в] — *Навум.* Руск., укр. *Наум* (СВІЛ), укр. *Навум, Наум, Наумець* (Грынч.).

НЕСТОР Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 21 раз у форме *Нестер:* ва Ухвале 1528 г. *Нестер Логвинович* б. Мсцісл., 199, *Нестер Миневич* Навагр. з-к, 36, *Нестер Першкович* б. Ваўк., 97; у Попісе 1567 г. *Нестер Букреевич* Навагр. п., 825, *Нестер Романович* Слон. п., 850, *Нестер Сакович* Гр. п., 676; *Нестер Милкович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 170, *Нестер Радивонович* 1580 Маг., ИЮМ VII 322, *Несцер Шемет* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 169, *Нестер Радкович* 1691 Маг., ИЮМ VIII 163, *Несцер Лысцов* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188, *Несцер Исачонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 73; у Попісе адзначана на Падляшшы 2 разы. СБП: Не́сцер, Не́сцераў, Несцяро́віч, Несцярэ́віч, Несцярэ́нка, Ніцярэ́нка, Несцяро́нак, Несцяро́к, Несцяркóў, Несцяру́к, Несцярчу́к, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Нестор: Несцер, Несцярок, Несцярук, Несцярчук.* Руск. *Нестор* (СВІЛ), *Нестер* (Мілейк., 391), укр. *Нестор, Нестір* (СВІЛ), *Нестір, Нестірко* (Грынч.).

НИКИТА Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 96 разоў у варыянтах *Микита* (95), *Никитий* (1). *Микита:* ва Ухвале 1528 г. *Микита* Пол. з-ля, 196, *Микита Забелич* б. Ваўк., 96, *Микита Островский* Навагр. з-к, 35; у Попісе 1567 г. *Микита Станкевич Скуратович* Навагр. п., 822, *Микита Курьянович* Ваўк. п., 872, *Микита Кушало* Гр. п., 681, *Микита Мелютич* Слон. п., 848; *Микита Василевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 284, *Микита Зенович* 1594 Маг., ИЮМ VIII 224, *Микита Тарса* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 163, *Микита Лянчонок* 1626 Віц., ИЮМ XXI 281, *Микита Стахорович* 1646 Маг., ИЮМ IX 523, *Микита Полелеёнок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 372, *Микита Масонов* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 88, *Микита Маслок* 1683 Маг., ИЮМ II 6, *Микита Зезюлин* 1691 Маг., ИЮМ VIII 171, *Микита Родзивонёнок* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Микита* с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Микита Петрашонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Микита Верея* 1746 Маг., ИЮМ XXX 306, *Микита Карчыга* там жа, 161, *Микита Агей* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78, *Микита Пястун* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 160, *Микита Шевяка* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 429. *Никитий: Никитий Евлевич* 1664 св. Маг., ИЮМ X 291. СБП: Ніки́та, Нікі́цін, Нікіце́нка, Нікі́тка, Нікі́цік, Нікіцю́к, Мікіцёнак, Мікі́шка, Міке́шка, Мікачо́ў, Міке́йчык, Міке́ль, Мікі́цкі, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Никита: Нікіта, Нікітка,*

*Нікіцік, Нікіцюк, Мікіта, Мікішка, Мікешка, Мікач, Мікейчык, Мікель.* Па сведчанню помнікаў, у Беларусі ўжывалася поўная форма з пачатковым [м] адпаведна [н] традыцыйна-царкоўнай формы — *Микита* (*Никита* не адзначана зусім). У асяроддзі духавенства сустракалася форма *Никитий,* утвораная па аналогіі з іншымі традыцыйна-царкоўнымі формамі імён на [-ий]. Ужывалася і поўная форма *Нікіта,* рэканструяваная па СБП. Руск. *Никита* (СВІЛ), *Микита* (Мілейк., 391), укр. *Микита* (СВІЛ), *Микита, Микитка* (Грынч.).

НИКИФОР Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 51 раз у варыянтах *Никифор* (24), *Никипор* (12), *Никипер* (2), *Ничипер* (7), *Ничипор* (4), *Микифор* (1), *Микипор* (1). *Н и к и ф о р:* ва Ухвале 1528 г. *Никифор* б. Гр., 91, *Никифор* Навагр. з-к, 35; *Никифор Козан* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 94, *Никифора Латушки* 1690 Маг., ИЮМ VII 18, *Никифор Шикут* 1730 с. Пол., ИЮМ II 346, *Никифор Гасютка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 247, *Никифор Зыль* там жа, 298, *Никифор Лещ* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187. *Н и к и п о р: Никипор Савинич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 233, *Никипора* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 162, *Никипор Ярмалович* 1636 с. Пол. в., ИЮМ XXII 304, *Никипора Маслака* 1679 Маг., ИЮМ I 6, *Никипор Поляк* 1643 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 360, *Никипар Шедзко* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 437. *Н и к и п е р: Никипер Ситович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Никипер Шаповал* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421. *Н и ч и п е р: Ничипер Серок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 43, *Ничипер Цыган* там жа, 72. *Н и ч и п о р: Ничипор Шаройко* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 19, ён жа *Ничипер Шаройка* там жа, 72, *Ничипор Ядрачонок* 1726 там жа, 54. *М и к и ф о р: Микифор Михнович* 1552 св. Пін., ПкпПКл. 94. *М и к и п о р: Микипора Казана* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 13, ён жа *Никифор Козан* 1577, ИЮМ XXX 94. СБП: Нікі́фараў, Нікіфаро́віч, Нікіфарэ́нка, Нікіпаро́віч, Нікіпяро́віч, Нічы́пар, Нічы́параў, Нічыпаро́віч, Нічыпарэ́нка, Нічыпару́к, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Никифор: Нікіфар, Нікіпар, Нікіпер, Нічыпар, Нічыпарук.* У Беларусі ўжываліся 7 варыянтаў поўнай формы: *Никифор, Никипор, Никипер, Ничипар, Ничипер, Микифар, Микипар,* якія з'явіліся ў выніку фанетычнага асваення традыцыйна-царкоўнай формы. У частцы варыянтаў зычны [ф] змяніўся ў [п] — *Никипор, Никипер, Ничипер, Ничипор, Ми-*

*кипор;* зычны [к] перад галосным [и] даў [ч] — *Ничипор, Ничипер,* а пачатковы [н] быў заменены на [м] — *Микипор.* Руск. *Никифор* (СВІЛ), укр. *Никифор, Ничипор* (СВІЛ).

[НИКОДИМ] СБП: Нікóдаў, па якім можна рэканструяваць адну з форм імені *Никодим — Нікод.*

НИКОЛАЙ правасл., МИКОЛАЙ каталіцк., польск. *Mikołaj.* Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 311 разоў у варыянтах *Николай* (3), *Миколай* (293), *Микула* (8), *Миклаш* (7). *Николай: Николай Сенебрюх* 1746 Маг., ИЮМ XXX 267. *Миколай:* ва Ухвале 1528 г. *Миколай Андрейкович* Лід. дв., 32, *Миколай Богданович* Ашм. дв., 25, *Миколай Бутримович* б. Рад., 81, *Миколай Гайко* б. Вас., 86, *Миколай Жабка* б. Ваўк., 96, *Миколай Каспорович* б. Мсцісл., 199, *Миколай Лярвич* Навагр. з-к, 37, *Миколай Сенютич* б. Гр., 93; у Попісе 1567 г. *Миколай Внучек* Мін. п., 1222, *Миколай Иванович Щепа* Пін. п., 1214, *Миколай Кгорский* Слон. п., 842, *Миколай Ленкевич* Ашм. п., 573, *Миколай Нокгет* Бр. п., 1193, *Миколай Ступковский* Ваўк. п., 862, *Миколай Стецович* Слон. п., 848, *Миколай Томкович* Гр. п., 695; *Миколай Литвин* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 27, *Миколай Адамович Крепуга* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 163, *Миколай Водопой* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 369, *Миколай Каменка* 1652 Пол., ИЮМ V 253, *Миколаю Пердуну* 1681 Маг., ИЮМ I 135, *Миколай Галилей* 1746 Маг., ИЮМ XXX 295, *Миколай Смык* 1753 Віц., ИЮМ XVIII 413, *Миколай Кошко* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 434; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 563 разы, у Літве і Жмудзі—600. *Микула:* ва Ухвале 1528 г. *Микула Козлов* Пол. з-ля, 196, *Микула Коровинич* б. Мсцісл., 199; *Микула Хомич* 1567 Гр. п., П. 685, *Микула Войткович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 63, *Микулы Яцковича* 1622 Маг., ИЮМ VIII 374, *Микула Паловчонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 59. *Миклаш:* ва Ухвале 1528 г. *Миклаш Андреевич* б. Слон., 98, *Миклаш Андрисович* Навагр. з-к, 36, *Миклаш Ивашкович* Лід. дв., 31, *Миклаш Петькович* б. Астр., 88; *Миклаш Богданович Тидикович* 1567 Гр. п., П. 704; ва Ухвале і Попісе *Миклаш* адзначана ў Літве 7 разоў, на Падляшшы — 4; *Миколаюс* (3), *Миколис* (1), *Маколай* (4) у Літве. СБП: Нікалáеў, Нікалаéвіч, Нікалáенка, Нікалаёнак, Нікалаéня, Нікалаю́к, Нікалáйчанка, Нікалáйчык, Нікалайчу́к, Нікалáшын, Нікалёнак, Нікýлін, Нікýліч, Нікýлéнка, Мікалáй, Мікалáеў, Мікалáйчык, Мікýла, Мікулóвіч, Мі-

ку́ліч, Мікулёнак, Міку́лік, Міку́льчык, Міку́лка, Мікула́н, Міку́та, Мі́куць, Мі́куц, Мікуце́нка, Мікуцёнак, Міку́шкін, Мі́кша, Мікшу́н, Мі́кшта, Мікшу́та, Мі́клашаў, Міклашэ́віч, Калю́к, Калько́, Калякóў, Калю́та, Калю́ша, Калюхо́віч, Міклашэ́ўскі, Мікулі́нскі, Міку́льскі, па якіх можна рэканструяваць 30 форм і варыянтаў форм імені *Николай: Нікалай, Нікалайка, Нікалаюк, Нікалайчык, Нікалайчук, Нікалаша, Нікола, Нікула, Мікалай, Мікалайчык, Мікула, Мікулік, Мікульчык, Мікулка, Мікулан, Мікута, Мікуць, Мікуц, Мікушка, Мікша, Мікшун, Мікшта, Мікшута, Міклаш, Калюк, Калько, Каляк, Калюта, Калюша, Калюха.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці, у Беларусі ў якасці поўных форм ужываліся *Миколай, Николай, Микула* і рэканструяваныя па СБП *Нікола, Нікула.* Руск. *Николай, Никола* (СВІЛ), *Микула* (Мілейк., 391), укр. *Микола, Миколай* (СВІЛ), *Микола, Миколай, Миколайко, Миколайчик, Миколка, Миколя, Никола, Николай, Николайцьо, Николко, Николунько, Николцьо* (Грынч.).

НИКОН Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 7 разоў у варыянтах *Никон* (6), *Оникон* (1): *Никон* Пол. з-ля, 195, *Никон Зеновъевич* б. Ваўк., 97; *Никон Добошненок* 1588 Маг., ИЮМ VII 452, *Никан Ядроненок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 13; *Оникон Иванович Грымашков* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 63, ён жа *Никона Ивановича Грымашковича* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 232. СБП: Ніканаў, Ніканóвіч, Ніканéнка, Ніканчу́к, Нíканчык, Нікóнчык, Ніканю́к, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Никон: Нікан, Ніканчык, Нікончык, Ніканюк, Ніканчук.* Руск. *Никон* (СВІЛ), укр. *Никон, Никін* (СВІЛ).

[НИКОНОР] СБП: Ніканóраў.

[ОЛЕГ] СБП: Алéг. Імёны *Олег, Никонор,* як і іншыя, што рэдка ўжываліся ў мінулым, аказаліся непрадуктыўнымі пры ўтварэнні прозвішчаў.

ОНИСИЙ Зарэгістравана ў XVI ст. толькі ў эмацыянальнаацэначнай форме *Ониско* (5): ва Ухвале 1528 г. *Ониско Леньковић* з. Бр., 101, *Ониско Парфенович* б. Мсцісл., 198, у Попісе 1567 г. *Ониско Игнатович* Гр. п., 689, *Ониско Ляхович* Пін. п., 1209, *Ониско Ширанович* Слон. п., 850; адзначана ў Літве 2 разы. СБП: Анíсаў, Анісóвіч, Анісéвіч, Анісéнка, Анісéня, Аніскóвіч, Аніскéвіч, Анíська, Аніськóў, Аніськóвіч, Анісавéц, Аніскавéц, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Онисий: Аніс, Аніска, Аніська, Анішка, Анішчык,*

*Анішчук.* Гэтыя формы магчымы таксама ад усечаных асноў імён *Онисим, Онисифор.* У Беларусі ў якасці поўнай формы, па сведчанню СБП, ужывалася форма без канцавога [-ий] — *Аніс.* Руск. *Онисий* (СВІЛ), укр. *Онисій,* размоўн. *Онисько* (СВІЛ).

ОНИСИМ Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз. *Онисим Бурцевич* 1528 б. Слон., У. 99. СБП: Анісімаў, Анісімо́віч. Магчымы і іншыя формы ад усечанай асновы *(Онис-им),* гл. *Онисий,* стар. 129. Руск. *Анисим, Онисим* (СВІЛ), укр. *Онисим,* размоўн. *Онисько* (СВІЛ), *Онисим, Онисько, Онисечко, Онишко* (Грынч.).

[ОНИСИФОР] СБП: Анціпаро́віч, Анціпару́к, Анцыпаро́віч, ?Анісаро́віч, ?Аніфер, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Онисифор: Анціпар, Анціпарук, Анцыпар, ?Анісар, ?Аніфер.* Ад усечанай асновы *(Онис-ифор)* магчымы тыя ж формы, што і ад *Онисий* (гл. стар. 129).

ОНУФРИЙ правасл., ОНУФРИ каталіцк., польск. *Onufry. У Польшчы ўжывалася на ўсходніх землях* (Быстр. Кн., 187). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 15 разоў у варыянтах *Онуфрий* (1), *Онофрей* (4), *Анопрей* (4), *Анапрый* (1), *Онопрей* (3), *Онапры* (1), *Нупрей* (1). *О н у ф р и й: Онуфрий Павлович* 1552 св. у Пін. кнве, ПкнПКл. 34. *О н о ф р е й: Онофрей Калеликович* 1567 Гр. п., П. 705, *Онофрея Мурашки* 1688 Маг., ИЮМ V 120. *А н о п р е й: Анопрей Алексеевич Мстиславец* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 35, *Анопрея Пигора* там жа, 165, *Анапрей Цимин* 1746 Маг., ИЮМ XXX 294, *Анапрей Мавчанов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 58. *А н а п р ы й: Анапрыя Авсеевича Авчара* 1689 Маг., ИЮМ VI 13 *О н о п р е й: Онопрей Семенович* 1588 Маг., ИЮМ VII 450. *Онопрей Илинич* 1596 Маг., ИЮМ VIII 227. *О н а п р ы: Онапры Ярош Пъяновский* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 102. *Н у п р е й: Нупрей Стейно* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 333. СБП: Ану́фрыеў, Ануфрыёнак, Ануфрыю́к, Ануфро́віч, Ану́франка, Ануфрэ́ня, Анупрые́нка, Анапрэ́енка, Анапрэ́йка, Анапрэ́йчык, Напрэ́еў, Напрэ́енка, Нупрые́нка, Ну́прык, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Онуфрий: Ануфрый, Ануфрыюк, Ануфры, Анупрэй, Анапрэй, Анапрэйка, Анапрэйчык, Напрэй, Нупрэй, Нупрык.* У якасці поўнай формы ўжывалася *Онуфрий* і яе варыянт *Аноприй,* што ўзнік у выніку фанетычнага асваення царкоўнаславянскай формы, 6 варыянтаў усходнеславянскай фор-

мы з канцавым [-ей] рознага фанетычнага афармлення: *Анупрэй, Онофрей, Онопрей, Анопрей, Нупрей, Напрэй* і польская форма *Онуфры* з варыянтам *Онапры.* Руск. *Онуфрий* (СВІЛ), укр. *Онопрій, Онупрэй, Онуфрій* (СВІЛ), *Онуфрій, Онуфрійко, Онопрій, Онопріець, Онопрійко, Онойко, Оношко, Онупрій, Онухрій, Онухро, Онушко* (Гринч.).

ОРЕСТ Зарэгістравана ў XVII ст. 1 раз: *Арест Мандрыков* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 82. СБП: Арэ́стаў, Арасто́віч, па якіх можна рэканструяваць імя *Арэст.* Руск. *Орест* (СВІЛ), укр. *Орест, Ярест* (Грынч.).

[ОСИЯ] СБП: Асіюк, Асіе́еўскі. Невялікая колькасць прозвішчаў, утвораных ад імені *Осия,* безумоўна, тлумачыцца малаўжывальнасцю імені.

ПАВЕЛ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 182 разы ў форме *Павел:* ва Ухвале 1528 г. *Павел Богданович* б. Рад., 82, *Павел Богушевич* Лід. п., 31, *Павел Гринькович* б. Гр., 90, *Павел Игнатович* Навагр. з-к, 36, *Павел Миколаевич* Ашм. дв., 22, *Павел Онцушко* б. Вас., 86, *Павел Перепеча* б. Кам., 99; у Попісе 1567 г. *Павел Ескович* Лід. п., 749, *Павел Стаховский* Навагр. п., 824, *Павел Бельцевич* Бр. п., 1186, *Павел Васкевич Ланевича* Гр. п., 677, *Павел Виткович* Мін. п., 1227, *Павел Жданович* Слон. п., 846, *Павел Пригодич* Ваўк. п., 870, *Павел Севрукович* Ашм. п., 570, *Павел Стаховский* Пін. п., 1214; *Павел Олферович Колено* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 119, *Павел Капуста* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 64, *Павел Старуха* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 375, *Павел Андронович* 1592 Маг., ИЮМ VIII 198, *Павел Василевич Скоробогатый* 1583 Віц., ИЮМ I 322, *Павел Бестик* 1595 Сенна, ИЮМ XX 446, *Павел Овферович* 1610 Маг., ИЮМ VIII 310, *Павел Матусович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 169, *Павел Василевич Ягута* 1642 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 468, *Павел Мазоль* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 16, *Павел Синица* 1726 там жа, 55, *Павел Гончар* 1683 Маг., ИЮМ II 7, *Павел Росток* 1730 с. Пол., ИЮМ II 327, *Павел Гапеевич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 174, *Павел Кузевка* там жа, 209, *Павел Мышака* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 325 разоў, у Літве і Жмудзі — 243, на Валыні — 63. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Пашко* (11), *Павлюк* (10). *П а ш к о:* ва Ухвале 1528 г. *Пашко Богатыревич* Лід. дв., 32, *Пашко Родвилович* б. Рад., 81, *Пашко Ромейкович* Навагр. з-к, 36, *Паш-*

*ко Святус* Ашм. дв., 26, *Пашко Суморок* б. Гр., 91; у Літве — 19, на Падляшшы — 1, на Валыні — 3. *Павлюк: Павлюк Дедкович* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 245, *Павлюка Западни* там жа, 207, *Павлюк Андронович* 1593 Маг., ИЮМ VIII 198, *Павлюк Калинкин* 1746 Маг., ИЮМ XXX 177, *Павлюк Лусцин* там жа, 296, *Павлюк Сторож* там жа, 310. СБП: Па́ўлаў, Паўло́ў, Паўло́віч, Паўлі́нін (магчыма таксама ад *Павлин*), Паўле́віч, Паўле́нка, Паўлёнак, Паўле́ня, Паўляно́к, Па́ўлік, Паўлічэ́нка, Па́ўлічкаў, Паўле́чка, Паўлі́шка, Паўлушко́ў, Паўлу́шкін, Паўлы́га, Паўлю́к, Паўлюко́ў, Паўлюко́віч, Паўлюке́віч, Паўлючэ́нка, Паўлючэ́нкаў, Паўлючо́нак, Паўлючу́к, Паўлюсю́к, Па́ўлюц, Па́ўлюць, Паўлючко́ў, Паўлю́чык, Паўлю́шчанка, Паўлю́шчык, Паўлю́шын, Па́віч, Па́ўчанка, Паву́к, Паву́ля, Пашко́, Па́шкін, Пашко́віч, Пашке́віч, Па́шчанка, Пашчэ́ня, Пашэ́віч, Па́шанка, Пашанко́ў, Пашалю́к, Пашу́к, Пашуке́віч, Пашу́н, Пашу́ра, Пашу́та, Па́шык, Пашэ́й, Пашэ́йка, Пашэ́нька, Паўлаве́ц, Паўлюкаве́ц, Пашкаве́ц, Паўлі́нскі (магчыма і ад *Павлин*), Паўло́ўскі, Пашко́ўскі, Пашы́нскі, па якіх можна рэканструяваць 34 формы і варыянты форм імені *Павел: Павел, Паўлянок, Паўлік, Паўлічак, Паўлечка, Паўлішка, Паўлушка, Паўлыга, Паўлюк, Паўлючук, Паўлюсюк, Паўлюц, Паўлюць, Паўлючок, Паўлючык, Паўлюшка, Паўлюшчык, Паўлюша, Пава, Паўка, Павук, Павуля, Пашко, Паша, Пашанок, Пашалюк, Пашук, Пашун, Пашура, Пашута, Пашык, Пашэй, Пашэйка, Пашэнька.* Руск. *Павел* (СВІЛ), укр. *Павло* (СВІЛ), *Павло, Павлик, Павличко, Павлонько, Павлунь, Павлуньо, Павлусь, Пашко, Павлиш, Павлій* (Грынч.).

[ПАВЛИН] СБП: Паўлі́ніч, Па́віч, ?Паві́ніч, Паву́к, Паву́ля, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Павлин: Паўлін, Пава, ?Павін, Павук, Павуля.* Руск., укр. *Павлин* (СВІЛ).

ПАМФИЛ Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў варыянтах *Панфил, Помфил: Помфила Никоновича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 210; *Панфил Сергеевич* 1580 Маг., ИЮМ VII 322. СБП: Панфі́ленка, па якім можна рэканструяваць адну з форм імені *Памфил — Панфіл.* Руск. *Памфил* (СВІЛ), укр. *Памфіл* (СВІЛ).

ПАНКРАТИЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 8 разоў у форме *Панкрат: Панкрат Грыдкович Шыло* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 198, *Панкрат Кароль* 1704

Чач. ст., ИЮМ XXVIII 13, *Панкрат Алёшков* 1746 Маг., ИЮМ XXX 299. СБП: Панкра́ццеў, Панкра́цьеў, Панкра́т, Панкра́таў, Пенкра́т, Пянкра́т, Пянкра́цік, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Панкратий: Панкрацій, Панкрат, Пенкрат, Пянкрат, Пянкрацік.* У Беларусі ў якасці поўнай ужывалася царкоўнаславянская форма на [-ий] — *Панкрацій* і 3 варыянты ўсходнеславянскай формы без канцавога [-ий] — *Панкрат, Пенкрат, Пянкрат.* Руск. *Панкратий* (СВІЛ), укр. *Панкрат, Панкратій* (СВІЛ).

[ПАНТЕЛЕЙМОН] СБП: Панцеляймо́н, Панцяле́й, Панцяле́еў, Панцяля́й, Панцяле́йка, Панце́енка, Панце́віч, Панцю́к, Панцю́х, Панцюхо́ў, Панцю́хін, Панта́к, Па́нтус, Панця́він, Панько́, Панько́ў, Па́нчанка, Па́ныш, Паняко́ў, па якіх можна рэканструяваць 16 форм і варыянтаў форм імені *Пантелеймон: Панцеляймон, Панцяляй, Панцялей, Панцялейка, Панцей, Панця, Панцюх, Панцюк, Панцюха, Пантак, Пантус, ?Панцява, Панько, Панка, Паныш, Паняк.* У якасці поўнай формы ў Беларусі ўжываліся традыцыйна-царкоўная форма *Панцеляймон* і 2 варыянты ўсходнеславянскай формы на [-ей], [-яй] — *Панцялей, Панцяляй,* што ўзнікла ў выніку скарачэння асновы традыцыйна-царкоўнай формы і стала падобнай да ўсходнеславянскай формы з канцавым [-ей]. Руск. *Пантелеймон, Пантелей* (СВІЛ), укр. *Пантелеймон, Пантелемон,* размоўн. *Пантелій, Панько* (СВІЛ), *Панталеймон, Пантелеймон* (Грынч.).

[ПАРАМОН] СБП: Парамо́н, Парамо́наў, Парамо́нчык, Парамо́шын, Пармо́н, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Парамон: Парамон, Парамончык, Парамоша, Пармон.* Руск., укр. *Парамон* (СВІЛ).

ПАРФЕНИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 36 разоў у варыянтах *Парфен* (30), *Парфей* (1), *Пархом* (4), *Пархим* (1). *Парфен:* ва Ухвале 1528 г. *Парфен Беляминович* Навагр. з-к, 36, *Парфен Дмитрович* б. Астр., 88; у Попісе 1567 г. *Парфен Гущич* Гр. п., 679, *Парфен Дорогонич* Ваўк. п., 871, *Парфен Кондратович* Слон. п., 843; *Парфен Малашович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 196, *Парфена* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 160, *Парфен Земок* 1636 с. Пол. в., ИЮМ XXII 304, *Парфена Колодки* 1688 Маг., ИЮМ V 36, *Парфен Гладыш* 1746 Маг., ИЮМ XXX 302, *Парфен Мармыж* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187, *Парфен*

*Валевич* 1776 Маг., ИЮМ XVII 164. *П а р ф е й: Парфея Иевлевича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 210. *П а р х о м: Пархома Тюхая* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 189. *П а р х и м: Пархим Антонёнок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 56. СБП: Парфёнаў, Парфяно́віч, Парфе́ненка, Парфёненка, Парфінёнак, Парфяню́к, Парфёнчык, Парфу́н, Пархамо́віч, Пархо́менка, Пархо́мчык, Пархаме́ц, Па́рхімо́віч, Пархі́мчык, Пархо́цік, Парху́н, Парху́та, Парху́цік, Па́рху́ць, Паршо́нак, Паршу́та, Па́ршыкаў, Парфеяве́ц, ?Паршуко́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і варыянтаў імені *Парфений: Парфён, Парфянюк, Парфёнчык, Парфун, Пархом, Пархомчык, Пархамец, Пархім, Пархімчык, Пархоцік, Пархун, Пархута, Пархуцік, Пархуць, Паршута*. Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, на тэрыторыі Беларусі ўжываліся ў якасці поўнай формы 5 варыянтаў усходнеславянскай формы без канцавога [-ий] — *Парфен, Пархом, Пархім, Парфун, Пархун,* існаванне якіх звязана з фанетычным асваеннем імені *Парфений.* Некаторыя з іх, можна думаць, з'яўляюцца элементамі паслядоўнага рада фанетычных змен і непасрэдна ўтварыліся адзін ад другога: *Парфений : Парфен : Парфён : Пархон* — у выніку замены [ф] на [х] і немагчымасці ўжывання [х'] перад [о] — *Пархон, Пархун* ці пры замене канцавога [н] на [м] — *Пархон : Пархом : Пархім.* Схематычна гэта выглядае так:

*Парфений — Парфен — Парфён — Пархон*

*Пархун*    *Пархом — Пархім*

Адзначаная ў помніках форма *Парфей,* відаць, утварылася па ўзору ўсходнеславянскіх форм на [-ей] ад усечанай асновы і таксама выкарыстоўвалася як поўнае імя. Руск. *Парфений, Парфён* (СВІЛ), *Парфеней, Парфен, Парфей* (Мілейк., 392), укр. *Парфеній, Парфентій, Парфен, Пархом, Пархім* (СВІЛ), *Пархвен, Пархвін, Пархім, Пархімко, Пархвен* (Грынч.).

[ПАСИКРАТ] СБП: Па́сій, Пасе́віч, Па́сікаў, Пасько́, Пасю́к, Пасюко́ў, Пасюке́віч, Пасю́та, Пасю́цін, Пасаве́ц, па якіх можна рэканструяваць 6 форм імені *Пасикрат: Пасій, Пас, Пасік, Пасько, Пасюк, Пасюта.*

ПАТАПИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 8 разоў у форме *Потап: Потап* 1528 Пол. з-ля, У. 194, *Потап Драчич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 99, *Потап Олисеевич*

1621 Маг., ИЮМ VIII 370, *Патап Гадун* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 59, *Потап Бибко* 1772 Віц., ИЮМ XIX 216. СБП: Пата́паў, Патапо́віч, Пата́пе́нка, Патапе́ня, Патапе́йка, Патапко́ў, Пата́пчык, Патапчу́к, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Патапий: Патап, Патапейка, Патапка, Патапчык, Патапчук*. На тэрыторыі Беларусі ў якасці поўнага імені ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Патап*. Руск. *Потап, Потапий* (СВІЛ), укр. *Потап* (СВІЛ, Грынч.).

ПАХОМИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 5 разоў у форме *Пахом: Пахом Зенкович* 1582 кабальны чалавек на Магілёўшчыне, ИЮМ VII 337, *Пахом Кезик* 1623 с. Пол. в., ИЮМ XXIII 423, *Пахома Ламанова* 1679 Маг., ИЮМ I 7, *Пахом Злобов* 1746 Маг., ИЮМ XXX 190, *Пахом Бубель* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 429. СБП: Пахо́м, Пахо́маў, Пахамо́віч, Пахо́менка, Пахо́мчык, Паху́та, Паху́тка, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Пахомий: Пахом, Пахомчык, Пахута, Пахутка*. Поўнай формай імені ў Беларусі была ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий] — *Пахом*. Руск. *Пахом, Пахомий* (СВІЛ), укр. *Пахом* (СВІЛ).

ПЕТР Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 236 разоў у варыянтах *Петр* (232), *Петро* (4). *Петр:* ва Ухвале 1528 г. *Петр Артемович* б. Астр., 88, *Петр Барсобич* б. Кам., 99, *Петр Васевич* б. Ваўк., 96, *Петр Васильевич* б. Мсцісл., 198, *Петр Гневошевич* Ашм. дв., 25, *Петр Гриньковuч Чешейко* б. Гр., 90, *Петр Гришанович* Пол. з-ля, 196, *Петр Курилович* б. Пін., 188, *Петр Мисевич* б. Рад., 81, *Петр Михайлович* б. Слон., 99, *Петр Савицкий* б. Кобр., 192; у Попісе 1567 г. *Петр Матеевич* Слон. п., 842, *Петр Карпович* Бр. п., 1187, *Петр Козич* Вас. хар., 778, *Петр Козейкович* Ашм. п., 585, *Петр Олешич* Мін. п., 1228, *Петр Ондрушович* Гр. п., 684, *Петр Павлович Равенший* Навагр. п., 827, *Петр Скробот* Ваўк. п., 861; *Петр Гаврылович Тесля* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 51, *Петр Неверович* 1578 Шкл. вол., ИЮМ XXXII 10, *Петр Енелевич* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 153, *Петра Станиславовича Плеваку* там жа, 204, *Петр Талыка* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 169, *Петр Рог* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Петра Тесли* 1662 Пол., ИЮМ V 270, *Петр Мелентиевич Казанович* 1664 Маг., ИЮМ X 301, *Петр Швец* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 84, *Петр Шумей* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 13, *Пётр Белик* 1726 там жа, 72, *Петра Сахоновича Ку-*

*лиды* 1689 Маг., ИЮМ VI 12, *Петр Пенезьвич* 1730 с. Пол., ИЮМ II 324, *Пётр Гукович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 247, *Петра Баньщика* 1752 Віц., ИЮМ XVIII 406, *Пётр Мошна* 1774 Маг., ИЮМ XIV 391; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 330 разоў, у Літве і Жмудзі — 411. *Петро: Петро Адзинцов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 70. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Петко* (1), *Петько* (6), *Петрок, Пятрок* (32), *Петрочок* (1), *Петрук* (2), *Петруха* (1), *Петроша* (1), *Петрош* (1), *Петруша* (2), *Петран* (1), *Пятрусь* (1). *Петко: Петко Стецевич* 1528 б. Рад., У. 81; ва Ухвале і Попісе ў Літве і на Падляшшы —23. *Петько:* ва Ухвале 1528 г. *Петько Кгинюшевич* б. Гр., 94, *Петько Нарбутович* б. Слон., 98. *Петрок, Пятрок: Петрок Занкович* 1621 Маг., ИЮМ VIII 370, *Пятрок Бядыш* 1746 Маг., ИЮМ XXX 218, *Пятрок Давгуля* там жа, 212, *Пятрок Шыдловски, сын Ивана* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 170. *Петрочок: Пацук, Стасюк а Петрочок Лойковичы* 1528 Мін. п., АВК XXXVI 245. *Петрук: Петрук Янукович* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 381; ва Ухвале адзначана ў Літве 1 раз. *Петруха: Петруха Церешкович* 1635 Маг., ИЮМ IX 195. *Петроша:* от *Петрошы Юрковича* 1689 Маг., ИЮМ VI 146. *Петруша: Петруша Федорович* 1580 Маг., ИЮМ VII 323, *Петруша Гула* 1635 Маг., ИЮМ IX 195. *Петран: Петран Игнатович* 1528 б. Гр., У. 94. *Пятрусь: Пятрусь Мяркушка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 206. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана *Петрик* (5) — у Літве, *Петраш* (2), *Петраль* (1), *Петруц* (2), *Петруч* (1) — у Жмудзі. СБП: Пятро́ў, Пятро́віч, Пятрэ́нка, Пятрэ́ня, Пе́трык, Пе́трыкаў, Петрыке́віч, Пятры́чыц, Петрачэ́нка, Петрачко́ў, Пе́траш, Пятра́ш, Пятра́шын, Петрашэ́віч, Пятра́шка, Петрашке́віч, Пятрэ́шка, Петране́віч, Петрала́й, Петрасю́к, Пятры́шча, Пятры́шчаў, Пятры́нчык, Пятру́к, Петруко́віч, Петручэ́ня, Петручу́к, Пятру́нін, Пятру́цік, Пятру́чык, Пятру́ша, Пятру́шын, Петрушэ́нка, Петрушэ́ня, Пятру́шка, Пятру́шкін, Петрушке́віч, Пятру́шчык, Пе́трусь, Петрусёў, Петрусе́віч, Петрусе́нка, Пятру́цый, Пятко́, Пятко́ў, Пятке́віч, Пе́тчанка, Пятку́н, Пе́цька, Пяцько́, Пяцько́ў, Пяце́лін, Пяцю́ль, Пецюке́віч, Пецяко́ў, Пяцэ́віч, Петражы́цкі, Петрако́ўскі, Петрашэўскі, Пятроўскі, па якіх можна рэканструяваць 32 формы і варыянты форм імені *Петр: Петр, Петрык, Петрачок, Петраш, Пятраш, Пятраша, Пятрашка, Пятрэшка, Пятран, Пет-*

*ралай, Петрасюк, Пятрышча, Пятрынчык, Пятрук, Петручук, Пятруня, Пятруцік, Пятручык, Пятруша, Пятрушка, Пятрушчык, Петрусь, Пятруцый, Пятко, Пяткун, Пецька, Пяцько, ?Пецяль, Пяцюль, Пяцюк, Пяцяк, Пець.* Поўнай формай імені ў Беларусі была традыцыйна-царкоўная форма *Петр* і ўсходнеславянская з канцавым [о] — *Петро.* Руск. *Петр* (СВІЛ), укр. *Петро* (СВІЛ), *Петро, Петрик, Петрунь, Петруньо, Петрусь, Петрусик, Петрусичок, Петрухно* (Грынч.).

ПИМЕН Зарэгістравана ў XVIII ст. 2 разы ў форме *Пиман: Пиман Крейдзик* 1746 Маг., ИЮМ XXX 273, *Пиман Малажавец* там жа, 310. СБП: Піменаў, Піманаў, Пімашэ́нка, Пімашкóў, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Пимен: Пімен, Піман, Пімаш, Пімашок.* Руск. *Пимен* (СВІЛ), *Пимин* (Мілейк., 392), укр. *Пимон, Пимін* (СВІЛ).

ПЛАТОН Зарэгістравана ў XVIII ст. 1 раз: *Платон Булка* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42. СБП: Платóнаў, Платане́нка, Плáтаў, Платýн, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Платон: Платон, Плат, Платун.* Руск., укр. *Платон* (СВІЛ).

[ПОЛИЕВКТ] СБП: Палуэ́ктаў з *Палуэ́кт* — адной з форм імені *Полиевкт.* Першая частка імені *Поли-* афармілася (пры ўдзеле народнай этымалогіі) у *Полу-,* а ў другой частцы ў выніку спрашчэння групы зычных [вкт] знік зычны [в]. Руск. *Полиевкт* (СВІЛ), *Полуехт, Полуект* (Мілейк., 392), укр. *Поліевкт* (СВІЛ).

ПОЛИЕН Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 5 разоў у форме *Полуян: Полуян Хрщонович* 1528 Навагр. з-к, У. 33, *Полуян Олехнович* 1567 Ваўк. п., П. 866, *Полуян Раевич* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 250, *Полуяна Андросова* 1680 Маг., ИЮМ I 88. СБП: Палуя́н, Палуянóвіч, Палуя́нка, Палуя́нчык, Пале́віч, Пале́й, Пале́енка, Паліне́нка, Палуя́нскі, Пале́ўскі, Палі́нскі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Полиен: Палуян, Палуянка, Палуянчык, ?Пол, Палей, Палін.* Як і ў імені *Полиевкт* (гл. вышэй), першая частка імені *Поли-ен,* відаць, пад уздзеяннем народнай этымалогіі змянілася ў *Полу-,* адкуль *Полуян.* Руск. *Полиен* (СВІЛ), укр. *Поліен* (СВІЛ).

ПОЛИКАРП Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў варыянтах *Поликарп* (1), *Поликарт* (1): *Поликарп* 1528 б. Гр., У. 93; *Поликарт Михайлович Костюкович* 1567 Гр. п., П.

697. СБП: Палі́карпаў, Палікарпо́віч, Палі́каранка, Палікарэ́нка, Палука́раў, Палі́кша, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Поликарп: Палікарп, Палікар, Палукар, Палікша.* На тэрыторыі Беларусі ў якасці поўнай формы ўжываліся традыцыйнацаркоўная форма *Поликарп* і ўзнікшыя на ўсходнеславянскай глебе рэканструяваныя па СБП *Палікар* у выніку спрашчэння канцавой групы зычных і *Полукар* у выніку дээтымалагізацыі (параўн. *Полиевкт, Полиен*). Руск. *Поликарп* (СВІЛ), укр. *Полікарп* (СВІЛ).

ПОРФИРИЙ Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў варыянтах *Парфирий* (1), *Панфир* (1): *Парфирья Ивановича Шацкого* 1578 пісар Маг., ИЮМ XXXII 238; у *Панфира Бахомовича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 171. СБП не зарэгістраваны.

ПРОКОПИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 34 разы ў форме *Прокоп:* у Попісе 1567 г. *Прокоп Биютовтович* Навагр. п., 822, *Прокоп Менич* Гр. п., 691, *Прокоп Силич* Бр. п., 1195, *Прокоп Томкович* Лід. п., 761, *Прокоп Антонович* 1552 Пін., ПкнПКл. 9, *Прокоп Левонович* 1592 Маг., ИЮМ VIII 198, *Прокоп Иванович Дроня* 1593 Віц., ИЮМ I 327, *Прокоп Спица* 1635 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 221, *Прокоп Шиш* 1642 с. Пол. в., ИЮМ XXII 316, *Прокоп Мамон* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 90, *Прокоп Васкович* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Прокоп Бурачонок* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Пракоп Шаравый* 1746 Маг., ИЮМ XXX 295, *Пракоп Хресцель* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 170; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 8 разоў, у Літве і Жмудзі — 4. Эмацыянальнаацэначная форма *Прокопец* (1): *а у Васюка сыны тры — Федорец, Прокопец а Янук* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 351. СБП: Прако́пеў, Прако́паў, Пракапо́віч, Прако́пенка, Пракапе́нка, Пракапе́ня, Пракапе́ц, Прако́пік, Прако́пчык, Прако́пчыкаў, Пракапю́к, Пракапчу́к, Пракапі́шак, Пракапы́шка, Прако́шын, Прако́ф'еў, па якіх можна рэканструяваць 11 форм і варыянтаў форм імені *Прокопий: Пракопій, Пракоп, Пракапец, Пракопік, Пракопчык, Пракапюк, Пракапчук, Пракапішак, Пракапышка, Пракоша, Пракофій.* На тэрыторыі Беларусі ў функцыі поўнага імені ўжывалася ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий]—*Прокоп,* але, па сведчанню СБП, выкарыстоўвалася і царкоўнаславянская форма *Пракопій* і яе варыянт *Пракофій.* Руск. *Прокофий, Прокопий* (СВІЛ), укр. *Прокопій, Прокіп* (СВІЛ).

ПРОТАСИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 7 разоў у форме *Протас: Протас Бузанович* 1528 Навагр. з-к, Ў. 37; у Попісе 1567 г. *Протаса Дьяковича* Мін. п., 1222, *Протас Лемеш* Пін. п., 1206; *Протас Радкович* 1638 Маг., ИЮМ IX 333, *Протас Гуменникович* 1642 с. Пол. в., ИЮМ XXII 316. СБП: Прата́с, Про́тас, Прата́саў, Пратасе́віч, Пратасэ́віч, Пратасе́нка, Пратасе́ня, Пратасю́к, Про́ткін, Про́тчанка, Про́цька, Про́цка, Працко́, Працке́віч, Про́цык, Про́цыкаў, Працу́к, Працэ́нка, Пратасавіцкі, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Протасий: Пратас, Протас, Пратасюк, Протка, Процька, Процка, Працко, Процык, Працук, Проц.* Поўнай формай імені ў Беларусі была ўсходнеславянская форма без канцавога [-ий]—*Протас*. Як сведчаць СБП, існавалі 2 варыянты, якія адрозніваліся месцам націску,— *Прата́с, Про́тас.* Руск. *Протасий* (СВІЛ), укр. *Протасій, Протас,* размоўн. *Протазь* (СВІЛ).

ПРОХОР Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 6 разоў: *Прохор Богданович Михайловича* 1567 Ваўк п., П. 866, *Прохор Щотко* 1684 Маг., ИЮМ II 191, *Прохор Сербай* 1691 Маг., ИЮМ VIII 170, *Прохор Смоликов* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Прахор Тарачок* 1746 Маг., ИЮМ XXX 274, *Прохор Литовка* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 429. Эмацыянальнаацэначная форма *Прошка* (1): *Прошка Рафеевич* 1684 Маг., ИЮМ II 184. СБП: Про́хар, Про́хараў, Прахаро́віч, Прахарэ́віч, Прахарэ́нка, Прахарэ́ня, Про́шка, Про́шкін, Прашко́віч, Про́шчанка, Про́харчык, Про́харчаў, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Прохор: Прохар, Прошка, Прохарчык.* Руск., укр. *Прохор* (СВІЛ).

[ПУД] СБП: Пу́даў, Пудаке́віч, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Пуд: Пуд, Пудак.* Руск., укр. *Пуд* (СВІЛ).

[ПУЛЛИЙ] СБП: Пулко́, Пулья́наў, Пульяно́віч, Пуля́к, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Пуллий: Пулко, ?Пульян, Пуляк.*

[ПУПЛИЙ] СБП: Пуп, Пу́па, Пу́пін, ?Пупа́ч, Пупе́йка, Пу́пель, Пу́плікаў, Пу́пка, Пупко́, Пупко́ў, Пупке́віч, Пупі́нскі, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Пуплий: Пуп, Пупа, Пупейка, Пупель, Пуплік, Пупка, Пупко.*

РАФАИЛ правасл., РАФАЛ каталіцк., польск. *Rafał.* У Польшчы вядома з XII ст. (Быстр. Кн., 303). Зарэгі-

страваня ў XVI ст. (толькі ў Попісе) 6 разоў у варыянтах *Рафал* (4), *Рахвал* (2). *Рафал: Рафал Михайлович Жук* Бр. п., 1200, *детей Рафала Кости* там жа, 446, *Рафал Чубинский* Рад. хар., 785, *Рафал Яцкевич Заневич* Гр. л., 707; на Падляшшы —54, у Літве —2. *Рахвал: Рахвал Сахарович* Ваўк. п., 864, *Рахвал Янович Михновича* там жа, 861; на Падляшшы —2. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Рафаль* (6), *Рафалик* (1) — на Падляшшы. СБП: Рафало́віч, ?Рафае́нка, Рахвальчу́к, Рафа́льскі, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Рафаил: Рафал, ?Рафай, Рахвальчук.* Па сведчанню помнікаў і СБП, у Беларусі як поўнае імя звычайна ўжывалася польская форма *Рафал.* Рэканструяваная па СБП форма *Рафай* з'явілася, відаць, з традыцыйнацаркоўнай *Рафаил* у выніку знікнення канцавога [л] і спрашчэння групы галосных [аи] у [ай]. Для традыцыйнацаркоўных імён такога тыпу (з канцавым [-ил]) на ўсходнеславянскай глебе звычайна ўзнікае форма з канцавым [-ло], [-ла], гл. *Гавриил,* стар. 48. Руск. *Рафаил* (СВІЛ), укр. *Рафаїл* (СВІЛ).

[РИММА] СБП: Рымо́віч, Рыме́нка, Ры́мка, Рымке́віч, Ры́мша, ?Ры́мжа, ?Рымдзёнак, Рымашэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 5 форм імені *Римма: Рыма, Рымка, Рымша, ?Рымжа, ?Рымда.*

РОДИОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 8 разоў у варыянтах *Радион* (2), *Родивон* (6). *Радион: Радиона Потемкина* 1683 Маг., ИЮМ II 7, *Радион Хорошавка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 196. *Родивон:* ва Ухвале 1528 г. *Родивон* б. Гр., 92, *Родивон Волчкевич* Навагр. з-к, 36, *Радивон Погот* Віц. з-ля, 197, *Радивон Рогайлович* б. Мсцісл., 199. Эмацыянальнаацэначныя формы *Родко* (1), *Радко* (1): ва Ухвале 1528 г. *Родко Друтилевич* б. Рад., 82, *Радко Щолканович* Віц. з-ля, 199. СБП: Радзіён, Радзіёнаў, Радыёнаў, Радзіо́н, Радзіо́наў, Радзіво́н, Радзіво́наў, Радзіво́ненкаў, Радываню́к, Радзіво́нчык, Радзь, Ра́дзік, Ра́дзька, Радзько́, Радзько́ў, Ро́дзін, Радзе́віч, Ро́дзіч, Радзіне́віч, Ро́дзік, Ро́дзька, Ро́дзькін, Радзю́к, Радзюке́віч, Радзе́йка, Радзю́н, Ра́дзюш, Радке́віч, Радко́віч, Ро́дкавіч, Ра́дчанка, Радчэ́ня, Радчу́к, Ра́даў, Радэ́нка, Радцэ́віч, Раду́та, Радзя́нка, Радкаве́ц, Радко́вец, Радзе́ўскі, Радзе́цкі, Радзіе́ўскі, Радзішэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 22 формы і варыянты форм імені *Радион: Радзіён, Радыён, Радзіон, Радзівон, Радзівончык,*

*Радыванюк, Радзь, Радзік, Радзька, Радзько, Родзя, Родзік, Родзька, Радзюк, Радзейка, Радзюн, Радзюш, Радко, Радчук, Род, Радзец, Радута.* У Беларусі ўжываліся 4 варыянты поўнай формы — *Радион, Радивон, Радзiён, Радыён,* звязаныя з фанетычным асваеннем імені. Руск. *Родион* (СВІЛ), укр. *Радіон, Радивон* (СВІЛ), *Радивон, Родійон, Радько* (Грынч.).

РОМАН Імя, прынятае праваслаўнай і каталіцкай царквой, польск. *Roman.* У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 307). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 65 разоў: ва Ухвале 1528 г. *Васко а Роман Ванковичи* б. Кобр., 192, *Роман Гарасимович* б. Гр., 91, *Роман Миколаевич* б. Слон., 98, *Роман Михайлович* б. Ваўк., 94; у Попісе 1567 г. *Роман Верещака* Бр. п., 1185, *Роман Малеевич* Гр. п., 679, *Роман Митькевич* Навагр. п., 815, *Роман Тенюка* Пін. п., 1209; *князь Роман Санкгушкович* ваявода Брасл., 452; *Роман Свинчич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 216, *Романа Жоровича* 1592 Мін. п., АВК XXXVI 153, *Романа Ревута* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 382, *Роман Окула* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 168, *Роман Перекрывило* 1623 Маг., ИЮМ VIII 396, *Романа Давидовича Воскобойника* 1683 Маг., ИЮМ II 9, *Роман Решетниковский* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190, *Роман Шары* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72, *Роман Можейко* 1730 с. Пол., ИЮМ 335, *Роман Грак* 1746 Маг., ИЮМ XXX 312, *Роман Пятушонок* 1764 Ула, ИЮМ XXII 422, *Роман Януля* 1771 Пол., ИЮМ VI 379, *Роман Микоша* 1774 Віц., ИЮМ XIX 234, *Роман Злебож* 1776 Маг., ИЮМ XVII 164; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 15 разоў, на Падляшшы —3. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Романец* (1), *Ромашко* (2): *Романца Олексеевича Рулевого сына* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 233; *Ромашко Нарушевич* 1528 б. Ваўк., У. 97, *Ромашко Петькович* 1567 Слон. п., П. 846; ва Ухвале і Попісе адзначана: *Ромашко* (6) у Літве і Жмудзі, *Ромейко* (2) у Літве. СБП: Рама́н, Рама́наў, Рамано́віч, Раманéнка, Раманéйка, Раманéц, Раманцэ́віч, Раманíшка, Раманíшкін, Рама́нка, Раманкéвіч, Раманчу́к, Раманько́ў, Раманю́к, Раманя́таў, Раманéтаў, Раманю́га, Раму́к, Ра́мейка, Раму́сік, Рама́шка, Рама́шчанка, Ра́мша, Ро́ма, Ро́маш, Ро́мыш, Ро́мель, Рамано́ўскі, Рамашэ́ўскі, Рамышэ́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 20 форм і варыянтаў форм імені *Роман: Раман, Раманейка, Раманец, Раманішка, Раманка, Раманчук, Раманёк, Ра-*

*манюк, Раманята, Раманета, Раманюга, Рамук, Рамейка, Рамусік, Рамашка, Рамша, Рома, Ромаш, Ромель.* Руск., укр. *Роман* (СВІЛ), укр. *Романонько, Романочко, Романчик, Ромко, Ромчик* (Грынч.).

САВВА Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 37 разоў у варыянтах *Савва* (8), *Сава* (27), *Саво* (2). *С а в в а: Савва Муха* 1730 с. Пол., ИЮМ II 335. *С а в а:* ва Ухвале 1528 г. *Сава Бернище* Пол. з-ля, 195, *Сава Мишкович* Навагр. з-к, 36, *Сава Пашкович* б. Ваўк., 96; у Попісе 1567 г. *Сава Максимович* Пін. п., 1211; *Сава Орефин* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 181, *Сава Мишынич* 1596 Маг., ИЮМ VIII 227, *Сава Петрович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 161, *Сава Семёха* 1623 Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Сава Акимович* 1636 с. Пол. в., ИЮМ XXII 304, *Савы Лысого* 1691 Маг., ИЮМ VIII 15, *Сава Шохин* 1746 Маг., ИЮМ XXX 277. *С а в о: Саво Лопацин* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Саво Колышин* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 81. Эмацыянальнаацэначная форма *Савка* (10): *Савка Гричышонак* 1630 Маг., ИЮМ VIII 432, *Савка Пикула* 1684 Маг., ИЮМ II 85, *Савка Тригубов* 1685 Маг., ИЮМ III 151, *Савки Кадучки* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Савце Ткачу* 1698 Маг., ИЮМ XII 14, *Савка Бацевич* 1746 Маг., ИЮМ XXX 297, *Савка Дойлид* там жа, 172. СБП: Са́ва, Са́він, Са́віч, Саве́нка, Савянко́ў, Саве́ля, Са́вік, Саве́йка, Саво́нь, Савано́віч, Сава́нец, Саваню́к, Савано́к, Саванчу́к, Саво́нчык, Савяно́к, Саво́шчык, Саву́шчык, Саву́к, Савуко́ў, Са́ўка, Саўко́, Саўко́ў, Са́ўкін, Саўко́віч, Са́ўчыц, Са́ўчанка, Саўчу́к, Са́ўчык, Са́ўчыкаў, Савані́ўскі, Савашы́нскі, Савіцкі, па якіх можна рэканструяваць 18 форм і варыянтаў форм імені *Савва: Сава, Савік, Савейка, Савонь, Савон, Саванец, Саванюк, Саванок, Саванчук, Савончык, Савянок, Савошчык, Савушчык, Савук, Саўка, Саўко, Саўчук, Саўчык.* Руск. *Савва* (СВІЛ), *Сава* (Мілейк., 392), укр. *Сава,* размоўн. *Савка* (СВІЛ), *Савочка* (Грынч.).

[САВВАТИЙ] СБП: Са́ут, Саў́тыч, Са́вуць, Са́уць, Саво́йтан, па якіх можна рэканструяваць 4 варыянты імені *Савватий: Саут, Савуць, Сауць, Савойтан.* Не выключана, што такія формы маглі ўтварыцца і ад *Савва, Савин,* а ад усечанай асновы *Сав-ватий* маглі ўзнікнуць тыя ж формы, што і ад *Савва* (гл. вышэй).

САВЕЛ Зарэгістравана ў XVIII ст. 1 раз: *Савелий Капуста* 1746 Маг., ИЮМ XXX 190. СБП: Саве́ль-

еў, Саво́лін, Савіло́віч, Саву́лаў, Саву́лькін, Саву́льчык, Саўль, Саўле́віч, Са́ўліч, Саўлу́к, Саўлуко́ў, Саўльскі, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Савел: Савелій, Савол, Савіл, Савул, Савулька, Савульчык, Сауль, Саўлук.* У якасці поўнага імені ўжываліся *Савол, Савіл, Савул, Сауль* і форма, утвораная па ўзору царкоўнаславянскіх форм на [-ий] — *Савелий.* Руск. *Савелий, Савел* (СВІЛ), укр. *Савел, Савелий* (СВІЛ).

[САВИН] СБП: Са́він, Са́вінаў, Са́вінка, Са́вінкін, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Савин: Савін, Савінка.*

[САДОК] СБП: Садо́віч, Са́дзік, Садко́, Садке́віч, Садко́віч, Са́дчанка, Садо́ха, Садо́шанка, Садо́нік, Садо́нікаў, Садко́ўскі, Садо́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 5 форм і варыянтаў форм імені *Садок: Сад, Садзік, Садко, Садоха, Садонік.*

[САКЕРДОН] СБП: Сак, Са́каў, Сако́віч, Саке́віч, Сакаве́ц, Сакурэ́нка, Сакурэ́ц, Саку́та, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Сакердон: Сак, Сакура, Сакурэц, Сакута.* Форма *Сак* магчыма таксама ад *Исаакий.*

[САЛАМОН], [СОЛОМОН] СБП: Саламо́наў, Саламо́нік, ?Саламы́кін, Сальмано́віч, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Саламон: Саламон, Саламонік, ?Саламыка, Сальман.*

[САМОН] СБП: Само́наў, Симане́нка, Саманко́ў, Саманчу́к, Само́нчык, па якіх можна рэканструяваць 4 формы і варыянты форм імені *Самон: Самон, Саманок, Саманчук, Самончык.*

САМПСОН Зарэгістравана ў XVI—XVII стст. 3 разы ў форме *Самсон: Самсон Цветин* 1528 Пол. з-ля, У. 195; *Самсон Опанасович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 94, *Самсон Малюхов* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 86; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 4 разы, у Літве — 1, на Падляшшы яшчэ адзначана *Самсун* (1). СБП: Самсо́наў, Самсано́віч, Самсо́нік, Самсо́нчык, Само́сенка, Само́цік, ?Самсты́ка, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Сампсон: Самсон, Самсонік, Самсончык, Самос, Самоцік, Самстыка.* Поўная форма *Самсон,* якая ўжывалася ў Беларусі, перажыла спрашчэнне групы зычных [мпс]. Руск., укр. *Самсон* (СВІЛ).

САМУИЛ правасл., САМУЕЛЬ каталіцк., польск.

*Samuel*. У Польшчы вядома з XVI ст. (Быстр. Кн., 312—313). Зарэгістравана ў XVII ст. 10 разоў у варыянтах *Самуил* (1), *Самуйла* (3), *Самуель* (6). *Самуил: Самуилу Збродневичу*, ён жа *Самуйло Збродневич* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 189. *Самуйла: Самуйло Андреевич* 1552 св. Пін., ПкнПКл. 12, *Самуйлы Сидоровича Гука* 1683 Маг., ИЮМ II 4. *Самуель: Самуель Щыкгельский* 1647 Маг., ИЮМ X 217, *Самуель Мицевич* 1652 Пол., ИЮМ V 253, *Самуеля Ивановича Рахусы* 1698 Маг., ИЮМ XII 3, *Самуель Курачка* 1746 Маг., ИЮМ XXX 174. СБП: Самуілаў, Саму́йла, Саму́йле́нка, Самуйлёнак, Самуло́віч, Само́йла, Само́йлаў, Самайло́віч, Само́йленка, Самайлю́к, Сама́ль, Самалю́к, Само́йлік, Саму́ль, Самуле́кін, Самусёў, Самусе́віч, Самусе́нка, Самусёнак, Самусік, Самута, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Самуил: Самуіл, Самуйла, Самула, Самойла, Самайлюк, Самаль, Самалюк, Самойлік, Самуль, Самулека, Самусь, Самусік, Самута*. У якасці поўнай формы імені ў Беларусі ўжываліся традыцыйна-царкоўная форма *Самуил*, усходнеславянская форма *Самуйла*, якая ўзнікла ў выніку спрашчэння групы галосных [уи] і ўстаранення канцавога закрытага склада шляхам далучэння галоснага гука (гл. стар. 48), 2 варыянты гэтай формы — *Самула, Самойла* і польская форма *Самуель*. Руск. *Самуил* (СВІЛ, Мілейк., 392), *Самуйло* (Мілейк., 392), укр. *Самійло* (СВІЛ), *Самійло, Самусь* (Грынч.).

САСОНИЙ Зарэгістравана ў XVI ст. 15 разоў у форме *Сасин*: у Попісе 1567 г. *Сасин Андреевич Беликович* Навагр. п., 816, *Сасин Колбович Иванович* Пін. п., 1213, *Сасин Тюрлевич* Ашм. п., 568, *Сасин Овдеевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 175, *Сасин Захаринич* 1578 пратапоп Маг., ИЮМ VII 288; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 2 разы, на Падляшшы — 1.

СЕВАСТИАН правасл., СЕБАСТИАН каталіцк., польск. *Sebastian*. У Польшчы вядома з XVI ст., ужывалася часта (Быстр. Кн., 314—315). Зарэгістравана 35 разоў у варыянтах *Севастиян* (1), *Савостиян* (1), *Савостиан* (1), *Савосцян* (1), *Савостей* (3), *Савоста* (2), *Себестьян* (2), *Себестыян* (3), *Сабестиян* (1), *Собестьян* (8), *Собестыян* (1), *Собестын* (1), *Собостиян* (1), *Собостьян* (8), *Собосьян* (1). *Севастиян: Севастияна Харкевича Смоляка* 1682 Пол., ИЮМ VI 265. *Савос-*

*т и я н: Савостиян Полуянович* 1528 б. Ваўк., У. 96. *С а в о с т и а н: Савостиан Пац* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 43, ён жа *Савосцян Пац* там жа, 46. *С а в о с т е й: Савосцей Осипович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 171, *Савастей Бояркович* 1730 с. Пол., ИЮМ II 349. *С а в о с т а: сына своего Совосту* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 52, *Савоста Пивовар* 1710 Маг., ИЮМ XI 301. *С е б е с т ь я н:* у Попісе 1567 г. *Себестьян Гринькович* Ашм. п., 575, *Себестьян Парфенович* Вас. хар., 772; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 8 разоў, у Літве і Жмудзі — 10. *С е б е с т ы я н: Себестыян Войтехович* 1528 Ашм. дв., У. 24, *Себестыян Беняковский* 1567 Навагр. п., П. 831, *Себестыян Песлека* 1582 Мін., АВК XXXVI 134, ён жа *Собестьян Песляк* там жа, 135; на Падляшшы — 115, у Літве — 2. *С а б е с т и я н: Сабестиян Михайлович* 1528 Ашм. дв., У. 22. *С о б е с т ь я н:* у Попісе 1567 г. *Собестьян Богушевич* Навагр. п., 825, *Собестьян Зенкович* Вас. хар., 774; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 10 разоў. *С о б е с т ы я н: Собестыян Лойко* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 156; у Попісе адзначана ў Літве і Жмудзі 4 разы, на Падляшшы—1. *С о б е с т ы н: Собестын Кривопиша* 1567 Лід. п., П. 762. *С о б о с т и я н: Собостиян Миколаевич Толочко* 1567 Гр. п., П. 676. *С о б о с т ь я н: Собостьян Забела* Ваўк. п., 868, *Собостьян Миколаевич Леньковича* Ашм. п., 578—579, *Собостьян Щастнович* Лід. п., 766, *Собостьян Янович Хрищонович* Ашм. п., 576. *С о б о с ь я н: Собосьян Войтехнович Зубрицкий* 1567 Ашм. п., П. 686. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Совостьян* (1), *Себастыян* (1), *Себостьян* (5), *Собестиян* (4) — у Літве і Жмудзі, *Себостиян* — у Літве 3 разы, на Падляшшы — 1, *Собостыян* (6), *Собестын* (1), *Себестиан* (1) — на Падляшшы. Эмацыянальнаацэначныя формы: *Совош* (1), *Собех* (1), *Собко* (1), *Совостеец* (1). *С о в о ш: Совош Панцевич* 1567 Гр. п., П. 687. *С о б е х: Собех Томкович* 1567 Бр. п., П. 1191; на Падляшшы — 11. *С о б к о: Собко Юркевич Недбаловича* 1567 Ваўк. п., П. 857. У Попісе адзначана *Собих* (1) на Падляшшы. СБП: Севасцья́н, Севасцья́наў, Севасцья́нчык, Севасціянчу́к, Севасцяно́віч, Севасця́нчык, Севасце́й, Севасце́нка, Се́ўка, Савасце́й, Савасце́еў, Савасце́енка, Савасціёнак, Савасцья́наў, Савасця́н, Савасцю́к, Сава́стаў, Саво́стаў, Саво́сцін, Савасце́нка, Саво́сцік, Саво́сцікаў, Саво́сь, Саво́сь-

ка, Саво́сік, Савасціцкі, па якіх можна рэканструяваць 19 форм імені *Севастиан: Севасцьян, Севасцьянчык, Севасціянка, Севасціянчук, Севасцян, Севасцянчык, Севасцей, Севаста, Сеўка, Савасцей, Савасцьян, Савасцян, Савасцюк, Саваста, Савоста, Савосцік, Савось, Савоська, Савосік.* На тэрыторыі Беларусі ў якасці поўнага імені ўжываліся варыянты царкоўнаславянскай формы *Севастиян, Савостиян, Савостиан, Савосцян,* дзве ўсходнеславянскія формы — формы з канцавым [-ей] — *Савостей,* утвораная пад уплывам усходнеславянскіх форм імён на [-ей], што ўзыходзяць да царкоўнаславянскіх форм з канцавым [-ий], і 2 варыянты формы з канцавым галосным [а], пры дапамозе якога ліквідуецца закрыты склад у канцы слова,—*Савоста, Саваста,* а таксама 9 варыянтаў польскай формы: *Себестьян, Себестыян, Сабестиян, Собестьян, Собестыян, Собестын, Собостиян, Собостьян, Собосьян.* Вялікая колькасць варыянтаў звязана з характарам рэалізацыі галосных у складах перад

*Табліца 1*

| Структура часткі асновы па характару ненаціскных галосных | Характар рэалізацыі групы [иа] у другой частцы асновы | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | [иа]н | [ия]н | [ыя]н | [ʻа]н | [я]н | [ы]н |
| *Севаст* | | + | | | | |
| *Севост* | | | | | | |
| *Саваст* | | | | | | |
| *Савост* | + | + | | + | | |
| *Себест* | | | + | | + | |
| *Собест* | | | + | | + | + |
| *Собост* | | + | | | + | |
| *Сабест* | | + | | | | |
| *Собос* | | | | | + | |

націскам і групы галосных [иа]. Камбінацыя названых асаблівасцей і дае пералічаныя вышэй варыянты (гл. табл. 1).

Руск. *Севастьян, Севастиан* (СВІЛ), укр. *Севастян, Севастіян* (СВІЛ).

[СЕВЕРИН] СБП: Севяры́н, Севярцо́ў, Севярыне́ц, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Северин: Севярын, Севярэц* (магчыма таксама ад імені *Севир*).

[СЕЛИНИЙ] СБП: Селіне́віч, Сяле́нчык, Сяле́віч, Се́ліч, Сяле́ня, Сялю́к, Сялю́н, Сялю́цін, Сяльчо́нак, Сялю́гін, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Селиний: Селін, Сяленчык, Сел, Сялюк, Сялюн, Сялюта, Сялько, Сялюга.*

[СЕРАПИОН] СБП: Серапі́на.

СЕРАФИМ правасл., СЕРАФИН каталіцк., польск. *Serafin.* Зарэгістравана ў XVI ст. (толькі ва Ухвале і Попісе) 8 разоў у варыянтах *Серафин* (1), *Сарафин* (7). *Серафин: Серафин* 1528 б. Вас., У. 87; на Падляшшы — 14, у Літве — 6. *Сарафин:* ва Ухвале 1528 г. *Сарафин Михайлович* Лід. дв., 32; у Попісе 1567 г. *Сарафин Лавринович Козич* Лід. п., 779, *Сарафин Мартинович Ясколд* Ваўк. п., 866, *Сарафин Матеевич* Гр. п., 704, *Сарафин Митькович* Ашм. п., 593, *Сарафина* Пін. п., 1207; на Падляшшы — 77, у Літве і Жмудзі — 10. СБП: Серафімо́віч, Серафі́мка, па якіх можна рэканструяваць 2 формы імені *Серафим: Серафім, Серафімка.* Руск., укр. *Серафим* (СВІЛ).

СЕРГИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 14 разоў у форме *Сергей: Сергей Чорнышевич* 1567 Слон. п., П. 849, *Сергей Боров* 1578 Шкл. вол., ИЮМ XXII 120, *Сергей* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 174, *Сергей Зрячий* 1617 Маг., ИЮМ VIII 345, *Сергей Латышов* 1670 Віц. п., ИЮМ XXI 82, *Сергей Илинич Соловей* 1683 Маг., ИЮМ II 5, *Сергей Кузьминич* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 24. СБП: Сярге́й, Сярге́еў, Сергіе́віч, Сергіе́нка, Сергяе́нка, Сергае́нка, Сярге́енка, Сергіе́ня, Сярге́йчык, Сяргу́н, Сяргу́нчык, Сяргу́ткін, Сяргу́шка, Сергяйчу́к, Се́ргель, Сергачо́ў, Сергіе́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 9 форм і варыянтаў форм імені *Сергей: Сяргей, Сяргейчык, Сяргун, Сяргунчык, Сяргутка, Сяргушка, Сергяйчук, Сергель, Сяргач.* У Беларусі ўжывалася толькі ўсходнеславянская форма з канцавым [-ей]—*Сергей.* Руск. *Сергей* (СВІЛ), укр. *Сергій* (СВІЛ), *Сергійко* (Грынч.).

[СИГИЗМУНД] СБП: Зыгманто́віч, па якім можна рэканструяваць адзін з варыянтаў імені *Сигизмунд* — *Зыгмант* (гл. стар. 77).

[СИГИЦ] СБП: Сі́гаў, Сіго́ў, Сігіне́віч, Сіга́еў, Сі́гель, па якіх можна рэканструяваць 4 формы імені *Сигиц: Сіг, Сігін, Сігай, Сігель.*

СИЛА Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 7 разоў: *Сила Горяин* 1567 Ваўк. п., П. 859, *Сила Таранов* 1593

Маг., ИЮМ VIII 203, *Сила Почуйко* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 158, *Силу Сидоровича* 1656 Маг., ИЮМ X 283, *Сила Булан* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 42. СБП: Сілін, Сіліч, Сілік, Сількó, Сільчанка, Сільчóнак, Сілкó, Сілкóў, Сілкаў, Сілкін, Сілкóвіч, Сілáеў, Сілю́к, Сілюкóў, Сілéцкі, Сіліцкі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Сила: Сіла, Сілік, Сілько, Сілко, Сілай, Сілюк.*

СИЛВАН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 13 разоў у варыянтах *Селивон* (11), *Силивон* (2). *Селивон: Селивон Оленич* Гр. п., 701, *Селивон Павлович* Вас. хар., 780; *Селивон Васкович Праля* 1578 Мсцісл., ИЮМ XXXII 86, *Селивон Мордасович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 175, *Селивон Василевич* 1654 Маг., ИЮМ X 273, *Селивон Удавка* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 61. *Силивон: Силивон Павлов Шаповал* 1746 Маг., ИЮМ XXX 287. СБП: Сільванóвіч, Селівáнаў, Селівáненка, Селівóн, Селівóнчык, Селівáшка, Селявáнаў, Селявóнік, Селявóнчык, Салівóнчык, Сіліванькóў, Сіліваню́к, Сілівóнец, Сілівóнчык, Сільванёнак, ?Селіфóнтаў, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Силван: Сілван, Селіван, Селівон, Селівончык, Селівашка, Селяван, Селявонік, Селявончык, Салівончык, Сіліванька, Сіліванюк, Сілівонец, Сілівончык.* Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, у Беларусі ў якасці поўнай формы ўжываліся традыцыйна-царкоўная форма *Сільван,* рэканструяваная па СБП, і 3 варыянты з устаўным [и] ў групе зычных [лв] — *Селивон, Силиван, Селіван.* Руск., укр. *Силван, Сильван, Силуян* (СВІЛ).

СИЛЬВЕСТР Зарэгістравана ў XVI ст. (толькі ва Ухвале і Попісе) 1 раз у форме *Селивестр: Селивестр Иванович* 1567 Ашм. п., П. 575; за межамі Беларусі адзначана: *Сильвестер* (1) — у Літве. *Селвестрос* (1) — у Жмудзі. СБП: Сільвéстраў, ?Селівéрстаў, Сельвясю́к, па якіх можна рэканструяваць 3 формы і варыянты форм імені *Сильвестр: Сільвестр, Селіверст, Сельвясюк.* У Беларусі ўжываліся 3 варыянты поўнай традыцыйна-царкоўнай формы — *Сільвестр, Селивестр, Селіверст.* Відаць, у якасці поўнай формы ўжывалася і форма, што ўзнікла ў выніку спрашчэння канцавой групы зычных [стр], — *Сальвесь,* форма вядома ў цэнтральнай частцы Беларусі. Руск. *Сильвестр* (СВІЛ), укр. *Сильвестр* (СВІЛ), *Сильвест, Селивестр* (Грынч.).

[СИМ] СБП: Сіма́к, Сіма́ка, Сімако́ў, Сімако́віч, Сіма́га, Сіма́гін, Сіма́шка, Сімашке́віч, Сімко́ў, Сі́мчанка, Сімчанко́ў, Сімчо́нак, Сіму́к, Сімуко́ў, Сіму́раў, па якіх можна рэканструяваць 7 форм і варыянтаў форм імені *Сим: Сімак, Сімака, Сімага, Сімашка, Сімко, Сімук, Сімур.* Усе пералічаныя прозвішчы і рэканструяваныя па іх формы імені маглі ўтварыцца і ад усечанай асновы імені *Симон.*

СИМЕОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 205 разоў у форме *Семен:* ва Ухвале 1528 г. *Семен Барда* б. Мсцісл., 198, *Семен Богданович* Навагр. з-к, 33, *Семен Володкевич* Ашм. дв., 25, *Семен Глебович Корсак* Пол. з-ля, 193, *Семен Григоръевич* б. Ваўк., 94, *Семен Ескович* б. Кобр., 192, *Семен Иванович* Навагр. з-к, 33, *Семен а Максим Лозичи* Пін., 189, *Семен Сергеевич* Віц. з-ля, 197, *Семен Толстой* б. Гр., 90; у Попісе 1567 г. *Семен Акушкович* Ашм. п., 568, *Семен Алексеевич Глушанин* Навагр. п., 839, *Семен Андреевич Головка* Пін. п., 1206, *Семен Василевич* Слон. п., 843, *Семен Васюкович* Рэч. п., 1234, *Семен Волк* Ваўк. п., 866, *Семен Стефанович Кравцевич* Навагр. п., 828; *Семен Докторович* Мін. п., 1230, *Семен Орда* Пін. п., 1208, *Семен Останевич* Брасл. п., 636; *Семен Богданович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 260, *Семен Гавли* 1578 з Мсцісл., ИЮМ XXXII 19, *Семен Хлуден* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 368, *Семена Бизюка* 1590 Маг., ИЮМ VII 490, *Семен Семенович Савлук* 1593 Віц., ИЮМ I 323, *Семен Кохонович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 167, *Семен Шыш* 1623 Віц. в., ИЮМ XXI 77, *Семен Скарбота* 1641 Маг., ИЮМ IX 412, *Семен Жук* 1646 Арш. п., ИЮМ XXIV 366, *Семен Кушелев* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 88, *Семена Заики* 1679 Маг., ИЮМ I 8, *Семена Хомича Сницера* 1685 Маг., ИЮМ III 18, *Семену Костиничу* 1695 Маг., ИЮМ X 54, *Семен Косы Ядронёнок* 1704 Чач., ИЮМ XXVIII 13, *Семен Клиш* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 191, *Семен Пронкевич* 1726 там жа, 66, *Семен Литвинович* 1730 с. Пол., ИЮМ II 343, *Семен Стефанович* 1746 Маг., ИЮМ XXX 227, *Семен Казека* 1758 Маг., ИЮМ XVI 220, *Семен Бируля* 1764 Віц. в., ИЮМ XIX 157, *Семен Синельник* 1764 Ула, ИЮМ XXII 424; ва Ухвале і Попісе адзначана ў Літве 21 раз, на Падляшшы — 3. Эмацыянальна-ацэначныя формы: *Сёмка* (21), *Семенко* (1), *Семашко* (8), *Сень* (1), *Сенко, Сенка* (14), *Сенько* (37), *Сенчило* (1), *Сенюта* (1). *Сёмка: Сёмка Бут* 1746 Маг., ИЮМ

XXX 275, *Сёмка Вазила* там жа, 212. *Семенко Богданович Шантыр* 1567 Навагр. п., П. 822. *Семашко:* ва Ухвале 1528 г. *Семашко* б. Рад., 81, *Семашко Малышевич* б. Мсцісл., 198; *Семашко Всячный* 1567 Гр. п., П. 681, *Семашко Богданович Жылковский* 1582 з. Мін. п., АВК XXXVI 221; у Літве — 4. *Сень: Сень Микулич* 1552 Пін. п., ПкнПКл. 108. *Сенко, Сенка:* у Попісе 1567 г. *Сенко Жданович* Гр. п., 683, *Сенко Иванович Горегляд* Пін. п., 1207, *Сенко Степанович* Бр. п., 1201—1202; *Сенка Шостаковича..,* ён жа *Семен Шестакович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Сенка Мацкович* 1580 Маг., ИЮМ VII 320, *Сенка Сенебрух* 1588 Маг., ИЮМ VII 417, *Сенко Жеглевич* 1594 Маг., ИЮМ VIII 224, *Сенко Степанович* 1610 Маг., ИЮМ VIII 310, *Сенка Галапуза* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Сенка Годковича* 1691 Маг., ИЮМ VIII 17; на Падляшшы — 3, у Жмудзі — 1. *Сенько:* ва Ухвале 1528 г. *Сенько а Яцко а Антон Афанасовичи* Навагр. з-к, 37, *Сенько Васкович* б. Гр., 92, *Сенько Велятицкий* б. Пін., 188, *Сенько Володкович* б. Мсцісл., 198, *Сенько Григоръевич* Пол., з-ля, 194, *Сенько Грицевич* б. Ваўк., 97, *Сенько Дашкович* б. Рад., 80, *Сенько Ивашкович* б. Кобр., 192, *Сенько Милошевич* б. Астр., 88, *Сенько Мишкович* Віц. з-ля, 197, *Сенько Ратомский* Мін. дв., 29, *Сенько Федькович* з. Бр., 100; у Попісе 1567 г. *Сенько Вланович* Навагр. п., 820, *Сенько Глебович* Гр. п., 683, *Сенько Мартинович Гореглядович* Пін. п., 1213; у Літве — 7, на Падляшшы — 4. *Сенчило: Сенчило* 1528 б. Кл., У. 190. *Сенюта: Сенюта* 1528 Астр., У. 88; на Падляшшы — 1. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Сенико* (2), *Сенец* (1) — на Падляшшы. СБП: Сямёнаў, Семянóвіч, Семянéнка, Семянéня, Семіóнька, Сямёнчык, Семянёк, Семянцóў, Семянкóў, Семянкéвіч, Семянчэ́нка, Семянчэ́ня, Семяню́к, Семянчу́к, Семяні́к, Сёмін, Сёмка, Сямкó, Сямкóў, Сёмкін, Сёмкаў, Сёмчанка, Сёмчанкаў, Сямчóнак, Сёмачкін, Сёмчык, Сéмеш, Сямéшка, Сямáшка, Сéмашка, Семашкéвіч, Сімашкéвіч, Семашчу́к, Сямчу́к, Семуцéнка, Сяму́ткін, Сямóцін, Сéменчык, Семаню́к, Сéмачкін, Семурóў, Семяні́да, Семянюга, Семяня́га, Семяня́ка, Сень, Сéнька, Сянькó, Сянькóў, Сянькéвіч, Сінькéвіч, Сяньчэ́ня, Сянкéвіч, Сінкéвіч, Сéнчанка, Сянчэ́ня, Сяньчу́к, Сіньчу́к, Сянчу́к, Сінчу́к, Сяню́к, Сіню́к, Сяню́та, Сіню́та, Сенкавéц, Сінкавéц, Сенканéц, Сінявéц, па якіх можна рэканструяваць 47 форм і варыянтаў форм імені *Симеон:*

*Сямён, Семіонька, Сямёнчык, Семянёк, Семянец, Семянок, Семянюк, Семянчук, Семянік, Сёма, Сёмка, Сямко, Сёмачка, Сёмчык, Семеш, Сямешка, Сямашка, Семашка, Сімашка, Семашчук, Сямчук, Сямута, Сямутка, Сямота, Семенчык, Семанюк, Семачка, Сямур, Семяніда, Семянюга, Семяняга, Семяняка, Сень, Сенька, Сянько, Сінько, Сянко, Сінко, Сенка, Сяньчук, Сіньчук, Сянчук, Сінчук, Сянюк, Сінюк, Сянюта, Сінюта.* У Беларусі ўжывалася ў якасці поўнага імені форма *Семен*, якая ўтварылася ў выніку спрашчэння групы галосных [ео]. Руск. *Семён*, устар. *Симеон* (СВІЛ), укр. *Семен* (СВІЛ), *Семенко, Сень, Сеник, Сенько* (Грынч.).

СИМОН правасл., ШИМОН каталіцк., польск. *Szymon*. У Польшчы вядома з XIV ст. (Быстр. Кн., 326—327). Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 26 разоў у варыянтах *Симон* (6), *Сымон* (7), *Самон* (3), *Шиман, Шимон* (10). *Симон: Симон* 1528 Навагр. з-к, У. 34, *Симон Войшнар* 1567 Ашм. п., П. 581; на Падляшшы — 36, у Літве — 5, у Жмудзі — 5; *Симон Котович* 1593 Віц., ИЮМ I 328, *Симон Карпович Клыга* канец XVI ст. Віц., ИЮМ XX 412, *Симон Миколаевич* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 284, *Симон Климов* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII, 52; ва Ухвале і Попісе адзначана на Падляшшы 36 разоў, у Літве і Жмудзі — 10. *Сымон: Сымон* 1614 Арш. п., ИЮМ XVIII 160, *Сымон Шкляй* 1625 Віц., ИЮМ XXI 418, *Семен Сурганов* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189, *Сымона Герубовича* 1754 Маг., ИЮМ XV 458, ён жа *Шымона Петра Герубовича* там жа, *Сымон Сувор* 1764 Віц., ИЮМ XIX 187. *Самон: Самона Дедовича* 1679 Маг., ИЮМ I 16, *Самона Комисара* 1680 там жа, 83, у *Самона Рыбника* 1681 там жа, 128. *Шиман, Шимон:* ва Ухвале 1528 г. *Шимон з братьею Тумашевичи* б. Гр., 92, *Шымон Петкевич* Ашм. дв., 26; у Попісе 1567 г. *Шимон Грибовский* Гр. п., 677, *Шиман Копиенский* Бр. п., 1191, *Шимон Петрашкевич* Рад. хар., 789; на Падляшшы — 78, у Літве — 10, у Жмудзі — 9. Эмацыянальнаацэначныя формы *Шимко* (45), *Шимук* (1). *Шимко:* ва Ухвале 1528 г. *Шимко Андреевич* Ашм. дв., 23, *Шимко Мартинович* б. Ваўк., 97, *Шимко Вислоух* б. Кобр., 192, *Шимко Петькович* б. Астр., 88, *Шымко Радвилович* б. Рад., 81, *Шымко* б. Вас., 86, *Шимко* б. Гр., 92, *на имя Шимка* б. Бр., 1202; у Попісе 1567 г. *Шимко Андреевич Ейсимонт* Гр. п., 686, *Шимко Люшня* Ашм. п., 583, *Шимко Оксамит*

Рад. хар., 787; *Шымка Лукашевича* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 201; у Літве і Жмудзі — 130, на Падляшшы — 1. *Шимук: Шимук Волкевич* 1590 Мін. п., АВК XXXVI 390. Ва Ухвале і Попісе за межамі Беларусі адзначана: *Шимок* (1) — на Падляшшы, *Шимкус* (1) — у Жмудзі. СБП: Сíман, Сíманаў, Сіманóвіч, Сіманéнка, Сíманчык, Сіманькóў, Сімінюк, Сы́ман, Сыманóвіч, Сы́манчук, Сыманюк, Шы́ман, Шыманóвіч, Шы́мáнчык, Шы́мáніца, Шымакóвіч, Шымкó, Шы́мкавіч, Шымкóвіч, Шымкéвіч, Шымчóнак, Шы́мчык, Шымýк, Шымукóвіч, Шымчýк, Шыманóўскі, Шымáнскі, Шымакóўскі, Шымóўскі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і варыянтаў форм імені *Симон: Сіман, Сіманчык, Сіманёк, Сімінюк, Сыман, Сыманчык, Сыманюк, Шыман, Шыманчык, Шыманіца, Шымак, Шымко, Шымчык, Шымук, Шымчук*. Магчымы таксама ўтварэнні ад усечанай асновы, якая супадае з поўнай формай імені *Сим* (гл. стар. 149). Па сведчанню помнікаў пісьменнасці і СБП, у якасці поўнай формы ў Беларусі ўжываліся традыцыйна-царкоўная *Симон*, усходнеславянская *Сымон, Самон* і польская *Шимон*. Руск., укр. *Симон* (СВІЛ).

[СИОНИЙ] СБП: Сыантóвіч, па якім можна рэканструяваць імя *Сыант*.

СИСОЙ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 4 разы ў варыянтах *Сисой* (1), *Сысой* (3): *Сисой Кузнечонок* 1579 Маг., ИЮМ VII 310; *Сысой Карпович* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 181, *Сысой Лаврович* 1578 там жа, 207, *Сысой Партны* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 59. СБП: Сíсін, Сíськó, Сіськéвіч, Сыс, Сы́са, Сы́саў, Сысóй, Сысóеў, Зызóеў, Сісíцкі, па якіх можна рэканструяваць 6 форм і варыянтаў форм імені *Сисой: Сіса, Сісько, Сыс, Сыса, Сысой, Зызой*. У якасці поўнай формы ўжываліся 2 варыянты традыцыйна-царкоўнай формы — *Сысой, Зызой*, 2 варыянты з канцавым галосным [а] — *Сыса, Сіса*, якія ўзніклі на ўсходнеславянскай глебе, і форма без канцавога [-ой] — *Сыс*. Руск., укр. *Сисой* (СВІЛ).

СОЗОНТ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 23 разы ў варыянтах *Созон* (22), *Созой* (1). *Созон:* у Попісе 1567 г. *Созон Райкевич* Навагр. п., 825, *Созон Семенович* Пін. п., 1214; у ПкнПКл. 1552 г. *Созон Война* м. Пін., 17, *Созон Изакович* м. Клецк., 392, *Созон Хрещикович* м. Пін., 31; *Созона Гридковича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 92, *на Созоне Мишковичу Микуличу* 1582 Мін. п., АВК XXXVI

148, *Сазон Цишкович* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 164, *от Сазона Шубника* 1690 Маг., ИЮМ VII 154, *Сазон Шараман* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 79. *Созой: Созой Сакович* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 32. СБП: Сазóн, Сазóнаў, Сазанóвіч, Сазóненка, Сазанéнка, Сазанёнак, Сазанкóў, Сазóнік, Сазóнка, Сазóнчык, Сóза, Сóзінаў, Сазóннік, Сазанавéц, па якіх можна рэканструяваць 8 форм і варыянтаў форм імені *Созон: Сазон, Сазанок, Сазонік, Сазонка, Сазончык, Соза, Созін, Сазонік.* У Беларусі ўжывалася форма *Созон,* якая з'явілася ў выніку спрашчэння канцавой групы зычных [нт]. Руск. *Созон, Созонт* (СВІЛ), укр. *Созонт, Созон, Сезон* (СВІЛ), *Сизьон, Сизько* (Грынч.).

[СОЛОХОН] СБП: Салóха, Салóхін, Салóшанка, Салóшкін, Салýшка, па якіх можна рэканструяваць 3 формы імені *Солохон: Салоха, Салошка, Салушка.* У якасці поўнай формы, відаць, ужывалася форма *Салоха.* Магчыма, аднак, што ўсе прыведзеныя прозвішчы ўтвораны ад жаночага імені *Салоха,* якое адпавядае царкоўнаславянскаму *Соломония.*

[СОССИЙ] СБП: Сóсік.

САФОНИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 6 разоў у варыянтах *Софон* (1), *Сахон* (4), *Сахом* (1): *Софон Спица* 1593 Віц., ИЮМ I 336; *з сынам Сахоном* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159, *Сахон Плёхин* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 78, *Сахон Заец* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 438, *Сахон Мовля* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 336; *Сахом Чумис* 1746 Маг., ИЮМ XXX 317. СБП: Сафóнаў, Сафóненка, Сафóнкін, Сафóнчык, Сапóн, Сапóнчык, Сахóн, Сахóнаў, Саханéвіч, Саханкóў, Сахóнчык, Саханчýк, Сахвóн, Сахóнь, Сахóнька, Саханькó, Сахнó, Сахнéнка, Сахнюк, Сахнóўскі, па якіх можна рэканструяваць 15 форм і варыянтаў форм імені *Сафония: Сафон, Сафонка, Сафончык, Сапон, Сапончык, Сахон, Саханок, Сахончык, Саханчук, Сахвон, Сахонь, Сахонька, Саханько, Сахно, Сахнюк.* На тэрыторыі Беларусі ў якасці поўнай формы ўжываліся 6 варыянтаў усходнеславянскай формы без канцавога [-ия]—*Сафон, Сапон, Сахон, Сахом, Сахонь, Сахвон,* якія ўзніклі ў выніку неаднолькавай рэалізацыі зычнага [ф] у дыялектах беларускай мовы. Руск. *Софоний* (СВІЛ), укр. *Софон* (СВІЛ).

СОФРОНИЙ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 12 разоў у варыянтах *Софрон* (1), *Сопрон* (10), *Сопрун* (1):

*Софрон Брикун* 1730 с. Пол., ИЮМ II 349; *Сопрон Тубыш* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 170, *Сопрон Шылинич* там жа, 130, *Сопроном Василевичом* 1582 Мін. п., АВК XXXVI 331, *Сопрон Павлович* 1609 Маг., ИЮМ VIII 286, *Сапрон Лапцёнок* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 372, *Сапрон Якутов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 83, *Сапрон Рекун* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 46, ён жа *Сапрун Рекун* там жа, 41. СБП: Сафро́наў, Сафрано́віч, Сафро́ненка, Сафранянко́ў, Суфрано́віч, Сапро́наў, Сапро́ненка, Сапранко́ў, Сапраньқо́ў, Сапраню́к, Сапры́ка, Сапры́каў, Сапры́кін, Супро́н, Супрано́віч, Супру́н, Супруно́ў, Супруно́віч, Супру́нчык, Супрыно́віч, Супрыяно́віч, Су́прыкаў, Сафрано́ўскі, Супрано́ўскі, па якіх можна рэканструяваць 13 форм і варыянтаў форм імені *Софроний: Сафрон, Суфрон, Сапрон, Сапранок, Сапранёк, Сапранюк, Сапрыка, Супрон, Супрун, Супрунчык, Супрын, Супрыян, Супрык.* У якасці поўнай формы ў Беларусі выкарыстоўваліся 8 варыянтаў усходнеславянскай формы без канцавога [-ий] — *Софрон, Суфрон, Сопрон, Сопрун, Супрон, Супрун, Супрын, Супрыян,* якія з'явіліся ў працэсе фанетычнага асваення царкоўнаславянскай формы *Софроний.* Руск. *Софрон, Софроний* (СВІЛ), *Софрон, Сопрон,* размоўн. *Супрун,* (СВІЛ), *Сопрін, Сохрон* (Грынч.).

СПИРИДОН Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 10 разоў у варыянтах *Спиридон* (2), *Свирид* (8): *Спиридона Дегтеревича* 1685 Маг., ИЮМ III 85; *Свирида Поросятника* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 282, *Свирид Парфенович* 1635 Маг., ИЮМ IX 218, *Свирида Шабуни* 1685 Маг., ИЮМ III 8, *Свирида Юхи* 1698 Маг., ИЮМ XII 9, *Свирыд Дыж* 1746 Маг., ИЮМ XXX 271, *Свирид Шлык* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 323. СБП: Спірыдо́н, Спірыдо́наў, Спірыдо́віч, Спірыдзёнак, Свіры́д, Свіры́даў, Свірыдо́віч, Свірыдзе́нка, Свіры́дчык, Сві́рын, Свірэ́йка, Сві́рка, Свірко́, Свірко́ў, Свіркуно́ў, па якіх можна рэканструяваць 10 форм і варыянтаў форм імені *Спиридон: Спірыдон, Спірыд, Свірыд, Свірыда, Свірыдчык, Свір(а), Свірэйка, Свірка, Свірко, Свіркун.* У якасці поўнай формы ў Беларусі, па сведчанню помнікаў пісьменнасці і сучасных беларускіх прозвішчаў, ужываліся: традыцыйна-царкоўная форма *Спиридон* і, відаць, яе варыянт *Свірыдон* (зараз вядома ў Дзяржынскім р-не), 2 варыянты ўсходнеславянскай формы без канцавога [-он] — *Спірыд, Свірід* і ўсходнеславянская форма з канцавым [а] замест канцавога

*гая сирота Олена Олферовна* 1577 Быхаў, ИЮМ XXX 136; у Попісе 1567 г. *Олена Александровая* Ашм. п., 595, *Олена Андреевна Якубовая Бердовская* там жа, 570, *княгиня Олена Шолушанка* Мін. п., 1227, *Олены Манковое* Бр. п., 1199. *Г а л е н а:* у Попісе 1567 г. *Галены Матысовае* Вас. хар., 783, *Галена Криштофовая* Ашм. п., 569.

ИРИНА Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 6 разоў у варыянтах *Арина* (4), *Орина* (2): *А р и н а: Арины Азаровны Хоминое* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 11, *Арина Василиха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 262, *Арина Вербаловичова* там жа, 197, *Арина Микициха Баравичыха* там жа, 239. *О р и н а: Орины Сидоровны* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 68, *Орину Ивашковну Турцовую* 1637 Маг., ИЮМ IX 291—292. Памяншальная форма *Арута* (1): *Аруты Артемовны Кривичанки* 1753 Маг., ИЮМ XV 436.

КСЕНИЯ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 8 разоў у варыянтах *Ксения* (1), *Аксиня* (1), *Оксиня* (5), *Оксинья* (1): *Ксения Ситникова* 1746 Маг., ИЮМ XXX 215; *Аксиня Яковлевая,* яна ж *Оксиня* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 5; *Оксиню Кузминну* 1596 Маг., ИЮМ VIII 232; *Яковую Потребенсковую Булатниковую Оксинью Ескиную Жоровиху,* яна ж *Оксиня* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 215. Памяншальныя формы *Аксюта* (2), *Оксюта* (1): *Аксюта Автущиха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 259, *Аксюта Кужалиха* там жа, 311; *Яцутиная Оксюта* 1567 Гр. п., П. 706.

ЛЮДМИЛА Старажытнае славянскае імя. Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы: *Филиповая Рымковича учтивая Людмила Яцковна* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 56.

МАКРИНА Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Макрыда: была патчерыца моя Макрыда за Илею Аксютичом* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 158.

МАРГАРИТА каталіцк., МАЛГАЖАТА, польск. *Malgorzata.* Зарэгістравана ў XVI ст. 3 разы ў форме *Малкгорета:* у Попісе 1567 г. *Малгорета Процковая Ленская* Ашм. п., 569, *Малгорета Трасковская* Вас. хар., 779.

МАРИАННА Зарэгістравана ў XVIII ст. 1 раз у форме *Марияна: Марияны Чарцихи* 1746 Маг., ИЮМ XXX 277.

МАРИНА Зарэгістравана ў XVI ст. 13 разоў: ва Ухвале 1528 г. *Марина Козловна* б. Ваўк., 95, *Марина Тризниная* там жа, 94, *Щепановая Марина* Ашм. дв., 25; *Василевая Жидкая Марина Василевна* 1577 Маг., ИЮМ

XXXII 190, у Попісе 1567 г. *Марина Брудялчиная* Пін. п., 1206, *Марына Киряновая* Рад. хар., 784, *Марына Павловая Зубовая* там жа, 759, *Марина Яцковая* Навагр. п., 836, *Марину Богушевну Черневскую* Бр. п., 1183, *Борисовая Коптевна Марина* Брасл. п., 634—635, *Глебова Есмановая Марина* Мін. п., 1228, *Ждановая Колонтаевая Марина Тризнянка* Ваўк. п., 855.

МАРИЯ Зарэгістравана ў XVI—XVIII стст. 10 разоў у варыянтах *Мария* (2), *Маря* (5), *Марья, Марья* (3). *Мария: Мария Круцилиха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 240, *Марыя Мялещыха* там жа, 210. *Маря: Маря Громовна* 1528 з. Бр., У. 100, *Охремовая Парфеновича Маря Охремовна* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 40, *Костиную Васковича Марю Сидоровну* там жа, 64. *Марья, Марья: Марья Велятицкая* 1567 Пін. п., П. 1206, *Марья Ивановна* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 223, *Марья Митковая* 1578 там жа, 196. Памяншальныя формы: *Маруся* (3), *Марухна* (1), *Маруня* (1), *Масюта* (6). *Маруся: Маруся Аляксеиха Дзещиха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 255, *Маруся Лучыха* там жа, 214, *Маруся Маскалиха* там жа, 319. *Марухна: яко отец власный Марухны, дочки своее* 1593 Маг., ИЮМ VIII 206, яна ж *отец власный Маруни* там жа, 209. *Масюта: Сестры своей Масюты Игнатовны* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 227, *Масюты Мишутины* 1578 там жа, 107, *Масюту, сестру* свою там жа, 30, *Масюте Канютиной* там жа, 186, *жене его Масюте* там жа, 93, *в дому Масюты Василевое* 1609 Маг., ИЮМ VIII 278.

МАТРОНА, МАТРЕНА Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 3 разы ў форме *Матруна: на мещанку государскую Могилевскую Ждановую Богдановича Матруну Федковну* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 184, *Матруна Луста* 1746 Маг., ИЮМ XXX 257, *Матруна Селянка* там жа, 197.

МИЛОСЛАВА Старажытнае славянскае імя. Зарэгістравана толькі ў памяншальнай форме: *Заранковая Федоровая Милохна* 1567 Бр. п., П. 1197.

МИХАЛИНА Зарэгістравана толькі ў памяншальнай форме: *Минка Фядосова* 1746 Маг., ИЮМ XXX 183.

НАТАЛИЯ, НАТАЛЬЯ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 6 разоў у варыянтах *Наталля* (2), *Наталя* (4). *Наталля: Наталля Балбатуха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 294, *Наталля Катлярыха* там жа, 311. *Наталя: Ивановая Истобчиная Наталя Мартиновая* 1577 Маг., ИЮМ XXX 37, *Натали Екимовны Солениковны* 1577 Маг., ИЮМ

XXXII 194, *Харлаповую Левоновича Кравцовую на ймя Наталю Орефъевну* 1578 там жа, 79.

НЕЛИДА *Нелида Тишковна* 1579 Маг., ИЮМ VII 316.

ПАРАСКЕВА Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Параска: Параски Хотяновны* 1577 Маг., ИЮМ XXX 23, яна ж *Парася Хотяновна* там жа, 22. Памяншальная форма *Парася* (9): *Параси, жоны Еска Доволевича* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 213, *Параси Степановны* там жа, 193, *на Парасю жону Ларка Наумовича* там жа, ИЮМ XXX 23, *Есковая Доволевая Парася Хинковна* там жа, 112, *Парасею Ивановою* 1637 Маг., ИЮМ IX 301, *Парасеи Капылихи* 1746 Маг., ИЮМ XXX 283.

ПЕЛАГЕЯ Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Пологея: Пологея Кулбачиная* 1567 Гр. п., П. 676. Памяншальная форма *Поладя* (3): *Ермолиная Хоминичиная Волковна Полодя Мацковна Голутвина* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 207, *Осиповую Поладю Мининну.., Поладя Мининна* там жа, 179, *на Поладю Семеновую Юшковича* 1582 Маг., ИЮМ VII 328. Параўн. *Аполлинария* (гл. стар. 174—175).

РУЖА каталіцк., польск. *Róża*. Зарэгістравана ў XVI ст. 3 разы: у Попісе 1567 г. *Рожи Стрижанки* Ваўк. п., 863, *учтивая Рожа, жена Янукова* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 185.

СВЕТОСЛАВА Старажытнае славянскае імя. Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў форме *Светохна: Светохна вдова* 1528 б. Ваўк., У. 95, *Светохны Василевское вдовы* 1567 Пін. п. П. 1208.

СОФИЯ правасл., ЗОФИЯ каталіцк., польск. *Zofia*. Зарэгістравана ў XVI ст. 6 разоў у форме *Зофея:* у Попісе 1567 г. *Зофея Павловая* Мін. п., 1230, *Сестру Зофею Ждановую Селивоновую* Астр. хар., 793, *Андреевая Хоружичовая Ейшиская Зофея Яновна Сурвилянка* Лід. п., 756, *Василевая Масалская Зофея Чаплянка* Бр. п., 1193, *Яновая Мневская вдова Зофея Ждановна* Ваўк. п., 862, *Зофею Еленьскою Хлусовичовною* 1647 Маг., ИЮМ X 219. Памяншальная форма *Зохна* (1): *Зохна Любелская* 1528 б. Пін., У. 188.

СТЕФАНИДА Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Степанида: Степанида Ивановна* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 263.

ТАТИАНА Зарэгістравана ў XVI ст. 1 раз у форме *Тацяна: Тацяна Ивановая Куръяновича* 1578 Маг., ИЮМ

XXXII 3. Памяншальныя формы: *Тоця* (2), *Тося* (1): *Тоця Круцихина* 1746 Маг., ИЮМ XXX 312, *Тоцю Трунёву Гниляхичу* 1743 Маг., ИЮМ XIV 372, яна ж *Тося Трунёва Тимофеева Гнилякова* там жа, 367.

ТОМИЛА Старажытнае славянскае імя. Зарэгістравана ў XVI ст. 3 разы: у Попісе 1567 г. *Томила Богдановая Ивонича* Ашм. п., 583, *Томила Олехновая Биевтовая* Навагр. п., 833, *Томилы Тишовны* там жа, 822.

ФЕОДОРА Зарэгістравана ў XVI ст. 2 разы ў варыянтах *Федора, Хадора: Миколаевская Одаховская Федора* 1567 Навагр. п., П. 821; *теща моя Хадора* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 184. Памяншальная форма *Федя* (5): *Федю Борисовую* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 39, яна ж *от Феди Захаринны* там жа, 46, *Феди Романовны* там жа, 231, *з жоною своею Федею* там жа, 222, *от матки своей Феди* там жа, 197, *дочку свою Федю* 1578 там жа, 37.

ФЕОДОСИЯ Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 3 разы ў варыянтах *Хадосся, Ходося, Ходосья: Ходосся Вавчыха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 311, *Ходосю Супроновну* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 80, *Ходосью Андреевну* 1623 Маг., ИЮМ VIII 376.

ЮЛИАНА каталіцк., польск. *Julianna.* Зарэгістравана ў XVI і XVIII стст. 4 разы ў варыянтах *Ульяна* (1), *Улляна* (3): *княгиня Ульяна* 1567 Пін. п., П. 1206; *Улляна Будылиха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 290, *Улляна Дземяниха* там жа, 238, *Улляна Заруцкая* там жа, 319. Памяншальная форма *Улита* (3): *Улиты Прокоповны* 1577 Маг., ИЮМ XXXIII 180, *Улита Семеновна Федоровичовна* 1610 Маг., ИЮМ VIII 295.

ЮСТИНА каталіцк., польск. *Justyna.* Зарэгістравана ў XVI ст. 8 разоў у варыянтах *Устиня, Усциня* (5), *Усциння* (3): *матку его Устиню* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 38, *Устины Андреевны Зверковны* там жа, 89, *Устиня Тимофеевая* 1638 Маг., ИЮМ IX 335, *Усциня Пирожница* 1746 Маг., ИЮМ XXX 257, *Усциння Ламанова* 1746 Маг., ИЮМ XXX 223, *Усциння Шумейчыха* там жа, 283.

ЯДВИГА каталіцк., польск. *Jadwiga.* Зарэгістравана ў XVI ст. 7 разоў: ва Ухвале 1528 г. *Ядвига* б. Вас., 86, *Кавойтевая Ядвига* Ашм. дв., 24; у Попісе 1567 г. *Ядвига Григоръевна* Рад. хар., 785, *Ядвига Юръевая Сутковая* там жа, 752, *Ядвига Яновна* Навагр. п., 835, *Ядвига Яновна Можейковна* Ашм. п., 577, *Собестыяновая Млечковна Ядвига* Лід. п., 755.

## Імёны-мянушкі

У XV—XVIII стст. побач з уласнымі асабовымі імёнамі хрысціянскага календара ўжываліся імёны-мянушкі апелятыўнага паходжання, якія суадносяцца з дахрысціянскімі славянскімі імёнамі. Імёны-мянушкі звычайна выступалі ў спалучэнні з уласнымі асабовымі імёнамі ў якасці другога кампанента двухслоўных ці трэцяга кампанента трохслоўных найменняў: *Иван Верещака* 1528 б. Кобр., У. 191, *Степан Тимофеевич Горбач* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 137. Але неаднаразова яны адзначаны і ў якасці першага кампанента: а) у спалучэнні з уласным асабовым іменем хрысціянскага паходжання: *Сорока Мицюха* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 86, *Жолнер Змитрок* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 203, *Козел Федец* 1528 б. Гр., У. 92, *Кашура Иван* 1642 Пол. в., ИЮМ XXII 317, *Лапа Пятрок* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 189; б) у спалучэнні з другім іменем-мянушкай: *Вербило Горегляд* 1567 Пін. п., П. 1213, *Властный Поставка* 1567 Лід. п., П. 749, *Война Лопот* 1567 Ваўк. п., П. 864, *Ждан Голуб* 1567 Навагр. п., П. 816, *Ждан Жаворонок* 1539 Гр., АВАК XVII 54, *Чопцу Жолнеру* 1710 Маг., ИЮМ XVIII 90, *Маковня Вовка* 1710 Маг., ИЮМ XVIII 15, *Сак Тимош* 1528 б. Гр., У. 92; в) у спалучэнні з іменем па бацьку: *Власный Иванович Черницкий* 1567 Бр. п., П. 1198, *Воин Гричинович* 1528 б. Пін., У. 188, *Воин Некрашевич* 1528 Навагр. з., У. 33, *Воин Сенич* 1528 б. Кл., У. 190, *Война Юръевич* 1528 б. Ваўк., У. 95, *Груша Зомнович* 1528 з. Навагр., У. 36, *Добриня Петрович* 1567 Слон. п., П. 845, *Дума Демьянович* 1567 Рэч. п., П. 1234, *Жук Сенютич* 1567 Бр. ст., АВАК VI 5, *Захмыра Гаврилов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 84, *Заец Швалевич* 1558 Гр., АВК XXI 286, *Серник Полюхович Керык* 1567 Пін. п., П. 1211, *Клочко Черенович* 1528 б. Слон., У. 99,

*Козел Станькович* 1528 б. Ваўк., У. 95, *Копоть Астапович* 1528 б. Слон., У. 98, *Коробка Макович* 1540 Гр., АВАК XVII 223, *Кохон Голынич* 1528 Навагр. з-к, У. 34, *Ламака Васкович* 1528 б. Гр., У. 93, *Малюга Ахремов* 1670 Віц., ИЮМ XXI 82, *Мезин Иванович* 1567 Навагр. п., П. 823, *Некраш Романович* 1528 Навагр. з-к, У. 33, *Нелюб Щербович* 1528 Навагр. з-к, У. 37, *Немойко Пацевич* 1528 б. Рад., У. 81, *Нечай Тишевич* 1567 Гр. п., П. 678, *Рак Колачевич* 1539, АВАК XVII 15, *Сак Васютич* 1567 Гр. п., П. 702.

Імёны-мянушкі ў час іх узнікнення заўсёды маюць пад сабой які-небудзь рэальны факт. Часта яны характарызуюць асобу па знешняму выгляду ці па характару. У такім разе выкарыстоўваецца апелятыўная лексіка, семантыка якой непасрэдна ўказвае на рысу знешняга выгляду ці характару чалавека, што паслужыла повадам для ўзнікнення імені-мянушкі (*Глухі, Гожы, Зявака, Сіпайла* і інш., гл. стар. 194—196).

У іншых выпадках чалавек па такой рысе асацыіруецца з якой-небудзь жывёлінай, птушкай, рыбай ці прадметам, для якіх гэта рыса з'яўляецца вядучай, і тады ўзнікаюць імёны-мянушкі тыпу *Баран, Бобр, Жук, Гусак. Шпак, Рэпа, Качарга* і інш. (гл. стар. 183—194). Прафесія, занятак чалавека, яго роля ў сям'і і грамадстве таксама «пастаўляюць» матэрыял для ўтварэння імён-мянушак (гл. стар. 191—194). Узнікалі імёны-мянушкі і ў сувязі з рознымі падзеямі ў жыцці чалавека. Такім чынам, у імёнах-мянушках шырока адлюстроўваюцца розныя бакі жыцця і дзейнасці чалавека.

У розныя гістарычныя перыяды імёны-мянушкі безумоўна мелі неаднолькавыя функцыі і кола ўжывання. Непасрэдна пасля ўвядзення абраду хрышчэння і надавання дзецям імені па царкоўнаму календару некаторы час старыя славянскія імёны існавалі побач з афіцыйнымі хрысціянскімі, якія былі чужымі, незразумелымі, а таму цяжкімі, нязручнымі ва ўжыванні. У гэты перыяд старыя славянскія імёны працягвалі выконваць функцыю ўласнага імені, а таму былі шырокаўжывальнымі. К XV—XVI стст. хрысціянскія імёны набылі многія рысы той мовы, у асяроддзі якой бытавалі і сталі больш прывычнымі. Але старыя славянскія імёны апелятыўнага паходжання разам з гэтым не зніклі. Яны толькі крыху адступілі. Як ужо адзначалася вышэй, яны сталі ўжывацца пры ўлас-

ным асабовым хрэсным імені (гл. стар. 181), сталі выконваць пры імені функцыю дадатковай дыферэнцыяцыі асобы, хоць яшчэ ўжываліся і ў якасці ўласнага імені (гл. стар. 181—182). У XVI—XVIII стст. імёны-мянушкі ўсё больш аддаляюцца ад імені і набліжаюцца да прозвішча. На гэтым шляху кожнае імя-мянушка праходзіць два этапы. На першым яно з'яўляецца бытавым, штодзённым іменем асобы, уласна іменем-мянушкай. А на другім этапе імя-мянушка адной асобы, скажам галавы рода, вялікай сям'і становіцца агульным дыферэнцыруючым іменем для ўсіх членаў сям'і. Тут імя-мянушка выконвае функцыю, блізкую да функцыі прозвішчаў. Але гэта яшчэ «часовае прозвішча» — толькі для аднаго-двух пакаленняў канкрэтнай сям'і. Часовае яшчэ і таму, што яно няўстойлівае ў сваёй форме, гэта значыць яшчэ не стала наследным «знакам», «гербам» канкрэтнай сям'і (гл. стар. 284—286).

У якасці імён-мянушак практычна маглі выкарыстоўвацца ўсе агульныя імёны. Але, мяркуючы па зафіксаваных мянушках і па СБП, утвораных ад іх, пераважна выкарыстоўвалася лексіка наступных семантычных груп:

Назвы свойскіх жывёлін: *Баран; Бахмат* 'нізкарослы татарскі конь'; *Жеребец, Жеребила; Кабан; Кнороз; Кобель; Коза, Козел, Козленок; Конь, Коник, Конище; Кот, Кошка, Кошко; Лошак; Овечка; Подсвинок; Телец; Телица; Трус.* СБП: Аве́чка; Бара́н, Барано́к, Бара́нчык; Буга́й; Бык, Бычо́к; Гуц 'парсюк'; Каба́н, Кабанёк, Каба́нік; Кабы́лка; Казёл, Ко́зел, Ко́зік; Ко́нік; Кот, Ко́цік, Като́к; Ко́шка; Кроль, Кро́лік; Трус; Хорт; Цяліца, Цялу́шка. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч (-евіч), -ук (-юк):* барашак Бара́шкаў, Барашко́ў; бычанок Бычанко́ў; вапручок Вапручко́ў; волік Во́лікаў; гуцік Гу́цікаў; жарабок Жарабко́ў; жарабец Жарабцо́ў; кныр, кнур, кнораз Кны́раў, Кну́раў, Кно́разаў; конь Ко́неў; падцёлак Падцёлкаў; ягня Ягне́ў; кундаль польск. *kundal* 'сабака-дварняк' Кундале́віч; цяля Цялю́к.

Назвы дзікіх звяроў і грызуноў: *Бобр, Бобрик; Волк, Волчек; Выдра; Горностай; Заяц; Зубр; Кажан; Крот; Куница; Ласица; Лис; Лось, Лосяк; Медведь; Мышака; Пацук; Рысь; Соболь; Тур, Турок; Шакал.* СБП: Звяро́к; Бабёр, Бобр, Бо́бер, Бо́брык; Байба́к; Барсу́к, Бо́рсук; Бу́йвал; Ве́кша; Во́жык; Воўк, Ваўчо́к, Во́ўчык, Валчо́к, Во́лчык; Гарнаста́й; Дзік; За́яц, За́йка; Зубр, Зу́брык; Кажа́н; Крот; Куні́ца; Ла́сіца, Ла́ска; Ліс, Лісо́к; Лісі́ца;

Лось, Лóсік; *Мы́шка; Мядзвéдзь*, Нядзвéдзь, *Мядзвéдзік;* Пацу́к; Сóбаль; Тур; Шчу́рык. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -енка:* барсук Барсукóў; ?вавёра Вавёраў; ёжык Ёжыкаў; звер Звéраў; сурок Суркóў; хамяк Хамякóў; харок Харкóў; шчур Шчурэ́віч; выдра Выдрэ́нка.

Назвы членістаногіх (насякомых), павукападобных: *Вчмель, Гнидка, Жук, Комар, Короед, Мурашка, Муха, Паук, Сверш* 'цвыркун', *Сверщ* тое ж?, *Шершень.* СБП: *Мóшка;* Блóшка; Жук, Жучóк, Жу́чык; Камáр, Кóмар; *Маты́ль; Мурáшка; Му́ха, Му́шка;* Паву́к; Прус, Прусáк; Пчóлка; Таракáн; Хрушч. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -енка:* авадзень *Аваднёў;* клоп, клапок *Клопаў, Клапкоў;* матылёк *Матылькоў;* машкара *Машкароў;* муравей *Мураўёў;* пчала *Пчалоў;* таракан *Тараканаў;* шэршань *Шаршнёў;* шашаль *Шашалевіч;* клешч *Клешчанка.*

Назвы чарвей, мяккацелых, земнаводных, паўзуноў, ракападобных: *Глист; Жаба, Жабка; Змей; Рак, Рачок, Рачко.* СБП: Бабу́рка, 'макрыца, сараканожка'; *Жабчык; Слізень; Чарвяк.* У вытворных СБП з суфіксам -ук (-юк): рабак польск. *robak* 'чарвяк , гліст' Рабачу́к.

Назвы свойскіх птушак: *Гусак; Певень, Петух, Петушек; Селезень; Уточка; Цыпля.* СБП: Гусáк, Гусачóк; Каплу́н; Качу́р, Качу́рка; Ку́рачка; Пéвень, Півень, Пяту́х, Пётух, Піóтух. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў, -еў, -овіч, -іч:* гусь Гу́сеў; індзюк Індзюкóў; петушок Петушкóў; курка Куркóвіч; пава Пáвіч.

Назвы дзікіх птушак *Птах; Птица; Бусол* 'бусел'; *Гоголь* — у Даля і Грынчанкі 'род дзікай качкі', у Насовіча 'смелы, адважны чалавек'; *Голубь; Дрозд; Дятел; Жаворонок; Желна; Жоров; Зезюля; Кавка* 'сівая варона, галка'; *Коршун; Кулик; Лебедь; Лунь; Орел; Перепёлка; Пугач; Синица, Синичка; Сова, Совка; Сокол; Соловей, Словик* польск. *słowik* 'салавей'; *Сорока; Стриж; Тетеря, Тетерук; Чайка; Чапля; Чиж, Чижик; Чирок; Шпак, Шпачек; Щегол.* СБП: Бацья́н; Бу́сел; Варóна; Верабéй, Верабéйчык, Варабéй, Арабéй, Арабéйчык; Вóран; Гáлка; Гіль, Гілік; Глушэ́ц; Гóлуб, Галу́б, Галубóк; Грак, Грачóк; Дзя́цел, Дзя́тлік; Дрозд; Жáўранак; Жóраў; Зязю́ля, Зязю́лька, Зязю́льчык, Зазу́ля; Кóршак, Кóршун; Ку́каўка, Куку́ля; Кулік; Курапáта, Карупáта, Курапáтка; Лáстаўка; Лéбедзь, Лябéдзька, Лябéдка; Лунь; Перапёлка; Плі-

ска; Салаве́й, Салаве́йчык; Саро́ка; Се́лезень; Сіні́ца; Снігі́р, Снягі́р; Со́йка; Со́кал, Сако́л; Стрыж; Стрына́дка; Сыч; Удо́д; Цецяру́к, Цяце́ра; Ча́йка, Чайко́. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -евіч, -енка (-онка), -ук:* арол Арло́ў; бякас Бяка́саў; варанок Варанко́ў; грач Грачо́ў; драч Дра́чаў; жаўна Жаўно́ў, Жално́ў; журавок Жураўко́ў; зяблік Зя́блікаў; каршук Каршуко́ў; корасцель Ко́расцелеў; крумкач Крумкачо́ў; кулічок Кулічко́ў; пугач Пугачо́ў; скварэц Скварцо́ў; сыч, сычок Сычо́ў, Сычко́ў; чыж, чыжык Чыжо́ў, Чы́жыкаў; чырок Чырко́ў; шпак Шпа́каў; шчыгол Шчыгло́ў; ястраб Ястрабаў; арлёнак Арлянке́віч; каўка 'галка' Ка́ўчанка; птах Пташу́к; чапля Чаплю́к.

Назвы рыб: *Лещ; Окунь; Рыбец; Селедец; Селява; Слижик; Таран; Щука; Щупак.* СБП: Ёрш; Кара́сь, Кара́сік; Лешч, Ле́шчык; Мянёк; Пло́тка; Сліж 'галец'; Сом; Суда́к; Сяле́дчык; Тара́н; Уго́рыч 'вугор'; Шчучка. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -евіч:* акунь Акунёў; пячкур Печкуро́ў; селядзец Селядцо́ў; сіг Сі́гаў, Сіго́ў; таранок Таранко́ў; уюн Уюно́ў; лін, лінок Лін́евіч, Лінке́віч.

Назвы частак цела і покрыва цела чалавека і жывёлін: *Бородуля; Голова, Головка; Горло, Горлышко; Грудина, Грудинка; Губа; Животок; Жила, Жилка; Залоза; Зуб, Зубец, Зубок; Кишка; Кожа; Колено; Корх* 'кулак'; *Лапа; Лобок, Лобяк, Лобяка; Лытка; Лыч; Маслак, Мослок; Нога; Ноготь; Пальчик; Печенка; Пузо; Ребро; Рило; Рог; Рыль* 'лыч?'; *Требух; Утроба; Ушко; Цыцка, Цыцуля; Щека.* СБП: Барада́, Баро́дка; Во́лас; Во́ўна; Вус, Ву́сік, Ус; Галава́, Гало́ўка, Галаво́к; Глаз; Грудзі́на; Гры́ва; Гу́бчык; Дзю́ба; Жыво́тка; Жы́ла, Жы́лка; Зуб, Зу́бік, Зубо́к, Зубе́ц; Кале́нка; Капыто́к, Капы́тка; Клю́й, Клю́йка; Ко́стка, Ко́стачка; Кула́к; Кульша́; Кумпя́к; Лабо́к, Ло́бік, Лабко́; Ла́па; Ло́каць; Лыч; Мо́рда; Но́жка; Нос, Но́ска, Наско́; Пе́чань, Пячо́нка, Печанько́; Пуп; Рог; Ры́ла; Трыбу́х; Хвост; Шэ́йка. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -іч, -енка (-анка), -енак:* бок Бо́каў; брушка Брушко́ў; дзюбка Дзюбко́ў; капыт Капыто́ў; кішка Кішко́ў; крыло Крыло́ў; лоб Ло́баў; носік Но́сікаў; пузік Пу́зікаў; пупок Пупко́ў; рабро Рабро́ў; ражок Ражко́ў; хвосцік Хво́сцікаў; хрыбет, хрэбет Храбто́ў; язык Языко́ў; кудзер, кудры Кудрэ́віч; мазгі Мазго́віч; палюх 'палец' Палюхо́віч; пуза Пузе́віч; масол

Масало́віч; шчака Шчако́віч; барадуля Бараду́ліч; космы Ко́сміч; ляпа Ля́піч; хара Ха́рыч; шыя Шы́іч; галёнка Галё́нчанка; горла Гарле́нка, Го́рленка; ладошка Ладо́шчанка; рука Ручэ́нка; палец Пальчо́нак.

Назвы хвароб, траўм, паталагічных адхіленняў: *Гуз; Гуля; Мазоль; Плеха* 'лысіна', *Плешко.* СБП: Барада́ўка; Горб; Гуз; Залату́ха; Зано́за; Калту́н, Калту́нчык, Ко́лтун; Лы́сіна; Мазо́ль; Свішч; Стрэ́мка. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -іч, -ёнак:* гузок Гузко́ў; мазоль, мазалёк Мазалёў, Мазалько́ў; сіняк Сіняко́ў; шрам, шрамок, шрамяк Шра́маў, Шрамко́ў, Шрамяко́ў; шчэрба Шчарбо́віч; чыр Чы́рыч; кукса Куксёнак.

Назвы раслін: *Березка; Боровик; Бурак; Гарбуз; Гречиха; Гриб; Груша; Капуста; Конопелька; Кукель; Лозка; Пастарнак; Плющ, Плющик; Расада; Редька; Репа; Снитка; Снытка, Шнитка* 'трава, якая расце на пералесках і ў садах, ужываецца ў боршч' (гл. ИЮМ XXI зноску на стар. 4); *Сосна; Сочивка; Соя; Цыбуля; Щавель.* СБП: Альва́с 'альяс'; Апе́нька, Апё́нка; Асака́; Аўсю́к; Багу́н; Баравí́к; Бу́льба; Бура́к; Буя́к; Бэз; Бялу́н; Бяро́за, Бяро́зка; Валу́й; Ве́рас; Віду́к; Ві́шанька; Вярба́; Каро́х; Гі́рса; Грузд; Гру́ша, Гру́шка; Грыб, Грыбо́к; Грэ́чка, Грачы́ха, Гры́ка; Дзя́гель, Дзя́гіль; Дуб, Ду́бік; Камы́ш; Канапля́, Канапе́лька; Капу́ста; Кашта́н; Крапіва́, Крапі́ўка; Кроп; Кру́чка 'бручка'; Ку́каль; Ла́ндыш; Ло́зка; Ло́пух; Падасі́навік; Падбяро́зка, Падбярэ́зка; Палы́н, Палы́нь; Рабі́нка, Арабі́на; Ракі́та; Рэ́дзька, Радзько́; Рэ́пчык; Сачы́ўка; Свірэ́па; Свякла́, Свякло́; Сі́тнік; Слі́ва; Смаршчо́к; То́паль; Фія́лка, Фіа́лка; Хво́йка; Хвошч; Хмель; Хрэн; Цыбу́ля. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -іч, -енка (-анка), -ёнак:* авёс Аўсо́ў; буякі Буяко́ў; вінаград Вінагра́даў; дубок Дубко́ў; кедр Ке́драў; клён Клёнаў; траснік Трасніко́ў; цюцюн Цюцюно́ў; ячмень Ячме́неў, Ячмянё́ў; альха Альхо́віч; арэшак Арашке́віч; бук Буке́віч; вяз Вязо́віч; мак Мако́віч; явар Яваро́віч; боб Бо́біч; ліпа Лі́піч; порхаўка Пархо́ўчанка; табак Табачо́нак.

Назвы частак раслін і пладоў: *Ботвинка, Ботвинье; Гронка; Желудь; Кора; Корень; Корч; Струк; Шишка; Яблоко.* СБП: Арэ́х; Асцю́к; Бады́ль; Былі́на; Галі́на; Гучо́к; Жо́луд, Жо́лудзь; Кача́н, Ко́чан; Кве́тка; Ко́лас, Каласо́к, Кало́ска; Ко́рань, Каранёк; Кра́ска, Краско́; Куст; Ма́каўка; Малі́нка; Струк; Ягадка, Ягадзік. У вы-

творных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч:* арэшак Арашко́ў; арбуз Арбузаў; карашок Карашко́ў; пянёк Пянько́ў; стручок Стручко́ў; сучок Сучко́ў; цвяток Цвятко́ў; яблык Яблыкаў; бяроста Берасце́віч; быліна 'сцябло, сцяблінка' Быліно́віч.

Назвы прылад працы, прадметаў бытавога ўжытку і іх частак: *Безмен; Верига; Горно* 'кавальскі горн'; *Гребеньчик; Довбенька, Долбня; Дубина; Желоб; Звон; Квач; Кий; Коведа* 'палка з загнутым канцом', 'качарга'; *Колодка; Копыл; Кочерга; Куль; Лемеш; Лопата, Лопатка; Метла; Мотовило; Наковальня; Обух, Обушко; Свечка; Секерка; Сечка; Смоляк; Спица; Судник; Товкач, Толкач; Цедилка; Чепела, Чепеля, Чепель, Чеплей; Шило; Шпилька, Шпилько.* СБП: Ашэ́йнік; Баса́к; Бі́рка; Біч; Брадэ́нік; Була́ўка; Бязме́н; Ве́ка; Ве́ялка; Віту́шка; Вяро́ўка; Вярста́к; Гвозд, Гвоздзь, Гво́здзік; Гі́ра; Грэ́бень, Грабянёк; Даўбе́шка, До́ўбня, Даўбня́, Даўбе́нька; Друк; Дубі́на; Жалязня́к; Запаты́лак; Звано́к, Іго́лка; Калы́ска; Кацуба́ 'качарга'; Кача́лка; Качарга́, Качэ́рга; Качу́лка; Кій; Клюка́; Ключ; Ко́ска; Крук, Кручо́к; Крэ́сла; Кульба́ка 'палка з крывулькай', Лапа́та, Лапа́тка; Ле́меш; Ліхта́р; Лучні́к 'падстаўка, у якую ўтыкалі лучыну'; Лучы́на; Малато́к, Мо́лат; Мех, Мяшо́к, Мяшо́чак; Мя́ла; Мятла́, Мацёлка; Наво́й, Наво́йчык; О́бух; Прач; Прут; Се́чка; Ско́бля; Скрабло́; Со́шка; Сталю́га; Струг; Трапа́шка, Трапа́чка; Цвік; Швaро́нак; Шля́жка; Шпі́лька. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -іч, -енка, -ёнак, -ук:* абадок Абадко́ў; абруч Абручо́ў; багор Багро́ў; брус Бру́саў; долата До́латаў; зонт Зо́нтаў; колакал Калако́лаў; калун Калуно́ў; кальцо Кальцо́ў; капшук Капшуко́ў; кастыль Кастылёў; кіёк Кійко́ў; кірпіч Кірпічо́ў; ключык Клю́чыкаў; мыла Мы́лаў; нераток Нератко́ў; памазок Памазко́ў; парус Па́русаў; пяхцер Пе́хцераў; пута Пу́таў; разец Разцо́ў; сякач Секачо́ў; серпік Се́рпікаў; сіта Сіто́ў; скобель, скоблік Ско́белеў, Ско́блікаў; сундук Сундуко́ў; тапарок Тапарко́ў; хамут Хамуто́ў; цэп Цэ́паў; чапяля Чапялёў; чаранок Чаранко́ў; шруба Шру́баў; шыла Шы́лаў; абух, абушок Абухо́віч, Абушке́віч; жалабок Жалабко́віч; замок Замко́віч; клявец Кляўцэ́віч; крыж Крыжэ́віч; падкова Падко́віч; стол Стало́віч; стул Стуле́віч; брытва Бры́твіч; торба Тарбе́нка; тачыла Тачы́ленка; рала Ралёнак; цясла Цяслю́к, магчыма і ад *цесля*.

Назвы тыпаў паселішча, будынкаў, збудаванняў, агарожы і іх частак, назвы матэрыялу, з якога зроблены: *Верея; Деревня; Костёл; Мосток; Мыльня* 'лазня'; *Печка; Стовп; Тын; Тынина; Щит.* СБП: Бýда; Вíльчык; Курэ́нь; Павéтка; Палáтка; Пýня; Салáш; Страхá; Халýпа. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў, -еў, -овіч, -евіч, -енка (-анка), -ёнак (-онак), -ук:* пляцень Плятнёў; шацёр Шатрóў; гумно Гумнóвіч; кабак Кабакóвіч; склеп Скляпóвіч; шынок Шынкéвіч; каморка Камóрчанка; кірпіч Кірпíчанка; манастыр Манастырэ́нка; катух Катушóнак; тын Тыню́к.

Назвы экіпажаў, вупражы і іх частак: *Дышэль; Копыл; Спица.* СБП: Атóса; Бізýн; Вóрчык; Дрáба; Карэ́тка; Кульбáка 'сядло', 'палка з крывулькай'; Лагóша; Панарáд; Пóлаз; Пýга; Цялéга. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў):* калясо Кóлесаў.

Назвы хатняй пасуды: *Берестень; Гладыш; Дешка* 'дзяжа?'; *Жлукта; Ковш; Коробка; Котел; Кошель; Латушка* 'гліняная міска'; *Ряжка; Сак* 'кораб, мера мёду'; *Сковорода; Ступа, Ступка; Чашка.* СБП: Баклáга; Бéрасцень; Бóйка; Бóчка; Вéка; Глады́ш; Дзéжка, Дзéшка; Жлýкта, Жлýкцік; Збан, Збанóк; Кáдаўба; Кадýшка; Карóбка, Карабóк, Карóбачка; Кары́тка; Кацёл; Кашэ́ль, Кóшаль; Коўш, Кóўшык; Кры́нка; Лéйка; Палóнік; Салóнка; Спары́ш; Тарэ́лка. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -евіч, -ук:* барыла 'бочачка' Бары́лаў; гарш(ч)ок Гаршкóў; глек Глéкаў; жбанок Жбанкóў; кораб Кóрабаў; рондаль 'каструля' Рóндалеў; чыгун Чыгунóў; кадзь Кадзéвіч; кадлуб 'кадаўб' Кадлубóвіч; казан Казанóвіч, Казанéвіч; лошка Лашкéвіч; саган Саганóвіч; цэбар Цэ́брук.

Назвы адзення, абутку, галаўных убораў, прадметаў пасцельнай прыналежнасці, прадметаў для пакрыцця стала. Назвы іх частак і матэрыялу, з якога яны зроблены: *Бурнос; Дерюга; Капур; Корман; Лапоть; Лыко, Лычко; Мотуз; Мошна; Риза; Рухлядка; Свита; Сенник; Скурат; Холявка; Чепец; Шапка, Шарак; Шитик* 'папруга, дзяга'; *Шлык* 'вастраканечная войлачная шапка — каўпак'; *Шляпа; Дюра, Дюрка; Латка.* СБП: Аксамíт; Аўчы́нка; Башмáк; Бóцік; Брыль; Брыш 'брыж'; Бýрка; Бурнóс; Гýзік; Гýня, Гунькó; Дзярýга; Ірхá; Кажýх, Кóжух; Калóша; Каптáнчык; Каптýр; Кáпур; Капялю́ш; Кармáн, Кóрман; Каўпáк, Калпáк; Кíцель; Кóўнер; Кудзéля, Ку-

дзе́лька, Кудзе́лка, Кудзёлка; Ку́жаль; Кута́с; Мульта́н; Папру́га; Парця́нка; Пу́гаўка; Руба́шка; Ручнік; Рэ́мень; *Сая́н*; *Сві́та*; *Скура́т*; *Суко́нка*; *Халя́ва*; *Шаці́нка* 'сацін'; Шу́ба; Шы́цік 'папруга, дзяга'. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў(-аў), -еў, -овіч, -евіч, -енка (-анка), -ук (-юк):* балахон Балахо́наў; башлык Башлыко́ў; брылёк Брылько́ў; калпак Калпако́ў; камзол Камзо́лаў; картуз Карту́заў; кутас Кута́саў; кушак Кушако́ў; лапаць Ла́пцеў, Лапцёў; пантопель, пантопля Пантаплёў; рубаха Рубахо́ў; сутана Сута́наў; тулуп Тулу́паў; чапец Чапцо́ў; шаль Ша́леў; шляпа Шля́паў; шынель Шынялёў; галун Галуно́віч; кажушок Кажушке́віч; сцелька Сце́льчанка; шлейка Шле́йчанка; пасталы 'лапці' Пасталю́к; чапка польск. *czapka* 'шапка' Чапчу́к; штаны Штаню́к.

Назвы прадуктаў харчавання, страў, напіткаў і іх састаўных частак: *Борщ; Бохан* 'булка хлеба'; *Буката* тое ж; *Вареник; Верещака; Гуща; Забела* 'тое, чым забельваюць страву, забелка, малако'; *Каша, Кашка; Келбаса, Келбас, Колбаса; Кисель; Коровай; Луста; Масло; Мякиш; Мяса; Оладя; Перепеча, Перепечка; Пшенка; Росол; Рощина; Сироп; Скорина, Скоринка; Сметанко; Сухар; Творог; Цэд; Яйко, Яйцо.* СБП: Ала́дка; Блін, Бліне́ц; Боршч; Бо́хан; Бра́га; Бу́лка; Вало́га 'скорам, тлушчы'; Варэ́нік; Верашча́ка; Гале́та; Галу́шка; Гру́ца; Гу́шча; Жур, Журо́к, Жу́рык; Здор; Кала́чык; Калбаса́, Каўбаса́, Калба́ска; Карава́й, Карава́йчык; Кісе́ль; Корж; Крупа́, Кру́пка; Крупе́ньчык; Кру́пнік; Кула́га; Куле́ш; Куцця́, Куця́; Лой; Ляпёшка, Ляпе́шка; Маку́ха; Мало́чка, Мле́чка; Ма́сла; Маслёнка; Мя́кіш; Нава́ра; Налі́ўка; Перапе́ча, Перапе́чка; Піва; Піро́г; Прасня́к; Пшо́нка; Расо́л; Са́ла; Саладу́ха; Са́хар; Скары́на; Сыро́ватка, Сы́раватка; Цэд. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -енка (-анка):* блінок Блінко́ў; бублік Бу́блікаў; калач Калачо́ў; квас, квасок Ква́саў, Кваско́ў; коржык Ко́ржыкаў; крухмал Крахма́лаў; малако Малако́віч; хлеб, хлябок Хлябо́віч, Хлябко́віч; харч, харчы Ха́рчанка.

Назвы музычных інструментаў і іх частак: *Дудка; Скрипка; Смык, Смычек.* СБП: Балаба́йка 'балалайка'; Бараба́н; Бу́бен; Валы́нка; Ду́дка; Жале́йка; Ліра; Скры́пка; Смык; Сурма́; Фле́йта. У вытворных СБП з суфіксам *-оў (-аў):* цымбалы Цымба́лаў.

Назвы грашовых адзінак, дзён тыдня, мер вагі, даўжыні: *Манета; Пятница; Рубель; Середа; Субота.* СБП:

Вяршóк; Калядá; Капéйка; Нядзéлька; Пéнязь; Пя́тніца; Рубéль; Субóта; Фунт; Шэ́лег. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -енка (-анка):* аршын Аршы́наў; гарнец Гáрцаў з Гарнцаў; грош Грóшаў; палціннік Палціннікаў; серада Серадóў; фунцік Фу́нцікаў; нядзелька Нядзéльчанка; талер Талярэ́нка.

Назвы са значэннем зборнасці і рэчыўнасці: *Воск; Дрожжа; Смола; Солома, Слома* польск. *słoma* 'салома'; *Ярина.* СБП: Акалóт; Беразня́к; Вішня́к; Галóта; Мурóг, Рой; Тáра; Хвóраст; Хлуд; Хмыз, Хмызь. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -іч, -ёнак:* навоз Навóзаў; табун Табунóў; хлам Хлáмаў; чвыр Чвы́раў, Чвырóў; жар Жáрыч; капля Каплёнак.

Назвы элементаў зямной паверхні, шляхоў зносін, апрацаваных участкаў: *Болото; Зыль* 'балота'; *Калуга* 'балоцістае месца, лужа'; *Ольшаник, Алешнік* 'альховы хмызняк'; *Ролья; Скиба; Ямина.* СБП: Баразнá; Гарá; Дарóжка; Дубрáва; Канáўка; Капéц; Крыніца; Курга́н; Мшар; Пляц; Сцéжка. У вытворных СБП з суфіксамі *-овіч, -евіч, -іч, -ёнак, -онак, -ук (-юк):* груд Грудóвіч; мяжа Мяжэ́віч; ніва Нівіч; скарада Скарадзёнак; багна Багню́к; зямля Замлю́к; камень Камяню́к.

Назвы абстрактных з'яў прыроды, пачуццяў і перажыванняў чалавека, з'яў жыцця грамадства: *Война; Голод, Голодок; Гомон; Горечко; Гром; Доля; Дума; Звега; Злоба; Клопот; Копоть; Лопот; Место; Мороз; Музыка; Покуса* 'спакуса'?; *Поторочa; Поцелуй; Рик; Рябь; Скарга; Скок; Скробот; Стома; Суета; Тризна; Троска* польск. *troska* 'клопаты'; *Туман; Халепа; Худизна; Чудо; Шкроб.* СБП: Абіда; Бас, Бáсік, Басóк; Бель; Бу́ра; Быль; Бяжóк; Бясéда; Вагá; Вайнá, Вóйна; Вéцер; Вéчар; Вóрах; Вясёлка; Галадóк; Гарáчка; Гóвар; Гóлос; Гóман, Гаманёк; Гóра; Град; Гром, Грóмік; Грук; Гуд, Гудóк; Гук; Дакýка; Дóля; Дым; Журбá; Завіру́ха; Зімá; Знак; Канéц; Лёсік; Марóз; Мóмант; Мяцéліца; Няпрáўда; Óкруг; Павáга; Парáда; Пасáх 'пасаг'; Патарóча; Пáўза; Пéсенька, Пéсенка; Пóўдзень; Пры́быль; Прыбы́так, Прыбы́тка; Пусця́к; Раскóша; Раху́ба; Рóзум; Рэй; Свабóда; Скавы́ш; Стóма; Страх; Стук; Тáйна; Тухтá; Хóлад. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў (-аў), -еў, -овіч, -іч, -енка (-анка), -ёнак, -ук:* верх Вéрхаў; віхар, віхор Віхрóў; грашок Грашкóў; дымок Дымкóў; клопат Клóпатаў; паход Пахóдаў; пярун Перунóў; скок Скóкаў; тумак Тумакóў;

туман Тума́наў; чуда Чу́даў; шаг Ша́гаў; шолах Шо́лахаў; шэлест Шэ́лестаў; азард Азардо́віч; град Градо́віч; дух Духо́віч; смех Смяхо́віч, чад Чадо́віч магчыма з *чадо;* шум Шумо́віч; зіма Зі́міч; зара Зо́рыч; прорва Про́рвіч; прыгода Прыго́дзіч; сіла Сі́ліч; слота 'непагода' Сло́тыч; крыўда Кры́ўдзе́нка; пацеха Паце́шанка; спасіба Спасібёнак; хмара Хмару́к; цемра Цямру́к; цяпло Цяплю́к.

Назвы асоб па прафесіі ці занятку, назвы службовых і ваенных асоб, назвы прадстаўнікоў розных сацыяльных груп: *Банщик; Бараночник; Бондарь, Бондарька; Бочар, Бочарник; Боярин; Бурмистр; Винник; Водовоз; Возница; Возовик; Воин; Войт; Воротный; Воскобойник; Гайдук; Гончар; Гробовник; Гусар; Дворник; Дегтярь; Добыш* 'чалавек, які апавяшчае час?' (гл. стар. 210); *Дойлид* 'плотнік'; *Дуботовка* 'нарыхтоўшчык дубовай кары ў гарбарні'; *Дудар; Жак* 'каталіцкі царкоўны служыцель'; *Жерновик, Жерносек; Жолнер, Жолнерик; Золотарь; Игольник; Калаур; Калитник; Капитан; Каптанник; Кат; Кликун* 'начны вартаўнік' (гл. стар. 220); *Ключник; Князь, Князик; Коваль; Ковшевник, Ковшовник; Кожемяка* 'гарбар'; *Козолуп; Козорез; Колачник; Колесник; Комисар; Коневник; Коновал; Копач; Корабельник; Корчмит; Кот Годовник; Котельник, Котляр; Кравец; Кровопуск, Крывопуск; Кушнер; Лазебник; Ловец; Льнорез; Маляр; Мастак; Медведник; Медейник, Медник; Мельник; Млынарь, Млынник; Мостовник, Мостовничи; Муляр, Мураль, Мурач; Мыльник; Мысливец* 'паляўнічы'; *Мясник; Наковальник; Ножевник; Овчар; Овчинник; Олейник; Пастух; Пахолок; Пекар; Перевозник; Пивовар; Пильник; Пирожник; Подписок, Подсудок; Поломарь; Попрядуха; Поросятник; Портной; Портны; Постригач; Почтарь; Поясник; Прасол; Прудник; Пряля; Псарец; Пушкар; Решетник; Римар, Римарчик; Риштовник; Рудник; Рыбак; Хлебник; Холоп; Царик; Чабан; Чаровник; Чеботар; Чумак; Шапковал, Шапавал; Шапочник; Шах; Швец, Шевец, Шевчик; Шкляй, Шкляр; Шлыковник; Шляхта; Шубник; Ярыга.* СБП: Агаро́днік, Гаро́днік; Ажыга́р; Але́йнік; Бабраўнічо́к; Бара́нашнік, Бара́нішнік; Бая́рын, Бая́рчык; Бе́рднік; Бі́скуп; Бо́ндар, Бандаро́к, Банда́рык, Банда́рчык, Бо́ндарчык; Бо́ртнік; Бурла́к; Вазня́к; Варажу́н; Віпаку́р; Ві́ннік; Во́зны; Во́рнік; Гайду́к, Гайду́чык; Ганча́р, Ганча́рык; Гарадні́чы; Гарба́р; Гаршча́рык; Гаспада́рык; Гра́бельнік; Гу́тнік; До́йлід, Дай-

лі́дка; Дво́рак; Дво́рнік; Дзягця́р, Дзяхця́р; Дзяк, Дзячо́к; Драгу́н; Дуда́р, Дуда́рчык; Жарнаклёў, Жарнасе́к; Жаўне́рчык; Залата́р; Кабза́р; Кава́ль, Кавалёк, Кава́лік; Кажамя́ка, Кажымя́ка; Кажэ́ўнік; Казнадзе́й; Каладзе́й; Кале́снік, Калясні́к; Камо́рнік; Канава́льчык; Капіта́н, Капіта́нчык; Капаля́н, Капалья́н; Карабе́йнік; Карчма́р, Карчмі́т; Катля́р; Каўша́р, Каўшо́вік; Кашава́р; Каштальа́н, Кашцелья́н, Каштальа́нчык; Кашэ́льнік; Кле́бан; Клю́чнік; Кмець; Князь, Кня́зік; Ко́нюх; Краве́ц; Кра́мнік; Кузне́ц; Купе́ц, Ку́пчык; Кура́тнік; Куха́рчык; Кухма́р; Ку́чар; Ку́шнер, Кушне́рык; Лажэ́чнік; Ляснічы; Маёр; Ме́льнік; Ме́чнік; Мі́снік; Мукаво́зчык; Му́ляр, Му́лярчык; Мы́тнік; Мыслі́ўчык; Мядзве́днік; Мясні́к; Палазні́к; Пано́к; Папо́к; Парахаўні́к; Парахо́ўнік; Партны́; Пасту́шык; Пе́кар, Пяка́рчык; Півава́рчык; Пі́льнік; Піро́жнік; Пі́сар, Пі́сарык, Пі́сарчык; Пло́тнік; Прала́т; Про́башч; Пру́днік; Пта́шнік; Пушка́р; Раві́нчык; Рабо́чы; Рыба́к, Ры́бнік; Ры́марчык; Рэ́знік; Са́льнік; Сержа́нт, Се́ржан; Скамаро́х; Сле́сар, Слю́сар, Сле́сарчык; Смаля́р, Смо́ляр, Смаля́рчык; Со́цкі; Сталя́р; Страле́ц; Стрыха́р; Стэ́льмах; Сяве́ц; Сядзе́льнік; Ткач; То́кар; То́лмач; Труба́ч; Фабрыка́нт; Фу́рма́н; Хару́нжы, Хару́жы; Цар; Ціву́н, Ціву́нчык; Цымбалі́ст; Цыру́льнік; Чабата́р; Шля́хціч; Шынка́рык; Шэ́ўчык. У вытворных СБП з суфіксамі *-оў(-аў), -еў, -овіч, -евіч(-эвіч), -енка(-энка), -ёнак, -ук, -чук:* архірэй Архірэ́еў; баброўнік Бабро́ўнікаў; багамаз Багама́заў; багамол, багамолец Багамо́лаў, Багамо́льцаў; барын Ба́рынаў; бурмістр Бурмі́страў; ваданос Ваданосаў; вазавік Вазавіко́ў; ваявода Ваяво́даў; воін Во́інаў; войт Во́йтаў; вядзернік Вядзе́рнікаў; гармоншчык Гармо́ншчыкаў; гаршкаль Гаршкалёў; гаспадар Гаспада́раў, Гаспадаро́ў; грабар Гра́бараў; жандар Жанда́раў; засядацель Засяда́целеў; званар Званаро́ў; ізвозчык Ізво́зчыкаў; кадзет Кадзе́таў; казарэз Казарэ́заў; казначэй Казначэ́еў; калакольнік Калако́льнікаў; калачнік Кала́шнікаў; калдун Калдуно́ў; камандзір Камандзі́раў; камісар Каміса́раў; канавал Канава́лаў; кандыдат Кандыда́таў; канторшчык Канто́ршчыкаў; капач Капачо́ў; капрал Капра́лаў; карабельнік Карабе́льнікаў; катавод Катаво́даў (параўн. Кот Годовник на стар. 227); квасавар Квасава́раў; кірасір Кірасі́раў; кліент Кліе́нтаў; крупадзёр Крупадзёраў; ксёндз Ксяндзо́ў; куўшыннік Куўшы́нікаў; кухар Ку́хараў; лавец Лаўцо́ў; макагон Макаго́-

наў; маклак Маклакóў; маляр Малярóў; манах Манáхаў; мараход Марахóдаў; марачок Марачкóў; маршал Мáршалаў; маслабой Маслабóеў; механік Механíкаў; мужык Мужыкóў; музыкант Музыкáнтаў; мукамол Мукамóлаў; пан Пáнаў, Панóў; панамар Панамарóў; парцяннік Парцяннікаў; пасрэднік Пасрэ́днікаў; пастух Пастухóў; паташнік Пáташнікаў; паравознік Паравóзнікаў; піварар Піварáраў; повар Пóвараў; поп Папóў; прасол Прасóлаў; пратапоп Пратапóпаў; пчэльнік Пчэ́льнікаў; п'явачнік П'я́вашнікаў; равін Рáвінаў; рагожнік Рагóжнікаў; рандавец 'арандатар?' Рандаўцóў; рашотнік, рашэтнік Рашóтнікаў, Рашэ́тнікаў; рымар, лімар Ры́мараў, Лíмараў; саветнік Савéтнікаў; садóўнік Садóўнікаў; сакратáр Сакратарóў; саннік Сáннікаў; сапёр Сапёраў; сапожнік Сапóжнікаў; свінабой Свінабóеў; сейбіт Сéйбітаў; сінільнік, сінельнік Сінíльнікаў, Сінéльнікаў; скараход Скарахóдаў; скарняк Скарнякóў; скобнік Скóбнікаў; скотнік Скóтнікаў; сотнік Сóтнікаў; сторож Стóражаў; стралок Стралкóў; строгаль Стрóгалеў; стрыгаль Стрыгалёў; судар, сударык Судáраў, Суда́рыкаў; сырнік Сы́рнікаў; сядзелец Сядзéльцаў; таргаш Таргашóў; хлебнік Хлéбнікаў; царок, царык Царкóў, Цáрыкаў; цялежнік Цялéжнікаў; чумак Чумакóў; шавец Шаўцóў; шаман Шáманаў; шапавал Шапавáлаў; шапашнік Шáпашнікаў; шахцёр Шахцёраў; шляхціц Шля́хціцаў; шорнік Шóрнікаў; шчытнік Шчы́тнікаў; шчэннік Шчэ́ннікаў; шынкар Шынкарóў; жаўнер Жаўнярóвіч; косар Касарэ́віч; манарх Манархóвіч; парабак Парабкóвіч; рэент, рэгент Раянтóвіч; улан Уланóвіч; фактар Фактарóвіч; шафар, 'касір, справавод' Шафарэ́віч; шкляр Шклярэ́віч; шут Шутóвіч; батрак Батрачэ́нка; крамар Крамарэ́нка; лекар Лекарэ́нка; музыка, музыкар Музычэ́нка, Музыкарэ́нка; рандар, арандар Рандарэ́нка; салдат Салдацéнка; станавы Станавéнка; стараста Старасцéнка; урач Урачэ́нка; цесля Цяслéнка; кароль Каралёнак; шляхта Шляхцёнак; цэхмейстар Цэхмяйстрýк; паламар, панамар Паламарчýк.

Назвы асоб па адносінах сваяцтва ці па становішчы ў сям'і: *Близнец, Близняк; Власный; Внук, Внучек, Внучко; Девятый; Дядиная* 'цётка, жонка дзядзькі'; *Знайдзен; Кохан, Кохон; Лишний; Найден; Нелюб; Ненад; Нерон; Нечай; Нижник* 'малодшы ў сям'і?'; *Одинец; Первушко, Первый; Пестун; Повторник; Позняк; Потеха; Пятак, Пятко; Родитель; Сирота; Третяк; Хлопец; Хотен, Хотян,*

*Хотьян; Чада; Шестак.* СБП: Адзіно́кі; Адзіне́ц; Адыне́ц; Бабы́ль; Блізне́ц, Блізню́к, Блызню́к, Блізня́к; Дзе́дзік, Дзядо́к; Куманько́, Кумко́; Няве́нчаны; Падкі́дыш; Пра́дзед; Прыма́к, Прыма́ка, Прымачо́к; Сірата́; Уну́к. У вытворных СБП: бацька Бацько́ў; дзед Дзе́даў; муж Му́жаў і інш.

Назвы асоб па знешняму выгляду ці па фізічных якасцях: *Безносый; Безпальчик; Безпятый; Безрукий, Безручка; Белан, Белей, Белик; Белозор; Белоус; Белый; Буры; Вислоух; Воропай* 'сляпы'; *Гаркун, Гаркавы* 'картавы'; *Глух, Глухи; Гнедько; Гниляк; Гожий; Головач, Головень; Гомза; Гугнявы; Горбат, Горбач, Горбачик, Горбун; Горелый, ?Горелка* 'гарэлы, той хто гарэў?'; *Грибач, Грибун* таўстагубы, губасты?; *Громадный; Губарь; Довгуля; Довгяло; Долгая шия; Дохля; Дробны; Дужы; Дутый; Дыбаль; Жаркий; Жидкий; Жирный; Житний; Заика; Замора; Зекрач; Зеленко, Зеленя; Зрячий; Зубака; Икач; Калека; Карпач; Картавы; Кислей, Кислый; Клыга; Клыпач; Колоногий; Корноух, Корнач; Короткий, Коротки, Короткой; Корявка; Космач; Косы; Крывец; Ладник; Левушня* 'ляўша', *Левша; Липовый; Лобан, Лобач, Лобейко; Ломан; Лысый; Мазень; Мазепа; Малыха, Малюга, Малюшка; Мертвец; Миленький; Мокрый; Моложавец; Моцак, Моцный, Моцны; Мурза; Наглый; Некраш; Нелеп; Немелкий; Немера; Немога; Немой; Непёка; Овсяный; Огорелок; Огризко; Оздобный; Остроух; Отливаный; Пархаль; Плехан* 'лысы?', *Плешивый; Подлобка; Подобалко; Похмурий; Почуйко; Прея; Пузан; Пушной; Пшенный; Растопта; Резан; Рудак, Рудка, Рудый; Русак; Рыжий; Рябко, Рябец, Рябой, Рябый, Рябушка; Секан; Серик, Серко, Серок, Серяк; Сипайло, Сипяк, Сипко; Скопа; Слепый, Слепы, Слепец; Сологуб; Сухобок; Сухий; Сухонос; Сухоня; Сухопар; Толстоль; Толстоног; Толстопят, Толстопятый; Толстоух; Толстыка: Тресинога, Тресиног; Хромой; Чернец, Черник; Черномордый; Черноуско; Черниха, Черный, Черныш, Черняк; Шедый* польск. *szady* 'сівы', *Шедик, Шедька, Шедка; Шеплавый, Шеплявый; Широнос; Ширяй* 'шыракаплечы чалавек'; *Шкут* 'няздатны ці слабасільны чалавек'; *Шульга* „ляўша, левая рука'; *Щерба, Щербак, Щербина.* СБП: Барада́ч; Бе́лы, Бе́ленькі; Була́ны; Бу́ры; Бяззу́бік; Бязно́сік; Бязру́чка; Бяла́н; Бяльма́ч; Бяспа́лы; Валаса́ч; Валява́ты; Варапа́й; Во́лат; Вы́растак; Вялі́кі; Галава́сты, Галава́ты, Галава́ч; Гар-

ба́ч, Гарбе́ль, Гарбу́ль, Гарбу́н, Го́рбань; Гарка́вы, Гарка́ч, Гарку́н; Га́рны; Гла́дкі; Глухенькі; Глуша́к; Гняды́; Гу́бар; Двужы́льны; Дзярга́ч; До́ўгі, Даўге́ль, Даўгу́ль, Даўгу́н, До́ўгір; Дры́га; Ды́баль; Ды́гун; Ды́рда; Дэ́раш; Жале́зны; Здараве́ц; Зу́бар; Зуба́ч; Зубе́ль; Камла́ч; Кара́вы; Каро́ткі; Карата́й; Караты́ш; Карпа́ч; Карэ́лы; Касму́ля; Ківа́ка; Клы́па; Кру́глы; Крывашчо́кі; Крыво́, Крыве́нькі; Кульга́вы; Курно́сы; Кучара́вы; Лаба́ты, Лаба́ч; Ло́бач; Лупа́ч; Лы́сы; Ляўша́; Магу́чы; Малады́; Махна́ч; Нізкі; Нямы́цька; Падга́лы; Паджа́ры; Прыго́жы, Прыгажу́н; Пы́шны; Рабы́, Рабе́нькі; Руды́; Ру́сы, Руса́к; Ры́жы; Ры́лаў; Се́ры; Сі́вы; Сі́зы; Сіплі́вы, Сіпа́ч; Стары́к; Сукры́сты; Сухі́; Сы́ты; Сяды́; Сярэ́браны; Тачо́ны; То́нкі; То́ўсты; Храмы́; Худы́; Чо́рны, Чарня́к; Шульга́. У вытворных СБП: белабароды Белабаро́даў; белавусы Белаву́саў; белаглазы Белагла́заў; белагубы Белагу́баў; белазоры Белазо́раў; галалобы Галало́баў, даўгаль Даўгалёў; длінны Дліннo̗ў; жаўтаносы Жаўтано́саў і інш.

Назвы асоб па разумовых якасцях, па асаблівасцях характару, па прывычках, схільнасцях: *Бедыш; Брехун; Брикун; Будило; Волокит; Громыка; Денькуя* (па частаму ўжыванню польскага *zieńkuja?); Добриня; Дремлик; Жмака; Заборца* польск. *zaborca* 'захопнік'; *Зева́ка; Злоб, Злобок; Ленюха; Лизун; Ломака, Ломыка; Мовля; Молчан; Мудрец; Мужила; Наруш; Насон; Неброй; Немира; Немойко, Немыша; Непхай; Пекельный; Перекривило; Пискун, Пищик; Плакса; Плевака; Погула, Погуляй; Подслух; Придыбало; Пригун; Пырхун; Работяга; Рагоза; Радоха; Разумный; Рева; Рекун* 'гаварун?'; *Самохвал; Седун; Скокун; Скоряга; Скряба; Скряга; Скупой; Солодкий; Сцюдзёны; Сувор; Суморок; Тихобай; Томило; Тукало; Тюхтя; Улаз; Умирака; Хлус, Хлуско; Ходыка; Храпун; Чурило; Чуханко; Шалыга; Шатило; Шатко; Шелоплут; Шемотула; Шипило; Шкель* 'насмешнік'. СБП: Абібо́к; Балва́н; Благада́рны; Блу́дчы; Бо́дры; Бо́лбат; Burку́н; Бязду́шны; Бяспа́мятны; Варгу́н; Во́стры; Гавара́ка, Гавару́шка; Гане́бны; Гара́чы; Гарла́н, Гарла́ч; Грабу́н; Даліка́тны, Даліка́тар; Дарме́ль, Дарме́ля; Дзе́йкун; Дзіва́к; Дзі́кі, Дзіку́н; Дзяле́ц; Жарту́н; Жару́н; Жма́ка; Жме́йда; Жмі́нда; Жыгу́н; Забія́ка; Задо́ра; Зыку́н; Кажу́н; Калю́чы; Каха́ны; Кі́слы; Круты́; Круце́ль; Крыку́н; Ла́камы; Ла́сы; Ліха́ч; Любе́зны; Мі́лы, Мі́ленькі; Мя́ккі, Мя́кенькі; На́глы; Надзе́йны; Нежывы́; Непа-

ку́пны; Няпо́мняшчы; Няпэ́ўны; Павaро́тны; Пако́рны; Плаксі́вы; Право́рны; Развя́зны; Разу́мны; Распу́тны; Ско́ры; Слі́зкі; Сме́шны; Сму́тны; Стро́гі, Суро́вы; Сярдзе́чны; Уда́лы; Хало́дны; Харо́бры; Харо́шы; Хі́тры; Ціка́вы, Ці́хі. У вытворных СБП: гутар Гу́тараў, завіда Заві́даў.

Назвы асоб па становішчы ў грамадстве, у калектыве: *Захожы; Земок* польск. *zemek* 'зямляк'; *Нагишко; Новак, Новік; Панцырный; Паненок; Перехриста; Палуслужка; Полукопный; Полупоп; Прихожий; Пустосел; Сведеный; Семикопный; Скоробогатый; Старец; Третина; Хрищен; Чернь.* СБП: Бага́ч; Бася́к; Галя́к; Бо́сы; Бяздо́мны; Бязро́дны; Вы́барны; Жабру́к; Захо́дны; Захо́жы; Зе́мец, Зяме́ц; Кало́днік; Прыхо́жы; Ску́дны, Тутэ́йшы. У вытворных СБП: зямляк Землякóў і інш.

Назвы народаў і этнічных груп: *Гречин; Жомойтин; Казак; Кашуба; Козарин; Литвин, Литвинко, Литовка; Лях, Ляшко; Мазурко; Москаль, Москвитин; Поляк; Русин; Татарин; Цыган, Цыганок, Цыганко; Черкас; Чех; Швед.* СБП: Бесара́б; Во́лах, Вала́х, Вала́ха; Грэк; Жы́дзік Жыдо́к; Кабарда́, Кабо́рда; Каза́к, Ко́зак, Казачо́к, Каза́ча; Кастрама́; Кашу́ба; Латы́ш; Ліцьві́н, Ліцьвіно́к; Лях; Не́мец; Паля́к, По́ляк, Палячо́к; Тата́рын; Ту́рак; Хахо́л; Цыга́н; Швед, Швэд, Шве́дка, Швэ́дка.

Назвы асоб па геаграфічнай назве: *Берестенин* : Берeсте, сучасн. Брэст, *Брагинец* : *Брагін, Брилевец* : *Брылі,* Брылёва, *Быховец* : Быхаў, *Велижанин* : Веліж, *Витеблянин* : Віцебск, *Волоховец* : Волахі, Волахава, *Волынец* : Валынь, *Глушанин* : Глуша, *Гостиловец* : Гасцілы, Гасцілава, *Киянин* : Кіеў, *Козловец* : Казлы, Казлова, *Лбучанин* : Лбукі, *Лукомлянин* : Лукомль, *Луполовец* : Луполово, *Любошанин* : Любохі, Любаш, *Минчук* : Мінск, параўн. шырокаўжывальнае і зараз пінчук : Пінск, але *Минчук* магчыма і ад імені *Мина, Михновец* : Міхны, Міхнова, *Мстиславец* : Мсціслаўль, *Мядзелец* : Мядзель, *Новгородец* : Ноўгарад, *Ордынец* : Арда, *Оршаница* : Орша, *Ошменец* : Ашмяны, *Полачанин* : Полацк, *Радогощанин* : Радогоща?, *Случанин* : Слуцк, *Стародубец* : Старадуб, *Тетеринец* : Цяцеры, Цяцерына, *Шкловец* : Шклоў. У вытворных СБП: Дрыбінцаў : Дрыбін і інш.

АКСАМИТ *Шимко Оксамит* 1567 Рад. хар., П. 787.

АРИШТ *Гапон Аришт* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 164.

БАБЕКО *Васько Бабеко* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 34.

БАБЕЦ *Петрок Бабец* 1646 с.Арш. п., ИЮМ XXIV 369.

БАБЁНЫШ *Василь Бабёныш, Михалка Бабёныш* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 190.

БАБИНЕЦ *Гарасим Максимович Бабинец* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 157.

БАБКО *Павла Бабка* 1679 Маг., ИЮМ I 11.

БАГРЕЦ *Марцин Багрец* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 435, *Раман Багрец* там жа, 439.

БАЙБОРОДА *Иван Остафьевич Байборода* 1567 Ваўк. п., П. 857.

БАКА *Федор Бака* 1528 б. Ваўк., У. 94, *Григорей Бака* 1567 Ваўк. п., П. 873, *Бака Иван Иванович* 1567 Лід. п., П. 753, *Бака Федор* 1730 Пол. в., ИЮМ II 342.

БАЛАШ *Артема Балаша* 1679 Маг., ИЮМ I 12, *Артем Балаш Клеткин* 1683 Маг., ИЮМ II 7, *Илли Балаша* 1690 Маг., ИЮМ VII 17, *Балаша Илли Веселкина* 1695 Маг., ИЮМ X 15.

БАЛЫЗКА *Сцепан Балызка* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 368.

БАЛЬМА От *Артема Тимофеевича Бальма* 1683 Маг., ИЮМ II 8.

БАНЩИК *Петра Баньщика* 1752 Віц., ИЮМ XVIII 406.

БАРАН *Кандрат Баран* 1684 Маг., ИЮМ II 82, *Карнило Баран, Касцюк Баран* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 188.

БАРАНОЧНИК *Кону Бараночнику* 1685 Маг., ИЮМ III 183.

БАРДА *Семен Барда* 1528 Мсцісл., У. 198.

БАРСОБА *Богдан Барсоба* 1528 б. Камян., У. 99.

БАХМАТ *Левон Иванович Бахмат* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 189.

БАХМАЧ *Василей Бахмач* 1578 Шклоў, ИЮМ XXXII 70.

БЕДЫШ *Бедышу Артему* 1697 Маг., ИЮМ XI 28, *Артему Бедышу* 1711 Маг., ИЮМ XXI 2.

БЕЗМЕН *Тараса Безмена* 1680 Маг.,ИЮМ I 88.

БЕЗНОСЫЙ *Агапона Безносы* 1679 Маг., ИЮМ I 11.

БЕЗНЯТЫЙ *Станислав Безнятый* 1528 б. Ваўк., У. 95.

БЕЗПАЛЬЧИК *Безпальчик* 1623 Віц., ИЮМ XXI 77.

БЕЗПЯТЫЙ *Матей Безпятый* 1567 Ваўк. п., П. 864.

БЕЗРУКИЙ *Дзмитр Безруки* 1670 Віц., ИЮМ XXI 82.

БЕЗРУЧКА *Ивану Безручце* 1690 Маг., ИЮМ VII 113.

БЕЗЧУР *Васка Безчура* (род. скл.) 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 166.

БЕЛАН *Миколай Белан* 1567 Лід. п., П. 748.

БЕЛЕЙ *Ивану Белею* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 117.

БЕЛЕКАЧ *От Данилы Белекача* 1684 Маг., ИЮМ II 74.

БЕЛИК *Ян Белик* 1528 б. Слон., У. 98.

БЕЛАЗОР *Антоном Рейкой или Белозором* 1752 Віц., ИЮМ XVIII 402.

БЕЛОКОЗ *Иван Ходорович Белокоз, Павел Панюлевич Белокоз* 1567 Гр. п.,П. 703.

БЕЛОУС *Станислава Белоуса* 1567 Навагр. п., П. 827, *Иван Хоцкевич Белоус* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 121.

БЕЛЬЧЫК *Янка Бельчык* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 156.

БЕЛЫЙ *Иван Белый Бландорошкович* кравец 1593 м. Віц., ИЮМ I 322—323, *Микиты Василевича Белого* 1689 Маг., ИЮМ VI 12.

БЕЛЯНКА *Алекса Белянка* 1643 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 360.

БЕРДЕЙ От *Федора Бердея* 1683 Маг., ИЮМ II 8.

БЕРЕЗКА *Матфей Березка* 1528 б. Кл., У. 190, *Хведор Березка* 1552 з. Кл. п., ПкнПКл. 543, *Богдан Бероска* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 375.

БЕРЕСТЕНИН *Иван Берестенин* 1528 б. Мсціcл., У. 199.

БЕРЕСТЕНЬ *Грышка Берясцень* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 155.

БЕРНИЩЕ *Сава Бернище* 1528 Пол. з-ля, У. 195.

БЕСТИК *Павел Бестик* 1595 Віц. в., ИЮМ XX 446.

БИБКО *Потап Бибко* 1772 Віц., ИЮМ XIX 216.

БИЗЬ, БИЗЮК *Ивана Бизя* 1692 Маг., ИЮМ IX 61, *Семена Микипоровича Бизюка* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 13.

БИНДАС *Бирчаго Малашка Биндаса* 1700 Маг., ИЮМ XIV 6.

БИРУЛЯ *Семен Бируля* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 157.

БИРЮК *Данило Бирук* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 253, *Федор Харкович Бирук* 1626 Віц., ИЮМ XXI 281.

БЛИЗНЕЦ *Тимофею Близнецу* 1711 Маг., ИЮМ XXI 37.

БЛИЗНЯК *Васько Близняк* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 86, *Анашко Близняк* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189,

*Иван Близняк* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 435.

БОБАН *Щастный Бобан, Ян Бобан* 1567 Ашм. п., П. 571.

БОБР, БОБРИК *Бобр Федкович* 1567 Астр. хар., П. 790, *Иван Бобр* 1567 Ваўк. п., П. 862; *Бобрик Яськов* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 82.

БОВТУТА *Дмитрок Бовтута* 1595 Віц. в., ИЮМ XX 447.

БОГОВИТИН *Иван Войнич Боговитин* 1567 Бр. п., П. 1203.

БОГУМАТКА *Ян Юрьевич Богуматка* 1567 Лід. п., П. 778.

БОДАК *Максим Бадак* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 159.

БОДЗЯТА *Максим Бодята* 1730 с. Пол. в., ИЮМ II 327.

БОКА *Иван Бока* 1567 Навагр. п., П. 446.

БОКЕЙ *Еско Бокей* 1567 Навагр. п., П. 812.

БОЛВИР, БОЛЬВЕР *Тимофея Клишковича Балвира* 1638 м. Маг., ИЮМ IX 344, *Юрко Бальвер* 1623 Віц. в., ИЮМ XXI 77.

БОЛДЫШ *Ивашко Болдыш* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189.

БОЛОБАН *Юрьи Болобан* 1567 Бр. п., П. 1192.

БОЛОТНИК *Отрошка Болотник* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 374.

БОЛОТО *Кгабриель Болота* 1623 м. Пол., ИЮМ XXIII 346.

БОНДАРЬ, БОНДАРЬКА *Агапона Бондаря* 1679 Маг., ИЮМ I 10, *Гаврило Бондар* 1683 Маг., ИЮМ II 6, у *Васка Бондара* 1690 Маг., ИЮМ VII 178, *Купили у померницу мерку у Стефана Бондаря* 1691 Маг., ИЮМ VIII 54, *Карпа Бондар* 1764 Ула, ИЮМ XXII 421, *Петрок Бондар* 1764 с. Віц. в., ИЮМ XIX 154; *Якуш Бондорка* 1717 с. Віц. в., ИЮМ XXIV 189.

БОРЗДОБОГАТЫЙ *Михайло Борздобогатый, Степан Борздобогатый* 1567 Навагр. п., П. 813.

БОРЗДОК *Семену Борздку, Борздок жаловал* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 95, *Семен Борздок* там жа, 102.

БОРИШКО *Гаврыло Борышко* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 163.

БОРОВИК *Богдан Боровик* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 263, *Гридзко Боровик* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 368.

ИЮМ VIII 176, *Отрошко Махлаев* там жа, 175; *Андрея Булыма* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 227, *Андрей Булимов* там жа, 223; *Грегория Булая* 1758 Маг., ИЮМ XVI 257, *Геронима Булаева* там жа, 258.

4. Патранімічныя формы, утвораныя ад розных форм імені бацькі названай асобы: *Иля Грышкович.., помененый Иля Грыдкович* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 110; *Ивашко Гриневич.., Ивашко Гришкович* там жа, 206; *Федор Климятинич.., Федора Климовича* там жа, 167; *Тимошко Гришкович* 1588 м. Маг., *Тимошко Григоревич* там жа, 419; *Антроп Никонович* (у тэксце.— *М. Б.*), *Онтроп Оникеевич* (у подпісу. — М. Б.) свяшч. Маг., ИЮМ VIII 273; *Овдей Тихонович* (у тэксце.— *М. Б.*), *Овдей Тишкович* (у подпісу). — М. Б.). свяшч. Маг., ИЮМ VIII 274; *Мелешка Гапеевича* 1664 Маг., ИЮМ X 288, *Мелешка Агапеевича* там жа, 294.

Усё сказанае сведчыць аб тым, што ў XVI—XVII ст. яшчэ не было ўстойлівых найменняў з кампанентам тыпу сучасных прозвішчаў, у значнай меры сказанае адносіцца і да першай палавіны XVIII ст.

*Табліца 3*

*Колькасная суадноснасць двухчленных і трохчленных назваў асобы ў Попісе 1567 г.*

| Тэрыторыя | Двухчленныя назвы | | Трохчленныя назвы | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | кольк. | % | кольк. | % | |
| **На тэрыторыі Беларусі** | | | | | |
| Ашмянскі павет | 337 | 81,35 | 76 | 18,65 | 413 |
| Брэцкі, Камянецкі, Кобрынскі паветы | 278 | 85,5 | 47 | 14,5 | 325 |
| Ваўкавыскі павет | 243 | 83,8 | 47 | 16,2 | 290 |
| Гродзенскі павет | 459 | 70,7 | 190 | 29,3 | 649 |
| Лідскі павет | 94 | 86 2 | 15 | 13,8 | 109 |
| Навагрудскі павет | 327 | 85,6 | 55 | 14,4 | 382 |
| Мінскі павет | 156 | 84,8 | 28 | 15,2 | 184 |
| Пінскі павет | 145 | 76,7 | 14 | 23,3 | 189 |
| Слонімскі павет | 212 | 94 | 17 | 6 | 229 |
| Разам | 2251 | 81,26 | 519 | 18,73 | 2770 |
| **За межамі Беларусі** | | | | | |
| Віленскі павет | 152 | 81,3 | 35 | 18,7 | 187 |
| Жмудская зямля | 2319 | 97,8 | 52 | 2,2 | 2371 |
| Валынская зямля | 216 | 90,8 | 22 | 9,2 | 238 |

Простыя (аднаслоўныя) найменні ўжываюцца: 1) калі справа ідзе аб ужо вядомай асобе, якая раней называлася ў тым жа дакуменце разгорнутым найменнем, г. зн. пры паўторным упамінанні: Просил у нас *Александр Ходкевич* и брат его Мишко... штож быхмо позволили *Александру* продать Тишку, брату своему, чотыры чоловеки 1461 Кам. вол., АЛМ I в. 1 13; 2) калі пералічваюцца па імені дзеці пры імені бацькі: ...купил в мещанина Полоцкого *в Микиты Козчича и в его сынов в Богданца, а в Феденка, а в Васенка,* село на реце на Уле... 1497 м. Пол., АЛМ I в. 1 132; в Полочан, на имя *в Михаила Олтускова сына Левковича и в его сынов Хрола и в Семена* 1497 там жа, 141; ці малодшыя браты пры імені старшага брата: Просил у нам *Александр Ходкевич и брат его Мишко...* штож быхмо позволили Александру продать *Тишку, брату своему,* чотыры чоловеки 1461 Кам. вол., АЛМ I в. I 13; 3) калі называюцца юрыдычна залежныя асобы пры імені ўладальніка: Просил у нас пан Довкшевич двух чоловеков, *Миля* а *Гейстя паміж* 1440—1447 Гр. п., АЛМ I в. 1 6; *Елхим* князь Юрев боярин 1461 Кобр., там жа 13; А се приданя деда нашого, князя Семена Лингвеня и отца нашого, князя Юря Лингвеневича и мое князя Ивана Юревича в Головчине селе Гридкова служба полна а чоловек прихожий *Конан* слуга путный, а чоловек прихожий *Афанас* дает куницу, а чоловек прихожий *Сысой* служба полная, а чоловек неприхожий *Сопрон* служба полная, а чоловек непохожий на Коленкове Андрей Тивун служба полная, а чоловек прихожий *Захарка* служба полная, а чоловек непохожий *Семен* служба полная... і г. д. 1468 Мсцісл. кн., там жа, 14; Бил нам чолом... пан Мартин Хребтович, и просил в нас двух чоловеков в Новогрудском повете Осецкого десятку, на имя *Бутя* а *Дробыша* 1497, там жа, 142; 4) калі гутарка ідзе пра вядомую ў данай мясцовасці асобу: Просил у нас пан *Довкшевич* двух чоловеков... каля 1440—1447 гг. Гр. п., АЛМ I в. 6; 5) калі пры імені асобы называецца прафесія, занятак, годнасць: *наместнику Каменецкому пану Насуте* 1444 Кам. вол., там жа 7; *в мытников Менских в Евлашка а у Федора...* 1496, АЛМ I в. 1 126; 6) калі перад уласным іменем ёсць агульнае сямейнае найменне: Били нам чолом *Илиничи Сидор* и з своею братиею 1448 Магілёўшчына, АЛМ I в. 1 8.

У двухслоўных найменнях у XV—XVIII стст. звычайна на першым месцы стаіць мужчынскае ўласнае імя (далей скарочана МІ), а на другім месцы знаходзіцца кампанент, які дае дадатковыя звесткі аб асобе, указваючы яе паходжанне (імя па бацьку, далей скарочана ІБ — імя бацькі), месца пражывання ці ўладанне (па назве населеных пунктаў ці абласцей, далей скарочана НМ — назва мясцовасці) ці другое імя асобы (апелятыўнае імя-мянушка, далей скарочана Ап).

У якасці першага кампанента выступаюць уласныя *асабовыя імёны ў поўнай афіцыйнай ці размоўна-бытавой форме і ў эмацыянальнаацэначных формах*. Тут, каб не паўтарацца, няма патрэбы прыводзіць адпаведны матэрыял, бо ён шырока прадстаўлены ў раздзеле «Мужчынскія імёны і прозвішчы, утвораныя ад іх» (гл., напрыклад, артыкулы аб імёнах Александр — стар. 23—24, Андрей—стар. 28—30, Василий—стар. 39—41, Георгий, Юрий— стар. 49—51, Григорий—стар. 53—56, Илия—стар. 81—82, Иоанн—стар. 83—87 і інш.).

У залежнасці ад значэння другога кампанента двухслоўныя найменні падзяляюцца на 4 групы: 1) найменні, у якіх другі кампанент характарызуе асобу па імені бацькі (МІ+ІБ), 2) найменні, у якіх другі кампанент характарызуе асобу па назве мясцовасці (МІ+НМ), 3) найменні, у якіх у якасці другога кампанента выступае апелятыўнае імя-мянушка (МІ+Ап) і 4) найменні, у якіх другім кампанентам з'яўляецца імя ўласнае хрысціянскага календара.

Найбольш шматлікімі з'яўляюцца найменні групы МІ+ІБ, у якіх у якасці другога кампанента выступаюць патранімічныя формы на *-овіч (-евіч), -ич (-ыч), -ов (-ев), -ин (-ын)*. Ва Ухвале 1528 г. яны складаюць 86,84% усіх двухслоўных найменняў (гл. табл. 4).

Сярод найменняў групы МІ+ІБ пануючае месца займаюць найменні, у якіх другі кампанент з'яўляецца патранімічнай формай на *-ович (-евич), -ич (-ыч)*. На іх долю прыпадае 83,46% усіх двухслоўных найменняў (гл. табл. 4). Формы на *-ович (-евич), -ич (-ыч)* у XVI—XVII стст. у названых найменнях былі іменем па бацьку, а не прозвішчам, як можа паказацца на першы погляд. У розных помніках указанага перыяду знаходзім вялі-

*Табліца 4*

*Колькасная суадносаць словаўтваральных тыпаў другога кампанента двухчленных назваў асобы ва Ухвале 1528 г.*

| Тэрыторыя | Імя | | Апелятыў | | -ович, -евич | | -ский | | -ов, -ев | | -ин | | -ец | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | кольк. | % | кольк. | % | кольк. | % | кольк. | % | кольк. | % | кольк. | % | кольк. | % | |
| **На тэрыторыі Беларусі** | | | | | | | | | | | | | | | |
| Астрынскія баяры . . . | — | — | 1 | 1,2 | 79 | 95,2 | 2 | 2,4 | 1 | 1,2 | — | — | — | — | 83 |
| Ашмянскі двор . . . . . | — | — | 7 | 3 | 220 | 96 | 2 | 0,9 | — | — | — | — | — | — | 229 |
| Брэсцкія зямяне . . . . | 6 | 10,31 | 5 | 8,64 | 23 | 39,65 | 20 | 34,48 | 3 | 5,15 | 1 | 1,72 | — | — | 58 |
| Васілішскія баяры . . . | 1 | 1,51 | 7 | 10,6 | 54 | 81,82 | 3 | 4,55 | 1 | 0,51 | — | — | — | — | 66 |
| Ваўкавыскія баяры . . . | — | — | 12 | 6,52 | 162 | 88,04 | 3 | 1,63 | 3 | 1,63 | 1 | 0,55 | 3 | 1,63 | 184 |
| Віцебская зямля . . . . | — | — | 6 | 16,67 | 20 | 55,56 | 3 | 8,33 | 4 | 11,11 | 3 | 8,33 | — | — | 36 |
| Гродзенскія баяры . . . | 2 | 1,04 | 18 | 9,33 | 156 | 80,83 | 9 | 4,46 | 2 | 1,04 | 6 | 3,11 | — | — | 193 |
| Лідскі двор . . . . . . | 1 | 1,47 | 7 | 10,29 | 58 | 85,3 | 1 | 1,47 | 1 | 1,47 | — | — | — | — | 68 |
| Мсціслаўскі замак . . . | 1 | 2,27 | 2 | 4,55 | 34 | 77,32 | 5 | 11,36 | — | — | 2 | 4,55 | — | — | 44 |
| Навагрудскі замак . . . | 4 | 1,85 | 6 | 2,78 | 191 | 88,42 | 7 | 3,24 | — | — | 7 | 3,24 | 1 | — | 216 |
| Пінскія баяры . . . . . | — | | 4 | 6,35 | 51 | 80,47 | 6 | 9,52 | — | — | 1 | 1,59 | 1 | 1,59 | 63 |
| Полацкія зямяне . . . . | 2 | 1,74 | 21 | 18,26 | 63 | 54,78 | 13 | 11,3 | 12 | 10,43 | 4 | 3,48 | — | — | 115 |
| Радунскія баяры . . . . | 1 | 1,04 | — | — | 94 | 97,81 | 1 | 1,04 | — | — | — | — | — | — | 96 |
| Слонімскія баяры . . . . | — | — | 7 | 8 | 77 | 90,6 | 1 | 1,18 | — | — | — | — | — | — | 85 |
| *Разам* . . . . . | 18 | 1,17 | 103 | 6,7 | 1282 | 83,46 | 76 | 4,94 | 27 | 1,75 | 25 | 1,63 | 5 | 0,3 | 1536 |
| **За межамі Беларусі** | | | | | | | | | | | | | | | |
| Бельская зямля . . . . . | 16 | 0,89 | 185 | 10,65 | 14,68 | 84,61 | 61 | 3,61 | 11 | 0,06 | 4 | 0,22 | — | — | 1738 |
| Жмудская зямля . . . . | 2 | 0,13 | 19 | 0,23 | 1298 | 83,96 | 6 | 0,39 | 1 | 0,06 | — | — | — | — | 1546* |
| Валынская зямля . . . . | 1 | 0,46 | 20 | 9,26 | 69 | 31,84 | 126 | 58,33 | — | — | — | — | — | — | 216 |

* З іх 14,23% з суфіксамі *-айтис* (110), *-ойтис* (95), *-отис* (1), *-осис* (1), *-исис* (1), *-ойтя* (1), *-ис* (9), *-ишка* (1).

кую колькасць выпадкаў, якія пацвярджаюць сказанае: *Андрей Федорович именем отца своего Федора Климовича оповедал...* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 122; *Влас Лукинич.., отца нашего Луки Ланковича* там жа, 151; *Епимах Львович Буховецски именем пана отца своего, его мл-ти пана Льва Ивановича Буховецского...* 1578 дв. Маг., ИЮМ XXXII 34; *Иван Асташкович.., небожчыку отцу моему Асташку* 1578 Магілёўшчына, ИЮМ XXXII 147; *Кондрата Гришковича... А Кондрат их* (пазычаныя ў яго грошы.—*М. Б.) для отездки своей отцу своему Грышку... взять поручил* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 170; *Кунко Тимофеевич... сына своего Мишка Кунковича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 82; *Марко, Грышко а Ходор Осташовичы.., небожчик Осташ, муж матчин, а отец наш* 1577 м. Маг., ИЮМ XXXII 197; *Я, Селивон Миткович... просил есми отца своего Митка...* там жа, 174; *Хацка а Левошка Юркович... по смерти отца их небожчика Юрка...* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 50; *Яцка Гаврыловича.., небожчика отца его Гаврилы Ивановича Новика* там жа, 145; *Семен а Охрем Кононовичи жаловали на мещанина Могилевского Поршу Лукинича о том, иж дей он скоро по смерти отца их, Конона Мойсеевича...* там жа, 70; *Лазар Иванович жаловал на... Антона Ивановича, брата своего рожоного, о том, иж дей он скоро по смерти отца их Ивана...* там жа, 64; *Орофей Фурсович за жалобою отца Фурса Степановича* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 65; *Ратко Тимошкович напротивко отца своего Тимошка* 1578 м. Маг., ИЮМ XXXII 46; *Курыло Павлович, украдшы коня его... отвел до отца своего Павла* 1597 м. Маг., ИЮМ VIII 241; *Яцко Конашевич.., Конаш Пашкович, именем сына своего Яцка* 1598 м. Маг., ИЮМ VIII 255—256; *справа мещан могилевских Чурылы Артемовича з отцем его Артемом Подвязским* 1617 м. Маг., ИЮМ VIII 344; *жона того Федора Ростопты, на имя Марья... с сыном своим Романом Федоровичом* 1624 м. Маг., ИЮМ VIII 406; *Вукола Ивановича... и сына онего Андрея Вуколовича* 1653 Маг., ИЮМ X 254; *Я, Грыгорей Уласович, сам от себе и сына своего Парфена Григоревича* 1656 м. Маг., ИЮМ X 285; *отец Никитий Евлевич,*

*свещеник буйницкий... а сын мой, Богдан Евлевич* 1664 Маг., ИЮМ X 291.

Сустракаюцца выпадкі, калі другі кампанент на *-овач (-евич)* з'яўляецца не іменем па бацьку, а іменем па мянушцы бацькі: *Гелияш С м о е в и ч..., отца нашого, пана Леона С м о я* 1634 дв. Віц. в., ИЮМ XXIV 212.

Найменні групы МІ+ІБ, у якіх у якасці другога кампанента выступаюць патранімічныя формы на *-ов (-ев),* ва Ухвале 1528 г. складаюць 1,75% усіх двухслоўных найменняў. Рэдкімі былі і найменні, у якіх другім кампанентам з'яўлялася патранімічная форма на *-ин (-ын)* — ва Ухвале 1528 г. іх 1,63%.

Трэба адзначыць розніцу ва ўжыванні другога члена найменняў на *-ович (-евич)* у Маскоўскай дзяржаве, дзе імя па бацьку на *-ович (-евич)* ў XV—XVI стст. маглі насіць толькі прадстаўнікі вышэйшых слаёў пануючага класа, а ўсе іншыя асобы мелі імя па бацьку на *-ов, -ин,* і ў Літоўскім княстве, у склад якога ў разглядаемы перыяд уваходзіла тэрыторыя сучаснай Беларусі, дзе падобнага абмежавання не было. У «Тысячнай кнізе» Маскоўскай дзяржавы 1550 г. прыкладна на тысячу выпадкаў імя па бацьку на *-ович (-евич)* маюць 28 асоб, на *-ин* —41 асоба, на *-ого* —2 асобы і больш 900 асоб — на *-ов (-ев).* Ва Ухвале 1528 г. адваротны малюнак. На 1500 выпадкаў імя па бацьку на *-овин (-евич)* маюць звыш 1200 асоб і толькі каля 50— імя па бацьку на *-ов (-ев), -ин.* Паступова ўжыванне імён па бацьку на *-ов (-ев)* у Маскоўскай дзяржаве і імён па бацьку на *-ович (-евич)* у Літоўскім княстве становіцца ўстойлівай кніжнай традыцыяй, якая, безумоўна, адыграла немалаважную ролю ў фарміраванні прозвішчаў на *-оў (-еў)* і *-овіч (-евіч).*

Найменні групы МІ+ІБ, у якіх у якасці другога кампанента ўжываюцца патранімічныя формы на *-онок (-ёнок),* адзначаны толькі ў XVIII ст. ва ўсходняй частцы Беларусі: *Алексей Халимонёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 20, *Васька Савалучонок* там жа, 16, *Дорош Бурчонок* там жа, 24, *Евхим Климёнок* там жа, 15, *Мойсей Макаренок* там жа, 17, *Андрей Левонёнок* 1526 там жа, 38, *Андрей Мойсеёнок* там жа, 79, *Аникей Гопонёнок* там жа, 79, *Антон Явстрацёнок* 1769 там жа, 10, *Есько Бондаронок* там жа, 4.

Найменні групы МІ+НМ ад агульнага ліку двухслоўных найменняў ва Ухвале 1528 г. складаюць 5,26% (гл. табл. 4). Пераважна ў якасці другога кампанента, які характарызуе асобу па назве мясцовасці, выступае прыметнік на *-ский (-цкий)*.

У помніках пісьменнасці часта адлюстроўваецца непасрэдная сувязь антрапанімічных адзінак названага тыпу з назвай населенага пункта. Асабліва выразна гэта можна прасачыць на матэрыяле Попісу 1567 г., дзе з прычыны спецыфікі гэтага дакумента падаецца і назва асобы і назва населенага пункта, у якім яна пражывае ці якім валодае: *Юрьи З а б о л о ц к и й з ыменей своих с Кленицкого и З а б о л о ц к о г о...* 1567 Ашм. п., П. 590; *Рабей Г н о й н и ц к и й з ыменья Г н о й н и ц к о г о под Городном* 1567 Гр. п., П. 676; *Валентый С н а р с к и й з ыменья своего з У с н а р а...* там жа, 700; *Станислав З а р е ц к и й з ыменья своего З а р е ч я.., Андрей З а л е с к и й з ыменья З а л е с е ц* 1567 Лід. п., П. 747; *Петр а Щастный а Иван К а м е н и ц к и е... выправили одного брата Ивана К а м е н и ц к о г о и ставили з ыменья своего К а м е н к и...* 1567 Навагр. п., П. 823; *Данило П о к р о ш е н с к и й сам дей фор, з ыменья своего с П о к р о ш о в а выслал слугу на имя Комениц-кого* там жа, 835; *Якуб Г р у з с к и й з Г р у з к о е* 1567 Ваўк п., П. 860; *Петр Д о б р о н и ж с к и й з ыменья своего з Д о б р о н и ж а.., Стецка Л ы ш ч ы н с к о г о сын Иев з ыменья Лыщич.., Лев Г о р н о в с к и й з Г о р н о в а* 1567 Бр. п., П. 1182; *Мацко Т о к а р о в с к и й с Токарова.., Богдан Ч и ж е в с к и й сам служит пану Войне з Ч и ж е в и ч выслал слугу...* там жа, 1184; *Юхно П р и ш и й ф о с т с к и й с П р и ш и ф о с т о в* там жа, 1185; *Федор С к о к о в с к и й з С к о к о в* там жа, 1188; *Ян Г о р н о в с к и й... з ыменья своего з Г о р н о в а ставил слугу Станислава Нурынского* там жа, 1189; *Офанас М у т и к о л с к и й... з ыменья его з М у т и к о л, Тимофей Ч е р н е в с к и й... з ыменья своего з Ч е р н е в а* там жа, 1190; *Валентый Х м е л е в с к и й кляча з Х м е л е в а.., Шиман К о п и е н с к и й с К о п и н...* там жа, 1191; *Федор В о л к о в и ц к и й з ыменья своего з В о л к о в и ч* там жа, 1197; *Иван Т о к а р о в с к и й з ыменья своего с Т о к а р о в конь...* там жа, 1198; *Станислав М о г и л ь н и ц к и й... з ыменей своих з Ондронова, Острова в повете Кобрынском конь, а з М о г и л н и ц ы*

там жа, 1199; *Иван Чернский з ыменя своего Черньска ставил слугу...* там жа, 1200; *Григорей Кочановский с Кочанович* конь... 1567 Пін. п., П. 1207; *Солтан Курадовский з ыменья Курадовского конь...* там жа, 1212; *Дмитрей Ратомский з ыменья своего з Ратомы* 1567 Мін. п., П. 1228; *Пан Андрей Халецкий з ыменей своих... з Халча* 1567 Рэч. п., П. 1233.

Найменні групы МІ+НМ, другі кампанент якіх мае форму на *-ец, -инец, -овец*, ужываліся толькі спарадычна: ва Ухвале 1528 г. *Петр Ордынец* б. Ваўк., 94, *Василь, Радивон Сачковцы* б. Пін., 189, *Яцько Козловец* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 167, *Сергей Басловец* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 80, *Хома Быховец* там жа, 56. Зрэдку сустракаюцца найменні з другім кампанентам на *-анин: Коста Лбучанин* 1528 Навагр. з-к, У. 35.

Найменні групы МІ+Ап ва Ухвале 1528 г. складаюць 6,7% ад усіх двухслоўных найменняў. У якасці другога кампанента ўжываецца апелятыўнае імя-мянушка, якое па сутнасці было другім, бытавым іменем: *Богдан Борщ* 1528 б. Мсцісл., У. 199, *Иван Драч* 1552 м. Пін., ПкнПКл. 26, *Григорей Горло* 1567 Лід. п., П. 749, *Костя Золотар* 1577 м. Маг., ИЮМ XXX 16, *Андрей Корогод* 1614 Арш. п., ИЮМ XXVIII 174, *Войтеха Лапу* 1624 м. Маг., ИЮМ VIII 398 і інш. Падрабязней аб лексічным складзе імён-мянушак гл. стар. 181—281.

Найменні групы МІ+МІ ва Ухвале 1528 г. складаюць 1,17% усіх двухслоўных найменняў. У якасці другога кампанента ў іх выступаюць поўныя ці эмацыянальнаацэначныя формы імён: *Аверкий: Иван Аверка* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 282; *Агей: Васка Агея* (род. скл.) 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 282, *Микита Агей, Яков Агей* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78; *Алексей: Иван Алёкса* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 254; *Амвросий, Амброжи: Грышка Абражай* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 305; *Антиох: Васко Анцута* 1567 Рэч. п., П. 1232; *Антоний: Роман Антос* 1726 Чач., ИЮМ XXVIII 42; *Артема: Андрей Арцем* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 81, *Корнили Арцюх* 1776 Маг., ИЮМ XVII 164; *Бернард: Ян Бернат* 1567 Гр. п., П. 709; *Вавила: Иван Вавула* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 254; *Василий: Барыс Васёха* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 428; *Вит: Якуб Витень* 1528 б. Гр., У. 93; *Владимир: Миколай Во-*

*лодко* 1567 Ашм. п., П. 585; *Владислав: Миколай Лодята* 1567 Навагр. п., П. 835; *Гавриил: Ивана Гавры* 1750 м. Маг., ИЮМ XV 301, *Арцем Гаврюшка, Гапон Гаврюшка, Сямён Гаврюшка* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 219, *Яна Гаврушка* 1763 Маг., ИЮМ XVI 391; *Георгий, Юрий: Богдан Юрага, Михайло Юрага, Ян Юрага* 1528 Навагр. з-к, У. 34, *Федор Юрага* 1567 Навагр. п., П. 824, *Болтромей Юрша* 1567 Ашм. п., П. 582; *Григорий: Михаил Гришко* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 76; *Дамиан: Васько Дзёма* 1728 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 34; *Димитрий: Петр Мицута* 1567 Гр. п., П. 674; *Дионисий: Иван Дзенис* 1645 с. Арш. п., ИЮМ XXIII 448; *Дорофей: Роман Дароня* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 197, *Грышко Дорош* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 72; *Евстафий: Миколая Остика* 1567 Слон. п., П. 851, *пан Юрьи Остик* Брасл. п., П. 444; *Иаков, Якуб: до Гапончыка Якуба* 1753 м. Маг., ИЮМ XV 441; *Иоанн: Цимка Иванча* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 261, *Анания Ивашень* 1646 с. Арш. п., ИЮМ XXIV 374; *Иосиф: Данило Есип* 1670 Віц. в., ИЮМ XXI 82; *Исаия: Андрей Исай* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 44; *Сцепан Исай* там жа, 42; *Карп: Михалко Карпека* 1726 Чач., ИЮМ XXVIII 44; *Кассиан: Курила Касянчик* м. Ульск., ИЮМ XXII 424; *Константин: Василь Кастан* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 428, *Станислав Костюшко* 1567 Ваўк. п., П. 861, *Ян Костюшко* там жа, 864, *Федор Костюшко* 1567, Бр. п., П. 1190, *Рафала Кости* 1567 Бр. п., П. 446, *Михвед Косця* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 248, *Прокоп Косця* 1758 Маг., ИЮМ XVI 221; *Конон: Дзмитрок Конон, Лаврен Конон* Чач., ИЮМ XXVIII 42; *Король: Панкрат Кароль* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 13, *Олексей Королько, Марцин Королько* 1646 б. Арш. п., ИЮМ XXIV 373; *Мамант: Прокоп Мамон* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 90; *Мануил: Сцепан Мануйла* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 262, *Федор Монька* там жа, 190, *Антона Муньки* там жа, 194, *Гаврис Мунька* там жа, 198; *Мефодий: Ян Нефед* 1567 Бр. п., П. 1192; *Мина: Кондрат Мина* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 221; *Михаил: Федор Михна* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 244, *Грышко Мишник* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 62; *Наум: Васко Наум* 1722 с. Маг. п., ИЮМ XII 374; *Никита* ці *Николай: Амелян Микоша* 1746 м. Ульск., ИЮМ XXII 422; *Онисий ці Онисим:*

*Роман Оноско* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 235, *Роман Оноско* 1739 Маг., ИЮМ XIV 240; *Павел ці Павлин: Иван Павута* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 258; *Ипатий: Савостиан Пац* 1726 Чач., ИЮМ XXVIII 43, *Василь Пац* 1790 с. Віц. в., ИЮМ XX 323; *Петр: Юры Пятруша* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 193, *Иван Пятруня* там жа, 262, *Максим Петка* там жа, 209, *Янко Петрыка* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 54; *Силван: Петр Селивон* 1567 Рад. хар., П. 787; *Симеон; Федор Семен* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 87, *Сава Семёха* 1623 с. Віц. в., ИЮМ XXI 79, *Илля Сенка* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 283; *Симон: Арцем Симончик* 1766 Маг., ИЮМ XVII 78, *Ничыпер Шумак* 1726 Чач., ИЮМ XXVIII 44; *Софония: Ларко Сохно* 1769 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 10; *Софроний: Феска Сапрончык* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 253; *Спиридон: Грышко Свирид* 1726 Чач., ИЮМ XXVII 43; *Стефан: Сцепан Сахончык* 1764 с. Ульск. м-ка, ИЮМ XXII 430; *Станислав: Цимошка Станиславчик* 1764 Ула, ИЮМ XXII 425; *Терентий: Ярмола Цяреня* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 318; *Тихон: Павел Тиша* 1567 Мін. п., П. 1224, *Овсей Цишчык* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 62; *Трофимий: Майсей Атронька* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 222; *Феодор: Михалко Хвёдор* 1670 с. Віц. в., ИЮМ XXI 84, *Марцин Ходарыка* 1634 Маг., ИЮМ VIII 456; *Филарет: Андрея Пилата* 1757 м. Дубровенскі, ИЮМ XVI 201; *Филимон: Захарко Филон* 1670 Маг., ИЮМ XXI 86; *Христофор: Хведор Хрысця* 1726 Чач., ИЮМ XXVIII 42; *Эразм: Венцлав Размус* 1567 Лід. п., П. 772; *Яцек: Якуб Яцына* 1567 Ашм. п., П. 576, *Федко Яцыник* 1528 Навагр. з-к, У. 33.

### Трохслоўныя найменні

Як і ў двухслоўных найменнях, на першым месцы ў трохслоўных найменнях знаходзіцца мужчынскае ўласнае імя (MI), на другім месцы — імя па бацьку (IБ), назва мясцовасці (HM), апелятыўнае імя-мянушка (АП) і другое імя мужчыны (MI). Гэтыя ж элементы выступаюць і ў якасці трэцяга кампанента трохслоўных найменняў.

У залежнасці ад значэння другога і трэцяга кампанентаў вылучаецца 12 груп трохслоўных найменняў:

I МІ+ГІБ (група імені бацькі), II МІ+ІБ+НМ, III МІ+ІБ+АП, IV МІ+ІБ+МІ, V МІ+НМ+ІБ, VI МІ+НМ+Ап, VII МІ+Ап+ІБ, VIII МІ+Ап+НМ, IX МІ+Ап+Ап, X МІ+МІ+ІБ, XI МІ+МІ+Ап, XII МІ+словазлучэнне.

I. У найменнях МІ+ГІБ у якасці другога кампанента выступае імя па бацьку, а ў якасці трэцяга — імя па дзеду (па бацьку бацькі). Адносна таго, што трэці кампанент на *-ович, -евич* быў іменем па дзеду, сведчаць такія запісы, як *Леона Г а р а с и м о в и ч а Ю р ц о в и ч а.., пры родзицу* (польск. *rodzis* 'бацька'. —*М. Б.*) *своим, пану Г а р а с и м у Ю р ц о в и ч у* 1746 Маг., ИЮМ XIV 465. Па спосабу афармлення другога і трэцяга кампанентаў ёсць 6 варыянтаў найменняў МІ+ГІБ: 1. МІ+*-ович*+*-ович(а)*, 2. МІ+*-ович*+*-ов*, 3. МІ+*-ович*+*-ин*, 4. МІ+*-ович*+*-енко*, 5. МІ+*-ов*+*-ов*, 6. МІ+*-ов*+сын (такога).

1. Найбольш пашыранымі з'яўляюцца найменні з патранімічнымі суфіксамі *-ович, -евич, -ич, -инич,* якія ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. складаюць 42,77% (212 найменняў) ад зарэгістраваных там 498 трохслоўных найменняў. Трэці кампанент у 161 найменні мае форму наз. скл. адз. л., а ў 52 найменнях — род. скл. адз. л.: Ва Ухвале 1528 г. *Богдан Сенкович Страцевич* Навагр. з-к, 33, *Ян Мацкович Ометича* б. Гр., 91, *Богуш Васкович Крупчича* з. Бр., 101; *Жука Яцутича Кобцевича* 1540 Гр., АВАК XVII 70; у Попісе 1567 г. *Заяш Янович Кутевича, Юрьи Миколаевич Кевлич, Ян Миколаевич Богушевича* Ашм. п., 567, *Якуб Юръевич Сирутевича, Венцлав Шимкович Кевлич* там жа, 568, *Степан Матеевич Васкевича* там жа, 570, *Миколай Янович Петьковича* там жа, 572, *Андрей Янович Ромейкович* там жа, 574, *Криштоф Богданович Чеховича, Петр Войтехович Козейковича, Лаврын Миколаевич Рачкевича, Григорей Андреевич Рачковича, Ян Шиманович Кгезкгайлович* там жа, 575, *Ленарт Александрович Можейкович, Лаврын Янович Можейковича, Юръи Станиславович Ятовтович* там жа, 577, *Матфей Филипович Перхуръевич* там жа, 580, *Мартин Каспарович Володькевича, Миколай Станькевич Иличич* там жа, 584, *Войтех Юръевич Сташкевича, Яхим Янович Кгабриялович* там жа, 587, *Юръи Шимкович Тарасович з села Тарасович...* там жа, 589, *Авкгуштын Станиславович Козевич* там жа, 590,

*Ян Нарушевич Петровича, Григорей Каспорович Володкевич, Ян Андреевич Якгейлович* там жа, 591, *Иван Иванкович Хацкович* там жа, 592, *Михаило, Иван, Сулиян Богуфаловичи Дорошкевича* Гр. п., 674, *Лаврин Федорович Кулбачич* там жа, 675, *Павел Васкевич Ланевича, Богдан Микитич Ланевича* там жа, 677, *Еско Степанович Каленикович, Михайло Романович Шембелевич* там жа, 679, *Тимох Жданович Обухович* там жа, 680, *Трохим Былчич Парфенович, Санюта Кондрашевич Оленич* там жа, 682, *Ждан Демъянович Глебкович* там жа, 683, *Яско Петрович Торкачевич* там жа, 686, *Федор Гришкович Заневича* там жа, 689, *Степан Венславович Волчкевича* там жа, 690, *Миколай Юдкович Володкевича* там жа, 692, *Мартин Миколаевич Шомакович* там жа, 693, *Богдан Юхнович Дмитровича* там жа, 694, *Войтех Сомашкевич Станкевича, Богдан Манцович Сезеневич* там жа, 695, *Онихим Пашутич Сезеневича, Сидор Абрамцович Сезеневич* там жа, 696, *Станислав Иванович Кудрыч з ыменья Кудрыч* там жа, 696—697, *Павел Степанович Кузмич, Поликарт Михайлович Костюкович, Мартин Петрашевич Матеевич* там жа, 697, *Гостило Игнатович Панцович, Лаврушко Гришкович Антушевич* там жа, 700, *Болтромей Амброжиевич Шимакович з дому Шимаков* там жа, 701, *Федор Матвеевич Глебович з села Глебович кляча.., Карп Дошич Иляшевич з села Дошич* там жа, 702, *Иван Гриневич Гущич* там жа, 705, *Филип Офанасович Нестерович... з ыменья своего Нестеровского, Иванко Яковович Хоцевича, Ермола Есифович Татарчич* там жа, 707, *Валентый Лавринович Хрулевич* Лід. п., 748, *Станислав Станиславович Буткевич* там жа, 751, *Ян Якубочив Стрелцевич* там жа, 752, *Щепан Оношкович Полуяновича* Навагр. п., 809, *Иван Григоръевич Менкович з Менкевич* там жа, 813, *Иван Семенович Войнилович* там жа, 815, *Корнило Иванович Вколович* там жа, 816, *Александро Стецкевич Сачкевич* там жа, 818, *Микита Станкевич Скуратович, Лаврын Богданович Романовича* там жа, 822, *Андрей Немирыч Ходкевич* там жа, 824, *Стась Федькович Тарасович, Иван Жданович Острейковича* там жа, 825, *Давыд Васкевич Гречишич, Ждан Андреевич Хилковича* там жа, 826, *Семен Стефанович Кравцевич* там жа, 828, *Алексей Семенович Остапкович* там жа, 832, *Малхер Андреевич Менкевич, Стась Неверович Моствилович* там жа, 834, *Андрей*

*Янович Микитич* там жа, 835, *Матфей Иванович Протасовича* там жа, 836, *Иван Андреевич Яцынича, Стась Янкевич Якубовича* Слон. п., 844, *Юхно Богданович Янович* там жа, 852, *Валентей Якубович Станкевича, Собко Юркович Недбаловича* Ваўк. п., 857, *Станислав Миколаевич Янушковича* там жа, 858, *Юрьи Станкович Лавринович, Ян Гришкович Лавриновича, Размус Миколаевич Войтеховича* там жа, 859, *Войтех Стасевич Бобровичь, Рахвал Янович Михновича* там жа, 861, *Павел а Матей Яновичи Андрейковича, Федор Миткович Тюхаевич* там жа, 863, *Павел Станиславович Иванкович, Андрей Семенович Иванковича* там жа, 866, *Петр Ярославович Олехнович* там жа, 867, *Макар Забейдич Микитич* там жа, 869, *Мартин Мамич Якубович з села Мамицкого* там жа, 870, *Матей Войтехович Веренчич* там жа, 872, *Матфей Василевич Ерчакович* Бр. п., 1183, *Олифер Немерыч Ошемятин* там жа, 1191, *Мартин Дрожджич Гришкович* там жа, 1192, *Матей Миколаевич Жданович* там жа, 1195, *Стась Миколаевич Мрочкевич* там жа, 1196, *Миколай Богушевич Гоголевич* там жа, 1198, *Мойсей Михнович Хомутовича* Пін. п., 1206, *Омельян Кондратович Богатовича* там жа, 1207, *Иван Протасович Максимович* там жа, 1209, *Иван Анцушкович Доманович* там жа, 1212, *Васко Иванович Шпакович, Ненад Омелякович Гореглядович* там жа, 1213, *Данило Лукашевич Сачкович* там жа, 1215, *Тихно Михайлович Корсакович* Мін. п., 1216, *Амброжей Петрович Сурымтович, Ян Юршыч Ленкович, Андрей Миколаевич Буткевича* там жа, 1217, *Щастный Янович Татаринович* там жа, 1218, *Якуб Янович Рекутевича* там жа, 1219, *Матфей Гаврилович Тишкевича* там жа, 1221, *Каспор Янович Корейвич* там жа, 1223, *Ждан Санкевич Дрогачович* там жа, 1224; *Семен Михайлович Внукович* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 202, *Павел Иванович Менчукович* 1581 м. Маг., ИЮМ VII 325, *Ждан Кузминич Авусович* 1614 м. Маг., ИЮМ VIII 326, *Петр Мелентиевич Казанович* 1664 Маг., ИЮМ X 301, *Максим Андреевич Федорович* 1746 м. Маг., ИЮМ XIV 465.

2. Найменні МІ+*-овuч*+*-ов* ва Ухвале 1528 г. не адзначаны зусім, а ў Попісе 1567 г. толькі 1 раз: *Богдан Федорович Околов* Навагр. п., 819. Некалькі разоў у XVI—XVIII стст. адзначана ў Магілёўскіх актах: *Евлан Иванович Белеев* 1586 Маг., ИЮМ VII 348, *Федор*

*Яцкович Безменков* 1663 Маг., ИЮМ X 317, *Ян Семенович Мавонов* 1744 Маг., ИЮМ XIV 388.

3. Нячаста сустракаюцца і найменні МІ+*-ович*+*-ин*: *Петр Войтехович Шкленин* 1565 Ашм. харугва, П. 262, *Петр Янович Орефин* 1565 Гр. харугва, П. 348, *Томко Мартинович Курмин* 1567 Лід. п., П. 753, *Лука Павлович Овечкин* 1594 м. Маг., ИЮМ VIII 224, *Ларко Семенович Кадушкин* 1647 м. Маг., ИЮМ X 204, *Андрея Василевича Сучкина* 1723 м. Маг., ИЮМ XII 415.

4. Толькі 1 раз адзначана найменне МІ+*-ович*+*-енко*: *Федор Яцкович Безъяенко* 1664 Маг., ИЮМ X 301.

5. Непрадуктыўным было і найменне МІ+*-ов*+*-ов*, адзначанае 1 раз: *Майсей Дзянисов Пастухов* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 248.

6. Некалькі асобна стаяць спалучэнні групы МІ+ГІБ, у якіх пасля другога кампанента стаіць слова *сын*: у Попісе 1567 г. *Ханец Мордасов сын Корозич* Гр., П. 679, *Мартин Осташов, сын Яцкевича* Слон. п., 846, *Иван, Яцков сын, Колбович* Пін. п., 1213.

Вядома, што апісаныя 6 варыянтаў найменняў групы МІ+ГІБ далёка не вычэрпваюць усіх магчымых спалучэнняў патранімічных форм у трохслоўных найменнях. Максімальная мадэль гэтай групы, калі будаваць яе на аснове 5 патранімічных форм, адзначаных у працэсе вывучэння помнікаў *-ович (-евич, -ич), -ов (-ев), -ин (-ын), -енко (-энко, -анко), -онок (-ёнок)*, уключае 25 варыянтаў: 1. МІ+*-ович*+*-ович(а)*, 2. МІ+*-ович*+*-ов*, 3. МІ+*-ович*+*-ин*, 4. МІ+*-ович*+*-енко*, 5. МІ+*-ович*+*-онок*, 6. МІ+*-ов*+*-ович(а)*, 7. МІ+*-ов*+*-ов*, 8. МІ+*-ов*+*-ин*, 9. МІ+*-ов*+*-енко*, 10. МІ+*-ов*+*-онок*, 11. МІ+*-ин*+*-ович(а)*, 12. МІ+*-ин*+*-ов*, 13. МІ+*-ин*+*-ин*, 14. МІ+*-ин*+*-енко*, 15. МІ+*-ин*+*-онок*, 16. МІ+*-енко*+*-ович(а)*, 17. МІ+*-енко*,+*-ов*, 18. МІ+*-енко*+*-ин*, 19. МІ+*-енко*+*-енко*, 20. МІ+*-енко*+*-онок*, 21. МІ+*-онок*+*-ович(а)*, 22. МІ+*-онок*+*-ов*, 23. МІ+*-онок*+*-ин*, 24. МІ+*-онок*+*-енко*, 25. МІ+*-онок*+*-онок*. Пры шырокім дэталёвым вывучэнні помнікаў лік іх яшчэ павялічыцца за кошт форм на *-еня (-эня), -чик (-чык), -ук (-юк)*, якія таксама маглі выконваць патранімічную функцыю.

II. Найменні групы МІ+ІБ+НМ характарызуюць асобу па імені бацькі і па назве мясцовасці, з якой паходзіць ці якой валодае асоба. Па спосабу афармлення дру-

гога і трэцяга кампанентаў адрозніваюцца 2 варыянты: 1. МІ+*-ович*+*-ский,* 2. МІ+*-ин*+*-ский.*

1. Найменні МІ+*-ович*+*-ский* ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. з агульнага ліку 498 зарэгістраваных там трохслоўных найменняў складаюць 13,25% (66 найменняў): ва Ухвале 1528 г. *Адам Яшкович Новогонский* шл. Ашм. дв., 22, *князь Андрей Иванович Лукомский* Пол. з-ля, 194; у Попісе 1567 г. *Ян Матеевич Видавский* Ашм. п., 568, *Миколай Янович Яровский* там жа, 570, *Петр Войтехович Михаловский* там жа, 574, *Собостьян Станиславович Варакумский* там жа, 585, *Станислав Матеевич Видавский* там жа, 587, *Станислав Войтехович Зубрицкий з Зубрыцы* Гр. п., 677, *Гораин Юхнович Куровский* там жа, 678, *Федор Иванович Миленский* там жа, 680, *Максим Тимошевич Струпинского* там жа, 681, *Стась Павлович Завадцский* там жа, 683, *Собостьян Войтехович Зубрыцский* там жа, 686, *Павел Мартинович Снарский, Процко Михайлович Снарский* там жа, 688, *Ян Миколаевич Каменский* там жа, 690, *Михайло Гриневич Быковский* там жа, 709, *Шимко Миколаевич Чаплинский* Лід. п., 751, *Ян Собестыянович Хоецкий* там жа, 752, *Станислав Амброжеевич Жакгневский* Навагр. п., 821, *Семена Андреевича Якушовского* там жа, 831, *Богуш Митькевич Тушевицкий з ыменья своего с Тушевича з Гнойна* Слон. п., 840, *Петра Петровича Запольского* Ваўк. п., 854, *Каспор Никодимович Техоновицкий* там жа, 856, *Якуб Венцкович Подберезкий з ыменья Монтяков кони 2, а с Подберезя в повете Виленском конь 1* там жа, 856—857, *князь Александро Михайлович Глинский* там жа, 865, *Андрей Станиславович Стоцкий* там жа, 866, *Григорей Аврамович Непокойчицкий* Бр. п., 1182, *Богуш Федорович Горновский* там жа, 1183, *Сидор Богданович Нелоевецкий з ыменья своего з Нелоевич* там жа, 1183, *Иван Иванович Волковицкий, Василей Офанасович Телятицкий выслал сына Андрея, з ыменья с Телятич* там жа, 1184, *Андрей Яцкевич Черневский... з Чернева и з Волкович ставил слугу Берната* там жа, 1190, *Федор Яцкевич Зболоцкий з Болот и з Яголков* там жа, 1191, *Петр Левша Телятицкий з ыменья своего Телятич выслал слуг бояр* там жа, 1192, *Михайло Заранко Горбовский з ыменья своего Горбова с повинности ставил кони 2...* там жа, 1194,

*Иван Хведорович Кривоблоцкий* там жа, 1195, *Филя Степанович Добронижский* там жа, 1197, *Богдан Богушевич Туминский... выслал слугу Ивана Енелевича зыменья своего с Тумина на кони* там жа, 1202—1203, *Грицко Богданович Кочановский* Пін. п., 1206, *Офанас Михайлович Дубенецкий з ыменья своего Дубенца* там жа, 1210, *Аврам Семенович Лозицкий* там жа, 1212, *Володька Ивановича Селецкого* там жа, 1215, *Ян Иляшевич Границкий* Мін. п., 1219, *Павел Андреевич Чаплинский* там жа, 1220, *Щастный Павлович Недобылский* там жа, 1222, *Иван Василевич Веприцкий* там жа, 1224, *Ян Федорович Песецкий* там жа, 1225, *Полко Михайлович Госковский* Рэч. п., 1232.

2. Найменне МІ+*-ин* +*-ский* адзначана 1 раз: *Юрый Юражын Модебицкий* 1565 Ваўк. хар., П. 326.

Многія з прыведзеных найменняў маюць пры сабе назвы населеных пунктаў, ад якіх утвораны субстантываваны прыметнік на *-ский,* што выступае ў ролі трэцяга кампанента,—характарызуе асобу па назве мясцовасці. Тое ж мы бачылі і ў двухслоўных найменнях з другім кампанентам на *-ский* (гл. стар. 292—293). Можна думаць, што ў XVI ст. большасць антрапонімаў на *-ский* тапанімічнага паходжання, таму пры асцярожным выкарыстанні асабовых назваў на *-ский* у значнай меры можна пашырыць слоўнік тапонімаў XVI—XVII стст. Але ў XVI—XVII стст. і асабліва ў XVIII ст. антрапонімы на *-ский* маглі ўтварацца і ад саміх асабовых назваў, г. зн. суфікс *-ский* паступова набываў антрапанімічную функцыю.

Максімальная мадэль найменняў групы МІ+ІБ+НМ пры ўліку 5 патранімічных форм *-ович (-евич, -ич), -ов (-ев), -ин (-ын), -енко (-энко, -анко), -онок (-ёнок)* і 4 форм для абазначэння мясцовасці *-ский (-цкий), -ец (-эц), -анин (-янин), -ук (-юк)* уключае 20 варыянтаў: 1. МІ+*-ович*+*-ский,* 2. МІ+*-ович*+*-ец,* 3. МІ+*-ович*+*-анин,* 4. МІ+*-ович*+*-ук,* 5. *МІ*+*-ов*+*-ский,* 6. МІ+*-ов*+*-ец,* 7. МІ+*-ов*+*-анин,* 8. МІ+*-ов*+*-ук,* 9. МІ+*-ин*+*-ский,* 10. МІ+*-ин*+*-ец,* 11. МІ+*-ин*+*-анин,* 12. МІ+*-ин*+*-ук,* 13. МІ+*-енко*+*-ский,* 14. МІ+*-енко*+*-ец,* 15. МІ+*-енко*+*-анин,* 16. МІ+*-енко*+*-ук,* 17. МІ+*-онок*+*-ский,* 18. МІ+*-онок*+*-ец,* 19. МІ+*-онок*+*анин,* 20. МІ+*-онок*+*-ук.* Мадэль можа быць пашырана за кошт уключэння новых патранімічных форм (гл. стар.

299) і новых форм для характарыстыкі асобы па назве мясцовасці.

III. Найменні групы МІ+ІБ+Ап характарызуюць асобу па імені бацькі і апелятыўным іменем-мянушкай. Па характару суфіксацыі імені па бацьку адрозніваюцца 4 варыянты найменняў: 1. МІ+*-овичь*+Ап 2. МІ+*-ов*+Ап, 3. МІ+*-ин*+Ап, 4. МІ+*-онок*+Ап.

1. Найбольш пашыраны найменні МІ+*-овичь*+Ап. Яны складаюць 34,55% (172 найменні) ад агульнай колькасці 498 трохслоўных найменняў, зарэгістраваных ва Ухвале 1528 г. і Попісе 1567 г. Некалькі ілюстрацый: *Ян Матеевич Петух* 1528 б. Ваўк., У. 95, у Попісе 1567 г. *Василей Михайлович Кулбака* Ашм. п., 567, *Валентын Андреевич Луста* там жа, 577, *Мись Мефедович Кулик* з. Гр. п., 685, *Войтех Петрашевич Голяк* там жа, 688, *Богдан Мацкевич Перепеча з именья своего з Перепечич* Лід. п., 754, *Ильяш Василевич Жабка* Навагр. п., 830, *Гришко Павлович Гречиха* там жа, 837, *Михайло Михайлович Мотовило* Слон. п., 840, *Мартин Иванович Безусый* там жа, 841, *Миколай Якубович Вислоух* Ваўк. п., 858, *Андрей Семенович Кобыз* там жа, 865, *Лев Василевич Затепяка* Бр. п., 1190, *Рафал Михайлович Жук* там жа, 1200, *Иван Дашкович Гладкий* Пін. п., 1206, *Крыштоф Мартинович Ширма* там жа, 1212, *Мартин Гаврилович Волк* Мін. п., 1216, *Иван Михайлович Рубль* Рэч. п., 1232, *Степан Григоръевич Ловейко* Маз. п., 1235, *Васко Опанасович Росада* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 202, *Яну Ивановичу Шевни* 1643 м. Маг., ИЮМ IX 449, *Иван Миронович Мотуз* 1746 Маг., ИЮМ XXX 284. Вычарпальны матэрыял можна атрымаць у раздзеле «Імёны-мянушкі» (стар. 196—281). У тым жа раздзеле разглядаюцца лексіка-семантычныя разрады апелятыўнай лексікі, што выкарыстоўваліся ў імёнах-мянушках (стар. 181—196).

2. Найменні МІ+*-ов*+Ап некалькі разоў адзначаны ў XVIII ст. у Магілёўскіх актах: *Данило Янков Мазоль* 1726 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 50, *Силивон Павлов Шаповал* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 287, *Михалка Радзков Музыка* там жа, 197.

3. Непрадуктыўнымі былі і найменні МІ+*-ин*+Ап: *Иван Косцин Гамшей* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 257.

4. Тое ж трэба сказаць і аб найменнях МІ+*-онок*+Ап: *Сцепан Стрельбёнок Шостак* 1726 Чач. ст., ИЮМ

XXVIII 38, *Яковом Юдзёнком Старовойциком* 1765 Маг., ИЮМ XVI 441.

Патэнцыяльна магчымы і варыянт МІ+*-енко*+Ап, а таксама варыянты з патранімічнымі формамі на *-еня (-эня), -чик (-чык), -ук (-юк),* якія вядомы па сучасных прозвішчах, але ў абследаваных помніках не адзначаны.

IV. Найменні групы МІ+ІБ+МІ характарызуюць асобу па імені бацькі і пры дапамозе другога імені хрысціянскага календара. Апошняе ў такіх выпадках, відаць, выконвала неаднолькавую ролю. Напрыклад, у найменнях *Василей Федорович Федюшко* (1567 Пін. п., П. 1203), *Марцин Мацвеевич Матейка* (1746 м. Маг., ИЮМ XXX 205), магчыма, у якасці трэцяга кампанента выступае эмацыянальнаацэначная форма імені бацькі, якая была сямейным празваннем і дабаўлялася да імені кожнага члена сям'і, скажам, для прыведзеных выпадкаў — *Василей Федюшко, Марцин Матейко,* а таксама да імён іх братоў і сясцёр, напрыклад *Петр Федюшко, Адам Матейко* і інш. Другі кампанент з'яўляецца афіцыйнай формай імені па бацьку. Такім чынам, мы маем двайное ўжыванне імені бацькі. Наогул выпадкі ўжывання хрэснага імені ў якасці трэцяга кампанента нешматлікія. Прывядзём іх усе: У Попісе 1565 г. *Андрей Миколаевич Герман* Ашм. харугва, 268, *Станислав Манкевич Грышко* Ваўк. харугва, 321, *Богуш Петрович Мицута,* Гр. харугва, 346, *Иван Федорович Мелешко* там жа, 355; у Попісе 1567 г. *Болтромей Томкович Лодвик з ыменья Лодвиковского* Ашм. п., 576, *Павел Матеевич Юрша* там жа, 579, *Богуш Петрович Мицута, Богуш Мицута* Гр. п., 673, *Василей Михайлович Мелешко* Слон. п., 846. Тут другое хрэснае імя (трэці кампанент) не супадае з іменем, ад якога ўтворана імя па бацьку( другі кампанент). Відавочна, гэта хрэснае імя — імя дзеда, якое стала, як у разгледжаных вышэй выпадках імя бацькі, сямейным празваннем. Магчымы, аднак, і іншы шлях.

Вядомы шматлікія выпадкі, калі сучасныя прозвішчы з мэтай выказвання ў адносінах да носьбітаў іх фамільярна-спагадлівых адносін ці захаплення ў вуснах сяброў, блізкіх, добразычліўцаў, «паклоннікаў» ці «балельшчыкаў» набываюць спрошчаную форму. Тады *Чапаеў* у вуснах Пецькі ператвараецца ў *Чапай,* прозвішчы футбалістаў мінскага «Дынама» — *Дзенісенка, Мустыгін, Малафееў, Адамаў* у вуснах балельшчыкаў

ператвараюцца ў *Дэяніс, Мустыга, Малафей, Адам(чык)*. Абсалютна ідэальная рэканструкцыя ўтвараючых асноў! Магчыма, што і хрэснае імя ў трэцім кампаненце трохслоўных найменняў з'яўляецца рэканструяванай па адной з патранімічных форм формай імені дзеда.

Калі ўлічваць удзел 5 патранімічных форм ва ўтварэнні найменняў групы МІ+ІБ+МІ, то магчымы яшчэ варыянты: МІ+*-ов*+МІ, МІ+*-ин*+МІ, МІ+*-енко*+МІ, МІ+*-онок*+МІ.

V. Найменні групы МІ+НМ+ІБ характарызуюць асобу па назве мясцовасці, якой яна валодае ці з якой паходзіць, і па імені бацькі: у Попісе 1565 г. *Петр Ероцки Бобровича* Ваўк. харугва, 322, *Щасны Новицки Есмонтовича* Гр. харугва, 356; у Попісе 1567 г. *Щастный Новицкий Ейсимонтович* Гр. п., 698, *Иван Диковский Мартинович з дыму з Дикович кляча, Грыц Диковский Ленкович з Дикова з дыму мерин, Василей Диковский Остапович з дыму з Дикович мерин* Пін. п., 1211.

Максімальная мадэль найменняў групы МІ+НМ+ІБ пры ўліку 4 форм для характарыстыкі асобы па назве мясцовасці і 5 патранімічных форм уключае 20 варыянтаў (гл. стар. 301), з перастаноўкай другога і трэцяга кампанентаў.

VI. Найменні групы МІ+НМ+Ап характарызуюць асобу па назве мясцовасці і апелятыўным іменем-мянушкай. Група непрадуктыўная: *Ян Човский Лях* 1528 Пол. з-ля, У. 196, *Матыс Спудвиловский Козыра* 1567 Гр. п., П. 690, *Филип Чирвинский Лях* 1567 Бр. п., П. 1201.

Пры ўліку 4 форм для характарыстыкі асобы па назве мясцовасці яшчэ магчымы варыянты: МІ+*-ец*+Ап, МІ+*-анин*+Ап, МІ+*-ук*+Ап.

VII. Найменні групы МІ+Ап+ІБ характарызуюць асобу апелятыўным іменем-мянушкай і іменем па бацьку. Па форме імені бацькі вылучаюцца 2 варыянты: 1. МІ+Ап+*-ович,* 2. МІ+Ап+*-онок:* 1. *Станислав Толочко Шымковича* 1565 Гр. харугва, П. 350, у Попісе 1567 г. *Иван Шешула Обухович* Гр. п., 680, *Иван Русин Войнилович* Навагр. п., 815, *Павел Мизгир Васкевич* Слон. п., 851, *Миколай Кирдей Гричинович* Пін. п., 1212, *Самуел Пастаялка Бабичович* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 241, *Ян Полагейко Дзегцяревич* 1759 г. Маг., ИЮМ

XVI 309. Магчыма, што ў выпадку ўжывання ў якасці трэцяга кампанента формы род. скл. адз. л. патранімічная форма ўтворана ад імені дзеда.

2. *Сямён Косы Ядронёнок* 1704 Чач. ст., ИЮМ XXVIII 13.

Пры ўліку 5 патранімічных форм патэнцыяльна магчымы і варыянты МІ+Ап+*-ов*, МІ+Ап+*-ин*, МІ++Ап+*-енко*.

VIII. Найменні групы МІ+Ап+НМ характарызуюць асобу апелятыўным іменем-мянушкай і па назве мясцовасці. Група непрадуктыўная: *Юшко Колейник Диковицкий* 1528 б. Пін., У. 189, *Василей Заранко Горбовский сам не выехал, з ыменья своего з Горбова ставил кони 2* 1567 Бр. п., П. 1198—1199. Магчымы і варыянты МІ+Ап+*-ец*, МІ+Ап+*-анин*, МІ+Ап+*-ук*.

IX. Найменні групы МІ+Ап+Ап характарызуюць асобу двума апелятыўнымі іменамі-мянушкамі: *Андрей Юха Большы* 1746 м. Маг., ИЮМ XXX 223, *Атрофим Кукольны Ценко* там жа, 247. Магчыма, што ў прыведзеных найменнях не два імені-мянушкі, а мянушка-словазлучэнне, якое складаецца з прыметніка і назоўніка. Параўн. найменні XI групы.

X. Найменні групы МІ+МІ+ІБ характарызуюць асобу другім хрэсным іменем і іменем па бацьку (параўн. найменні IV групы, стар. 303—304). Група непрадуктыўная: *Гаврило Микито Костентиновича* 1565 Гр. харугва, П. 348, *Андрей Ромашко Матеевич* 1567 Ашм. п., П. 590. Магчымы і варыянты МІ+МІ+*-ов*, МІ+ МІ+*-ин*, МІ+МІ+*-енко*, МІ+МІ+*-онок*.

XI. Найменні групы МІ+МІ+Ап характарызуюць асобу другім хрэсным іменем і апелятыўным іменем-мянушкай, адзначаны 4 разы: *Ян Станислав Римонт* 1565 Ваўк. харугва, П. 329, *Крыштоф Мишко Баба* 1565 Ашм. харугва, П. 265, *Стефана Яна Слизня* 1667 Гр., АВАК XV 203, *Юрий Владислав Касило* 1668 Гр., там жа, 238—239. У кожным найменні ёсць спецыфічныя для católікаў імёны, таму магчыма, што наяўнасць 2 імён тут звязана са звычаем, пашыраным у асяроддзі католікаў, надаваць дзіцяці пры хрышчэнні некалькі імён.

XII. Найменні групы МІ+словазлучэнне: *Станько Долгая шия* 1528 б. Гр., У. 93, *сын сотника Новое Недели Миколаев* 1540 Гр., АВАК XVII 232.

### Чатырохслоўныя найменні

Чатырохслоўныя найменні асоб мужчынскага полу сустракаюцца рэдка. Па значэнню і размяшчэнню кампанентаў вылучаецца 6 груп:

I. Найменні МІ+ГІБ (група імені бацькі): *Петр Станиславович Лущикович Ейсимонтович* 1567 Гр. п., П. 698, *Малахияш Андреевич Гуторович Казкевич.., а не от родича моего Андрея Казкевича* 1706 Маг., ИЮМ XI 203.

II. Найменні МІ+ГІБ+Ап: *Яцко Михайлович Зеновъевича Корсак* 1528 Пол. з-ля, У. 193, *Кгабриел Михайлович Суткевича Тарло* 1565 Ваўк. харугва, П. 322, *Андрей, Матфей, Богдан, Евменей а Василей Филиповича Перфуревича Копти* 1567 Гр. п., П. 701, *Лев Федкович Заневич Доха* там жа, 710.

III. Найменні МІ+ІБ+Ап+НМ: *Валенты Аукгустинович Ейсимонтовича Снарски* 1565 Гр. харугва, П. 356, *Станислав Васкевич Тофтик Суходолский з именья Суходола* 1567 Бр. п., П. 1201, *Филону Семеновичу Кмите Чорнобыльскому* 1578 Маг., ИЮМ VII 279, *Якова Юдзёнка Старовойцеха Хроневского* 1765 Маг., ИЮМ XVI 442.

IV. Найменні МІ+ІБ+Ап+Ап: *Гапон Федорович Тулея Донец* 1630 Маг., ИЮМ VIII 432.

V. Найменні МІ+ІБ+МІ+Ап: *Шимко Янович Ейсимонт Вынимок* 1567 Гр. п., П. 686.

VI. Найменні МІ+Ап+ІБ+НМ: *Семан Тур Курылович Зубацкий з именья своего Зубач* 1567 Бр., п., П. 1202, *Иван Кмита Стретович Березовецкий* 1567 Мін. п., П. 1227.

# Найменні асоб жаночага полу

Запісы асоб жаночага полу ў помніках XVI—XVIII стст. сустракаюцца значна радзей, чым запісы асоб мужчынскага полу. Тлумачыцца гэта бяспраўнасцю жанчыны ў той час, поўнай эканамічна-гаспадарчай, юрыдычнай і асабістай залежнасцю яе ў дашлюбны час ад бацькі, а ў пасляшлюбны перыяд ад мужа. Абмежаванае эканамічна-гаспадарчае і прававое становішча жанчыны ў грамадстве абумовіла той факт, што ў дзелавых дакументах разглядаемага перыяду ў якасці юрыдычнай асобы звычайна выступаюць асобы мужчынскага полу. Асобы жаночага полу ў гэтай ролі выступаюць толькі ў выпадку адсутнасці ў сям'і «гаспадара» — бацькі ці мужа або ў выпадку якой-небудзь цяжбы, у якой жанчына выступае як ісцец ці адказчык.

У сувязі з неабходнасцю ў юрыдычных мэтах найбольш поўна ідэнтыфікаваць асобу ў юрыдычных актах выкарыстоўваюцца мнагаслоўныя назвы асоб жаночага полу, у прыватнасці двух-, трох-, чатырох-, пяці- і шасціслоўныя. Больш поўная характарыстыка асобы жанчыны дасягаецца шляхам акрэслення яе становішча па паходжанню або па шлюбу ці адначасова па аднаму і другому. Таму ў разгорнутых назвах жанчын, акрамя іх імені, прысутнічае імя бацькі (ІБ) ці імя мужа (ІМ) або абодва разам.

Імя бацькі ў такіх назвах афармляецца суфіксамі *-овна, -евна, -ична, -инна, -анка.* З суфіксамі *-овна, -евна (Марина Козловна, Ганна Масевна)* імя па бацьку адзначана ў XVI—XVIII стст. на ўсёй тэрыторыі Беларусі (матэрыял гл. на стар. 309—310). У тэксце часам сустракаем і само імя бацькі, што дае падставу гаварыць аб лайтранімічнай функцыі суфіксаў *-овна, -евна* ў беларускіх

помніках XVI—XVIII стст.: *Аннушка Богдановна за речи отца ее Богдана Киновара* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 106, *Огреня Потаповна, вдова, через отца своего Потапа Хадотовича* там жа, 59, *Улита Семеновна.., Улита Семеновна Федоровичовна.., через отца своего рожоного Семена Федоровича* 1610 Маг., ИЮМ VIII 295, *Орина Ивашковна, посполу з Иваном Федковичом, отцом своим* 1637 Маг., ИЮМ IX 301. Аб патранімічным значэнні ўтварэнняў на *-овна, -евна* сведчаць і выпадкі запісу ў дакументах брата жанчыны: *Феди Романовны.., в дом брата ее рожоного словутного пана Игната Романовича* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 206, а таксама выпадкі запісу мужа жанчыны ў тым разе, калі імя мужа не ўключае той лексічнай адзінкі, ад якой ёсць утварэнне на *-овна, -евна* ў складзе разгорнутай назвы яго жонкі: *Овдотья Клишковна через мужа своего Овсея Тишковича* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 193, *Варка Андреевна, малжонка Степана Зобежчыка* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 189, *жону Дмитра Ивановича Малера Ходосю Сопроновну* там жа, 80.

Імя па бацьку з суфіксамі *-ична, -инна* адзначана ў XVI ст. на Магілёўшчыне (гл. стар. 310). Для гэтых суфіксаў у помніках знаходзім толькі ўскоснае пацвярджэнне патранімічнага значэння праз запіс мужа жанчыны: *Оксиню Кузминну, жону небощыка Ивана Ларковича* 1596 Маг., ИЮМ VIII 232. Імя па бацьку з суфіксам *-анка* адзначана ў XVI ст. у заходняй і цэнтральнай частках Беларусі (гл. стар. 310).

Імя мужа ў разгорнутых назвах жанчын афармляецца суфіксамі *-овая, -иная, -ова, -ина, -овка, -иха (-ыха)*. Імёны па мужу з суфіксамі *-овая, -иная (Барбара Шымковая, Богдана Яцутиная)* адзначаны ў XVI ст. на ўсёй тэрыторыі Беларусі (гл. стар. 310—311), з *-ова, -ина (Васка Павлюкова, Тоця Круцихина)*—у XVI—XVIII стст. на Магілёўшчыне (гл. стар. 311—312), з *-овка* — у XVIII ст. з *-иха(-ыха), (Адарья Сидорыха)*—у XVIII ст. на Магілёўшчыне (гл. стар. 311—312). Для суфіксаў *-овая, ова-* ў тэксце сустракаем матэрыял, які пацвярджае, што ў Беларусі ў перыяд XVI—XVII стст. яны служылі для ўтварэння імені жанчыны па імені мужа: *Федю Борисовую... за мужа своего Бориса* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 39, *от Варушы Степановое мужа ее Степана* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 190, *на учтивую Устиня Тимофеевая, яко матка забитого небощика сына своего, Онисима Тимофеевича* 1638 Маг.,

ИЮМ IX 335; *Настася Озарова.., мужа ее небожчика Озара* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 5.

У разгорнутых трох-, чатырох-, пяці- і шасціслоўных назвах жанчын ужываецца імя бацькі (далей скарочана ІБ), імя мужа (далей скарочана ІМ), прыметнік на *-ский* (далей скарочана НМ—назва мясцовасці) ці апелятыўнае імя-мянушка (далей скарочана Ап). Разам з іменем бацькі ці мужа ў разгорнутым найменні жанчыны могуць ужывацца ўсе элементы разгорнутага наймення бацькі ці мужа. Такім чынам, пры імені жанчыны ўтвараецца спалучэнне слоў, якое характарызуе жанчыну па паходжанню, па бацьку (група імені бацькі, далей скарочана ГІБ) ці па шлюбу, па мужу (група імені мужа, далей скарочана ГІМ). У многіх выпадках у склад разгорнутага наймення жанчыны ўваходзяць і ГІБ і ГІМ.

**Двухслоўныя найменні**

Двухслоўныя жаночыя назвы ў XVI—XVIII стст. звычайна пачынаюцца з жаночага імені. Гэты парадак кампанентаў будзем называць прамым, а той, пры якім жаночае імя знаходзіцца на другім месцы, — інверсійным.

У назвах з прамым парадкам кампанентаў у залежнасці ад значэння другога кампанента адрозніваем 4 групы жаночых найменняў: 1. Найменні, у якіх дадатковая характарыстыка асобы жаночага полу даецца па імені бацькі (ІЖ+ІБ). 2. Найменні, у якіх дадатковая характарыстыка асобы жаночага полу даецца шляхам указання імені мужа (ІЖ+ІМ). 3. Найменні, у якіх дадатковая характарыстыка асобы жаночага полу ажыццяўляецца прыметнікам на *-ский,* што ўказвае мясцовасць (населены пункт), якой валодае асоба ці яе сям'я, або месца пражывання (ІЖ+НМ). 4. Найменні, у якіх дадатковая характарыстыка асобы жаночага полу ажыццяўляецца пры дапамозе апелятыўнага імені-мянушкі (ІЖ+Ап).

1. У найменнях ІЖ+ІБ другі кампанент характарызуецца суфіксамі *-овна(-евна), -инна, -анка,* г. зн. вылучаецца 3 варыянты найменняў групы ІЖ+ІБ. Найбольш часта ў разглядаемы перыяд сустракаецца спалучэнне ІЖ+*-овна(-евна):* ва Ухвале 1528 г. *Ганна Масевна* б. Вас., 86, *Марина Козловна* б. Ваўк., 95, *Маря Громовна* з. Бр., 100; у Попісе 1567 г. *Ганна Зеньковна* Ашм. п.,

593, *Ганна Котовна* Слон. п., 840, *Ганна Михайловна* Ашм. п., 581, *от Томилы Тишовны* Навагр. п., 822, *Ядвига Григорьевна* Рад. хар., 785, *Ядвиге Яновне* Навагр. п., 835; *Ганя Федоровна* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 206, *Мари Гавриловны* вдовы, там жа, 203, *Маръя Ивановна* там жа, 223, *сестры своей Масюты Игнатовны* там жа, 227, *Овгини Федковны* там жа, 184, *Овдотья Клишковна через мужа своего Овсея Тишковича* там жа, 193, *Домна Игнатовна* 1577 Маг., ИЮМ XXX 162, *Парася Хотяновна* там жа, 22, *убогая сирота Олена Олферовна* 1577 Быхаў, ИЮМ XXX 136, *Аннуша Богдановна... за речи отца ее Богдана Киновар*а 1578 Маг., ИЮМ XXXII 106, *Варка Андреевна, малжонка Степана Зобежчына* там жа, 189, *Ганну Амеляновну* там жа, 37, *вдова Настася Семеновна* там жа, 59, *Овдотья Романовна* там жа, 53, *Огреня Потаповна, вдова, через отца своего Потапа Ходотовича* там жа, 59, *Орины Сидоровны* там жа, 68, *Просиню Иевлевну* там жа, 239, *жону Дмитра Ивановича Малера Ходосю Сопроновну* там жа, 80, *тещи своей Хони Есковне* там жа, 115, *Немида Тишковна* 1579 Маг., ИЮМ VII 316, *сама Улита Семеновна.., через отца своего рожоного Семена Федоровича* 1610 Маг., ИЮМ VIII 295, *Даря Козлевна* 1619 Маг., ИЮМ VIII 349, *Ходосью Андреевну* 1623 Маг., ИЮМ VIII 376, *Орина Ивашковна, посполу з Иваном Федковичом, отцом своим* 1637 Маг., ИЮМ IX 301, *жоны его Параси Мамоновны* там жа, 195, *Матки ее небожчицы Параси Степановны* там жа, 193, *Степанида Ивановна* там жа, 263, *Улиты Прокоповны* там жа, 180, *Феди Романовны.., в дом брата ее рожоного славутного пана Игната Романовича* там жа, 231.

Спалучэнне IЖ+*-инна* адзначана толькі ў Магілёўскіх актах у XVI ст. усяго 3 разы: *Поладя Мининна* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 179, *от Феди Захаринны* там жа, 46, *Оксиню Кузминну, жону небощыка Ивана Ларковича* 1596 Маг., ИЮМ VIII 232.

Спалучэнне IЖ+*-анка* зарэгістравана ў XVI ст. 4 разы ў заходняй і цэнтральнай частках Беларусі: ва Ухвале 1528 г. *Ганна Заступянка* б. Вас., 86; у Попісе 1567 г. *княгиня Оленя Шолушанка* Мін. п., 1227, *от Рожи Стрижанки* Ваўк. п., 863, *Барбара Чаплянка* Вас. хар., 780.

2. У найменнях IЖ+IМ другі кампанент утвораны пры дапамозе суфіксаў *-овая, -иная, -ова, -ина, -овка, -иха*. Найбольш часта адзначаны спалучэнні, другі кам-

панент якіх аформлены суфіксам *-овая* (ІЖ+*-овая*). Зарэгістраваны яны ў XVI—XVII стст. 33 разы па ўсёй тэрыторыі Беларусі: ва Ухвале 1528 г. *Барбара Шымковая* Лід. п., 32, *Дорота Татеевая* б. Гр., 90, *Овдотья Олехновая* Наваґр. з-к, 37; у Попісе 1567 г. *Алжбета Войтеховая* Лід. п., 758, *Барбара Боглановая* Гр. п., 684, *Барбара Матьясовая* Лід. п., 751, *Богдана Романовая* Мін. п., 1229, *Василиса Вколовая* Гр. п., 704, *Галена Криштофовая* Ашм. п., 569, *Ганна Матеевая* Лід. п., 765, *Ганна Семеновая* Пін. п., 1207, *Ганна Чеховая* Ашм. п., 586, *Ганна Юрьевая* Лід. п., 757, *Дорота Бернатовая* Лід. п., 763, *Марына Киряновая* Рад. хар., 784, *Марина Яцковая* Навагр. п., 836, *Овдотья Дмитровая* Пін. п., 1215, *Олена Александровая* Ашм. п., 595, *от Олены Манковое* Бр. п., 1199, *Полонея Денисовая* Гр. п., 676, *Рожа Лукашевая* Лід. п., 769, *Зофея Павловая* Мін. п., 1230; у Магілёўскіх актах *Вася Скомороховая вдова* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 203, *Ганну Готовцовую* там жа, 276, *на учтивую Федю Борисовую..., за мужа своего Бориса* там жа, 39, *Аксиня Яковлевая* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 5, *у Аннуши Ивановое* там жа, 89, *От Варушы Степановое мужа ее Степана* там жа, 190, *Катуша Левоновая* там жа, 165, *Марья Митковая* там жа, 196, *Водя Васковая* 1637 Маг., ИЮМ IX 304, *в дому Масюты Василевое* 1609 Маг., ИЮМ VIII 278, *Устиня Тимофеевая, яко матка забитого небощика сына своего Онисима Тимофеевича* 1638 Маг., ИЮМ IX 335.

Спалучэнне ІЖ+*-иная* зарэгістравана ў XVI ст. 8 разоў у розных частках Беларусі: *Марина Тризниная* 1528 б. Ваўк., У. 94, у Попісе 1567 г. *Богдана Кучиная* Гр. п., 694, *Богдана Яцутиная* Гр. п., 702, *Ганна Славутиная* Слон. п., 839, *Марина Бруялчиная* Пін. п., 1206, *Пологея Кулбачиная* Гр. п., 676; *напротивко Авдоти Кулазиное* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 192; *Дося Матюшиная* 1636 Маг., ИЮМ VIII 522.

Спалучэнне ІЖ+*-ова* адзначана ў XVI—XVIII стст. 11 разоў на Магілёўшчыне: *Настася Озарова.., мужа ее небожчика Озара* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 5, *Агапею Артемовою* 1637 Маг., ИЮМ IX 301, *Арина Вербаловичова* 1746 Маг., ИЮМ XXX 197, *Варка Сазончыкова* там жа, 194, *Васка Павлюкова* там жа, 288, *Водзя Горбачова* там жа, 265, *Ксения Ситникова* там жа, 215, *Минка Фядосова* там жа, 183, *Прося Паплавкова* там жа, 302, *Тося*

*Скачкова* там жа, 220, *Усцинна Ламанова* там жа, 223. Спалучэнні ІЖ+*-ина* і ІЖ+*-овка* адзначаны ў XVIII ст. па аднаму разу ў Магілёве: *Тоця Круцихина* 1746 Маг., ИЮМ XXX 312; *Агапия Бацовка* там жа, 305. Спалучэнне ІЖ+*-иха(-ыха)* зафіксавана ў XVIII ст. 36 разоў на Магілёўшчыне: *Адаръя Сидориха* 1722 Маг., ИЮМ XII 341, у Інв. 1746 *Авгиня Михниха* Маг., ИЮМ XXX 319, *Авгиння Маслёнчыха* там жа, 292, *Агапъя Музычыха* там жа, 174, *Аксюта Автущиха* там жа, 259, *Аксюта Кужалиха* там жа, 311, *Алеся Данчыха* там жа, 281, *Арина Василиха* там жа, 262, *Варка Кулажыха* там жа, 243, *Водзя Варанчыха* там жа, 312, *Водзя Лабачыха* там жа, 308, *Водзя Пазнячыха* там жа, 206, *Водзя Сливчыха* там жа, 313, *Водзя Смаргуниха* там жа, 312, *Ганна Дылдзиха* там жа, 190, *Ганна Казлиха* там жа, 316, *Ганна Мазалиха* там жа, 274, *Адарыя Авсянчыха* там жа, 317, *Адарыя Шавуриха* там жа, 312, *Домна Гаращыха* там жа, 305, *Мария Круцилиха* там жа, 240, *Марыя Мялещыха* там жа, 210, *Марияны Чарцихи* там жа, 277, *Маруся Лучыха* там жа, 214, *Маруся Маскалиха* там жа, 319, *Насця Маречиха* там жа, 206, *Наталля Катляриха* там жа, 311, *Парасси Капылихи* там жа, 283, *Поля Асколчыха* там жа, 313, *Поля Бусалиха* там жа, 297, *Поля Мухнина* там жа, 224, *Поля Пятрачыха* там жа, 319, *Прося Ганчарыха* там жа, 271, *Тося Чарнячыха* там жа, 268, *Улляна Будылиха* там жа, 290, *Улляна Дземяниха* там жа, 238, *Усциння Шумейчыха* там жа, 283, *Ходося Ваўчыха* там жа, 311.

3. У найменнях ІЖ+НМ другі кампанент характарызуе асобу па прыналежнасці ёй (ці членам усёй сям'і) пэўнага населенага пункта — двара, маёнтка, вёскі ці па месцы пражывання яе. У якасці другога кампанента гэтых спалучэнняў выступае прыметнік на *-ский* у форме жаночага роду. Спалучэнне ІЖ+*-ский* адзначана ў XVI і XVIII стст. 10 разоў у розных частках Беларусі: ва Ухвале 1528 г. *Пани Ганна Щитницкая* з. Бр., 101, *Зохна Любелская* б. Пін., 188; у Попісе 1567 г. *Богдана Морыченская* Пін. п., 1215, *Катерина Шурская* Ваўк. п., 860, *Малгорета Прасковская* Вас. хар., 779, *Марья Велятицкая* Пін. п., 1206, *Светохны Василевское* Пін. п., 1208; *Ганна Цыборовская* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 183, *Тося Дарская* 1746 Маг., ИЮМ XXX 313, *Улляна Заруцкая* там жа, 319.

4. Найменне ІЖ+Ап адзначана ў XVI ст. 1 раз і ў XVIII ст. 5 разоў: *Катерина Коза* 1567 Ашм. п., П. 583; *Матруна Луста* 1746 Маг., ИЮМ XXX 257, *Матруна Селянка* там жа, 197, *Наталля Балбатуха* там жа, 294, *Тося Табачница* там жа, 316, *Усциня Пирожница* там жа, 257.

Двухслоўныя назвы з інверсійным парадкам размяшчэння кампанентаў (у якіх ІЖ на другім месцы) уключаюць спалучэнні 1. ІМ+ІЖ, 2. НМ+ІЖ.

У спалучэннях ІМ+ІЖ першы кампанент утвораны пры дапамозе суфіксаў *-овая(-евая), -иная*. У XVI ст. звычайна ўжывалася спалучэнне *-овая(-евая)*+ІЖ, адзначанае 8 разоў пераважна ў заходняй і паўночнай частках Беларусі: ва Ухвале 1528 г. *Грибовая Альжбета* Ашм. дв., 23, *Шимановая Ганна* б. Ваўк., 94, *Щепановая Марина* Ашм. дв., 25, *Ковойтевая Ядвига* Ашм. дв., 24; у Попісе 1567 г. *Митковая Вася* Ваўк. п., 868, *Войтеховая Дорота* Астр. хар., 790; *от мещанки Созоновое Огрени* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 195. У XVII—XVIII стст. падобныя найменні не зарэгістраваны. Спалучэнне *-иная*+ІЖ адзначана толькі 1 раз: *Яцутиная Оксюта* 1567 Гр. п., П. 706.

Спалучэнне *-ский*+ІЖ зарэгістравана 1 раз: *Жиромская Ганна* 1567 Ашм. п., П. 591.

### Трохслоўныя найменні

Як і ў двухслоўных назвах, найчасцей у трохслоўных назвах зафіксаваны прамы парадак кампанентаў — на першым месцы знаходзіцца ІЖ. Адзначаны, аднак, і назвы з інверсійным парадкам кампанентаў, калі ІЖ займае другое ці нават трэцяе месца.

У назвах з прамым парадкам кампанентаў у залежнасці ад значэння другога і трэцяга кампанентаў адрозніваем 5 груп найменняў: 1. ІЖ+ГІБ, 2. ІЖ+ІБ+ІМ, 3. ІЖ+ІБ+НМ, 4. ІЖ+ГІМ, 5. ІЖ+Ап+ІМ.

У спалучэннях ІЖ+ГІБ другі і трэці кампаненты ўтвараюць семантычнае адзінства — характарызуюць імя жанчыны з пункту погляду яе паходжання, а генетычна ўзыходзяць да двухслоўных мужчынскіх найменняў. Элементы ГІБ характарызуюцца тымі ж суфіксамі, што і кампаненты ІБ у двухслоўных назвах, г. зн. суфіксамі *-овна, -евна, -анка*. Пры гэтым у адных назвах другі

і трэці кампаненты ўтвораны пры дапамозе аднаго і таго ж суфікса, а ў другіх — пры дапамозе розных суфіксаў. Такім чынам, узнікаюць варыянты а) ІЖ+ +(*-овна+-овна*) і б) ІЖ+(*-овна+-анка*): а) у П. 1567 *Ганна Яновна Соболевна* Ашм. п., 567, *Ядвига Яновна Можейковна* Ашм. п., 577; у Магілёўскіх актах *жона моя Аннуша Грыцковна Кононовна* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 102, *Устины Андреевны Зверковны* там жа, 89, *Овдотя Ивановна Клыпачовна* (жона Савы Орефина) 1577 Маг., ИЮМ XXXII 181, *Улита Семеновна Федоровичовна... через отца своего рожоного Семена Федоровича* 1610 Маг., ИЮМ VIII 295; б) *Аруты Артемовны Кривичанки* 1753 Маг., ИЮМ XV 436.

У найменнях ІЖ+ІБ+ІМ другі кампанент утворан пры дапамозе суфікса *-овна,* а трэці — суфіксаў *-овая, -иная, -иха.* З гэтай прычыны існуе 3 варыянты разглядаемых спалучэнняў: а) ІЖ+*-овна+-овая,* б) ІЖ+ *-овна+-иная,* в) ІЖ+*-овна+-оха*: а) у П. 1567 *Ганна Михайловна Матеевая* Лід. п., 763; у Магілёўскіх актах *Мари Даниловны Филимоновое.., Мари Даниловны позосталое малжонки Филимона Овтуховича* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 40, *Алена Костевна Федоровая* 1609 Маг., ИЮМ VIII 285, *Васюты Михайловны Тимофеевое* 1636 Маг., ИЮМ IX 278, *Орину Ивашковну Турцовую... в дому отца ее Ивашка, мешкаючую, по малжонку ее небощику Ониску* 1637 Маг., ИЮМ IX 292; б) у Магілёўскіх актах *Арины Азаровны Хоминое... водле тестаменту отца ее Озара Тишковича* 1578 Маг., ИЮМ XXII 11; в) у Магілёўскіх актах *Оксинею Скоковною Жоровихою* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 282, яна ж *Оксинею Есковною Жоровихою* там жа, 258, *Тоцю Трунёвну Гнилячиху* 1743 Маг., ИЮМ XIV 372 (яе муж: *Цимошка Гниляк,* там жа, 371).

Найменне ІЖ+ІБ+НМ адзначана толькі 1 раз: *Марину Богушовну Черневскую* 1567 Бр. п., П. 1183. Вылучэнне падобных спалучэнняў у самастойную групу з'яўляецца правамерным толькі ў тым разе, калі трэці кампанент утварае семантычнае адзінства з першым, г. зн. яны разам утвараюць групу імені жанчыны (ГІЖ). Калі ж трэці кампанент уваходзіць у ГІБ., найменне належыць да групы ІЖ+ГІБ, а ў выпадку, калі ён адносіцца да ІМ, найменне ўваходзіць у групу ІЖ+ГІМ. Прыведзенае ў якасці ілюстрацыі найменне з П. 1567 г. не мае ў тэксце ніякіх дадатковых тлумачэнняў. Таму з

упэўненасцю нельга ўказаць значэнне трэцяга кампанента, а разам з тым вызначыць месца названага спалучэння сярод іншых. Аўтар проста выкарыстаў гэта найменне для вызначэння патэнцыяльна магчымай групы спалучэнняў.

У найменнях ІЖ+ГІМ другі і трэці кампаненты складаюць семантычнае адзінства (характарызуюць імя жанчыны па мужу), адзінства, якое ўтварылася з двухслоўных мужчынскіх найменняў (гл. стар. 288—295). Элементы ГІМ утвараюцца пры дапамозе тых жа суфіксаў, што і кампаненты ІМ у двухслоўных назвах: *-овая, -ова, -иная, -ина, -иха*. Але другі элемент ГІМ, які звычайна ў спалучэннях разглядаемай групы з'яўляецца суфіксам *-овин* (у форме наз. ці род. скл. адз. л.). У залежнасці ад структуры кампанентаў ГІМ вылучаюцца варыянты найменняў групы ІЖ+ГІМ: а) ІЖ + *(-овая+-овая)*, б) ІЖ+*(-овая+-овин)*, в) ІЖ+*(-овая+-овича)*, г) ІЖ++*(-овая+-ская)*, д) ІЖ+*(-ина+-ова)*, е) ІЖ+*(-иха++-иха)*: а) адзначана 4 разы у П. 1567 *Марына Павловая Зубовая* Лід. п., 759, *Зофею Ждановую Селивоновую* Астр. хар., 793, *Томила Олехновая Биевтовая* Навагр. п., 833, *Ядвига Юръевая Сутковая* Лід. п., 752; б) адзначана 2 разы ў П. 1567 *Ганна Гришковая Станевич* Гр. п., 697, *Ганна Станиславовая Дмишевич* Гр. п., 676; в) адзначана 4 разы у П. 1567 *Богдана Гришковая Яковлевича* Навагр. п., 813, *Томила Богдановая Ивонича* Ашм. п., 583; у Магілёўскіх актах *Тацяна Ивановая Куръяновича* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 3, *на Паладю Семеновую Юшковича* 1582 Маг., ИЮМ VII 328; г) у П. 1567 *Алжбета Станиславовая Одаховская* Ваўк. п., 860, *Малкгорета Процковая Ленская* Ашм. п., 569; д) *Анастасия Микитина Шумейкова.., Микита Шумейка* 1747 Маг., ИЮМ XV 156; е) адзначана ў XVIII ст. 3 разы ў Магілёўскіх актах *Агапя Лявониха Шыкениха* 1746 Маг., ИЮМ XXX 286, *Арина Микициха Баравичыха* там жа, 239, *Маруся Аляксеиха Дзещиха* там жа, 255.

Найменні ІЖ+Ап+ІМ зусім рэдкія. Зарэгістравана дзве разнавіднасці: а) ІЖ+Ап+*-овая*, б) ІЖ+Ап++*-иха*: а) *Ганна Московка Гринюковая* 1567 Рад. хар., П. 788; б) *Марына Жидкая Корчмиха* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 210.

У трохслоўных найменнях з інверсійным парадкам кампанентаў ІЖ можа быць на другім і трэцім месцы.

У назвах, дзе ІЖ стаіць на другім месцы, у залежнасці ад значэння першага і трэцяга кампанентаў адрозніваецца 3 групы: 1. ІМ+ІЖ+ІБ, 2. ЭГІМ+ІЖ+ЭГІМ, 3. ІМ+ІЖ+Ап.

У найменнях ІМ+ІЖ+ІБ першы кампанент характарызуе імя жанчыны па імені мужа, а трэці — па імені бацькі. Яно адзначана 1 раз у варыянце *-овая*+ІЖ+ +*-инна: Осиповую Поладю Мининну* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 179.

У найменнях ЭГІМ+ІЖ+ЭГІМ першы і трэці кампаненты (ЭГІМ —элемент групы імені мужа) утвараюць семантычнае адзінства, характарызуючы імя жанчыны па імені мужа. Пры гэтым імя мужа з фармантам *-овая* стаіць на першым месцы, перад ІЖ, а другі элемент ГІМ — звычайна імя мужа па бацьку — знаходзіцца на трэцім месцы і характарызуецца суфіксамі *-овая, -овича*. Зарэгістраваны два варыянты найменняў ЭГІМ+ІЖ+ЭГІМ: а) *-овая*+ІЖ+*-овая,* б) *-овая*+ІЖ+*-овича* (кожны па аднаму разу): а) *Адамовая Ганна Петруховая* 1528 Маг., У. 60; б) *Шимковая Ганна Грицкевича* 1567 Навагр. п., П. 828.

У найменнях ІМ+ІЖ+Ап першы кампанент характарызуе імя жанчыны па імені мужа і афармляецца суфіксам *-овая,* а трэці указвае на мясцовасць, якою жанчына валодае ці ў якой пражывае, і ўтвараецца пры дапамозе суфікса *-ская.* Спалучэнне зарэгістравана адзін раз: *кнегиня Ивановая Полонея Жижемская зыменья своего з Жыжмы* 1567 Лід. п., П. 754.

Трохслоўныя найменні з інверсійным парадкам кампанентаў, пры якім ІЖ знаходзіцца на трэцім месцы, у залежнасці ад значэння кампанентаў, падзяляюцца на 2 групы: 1. ІМ+ІБ+ІЖ, 2. ГІМ+ІЖ.

У найменнях ІМ+ІБ+ІЖ першы кампанент характарызуе імя жанчыны па імені мужа, другі — па імені бацькі; адзначаны варыянт *-овая*+*-овна*+ІЖ: у П. 1567 *Борисовая Коптевна Марина* Брасл. п., 634—635, *Собестыяновая Млечковна Ядвига* Лід. п., 755.

У найменнях ГІМ+ІЖ+ГІМ уключае два кампаненты, першы з якіх характарызуе імя жанчыны па імені мужа (з суфіксам *-овая),* другі з'яўляецца іменем мужа па бацьку (з суфіксамі *-овая, -овича*) ці ўказвае на ўладанне (месца пражывання) мужа. Вядомы варыянты: а) *-овая*+*-овая*+ІЖ, б) *-овая*+*-овича*+ІЖ, в) *-овая*+

+-*ская*+ІЖ: а) у П. 1567 *Глебовая Есмановая Марина* Мін. п., 1228, *Заранковая Федоровая Милохна* Бр. п., 1197, *Гришковая Родовая Настатья* Лід. п., 795, *Матеевая Нелюбовая Настатья* Лід. п., 749; у Магілёўскіх актах *Васковое Текуновое Ганны* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 79; б) *Миколаевая Прокоповича Ягнежка* 1567 Гр. п., 689; в) у П. 1567 *Себестьяновая Кготомская Богдана* Навагр. п., 830, *Миколаевая Летенская Ганна* Гр. п., 678, *Миколевая Одаховская Федора* Навагр. п., 821.

## Чатырохслоўныя найменні

Чатырохслоўныя найменні з прамым парадкам кампанентаў у залежнасці ад значэння другога, трэцяга і чацвёртага кампанентаў падзяляюцца на дзве групы: 1. ІЖ+ІБ+ГІМ, 2. ІЖ+ІМ+ГІБ.

У найменнях ІЖ+ІБ+ГІМ другі кампанент — імя жанчыны па бацьку (з суфіксам *-овна, -ична)*, а трэці і чацвёрты ўтвараюць семантычнае адзінства ГІМ, характарызуючы жанчыну па імені мужа (трэці кампанент з суфіксамі *-овая, -ова)* і імені мужа па бацьку (чацвёрты кампанент з суфіксамі *-овая, -ова, -иная, -овича)* ці па назве ўладання, месца пражывання мужа (чацвёрты кампанент з суфіксам *-ская)*. У залежнасці ад структуры другога, трэцяга і чацвёртага кампанентаў вылучаецца 5 варыянтаў спалучэнняў: а) ІЖ+-*овна*+(-*овая*+-*овая)*, б) ІЖ+-*овна*+(-*овая*+-*овича)*, в) ІЖ+ -*овна*+(-*ова*+ +-*ова)*, г) ІЖ+-*овна*+(-*овая*+-*ская)*, д) ІЖ+-*ична*+ +(-*овая*+-*иная)*: а) у П. 1567 *Ганна Кондратовна Станисловая Нарушовая* Ашм. п., 584, *Овдотья Сопотковна Миколаевая Толочковая* Гр. п., 674; б) у П. 1567 *Настасъя Глебовна Миколевая Юръевича* Ашм. п., 582, в) *Тося Трунёва Тимофеева Гнилякова* 1746 Маг., ИЮМ XIV 367 (яе муж: *Цимошка Гниляк* там жа, 371); г) у П. 1567 *Ганна Корсаковна Семеновая Тугановская* Навагр. п., 830, *Олена Андреевна Якубовая Бредовская* Ашм. п., 570; у Магілёўскіх актах *пані Зофию Хлусовичовну Павловую Щыкгельскую* 1647 Маг., ИЮМ X 220, *молжонкою небожчика пана Щыкгельского Зофиею Еленьскою Хлусовичовною* там жа, 219; д) у Магілёўскіх актах *Наталя Ермолычна Ивановая Истобчиная.., муж ее Иван Истобчинич* 1577 Маг., ИЮМ XXX 32.

У найменнях ІЖ+ІМ+ГІБ другі кампанент — імя жанчыны па імені мужа (з суфіксам *-овая)*, а трэці і чацвёрты ўтвараюць семантычнае адзінства ГІБ, характарызуючы імя жанчыны па імені бацькі (трэці кампанент з суфіксамі *-овича, -евича)*. Адзначаны варыянт ІЖ+*-овая*+*(-овна -евича): Ганна Грышковая Мартиновна Кгродевича* 1567 Ашм. п., П. 579.

Назвы з інверсійным парадкам кампанентаў па значэнню другога, трэцяга і чацвёртага кампанентаў аб'ядноўваюцца ў дзве групы: 1. ГІМ+ІЖ+ІБ, 2. ІМ+Ап++ІЖ+ІБ.

1. Найменні ГІМ+ІЖ+ІБ у залежнасці ад асаблівасцей суфіксальнага афармлення кампанентаў ГІМ і ІБ рэалізуецца ў варыянтах а) *(-овая+-овая)*+ІЖ++*-овна,* б) *(-овая -овая)* + ІЖ+*-инна,* в) *(-овая +* +*-овая)* + ІЖ +*-анка,* г) *(-овая +-иная)*+*ІЖ* +*-инна,* д) *(-овая +-иная)*+ІЖ+*-анка,* е) *(-овая+-овича)*++ ІЖ + *-овна,* ж) *(-иная + -овича)*+ ІЖ + *-овна,* з) *(-овая+-ская)*+ІЖ+*-овна,* і) *(-овая+-ская)*+ІЖ+*-анка:* а) у П. 1567 *Щастная Скиндеровая Ганна Шеметовна* Вас. хар., 776, *Щастная Толочковая Ганна Держковна* Гр. п., 694, *Матысовая Третяковая Луцея Богушевна* Лід. п., 747; у Магілёўскіх актах *Есковая Доволевая Парася Хинковна..., через сына своего Харка Есковича* 1577 Маг., ИЮМ XXX 112; б) *Давыдовая Толчковая Настася Тишинна* 1567 Мін. п., П. 1217; в) *Ждановая Колонтаевая Марина Тризнянка* 1567 Ваўк. п., П. 855; г) *Ивановая Истобчиная Наталя Ермолинна... муж ее Истобчинич* 1577 Маг., ИЮМ XXX 32; *пани Андреевая Шолушиная Ганна Служчанка* 1567 Мін. п., П. 1228; е) *Семеновая Маскевича Ганна Котовна* 1567 Навагр. п., П. 829; у Магілёўскіх актах *Ивановая Семеновича Лукеря Васковна, восполок из сыном своим Хомою Ивановичом* 1577 Маг., ИЮМ XXX 103, *Охремовая Парфеновича Маря Охремовна.., муж ее, небожчик Охрем Парфенович* там жа 45, *Федоровой Грынишковича Огапи Василевне* там жа, 103 *Филиповая Рымковича учтивая Людмила Яцковна* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 56, *вдова Лукъяновая Омеляновича Огапя Ходоровна* там жа, 81, *Ждановую Богдановича Матруну Федковну, Матруну Федковны муж ее Ждан Богданович* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 184, 185, *Мартиновая Ерошовича Овдотя Гордеевна восполок и з сыном своим Кузмою Мартиновичом* там жа, 199; ж) *Ко-*

*стиную Васковича Марю Сидоровну о том, иж дей муж ее Костя Васкович* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 64; з) у П. 1567 *Данилевая Жижемская Богдана Сидоровна* Вас. хар., 776, *Венславовая Маечевская Овдотья Янушевна* Гр. п., 704, *Яновая Мневская вдова Зофея Ждановна* Ваўк., 862; у Магілёўскіх актах *Станиславовая Тиборовская Ганна Куприевна через мужа своего Станислава Цыборовского* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 276; і) *Василевая Масалская Зофея Чаплянка* 1567 Бр. п., П. 1193.

Асобна трэба разглядзець спалучэнне *(-овая + -иная)* + ІЖ + *-овая*, якое па структуры першага, другога і чацвёртага кампанентаў можна вылучыць у самастойны тып ГІМ + ІЖ + ЭГІМ (на той падставе, што чацвёрты кампанент мае суфікс *-овая*, пры дапамозе якога ўтвараюцца лексемы ад імені мужа): *Ивановая Истобчиная Наталя Мартиновая* 1577 Маг., ИЮМ XXX 37. Аднак у тэксце дакумента ёсць матэрыял, які дае права меркаваць, што чацвёрты кампанент з суфіксам *-овая* ў дадзеным выпадку выконвае неўласцівую яму функцыю — з'яўляецца іменем па бацьку. Справа ў тым, што ў дакуменце ёсць разгорнутае трохслоўнае найменне мужа і двухслоўнае найменне яго брата: *муж ее Иван Артемович Истобчинич, Евлана Истобчинича, рожоного брата мужнего* 1577 Маг., ИЮМ XXX 37; там жа на стар. 32 *Иван Истобчинич*, у якіх не сустракаецца імя *Мартин*, што стала асновай для ўтварэння чацвёртага кампанента. Можна думаць, што гэта ІБ, і ў такім разе разгледжанае спалучэнне з'яўляецца яшчэ адным варыянтам групы ГІМ + ІЖ + ІБ.

Найменне ІМ + Ап + ІЖ + ІБ адзначана 1 раз у варыянце *-овая* + Ап + ІЖ + *-овна: Василевая Жидкая Марина Василевна через сына своего Ивана Василевича оповедала* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 190. Аднак магчыма, што другі кампанент — гэта элемент разгорнутага наймення мужа *(Иван Жидкий)*, тады і гэта спалучэнне належыць да групы ГІМ + ІЖ + ІБ.

### Пяціслоўныя найменні

Пяціслоўныя найменні з прамым парадкам кампанентаў па значэнню кампанентаў аб'ядноўваюцца ў тып ІЖ—ГІМ, у якім ГІМ уключае *-овая* + *-ская* + *-овая* +

*+-овая: Ганна Богдановая Быстрейская Яновая Корейвиновая* 1567 Мін. п., П. 1223.

У найменнях з інверсійным парадкам кампанентаў ІЖ можа быць на трэцім і чацвёртым месцы. Назвы, у якіх ІЖ знаходзіцца на трэцім месцы, па значэнню кампанентаў уваходзяць у тып ГІМ +ІЖ+ГІБ. Зарэгістраваная назва гэтай групы характарызуецца такой структурай кампанентаў *(-овая+-овича)*+ІЖ+*(-овна+ +-анка): от Филиповое Рымковича Людмилы Яцковны Старостянки* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 107. Назвы, у якіх ІЖ на чацвёртым месцы, па значэнню кампанентаў належаць да тыпу ГІМ+ІЖ+ІБ. Адзначаны дзве разнавіднасці: а) *(-овая+-овича+-овая)*+ІЖ+*-ова,* б) *(-овая+ +-овича+-инича)*+ІЖ+*-инна: а) Харлаповую Левоновича Кравцовую на ймя Наталю Орефъевну... небожчику мужу ее Харлапу* 1578 Маг., ИЮМ XXXII 79; б) *Ивановую Артемовича Истобчинича Наталю Ермолинну* 1577 Маг., ИЮМ XXX 32, *муж ее Иван Артемович Истобчинич* там жа, 37.

### Шасціслоўныя найменні

Шасціслоўныя найменні адзначаны толькі з інверсійным парадкам кампанентаў. Па значэнню кампанентаў можна вылучыць дзве групы найменняў. Першая ўключае два тыпы. І. ГІМ+ІЖ+ЭГІМ, кампаненты якога характарызуюцца фармантамі *(-овая+-овая+-овая)*+ +ІЖ+*(-иная+-иха),* г. зн. фармантамі ГІМ. Калі б не было дадатковых звестак у тэксце, па фармальнай прыкмеце трэба было б рэканструяваць тып ГІМ+ +ІЖ+ЭГІМ+ЭГІМ. Але тэкст паказвае, што пяты кампанент наймення з суфіксам ІМ *-иная* ўтвораны не ад імені мужа, а ад імені бацькі: *на мещанку Яковую Потребенсковую Будатниковую Оксинью Ескиную Жоровиху... и з мужем своим Яковом.., через брата своего Дешка Есковича* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 215.

2. ГІМ+ІБ+ІЖ+ІБ+ЭГІМ, у якім кампаненты ўтвораны пры дапамозе суфіксаў *(-иная+-иная)+-овна+ +*ІЖ+*-овна+-ина,*— своеасаблівая рамачная канструкцыя, дзе ІЖ знаходзіцца ў двайных рамках — ЭГІБ і ЭГІМ: *Ермолиная Хоминичиная Волковна Поладя Мацковна Голутвина* 1577 Маг., ИЮМ XXXII 207.

Найменні другой групы адрозніваюцца тым, што два

кампаненты іх характарызуюць імя жанчыны па годнасці мужа (пасада, званне і інш.), г. зн. тым, што ўключаюць новую групу — групу годнасці мужа (ГМ). Сярод іх можна вылучыць 2 тыпы: 1. ГІМ+ГМ+ІЖ+ІБ, кампаненты якога ўтвораны суфіксамі *(-овая+-иная)+ +(-иная+-ская)*+ІЖ+*-овна: пани Станиславовая Кишчиная, воеводиная Витебская, пани Анна Радивлловна* 1567 Віц., П. 449. 2. ІМ+ГМ+ІЖ+ГІБ, з кампанентамі, аформленымі суфіксамі *-овая+(-овая+-ская)*+ІЖ+ +*(-овна+-анка): Андреевая Хоружичовая Ейшишская Зофея Яновна Сурвилянка* 1567 Лід. п., П. 756.

### Сямісloўныя найменні

Адзначаны адзін выпадак тыпу ГІМ+ГМ+ІЖ+ГІБ са структурай кампанентаў *(-овая+-овая)+(-иная+ +-ская)*+ІЖ+*(-овна+-ская): подданые ее милости пани Баркулабовое Корсаковое, старостинои Дисненское, Полонеи Василевны Кроснинское* 1578, ИЮМ XXXII 68.

# Заключэнне

Антрапанімічная сістэма кожнай мовы ўключае найменні афіцыйна-юрыдычнага характару і размоўна-бытавыя. Першыя, з'яўляючыся элементам пісьмовай мовы, у большай ці меншай меры унармаваны. Афіцыйна-юрыдычныя найменні ўсходнеславянскіх моў характарызуюцца трохступенчатай будовай (імя : імя па бацьку : прозвішча), а кожны кампанент гэтых найменняў мае строга акрэсленую структуру, як правіла, агульную для ўсёй тэрыторыі пашырэння канкрэтнай мовы. У лексічных адносінах тут маем справу з трыма класамі слоў: імя, імя па бацьку, прозвішча.

Размоўна-бытавыя найменні выкарыстоўваюцца ў сферы вусных зносін. Сярод іх адрозніваюцца мянушкі (прыкла́ды, назвы па-вулічнаму) і бытавыя назвы па імені (прозвішчу, мянушцы). У якасці мянушак практычна могуць ужывацца любы апелятыў, уласныя асабовыя імёны шырока вядомых ці вядомых толькі ў канкрэтнай мясцовасці людзей, а таксама геаграфічныя назвы. Мянушкі звычайна захоўваюць структуру ўтвараючага слова. Бытавыя назвы па імені ўтвараюць падсістэму, якая патрабуе самастойнага вывучэння. Тут вылучаюцца назвы: 1) сын па імені бацькі *(Піліп: Піліпчык, Піліпёнак, Піліпчук, Піліпяня, Піліпаў)*, 2) дачка па імені бацькі *(Піліп: Піліпянка, Піліпішка, Піліпава)*, 3) сын па імені маткі *(Верын, Марылін, Марылёнак)*, 4) дачка па імені маткі *(Верына, Марыліна)*, 5) унук па імені дзеда *(Піліпчык, Піліпчыкаў)*, 6) унучка па імені дзеда *(Піліпчыкава)*, 7) унук па імені бабкі звычайна называецца пры адсутнасці бацькоў дзіцяці *(Верын, Марылін)*, 8) унучка

па імені бабкі (Верына, Марыліна), 9) жонка па імені мужа *(Паўлючыха, Тодарыха; Паўлюкова, Тодарава; Паўлюшча, Тадорша)*, 10) муж па імені жонкі *(Марылін, Верын)*, 11) сын па мянушцы бацькі *(Мароз: Марозік, Марозчык, Маразёнак, Маразюк, Маразяня, Марозаў)*, 12) дачка па мянушцы бацькі *(Маразянка, Марозішка, Марозава)*, 13) сын па мянушцы маткі *(Ступа: Ступін, Ступёнак)*, 14) дачка па мянушцы маткі *(Ступіна)*, 15) унук па мянушцы дзеда *(Каваль: Кавалёк, Кавалёў)*, 16) унучка па мянушцы дзеда *(Кавалёва)*, 17) унук па мянушцы бабкі *(Лякотка: Лякотчын)*, 18) унучка па мянушцы бабкі *(Лякотчына)*, 19) муж па мянушцы жонкі *(Картавая: Картавай, Картавы)*, 20) жонка па мянушцы мужа *(Мянёк: Мяньчыха, Мянькова)*, 21) сын па бытавому імені маткі, утворанаму ад імені яе мужа *(Паўлючыха: Паўлючышын; Тодарыха: Тодарышын)*, 22) дачка па такім жа імені *(Паўлючышына, Тодарышына)*, 23) унук па такім жа імені дзеда *(Паўлючышын, Тодарышын)*, 24) унучка па такім жа імені бабкі *(Паўлючышына, Тодарышына)*, 25) сын па бытавому імені маткі, утворанаму ад мянушкі яе мужа *(Мяньчыха: Мяньчышын)*, 26) дачка па такім жа імені *(Мяньчышына)*, 27) унук па такім жа імені бабкі *(Мяньчышын)*, 28) унучка па такім жа імені бабкі *(Мяньчышына)*, 29) асоба мужчынскага полу па прозвішчу *(Вашына: Вашынчык, Вашынаў; Іваноў: Іван, Іванчык)*, 30) асоба жаночага полу па прозвішчу *(Вашынішка, Вашынянка, Вашынава; Іванянка)*.

У помніках XVI—XVIII стст. элементы размоўна-бытавых найменняў шырока выкарыстоўваліся для ідэнтыфікацыі канкрэтнай асобы. Амаль усе з трыццаці пералічаных бытавых назваў асобы адлюстраваны ў помніках і ў сучасных беларускіх прозвішчах.

Сучасныя трохступенчатыя афіцыйна-юрыдычныя найменні: «імя : імя па бацьку : прозвішча» склаліся паступова. У першай палавіне XVI ст. (па матэрыялах Ухвалы 1528 г.) трохслоўныя найменні складалі толькі 1,3% ад усіх зарэгістраваных, на долю двухслоўных прыпадала 98,7%; у другой палавіне XVI ст. (па матэрыялах Попісу 1567 г.) трохслоўныя найменні ўжо складалі 18,73%, двухслоўныя — 81,26); а ў сярэдзіне XVII ст. (па матэрыялах «Сметной книги г. Витебска» 1655 г.) трохслоўныя — 32,4%, двухслоўныя — 67,6%. Спарадычна ўжываліся і чатырохслоўныя найменні.

На першым месцы ў двух-, трох- і чатырохслоўных найменнях знаходзілася ўласнае асабовае імя ў поўнай ці эмацыянальнаацэначнай (найчасцей памяншальнай) форме. У прааналізаваных помніках зафіксаваны формы 225 уласных асабовых мужчынскіх імён праваслаўнага і каталіцкага календара. Каштоўнай крыніцай пры вывучэнні лексічнага саставу і асаблівасцей словаўтварэння імён перыяду XVI—XVIII стст. з'яўляюцца сучасныя беларускія прозвішчы, па якіх рэканструяваны формы 103 імён, не зафіксаваных у помніках, і некаторыя формы тых імён, якія ў помніках адзначаны ў іншай форме.

Асабліва прыкметныя змены адбыліся ў імёнах, традыцыйна-царкоўная форма якіх заканчвалася на [-*ий*], [-*ия*]. Адпаведна кожнай з такіх форм у Беларусі ў XV—XVIII стст. бытавалі 2 ці нават 3 новыя формы: без канцавых [-*ий*], [-*ия*], з канцавым галосным, калі пасля знікнення [-*ий*] аснова заканчвалася зычным гукам, з канцавым [-*ей*] замест канцавога [-*ий*]. Напрыклад: *Алексий: Алексей, Алекса; Антоний: Антон, Антоней; Иеремия, Иеремий: Еремей, Ерома* і інш. Традыцыйна-царкоўныя формы імён перажылі шэраг фанетычных змен — у прыватнасці спрашчэнне груп зычных і груп галосных, замену пачатковага галоснага [е] галосным [о] ці [а], гука [ф]— гукамі [х], [п], [хв] і інш., у выніку чаго ўзніклі варыянты поўнай формы імені. Пісьмовая традыцыя захоўвала ў беларускіх помніках і некаторыя традыцыйна-царкоўныя формы.

Шырока прадстаўлены ў помніках XV—XVIII стст. і польскія імёны — імёны каталіцкага календара, носьбітам якіх было насельніцтва каталіцкага веравызнання.

Эмацыянальнаацэначныя формы ўтварыліся пры дапамозе суфіксаў: *-ко(-ка), -шко, -ушко, -ашко, -ошко, -ешко, -ейко, -дко, -дько, -цко, -ско, -сько, -нко, -нько, -нашко; -ик(-ык), -чык, -ика; -ок, -сючок; -ак; -ек; -ук(-юк), -цук, -нюк, -сюк; -ец, -нец; -н, -нь; -х, -их(-ых), -ух, -уха; -ш, -ша, -аш, -наш, -няш, -ош, -уш, -цуш, -уша, -иш, -еш; -ц; -ей, -ай; -ага; -ан; -с, -сь; -ас, -ос, -ис, -сис, -улис, -утис, -ус, -сюс, -цус, -усь; -аль, -ель, -ил, -уль, -уля; -им; -ут, -ута, -уц, уч; -а(-я); -дя.*

У якасці другога, трэцяга, чацвёртага кампанентаў найменняў асоб мужчынскага полу ў XVI—XVII стст. выступалі імёны па бацьку (з суфіксамі *-ович, -евич, -ич, -ин, -ов, -ев, -енок, -ёнок, -енко*), імёны па назве мясцовасці

(з суфіксамі *-ский, -анин, ук, -юк, -овец),* апелятыўныя імёны-мянушкі. Гэтыя элементы разгорнутых найменняў яшчэ не былі прозвішчамі, не перадаваліся з пакалення ў пакаленне. У разгорнутых найменнях сярод названых элементаў асноўнае месца займалі формы імені па бацьку на *-овичъ, -евич, -ич.* Напрыклад, у двухслоўных найменнях, зарэгістраваных ва Ухвале 1528 г., яны складалі 83,46%. Гэта абумовіла шырокае выкарыстанне форм на *-овичъ, евич, -ич* пры фарміраванні беларускіх прозвішчаў.

У найменнях асоб жаночага полу ўласнае асабовае імя таксама ўжывалася на першым месцы, але былі найменні і з інверсійным парадкам кампанентаў. У якасці іншых кампанентаў жаночых найменняў выступалі імя па бацьку (з суфіксамі *-овна, -ична, -инна, овича, -анка, -янка, -ишка),* імя па мужу (з суфіксамі *-овая, -иная, -иха),* імя па назве мясцовасці (з суфіксам *-ская),* апелятыўныя імёны-мянушкі. Некаторыя разгорнутыя жаночыя найменні ўключалі і імя па бацьку, і імя па мужу, і імя па мясцовасці ці нават разгорнутыя найменні бацькі і мужа. Таму сустракаліся не толькі двух-, трох- і чатырохслоўныя найменні, як пры абазначэнні асоб мужчынскага полу, але і пяці-, шасці- і сяміслоўныя.

Сярод элементаў разгорнутых мужчынскіх і жаночых найменняў у XV—XVII стст. яшчэ не было назваў тыпу сучасных прозвішчаў — устойлівых сямейных найменняў, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Сучасныя беларускія прозвішчы ў XVII ст. толькі пачалі складвацца, працэс фарміравання іх працягваўся ў XVIII і нават XIX стст.

# Прынятыя скарачэнні

## I. Назвы адміністратыўных адзінак, геаграфічныя назвы, саслоўныя назвы

Арш. п.— Аршанскі павет
Астр. хар.— Астрынская харугва
Ашм. дв.— Ашмянскі двор
Ашм. п.— Ашмянскі павет
б.— баярын
б. Астр.— астрынскі баярын
б. Вас.— васілішскі баярын
б. Ваўк.— ваўкавыскі баярын
б. Гр.— гродзенскі баярын
б. Кам.— камянецкі баярын
б. Кл.— клецкі баярын
б. Кобр.— кобрынскі баярын
б. Мсцісл., б. Мсцісл. п.— мсціслаўскі баярын, баярын Мсціслаўскага павета
б. Пін.— пінскі баярын
б. Раг.— рагачоўскі баярын
б. Рад.— радунскі баярын
б. Слон.— слонімскі баярын
Бр. п.— Брэсцкі павет
Брасл. п.— Браслаўскі павет
Валож.— Валожын, валожынскі
Вас. хар.— Васілішская харугва
Ваўк. п.— Ваўкавыскі павет
Віц.— Віцебск
Віц. з-ля — Віцебская зямля
Гр. п.— Гродзенскі павет
дв.— дваранін
дв. Мсцісл.— мсціслаўскі дваранін
дв. Пол. в.— дваранін Полацкага ваяводства
Дзіс.— Дзісна, Дзісенскі
з.— зямянін
з. Бр.— брэсцкі зямянін
з. Пін.— пінскі зямянін
кн-ва — княства
Лід. дв.— Лідскі двор
Лід. п.— Лідскі павет
м.— мешчанін
м. Дубр.— дубровенскі мешчанін
м. Маг.— магілёўскі мешчанін
м. Кл.— клецкі мешчанін
м. Пін.— пінскі мешчанін
м. Шкл.— шклоўскі мешчанін
м-к — маёнтак
Маг.— Магілёў
Мін. п.— Мінскі павет
Навагр. з-к — Навагрудскі замак
Навагр. п.— Навагрудскі павет
Пін. кн-ва — Пінскае княства
Пін. п. — Пінскі павет
Пол.— Полацк
Пол. з-ля — Полацкая зямля
Раг.— Рагачоў, рагачоўскі
Рад. хар.— Радунская харугва
Рэч. п.— Рэчыцкі павет
с.— селянін
с. Арш. п.— селянін Аршанскага павета

с. Віц.— *селянін Віцебскага ваяводства*
с. Дзіс. п.— селянін Дзісенскага павета
с. Пол. в.— селянін Полацкага ваяводства
с. Ульск. м-ка — селянін Ульскага маёнтка
св.— свяшчэннік
св. Кл.— клецкі свяшчэннік
Сл.— Слуцк, слуцкі
Слон. п.— Слонімскі павет
ст.— *стараста*
ст. Бр.— брэсцкі стараста
Чач., Чач. ст.— Чачэрск, чачэрскае стараства
Шкл. вол.— Шклоўская воласць
Шкл. гр-ва — Шклоўскае графства
*шл.— шляхціц*
шл. Віц. в.— шляхціц Віцебскага ваяводства
шл. Пол.— полацкі шляхціц
шл. Шкл.— шклоўскі шляхціц

## II. Крыніцы, выкарыстаная літаратура

АВАК — Акты Виленской Археографической комиссии.
АВК — Акты Виленской комиссии.
Быстр. Кн.— St. Bystroń. Księga imion w Polsce używanych. Warszawa, 1938.
Грынч.— Б. Д. Гринченко. Словарь украинского языка, т. IV. Киев, 1909.
ИЮМ — Историко-юридические материалы.
Милейк.— Halina Milejkowska. Przyczynek do badań nad imionami własnymi mieszkańców Nowgrodu na przełomie XVI i XVII wieku. Slavia orientalis, 1962, N 3.
Мірасл.— А. П. Мирославская. К истории развития русских имен. Ученые записки Калининградского гос. пед. ин-та, вып. 6, 1959.
П., Попіс 1967 г.— Попис войска Великого княжества Литовского лета 1567. Литовская метрика, аддз. I, ч. 3. Русская историческая библиотека, т. XXXII, Пг., 1915.
ПкнПКл. — Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная Пинским старостою Ст. Хвальчевским в 1552—1555 гг. Вильна, 1884.
СВІЛ — Словник власних імен людей. Київ, 1964.
СДГАМГ — Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии. Минск, 1848.
Судн.— М. Р. Суднік. Слоўнік асабовых уласных імён. Мінск, 1965.
Таш.—W. Taszycki. Najdawniejsze polskie imiona osobowe. Bozprawy Wydzialu Filologicznego AU. Kraków, LXII, № 3, 1926.
У., Ухвала 1528 г.— Ухвала на великом сейме Виленском 1528 г. Литовская метрика, аддз. I, ч. 3. Русская историческая библиотека, т. XXXVI, Пг., 1915.

## Змест



На белорусском языке

*Николай Васильевич Бирилло*

**Белорусская антропонимия**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар выдавецтва *Н. Царова*
Мастацкі рэдактар *Л. Усачоў*
Тэхнічны рэдактар *І. Валахановіч*
Карэктары *Я. Картэль, Д. Ясонава*

АТ 04211. Здана ў набор 30/X-65 г. Падпісана да друку 15/I-66 г. Тыраж 1000 экз. Бум. № 2. Фармат 84×108[1]/[32]. Фіз. друк. арк. 10,25. Ум. друк. арк. 16,8. Уч.-выд. арк. 17,8. Выд. заказ 72. Друк. заказ 1185. Цана 1 р. 23 к.

Друкарня навукова-тэхнічнай літаратуры выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР
Мінск, Ленінскі праспект, 68